# Змест

**Змест**
**Уступ**
**Раздзел I. Беларусь пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. – прыфрантавая і акупаваная землі.**
**Раздзел II. Прыход да ўлады бальшавікоў. Першыя крокі новай улады.**
**Раздзел III. Кайзараўская акупацыя Беларусі ў 1917-1918 гг.**
**Раздзел IV. Абвяшчэнне і дзейнасць Беларускай Народнай Рэспублікі.**
**Раздзел V. Утварэнне ССРБ і ЛітБел ССР.**
**Раздзел VI. Беларусь ва ўмовах польска-савецкай вайны.**
**Раздзел VII. Другое абвяшчэнне БССР. Беларусь ў пачатку 20-х гг.**
**Раздзел VIII. Наш край у 1917-1920 гг.**
**Раздзел IX. Палітычнае жыццё ў БССР у 20-я гг..**
**Раздзел X. Сацыяльна-эканамічнае развіццё БССР у 20-я гг..**
**Раздзел XI. Індустрыялізацыя і калектывізацыя ў БССР у канцы 20-х- 30-я гг.**
**Раздзел XII. БССР ва ўмовах усталявання таталітарнага рэжыму ў СССР.**
**Раздзел XIII. Беларусь пад польскай уладаю ў 20-30-я гады.**
**Раздзел XIV. Беларускі вызваленчы рух у Польшчы.**
**Раздзел XV. Праблемы развіцця культуры ў савецкай Беларусі.**
**Раздзел XVI. Культура заходнебеларускіх зямель у Польшчы.**
**Раздзел XVII. Беларуская дыяспара ў міжваенны перыяд.**
**Раздзел XVIII. Наш край ў межваенны перыяд.**
**Раздзел XIX. Беларусь у 1939-1941 гг.**
**Раздзел XX. Беларусь у пачатку фашысцкай агрэсіі на СССР.**
**Раздзел XXI. Жыццё пад акупацыяй.**
**Раздзел XXII. Партызанскі рух і падполле ў Беларусі.**
**Раздзел XXIII. На фронце і ў тыле. Вызваленне Беларусі.**
**Раздзел XXIV. Пераход да мірнага жыцця (1943-1945гг.).**
**Раздзел XXV. Наш край ў гады Другой сусветнай вайны.**
**Храналагічная табліца**
**Рэкамендуемая літаратура**
**Гласарый**

# Уступ

Юныя сябры! У вашых руках зборнік пытанняў і заданняў па найноўшай гісторыі Беларусі з 1917 па 1945 гг. Гэта быў не просты для краіны час. Але ён напоўнены светлымі і добрымі ўчынкамі жыхароў нашай з табой Бацькаўшчыны. Яны шмат працавалі і моцна любілі свой край, сваю Беларусь.

На лёс пакаленняў гэтага перыяду гісторыі выпала нямала як слаўных, яскравых, так і складаных, драматычных і нават трагічных падзей. Беларускі народ атрымаў вялікі вопыт будаўніцтва незалежнай дзяржавы, развіцця сваёй культуры. У складзе Савецкага Саюза прымаў удзел у будаўніцтве сацыялістычнага грамадства.

Разам з народамі розных краін беларусы гераічна і самахвярна змагаліся з навалаю фашызму і былі аднымі з галоўных стваральнікаў Вялікай Перамогі ў 1945 г.

Працяглы адрэзак часу да аб'яднання – з 1921 па 1939 гг. – наша Айчына была падзелена на часткі і знаходзілася ў складзе розных дзяржаў - Польшчы і СССР. Шмат выпрабаванняў вынеслі людзі Беларусі ў гады сталінскай дыктатуры і польскага панавання. Незлічоныя дасюль ахвяры былі вынікамі адсутнасці незалежнасці сваёй дзяржавы.

Перыяд найноўшай гісторыі з 1917 па 1945 гг. – гэта частка нашай вялікай мінуўшчыны – сведчанне велічы духу народа, яго сілы, мудрасці і дабрыні. Лепшыя яе прадстаўнікі паслужаць вам, дасціпныя чытачы, узорам годнасці і гонару.

Работа з дакументамі будзе патрабаваць ад вас ўдумлівага, разважлівага чытання, выкарыстання ўжо назапашаных гістарычных ведаў. Памятайце, што гісторыя – гэта навука пра чалавека ў часе. Будзьце ўважлівымі да жыцця людзей мінулага, свае меркаванні і ацэнкі вучыцеся фармуляваць грунтоўна. Не забывайце, што галоўны доказ у гістарычных ведах – гэта гістарычныя крыніцы. Не спяшайцеся асуджаць захады гістарычных асоб, паспрабуйце спачатку зразумець іх, разбярыцеся ў прычынах іх учынкаў.

Паколькі яшчэ ў старажытнасці гісторыя лічылася настаўніцай жыцця, хай гэта кніга стане для вас, нашы добрыя сябры, важнай крыніцай такога навучання.

Кожны з 25-ці раздзелаў кнігі падзелены на дзве часткі. Першая з частак сцісла паведамляе аб асноўных падзеях, вызначанага ў назве таго ці іншага разздела, часу гісторыі. Ея змест можа быць карысны для падрыхтоўкі да экзаменацыйных іспытаў, як у вуснай, такі тэставай форме.

Матэрыял другой часткі кожнага раздзелу – асноўны ў гэтай кнізе. Гэта выбраныя пісьмовыя крыніцы, дакументальныя рэканструкцыі навукоўцаў, статыстычныя дадзеныя, біяграмы. Да ніх прапанаваны адмысловыя пытанні і заданні. Заданні, дарэчы могуць быць і не ў непасрэдным дачыненні да нейкага тэкста дакумента. Таму для адказу на немалую частку заданняў і пытанняў не абмяжоўвайцеся толькі дадзеных выданнем, выкарыстоўвайце ўсе свае гістарычныя веды. Адказ на іх, і выкананне іх дазволяць вам глыбей разабрацца ў згаданым гістарычным часе, больш грунтоўна праверыць свае веды, навыкі і ўменні. А гэта - галоўны кірунак для далейшага асэнсаванага назапашвання гістарычных ведаў і іх рацыянальнага выкарыстання, выпрацоўкі ўласнага гістарычнага мыслення.

# Раздзел I. Беларусь пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. – прыфрантавая і акупаваная землі.

**1.Умовы ваеннага часу.** У 1917 г. усходняя частка Беларусі знаходзілася на прыфрантавым становішчы. У часы двaеўладдзя на яе тэрыторыі, у Магілёве, працягвала размяшчацца Стаўка Вярхоўнага галоўнакамандуючага расійскай арміяй. На жыццё насельніцтва ўплывала блізкасць лініі фронту. 50-кіламетровая зона ўздоўж гэтай лініі была прыстасавана да трымання абароны. Гэта азначала знішчэнне тамтэйшых хутароў і вёсак. Час ад часу з нямецкага боку залятaлі разведчыкі-*цэпеліны.* Ваеннае становішча абмяжоўвала перамяшчэнні насельніцтва, ваенныя ўлады прымушалі яго да рознага роду будаўнічых або рамонтных работ.

Прыфрантавы стан не ствараў ніякіх умоў для развіцця гаспадаркі. Працавалі толькі тыя галіны прамысловасці, якія абслугоўвалі патрэбы фронту. У заняпад прыйшлі сялянскія гаспадаркі: не хапала інвентару, глебаапрацоўчых прылад, каней. З-за пастаянных мабілізацый у войска існаваў катастрафічны недахоп працоўнай сілы. Усё гэта адмоўна ўплывала на жыццёвы ўзровень насельніцтва.

На неакупаваных землях беларускіх губерняў насельніцтва змянілася за кошт бежанцаў і вайскоўцаў. Бежанцамі былі жыхары акупаваных тэрыторый Беларусі, Польшчы і Прыбалтыкі.

Сотні тысяч беларусаў былі мабілізаваны ў расійскае войска. Паводле некаторых падлікаў, у 1917 г. у расійскай арміі служыла 308 тысяч беларусаў.

Апынуўшыся ў іншаэтнічным атачэнні, выхадцы з Беларусі мелі магчымасць параўнаць сябе з прадстаўнікамі іншых народаў і ўбачыць сваю нацыянальную адметнасць. Такое параўнанне ўплывала на рост нацыянальнай свядомасці беларусаў і рабіла іх больш здатнымі для змагання за нацыянальнае вызваленне.

Ва ўмовах ваеннай цэнзуры існаваў друк. Афіцыйнымі выданнямі заставаліся губернскія ведамасці. У Мінску на беларускай мове **Язэпам Лёсікам** выдавалася газета **“Вольная Беларусь”**.

**“Вольная Беларусь” выдавалася з мая 1917 г. па лістапад 1918 г. У 1917 г. развівала традыцыі БСГ і “Нашай Нівы”. Успомніце, якія гэта былі традыцыі?**

Дзейнічала вялікая колькасць дзяржаўных і грамадскіх таварыстваў па дапамозе пацярпелым ад ваенных падзей. Пераважна гэта былі рускія, польскія і яўрэйскія аб'яднанні. Толькі адзіная арганізацыя была беларускай. Прыклады міласэрнасці праяўлялі прадстаўнікі заможных колаў. Яны арганізоўвалі невялікія бальнічкі, фінансавалі ложкі ў шпіталях, кармілі бежанцаў. Дзяржаўную дапамогу ахвярам вайны працягвала ажыццяўляць арганізацыя “Северопомощь”. Вялікую актыўнасць у падтрымцы бежанцам, параненым, сем’ям мабілізаваных праяўлялі такія грамадскія арганізацыі, як камітэт Вялікай княгіні Таццяны Мікалаеўны, суполкі Усерасійскага Саюзу Гарадоў і Усерасійскага Земскага Саюзу.

**3.Палітычнае жыццё ва ўмовах двоеўладдзя.** Народ Беларусі чакаў ад Лютаўскай рэвалюцыі заканчэння вайны і вызвалення заходняй часткі ад немцаў. Аднак пры двоеўладдзі мір не настаў. Становішча на прыфрантавых землях пагаршалася з дня на дзень. Тым часам *палітычныя крызісы*, якія ўзнікалі адзін за адным, усё больш ліхаманілі Часовы ўрад.

Выйсце з чарговага крызісу Часовы ўрад убачыў ва ўсталяванні цвёрдай улады. Ён спадзяваўся абаперціся на армію. Але той, на каго планаваў абаперціся Часовы Урад, генерал Стаўкі **Лаўр Карнілаў**, аўтарытэтны вайсковец, у **жніўні 1917 г.** узначаліў *мяцеж.* Для Расіі ўзнікла пагроза ўсталявання ваеннай некантралюемай *дыктатуры*. Такая перспектыва палохала розныя партыіі: і бальшывікоў, і эсэраў, і бундаўцаў, і кадэтаў. Разгарнулася аб’яднаная барацьба супраць дыктатуры Карнілава. Асноўныя дзеянні гэтай барацьбы праходзілі на тэрыторыі Беларусі, бо тут знаходзілася Стаўка. Мяцеж быў падаўлены, а падзеі падаўлення мецяжу яшчэ больш абвастрылі напружанасць і нярвовасць сярод насельніцтва.

Вядучы ўдзел бальшавікоў ў ліквідаванні мецяжу павялічыў іх прысутнасць у Саветах. Бальшавікі пачалі актыўна выкарыстоўваць гэтае новае становішча для прапаганды сваіх ідэй. Іх арганізацыі ствараліся ў значнай частцы палкоў, дывізій і карпусоў Заходняга фронту.

Уплывовай сілай у Беларусі былі на той час меншавікі і эсэры. Падтрымку сваім дзеянням такія партыі мелі сярод сялян, малодшых афіцэраў, інтэлігенцыі. Усімі гэтымі партыямі тэрыторыя Беларусі разглядалася як месца мажлівага ўплыву на войска. Уласныя інтарэсы Беларусі не ўлічваліся. Таму сярод рэвалюцыйных заклікаў і прапаноў агульнарасійскіх партый прысутнічалі вырыянты рашэнняў аграрнага, палітычнага, рабочага пытанняў, пытання заканчэння вайны, але не нацыянальнага пытання.

**Падумайце, чаму так адбывалася, што беларускія сяляне – самая шматлікая частка насельніцтва – паттрымлівала гэтыя партыі? Для адказу на гэтае пытанне выкарыстайце характарыстыкі-пазіцый гэтых партый па нагаданым пытанням.**

**4.Нацыянальны беларускі рух.** На беларускі палітычны рух з аднаго боку ўплывалі падзеі Лютаўскай рэвалюцыі, а з другога боку расколаты вайною стан беларускіх зямель. **Падумайце, як?** На неакупаваных землях Беларусі найбольш выбітнай палітычнай беларускай партыяй была Беларуская Сацыялістычная Грамада. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі яна аднавіла сваю дзейнасць. Як у сакавіку 1917 г., так і ў чэрвені яе лідары выступалі з падтрымкай Часовага ўрада, з патрабаваннямі аўтаноміі Беларусі ў складзе федэратыўнай Расійскай рэспублікі. Вырашэнне аграрнага пытання БСГ бачыла ў агульнанароднай

уласнасці на зямлю і перадачы гэтай зямлі сялянам. Вельмі адрознівала БСГ ад шэрагу *левых* партый яе пазіцыя перасцярогі сялян ад пагромаў і неарганізаваных выступленняў.

Лідары БСГ стаялі на сацыялістычным шляху рэвалюцыі. Аднак яны, у адрозненні ад іншых сацыялістычных партый, выступалі за развіццё беларускай культуры і мовы, за вырашэнне нацыянальнага пытання.

**На падставе характарыстык рэвалюцыйных партый ( у канцы параграфа), падумайце, хто мог быць саюзнікам БСГ у іх барацьбе?**

Менавіта БСГ была ініцыятарам склікання ў **ліпені 1917 г**. з'езда беларускіх арганізацый і партый. З'езд адбыўся ў Мінску. Рашэнні, якія былі прыняты на ім, былі складзены на падставе праграмы БСГ. Дэлегаты выказваліся за ажыццяўленне нацыянальна-тэрытарыяльнай аўтаноміі Беларусі ў складзе Расіі. Прычым была вызначана неабходнасць дабівацца яе ад Часовага ўрада. Аднак Часовы ўрад адхіліў гэтыя прапановы, таксама як і пытанне аб стварэнні на Беларусі органаў мясцовага самакіравання.

**Чым можна растлумачыць такую пазіцыю Часовага Ўрада?**

На з'ездзе былі абраны члены **Цэнтральнай Рады**, большасць з якіх былі членамі БСГ. Адначасова быў скасаваны Беларускі нацыянальны камітэт, які лічыўся органам палітычнага прадстаўніцтва беларускага нацыянальнага руху з сакавіка 1917 г.

Нягледзячы на прысутнасць нацыянальнай ідэі, у беларускім руху не было адзінства. У верасні 1917 г. частка членаў БСГ перайшла на бок бальшавікоў. Пад уплывам гаспадарчага хаосу, бескантрольнай арміі БСГ траціла нацыянальную тоеснасць. Паглыбленне крызысу ў Расіі падштурхнула частку дзеячоў беларускага руху да актыўнай барацьбы за самастойнасць Беларусі. У кастрычніку лідарамі БСГ было пастаўлена пытанне аб стварэнні беларускіх нацыянальных фарміраванняў. Таксама было прынята рашэнне аб супрацоўніцтве з партыямі несацыялістычнага накірунку. **5 лістапада** ў Мінску праходзіў з'езд воінаў-беларусаў Заходняга фронту. На ім для фарміравання беларускіх узброеных сіл была створана **Цэнтральная беларуская вайсковая рада (ЦБВР)**.

**Арганізацыя**

ЦБВР – самастойны орган у складзе Цэнтральнай Рады. Дзейнічаў з 5 лістапада 1917 г. па 21 лютага 1918 г. Уключаў у свой склад кіраўніцтва такіх актывістаў беларускага нацыянальнага руху, як Канстанцін Езавітаў, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Іван Серада. ЦБВР у час свайго функцыянавання вяла работу па стварэнню беларускіх вайсковых фарміраванняў з ліку вайскоўцаў Расійскай арміі.

З'езды воінаў-беларусаў праходзілі ў лістападзе - снежні 1917 г. у Кіеве, Адэсе, Смаленску. Усюды прымаліся дэкларацыі ў падтрымку аўтаноміі Беларусі ў складзе Расіі.

**Заўважым**

Адной з найбольш актыўных беларускіх вайсковых арганізацый была Адэская, пачатак якой быў пакладзены з'ездам воінаў-беларусаў Румынскага фронту 1-7 снежня 1917 г. "Беларуская вайсковая Рада Румынскага фронту" разам з адначасова ўзнікшаю ў Адэсе арганізацыяй Беларускага культурна-асветніцкага таварыства "Гай" дасягнулі пэўных поспехаў як у арганізацыі беларускіх вайсковых фарміраванняў, так і ў галіне культурна-асветніцкай работы і ўладкаванні бежанцаў.

# Пытанні і заданні:

**I. Пакажыце ў выглядзе ланцужка аргументаў наяўнасць крызіснага становішча ў Беларусі летам-восенню 1917 г. і адкажыце на наступныя пытанні:**

1. **Як вайна змяніла склад насельніцтва Беларусі да лета 1917 г.? Падумайце, якія гэта магло мець наступствы ў грамадска-палітычным жыцці?**
2. **Што ў 1917 г. ў штодзённым жыцці магло выклікаць незадаволенасць насельніцтва Беларусі?**
3. **Якое становішча ў краіне называецца эканамічным або палітычным крызісам? У якой ступені становішча насельніцтва Беларусі ў 1917 г. можна лічыць крызісным?**

**II. Вызначце і запішыце, што ў абставінах прыфрантавой Беларусі спрыяла дзейнасці:**

**а) бальшавікоў,**

**б) актывістаў беларускага руху?**

**II. Табліца “Палітычныя партыі” змяшчае інфармацыю аб некаторых найбуйнейшых партыях , якія актыўны ўздейнічалі на насельніцтва Беларусі ў час захопу ўлады бальшавікамі. Пазнаёмцеся са зместам табліцы і адкажыце на пытанні:**

1. **Што аб’ядновывае гэтыя арганізацыі, а што робіць іх палітычнымі праціўнікамі?**
2. **Якой была дзейнасць палітычных партый і рухаў на неакупаваных беларускіх землях?**
3. **Як на яе паўплывалі падзеі Карнілаўскага мецяжу?**

| Назва | Пазіцыі па галоўных пытаннях рэвалюцыі | | | |
|---|---|---|---|---|
| | **Аграрнае пытанне** | **Нацыянальнае пытанне** | **Стаўленне да вайны** | **Палітычнае пытанне** |
| РСДРП (б) | Нацыяналізацыя зямлі, перадача яе тым , хто яе апрацоўвае | Не бачылі ў беларусаў нацыі, не заўважалі складанага характару беларускага нацыянальна-вызваленчага руху | Выхад Расіі з вайны, найхутчэйшае заканчэнне ваенных дзеянняў, мір без *аннексій* і *кантрыбуцыі* | Дыктатура пралетарыята, пераход улады ў рукі пралетарыята і найбяднейшага сялянства |
| Эсэры | Сацыялізацыя зямлі, параўнальнае размеркаванне зямлі без выкупу | Абвяшчэнне Расіі федэратыўнай дэмакратычнай рэспублікай з тэрытарыяльна-нацыянальнымі аўтаноміямі | Працяг вайны да перамогі рэвалюцыйнай арміі | Дэмакратычная рэспубліка з шырокай аўтаноміяй |
| БСГ | Забарона куплі-продажы зямлі, канфіскацыя зямлі і размеркаванне яе паміж сялянамі | Нацыянальна-тэрытарыяльная аўтаномія Беларусі ў складзе Расійскай рэспублікі | Вядзенне вайны да пераможнага канца, з-за разарванасці Беларусі на акупаваную і неакупаваную часткі | Сацыялістычны парадак цераз класавую барацьбу і сацыяльную рэвалюцыю |
| Кадэты | Надзяленне зямлёй беззямельных і малазямельных сялян за кошт дзяржаўнай, манастырскай, удзельнай зямлі, якая адчужалася за выкуп | Захаванне дзяржаўнага расійскага адзінства, аднаўленне канстытуцыі Фінляндыі, аўтаномія Польшчы | Працяг удзелу Расіі ў вайне на баку Антанты | Расія - канстітуцыйна-парламенская манархія |
| Меншавікі | Ліквідаванне памешчыцкага землеўладання. Развіццё розных форм землекарыстання, | Адукацыя на роднай мове. Права нацыі на самавызначэнне | Пачакаць з вырашэннем пытання да склікання Установчага сходу | Паступовае развіццё рэвалюцыі, ад улады ліберальнай буржуазіі да пралетарыяту |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | муніцыпалізацыя зямлі | | | |

**IV. З дапамогаю ніжэйзмешчаных фактаў дайце ацэнку арганізацыі дапамогі бежанцам. У якім памеры склад тых, хто дапамагаў бежанцам з'яўляецца адбіткам дэмаграфічнага складу насельніцтва беларускіх зямель?**

*"Яшчэ сярод бежанцаў палякаў, літоўцаў і яўрэяў справа дапамогі была хаця б часткова пад кантролем саміх бежанцаў. Гэтыя народы былі арганізаваны, што дапамагала ім трымацца цвёрда, калі патрабавалася абараніць сябе перад тымі ці іншымі палітычнымі ці бежанскімі арганізацыямі, больш менш смелым тонам і справу выправіць. Беларусы з-за сваёй дрэмучасці, нацыянальнай маласвядомасці трацілі больш за ўсіх. Царскі ўрад лічыў беларусаў за рускіх і грошаў, як нацыянальнасці, не даваў. Адні з... арганізацый, напрыклад, "Гродзенскі абывацельскі камітэт" мог бы штосьці зрабіць, каб быў складзены з саміх бежанцаў і іншых прыстойных людзей, але ў ім былі рознага кшталту махляры і ашуканцы, паны, якія ўсю справу дапамогі ператварылі так, што сродкі для бежанцаў былі падзеляны паміж імі (цэлымі дзесяткамі тысяч рублёў). Іншыя ж - сапраўды беларускія, як "Беларускае обчаства помачы пацярпеўшым ад вайны", якое дзейнічала трошкі ў Вільне, потым у Пецярбургу і Менску, атрымлівалі грошы вартыя толькі смеху. Так пецярбурскаму беларускаму таварыству за ўвесь час далі ўсяго 45000 рублёў. Царскі ўрад рэвалюцыя змяніла на канстытуцыйны, кааліцыйны, рабоча-сялянскі, а потым часовы, а справа дапамогі бежанцам-беларусам стаіць на тым жа месцы. І ўсё з таго, што ў арганізацыі яны адставалі ад усіх і лічылі за лепшае сядзець і чакаць моўчкі і ціха."*

**З артыкула "Задачы бежанцаў-беларусаў". –Дзянніца. –1918. - №19.**

*"Усіх іх (арганізацыі, якія ўдзельнічалі ў дапамозе бежанцам) магчыма падзяліць на некалькі катэгорый, у адпаведнасці з іх статусам. Перш за ўсё - дзяржаўныя. Гэта філіі і аддзелы агульнарасійскіх арганізацый, што мелі свае ўстановы ў губернях, паветах і нават валасцях: камітэты Яе Імператараскай Вялікасці Вялікай княгіні Тацціяны Мікалаеўны, камітэты Усерасійскага земскага саюзу, аддзелы Усерасійскага саюзу гарадоў, земскія камітэты дапамогі бежанцам, аддзяленні Расійскага таварыства "Чырвонага Крыжа", камітэты Яе Імператарскай Вялікасці Вялікай княгіні Елізаветы Фёдараўны, аддзелы Упаўнаважанага па ўладкаванню бежанцаў,аддзелы Таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны, Усерасійскае таварыства апекі бежанцаў.*

*Да другой значнай катэгорыі адносіліся грамадскія нацыянальныя арганізацыі. Польскія - аддзелы Польскага таварыства дапамогі ахвярам вайны, Рымска-Каталіцкага балагачыннага таварыства, Цэнтральнагаы Абывательскага камітэта губерняў Царства Польскага (ад10.09.14). Літоўскія - аддзелы Літоўскага абывательскага таварыства, Ковенская таварыства. Сярод яўрэйскіх - Таварыства дапамогі бедным яўрэям, Яўрэйскі камітэт дапамогі бежанцам, Яўрэйскі камітэт дапамогі ахвярам вайны ."*

**З матэрыяў Мінскага губернатара (НГА РБ г.Мінск, ф.2001, воп.1, адззах.2111, арк.38-43).**

# Раздзел II. Прыход да ўлады бальшавікоў. Першыя крокі новай улады.

**1.Захоп улады**. Па прычыне прыфрантавога становішча Беларусі восенню 1917 г. рэвалюцыйныя падзеі з Петраграда дайшлі да яе хутка.

На падставе матэрыяла па гісторыі Расіі з курса сусветнай гісторыі вызначце абставіны захопу ўлады бальшавікамі 25 кастрычніка ў Петраградзе. Звярніце ўвагу на першыя захады новай улады на II з’ездзе Саветаў. Інтарэсы якой групы насельніцтвагэтай уладзе былі бліжэй?

25 кастрычніка Часовы ўрад быў звергнуты, а на наступны дзень у Мінску ўлада перайшла ў рукі Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў. У складзе гэтага Савета пераважалі бальшавікі. Яны ж стварылі ваенна-рэвалюцыйныя камітэты (ВРК), якія ажыццяўлялі кіраўніцтва па пераходу ўлады да Саветаў.

Узначальвалі барацьбу бальшавікоў у Беларусі такія іх прадстаўнікі, як Карл Ландар, Міхаіл Фрунзе, Вільгельм Кнорын і Аляксандр Мяснікоў. Ніхто з іх не меў дагэтуль дачынення да нашых зямель. Тэрыторыя Заходняга фронту стала месцам бескампраміснай барацьбы за ўладу паміж бальшавікамі, прадстаўнікамі іншых сацыялістычных партый і праціўнікамі рэвалюцыі.

У захопе ўлады ў Часовага Урада прымалі ўдзел прадстаўнікі розных партый. Аднак пасля абвяшчэння ўлады Саветаў бальшавікі не бачылі нікога іншага ва гэтым органе ўлады акрамя сябе.

З дапамогаю звестак аб складзе, мэтах, задача, сродках барацьбы розных палітычных партый, паспрабуй растлумачыць такую пазіцыю Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі бальшавікоў (РСДРП(б)). Для выканання задання выкарыстайце табліцу “Палітычныя партыі” змешчаную пасля папярэдняга параграфа.

У адказ на такую пазіцыю прадстаўнікі меншавікоў, эсэраў, бундаўцаў ўтварылі Камітэт выратавання рэвалюцыі.

**Заўважым**

Камітэт выратавання рэвалюцыі – надзвычайнае аб’яднанне партый, грамадскіх арганізацый Мінска і салдацкіх камітэтаў. На чале яго стаяў эсэр Т. Калатухін. На ўзор мінскага Камітэта падобныя арганізацыі былі створаны ў Бабруйску, Оршы, Полацку і іншых гарадах. Праграма Камітэта прадугледжвала захаванне Часовага ўраду. Быў распушчаны 4 лістапада 1917 г. па загаду ВРК.

Мэтаю Камітэта было прыпыніць дзеянні бальшавіцкага ВРК і не дапусціць усталявання дыктатуры адной партыі. Як і бальшавікі, прадстаўнікі Камітэта абапіраліся на ўзброеныя адданыя ім сілы. Яны змянілі бальшавіцкія ваенныя пасты ў Мінску і ў катэгарычнай форме прапанавалі Мінскаму Савету перадаць ім усю ўладу. З дапамогаю дадатковых узброеных сіл, што прыбылі ў Мінск, бальшавікі атрымалі перавагу над Камітэтам выратавання рэвалюцыі. Лідары Камітэта не асмеліліся ісці на ўзброены канфлікт. 2 лістапада чарговы Сход Мінскага Савета адобрыў мерапрыемствы па ажыццяўленню дэкрэтаў аб міры і аб зямлі. Тады ж, у лістападзе, амаль усе вайсковыя фарміраванні ў Беларусі апынуліся пад кантролем ВРК Заходняй вобласці і фронту. Пры гэтым Саветы, у якіх пераважалі меншавікі і эсэры, распускаліся. Так было ў Віцебску і Гомелі.

У Магілёве захоп улады бальшавікамі быў звязаны з супрацьстаяннем ім Стаўкі Вярхоўнага Галоўнакамандуючага. Акрамя таго, у магілёўскім Савеце таксама пераважалі меншавікі і эсэры. Але іх прапанову стварэння аб’яднанага сацыялістычнага ўраду бальшавікі адхілілі.

Тыя, хто дапамагаў бальшавікам, а гэта былі і сяляне, і салдаты, і рабочыя, спадзяваліся на хуткае вырашэнне найважнейшых пытанняў – аб міры і зямлі. Савецкую ўладу падтрымліваў Заходні фронт. Гэта сведчыла аб настроях сярод салдат, знясіленых вайной і безупыннымі нястачамі. Бальшавікі бачыліся той сілай, якая вырашыць усе праблемы. Мала хто звяртаў увагу на тыя сродкі, якімі гэта партыя захапіла і ўтрымлівала ўладу. Прымус, сіла, *ультыматыўнасць* патрабаванняў бачыліся патрэбнымі і апраўданымі рэвалюцыяй .

**2.Першыя крокі новай улады**. Перад бальшавікамі стаяла задача паўсюдна стварыць свае ўласныя органы ўлады і кіравання ў форме Саветаў. Для гэтага па Мінскай, Віцебскай і Магілёўскай губернях у лістападзе - снежні 1917 г. прайшоў шэраг з’ездаў. З’езды аб’ядноўвалі рабочых, салдацкіх, сялянскіх дэпутатаў, якія выказвалі сваё стаўленне да першых крокаў новай улады. Дэпутаты, у большасці, віталі Дэкрэты аб міры і аб зямлі.

Успомніце з гісторыі Расіі, які змест гэтых Дэкрэтаў? Інтарэсы якіх груп грамадства яны выражалі?

Яны выказваліся за стварэнне Саветаў у абласцях, губернях і арміі, за рашучую барацьбу з контррэвалюцыяй, прапаноўвалі нацыяналізацыю акцыянерных кампаній і банкаў, увядзенне агульнай працоўнай павіннасці.

На працягу васьмі тыдняў па ўсёй неакупаванай Беларусі была ўсталявана ўлада Саветаў. Але іх, пераважна бальшавіцкі, склад не адлюстроўваў настроі ўсіх слаёў грамадства. Таму назваць Саветы гэтага часу органам сапраўднага народнага самакіравання не выпадае.

Яшчэ ў перыяд двоеўладдзя розныя партыі ўскладалі надзеі на скліканне ўсерасійскага Устаноўчага сходу. Такі сход бачыўся сапраўдным прадстаўнічым органам улады, які павінен быў вырашыць задачы рэвалюцыі. Выбары ва Устаноўчы сход на неакупаванай Беларусі праходзілі надзвычай актыўна. Выражаць інтарэсы насельніцтва трох беларускіх акруг (Віцебскай, Магілёўскай, Мінскай) і Заходняга фронта сталі

прадстаўнікі бальшавікоў (50,7% галасоў) і эсэраў (32% галасоў). Беларускія партыі і аб'яднанні сабралі толькі 0,59% галасоў. Сход адкрыўся 5 студзеня 1918 г.у Петраградзе, але на наступны дзень быў разагнаны бальшавікамі.

| |
|---|
| Успомніце, якія падзеі адбываліся на Устаноўчым сходзе ў адзіны дзень яго працы? Як гэтыя падзеі характарызуюць палітычнае становішча ў Расіі і новую бальшавіцкую ўладу? |

Чарговы шанец аб'яднаць ва ўладзе інтарэсы розных колаў грамадства быў свядома страчаны.

Гаспадары новай улады не звярталі ўвагі на асаблівасці прыфрантавой Беларусі і не адрознівалі гэты абшар ад астатніх зямель Расіі. Нават орган улады бальшавікоў на Беларусі меў проста рэгіянальнае абазначэнне – Абласны выканаўчы камітэт Заходняй вобласці і фронту. Скарочана – Аблвыкамзах.

Арганізацыя:

Абласны выканаўчы камітэт Заходняй вобласці і фронту – першы вышэйшы заканадаўчы (паміж з'ездамі Саветаў) орган савецкай улады ў Беларусі. Дзейнічаў на тэрыторыі Віцебскай, Магілёўскай, Мінскай, неакупаваных немцамі частках Віленскай, Смаленскай губерняў, што ўтваралі Заходнюю вобласць, а таксама на Заходнім фронце. Існаваў з 26 лістапада 1917 г. па 2 студзеня 1919 г. Пад кіраўніцтвам РКП (б) узначальваў усё ваеннае, палітычнае, гаспадарчае жыццё неакупаванай часткі Беларусі. Складаўся з 15 аддзелаў-камісарыятаў.

На чале яго быў пастаўлены Аляксандр Мяснікоў. Для кіравання вобласцю і фронтам быў створаны абласны Савет Народных Камісараў на чале з Карлам Ландарам.

Новыя органы ўлады сутыкнуліся з шэрагам цяжкасцей падчас арганізацыі кіравання краем. Не хапала кваліфікаваных спецыялістаў. Рабочыя, салдаты і сяляне не былі падрыхтаваны для кіраўніцтва дзяржавай. Для гэтага ў іх не было ні ведаў, ні практычнага вопыту. Абсалютная большасць была зусім непісьменнай. А менавіта яны складалі большасць Саветаў. Малапісьменнай была і значная частка бальшавікоў.

Калі РСДРП (б) прыйшла да ўлады, яе лідары 2 лістапада 1917 г. абвесцілі прынцыпы сваёй нацыянальнай палітыкі ў "Дэкларацыі правоў народаў Расіі". Тэкст дэкларацыі абвяшчаў роўнасць, суверэннасць народаў Расіі, іх права на самавызначэнне, адмену нацыянальна-рэлігійных прывілеяў або абмежаванняў, вольнае развіццё народаў, якія насялялі Расію.

*ВАРТА ПРАЧЫТАЦЬ: ДОВНАР-ЗАПОЛЬСКИЙ М.В. ОСНОВЫ ГОСУДАРСТВЕННОСТИ БЕЛОРУСИ. //НЕМАН. – 1990. -№2.*

Аднак практычнае ажыццяўленне нацыянальнай палітыкі савецкай улады ў Беларусі прадэманстравала складанасць рэалізацыі дэклараваных ідэй. Бальшавікі глядзелі тады на Беларусь, як на месца знаходжання лініі фронту з імперыялістамі, як на тэрыторыю, важную з пункту гледжання знешняй абароны сваёй улады. Вялікая Беларуская Рада (ВБР), якая пераўварылася з Цэнтральнай Рады, праігнаравала ўладу Аблвыкамзаху. Хоць уладу Петрасавета прызнала, бо сама была сацыялістычнай па складу сваіх удзельнікаў. Гэта сведчыла аб тым, што дзеянні бальшавіцкага органу ўлады на Беларусі выглядалі як чужыя для гэтай мясцовасці. А. Мяснікоў разглядаўся не больш як кіраўнік расійскай арміі, якая стаяла ў той час у Беларусі. Калі ВБР звярнулася да Аблвыкамзаху з прапановай аб супрацоўніцтве ў справе стварэння Беларускай рэспублікі, то атрымала адмову. Другая справа, што ў светлым будучым пабудаванага камунізму шэраг бальшавікоў бачыў абавязковае вырашэнне ўсіх праблем, у тым ліку і нацыянальных.

Арганізацыя:

Вялікая Беларуская Рада – цэнтр каардынацыі дзейнняў беларускага нацыянальна-вызваленчага руху ў кастрычніку-снежні 1917 г. Складалася з дэпутатаў ад беларускіх грамадскіх і палітычных, бежанскіх і вайсковых арганізацый. У яе складзе былі Аркадзь Смоліч, Алесь Гарун, Зоська Верас, Ігнат Дварчанін, Васіль Захарка, Браніслаў Тарашкевіч, Язэп Варонка, Зміцер Жылуновіч. На той час яны былі разам. У ходзе знаёмства з падзеямі гісторыі Беларусі далейшага часу (20-30 гг.) будзьце ўважлівымі да лёсаў гэтых людзей! У іх учынках адбілася ўся супярэчлівасць, трагізм і веліч падзей нашай найноўшай гісторыі. Калі адбылася Кастрычніцкая рэвалюцыя 1917 г., ВБР разам з ЦБВР і БСГ звярнулася з "Граматай да беларускага народу". У ёй захоп улады бальшавікамі называўся праяваю анархіі. Для абароны краю ад бязладдзя ВБР вяла актыўную работу па стварэнню беларускага войска. ВБР была ініцыятарам і арганізатарам Першага Усебеларускага з'езду ў снежні 1917 г. На гэтым з'ездзе ВБР перадала свае паўнамоцтвы Радзе з'езду.

# Пытанні і заданні:

**I. На падставе некаторых вынікаў галасавання па Заходняму фронту і, у прыватнасці, 10-й арміі, абмяркуйце сітуацыю, з якой сутыкнулася савецкая ўлада і аАдкажыце на пытанні:**

1. **Хто з насельніцтва Беларусі будзе вітаць першыя крокі новай савецкай улады? Каго гэтая палітыка накіруе ў лагер праціўнікаў бальшавікоў? Растлумачыць, чаму?**
2. **Сфармулюйце і запішыце ўмовы і абставіны захопу бальшавікамі ўлады ў Беларусі.**
3. **Пералічыце захады, з дапамогаю якіх бальшавікі захапілі ўладу ў Беларусі. Як гэта характаразуе новую ўладу?**

*“З агульнай колькасці 976 тысяч галасоў па Заходняму фронту*
*за бальшавікоў – 653000,*
*за эсэраў – 180000,*
*за кадэтаў – 16700,*
*за іншыя партыі – 125000 галасоў.*
*Па 10-й арміі з 262267 чалавек за бальшавікоў прагаласавала 172475 чалавек,*
*за эсэраў –57091,*
*за беларускія партыі – 1035,*
*за ўкраінскія партыі – 15300,*
*за кадэтаў –5536,*
*за мусульман –5958,*
*за меншавікоў –2424 чалавек...”*

II. **Прачытайце заўвагу адной бальшавіцкай газеты ў Магілёве, якая пісала 9 снежня 1917 г. , і выканайце заданні і адкажыце на пытанні:**

4. **Знайдзіце тлумачэнне, як такая пазіцыя суадносілася з дэкляраванымі правамі нацыяі на самавызначэнне аж да аддзялення ад Расіі.**
5. **Вызначце, у чым пазіцыя бальшавікоў па нацыянальнаму пытанню адрознівалася ад адпаведнай пазіцыі: а) самадзяржаўя, б) Часовага ўраду? У якой ступені гэта пазіцыя спрыяла развіццю беларускага нацыянальна-вызваленчага руху? Абгрунтуйце свой адказ.**

*“Наша партыя ніколі не стаяла за разбурэнне ўзнікшых вялікіх арганізацый і стварэнне дробных нацыянальных рэспублік...” “...Час нацыянальных дзяржаў ужо прайшоў, ...мы ідзем да наднацыянальнага аб’яднання дэмакратыі.”* **(9 снежня 1917 г.)**

**III. Заданне “Постаць у гісторыі”.**

**Прачытайце біяграфічны экскурс “Аляксандр Мяснікоў (1886-1925гг.)”. Абмяркуйце з настаўнікам, з чым звязана будучыня Беларусі для гэтага рэвалюцыянера. Наколькі тыповая такая пазіцыя была для прадстаўнікоў новай улады. У чым бачылася “праўда” для гэтых людзей?**

*“Аляксандр Фёдаравіч Мяснікоў (Мяснікян). Рэвалюцыянер-бальшавік. Ход рэвалюцыйных падзей звязаў гэтага чалавека з нашым беларускім краем. У рэвалюцыйным 1917-м, пасля звяржэння самадзяржаўя А. Мяснікоў – сярод бальшавіцкага кіраўніцтва на Заходнім фронце, сярод заснавальнікаў партыйнай газеты “Звязда”. Кастрычніцкая рэвалюцыя прывяла яго ў лістападзе 1917 г. на пасаду галоўнакамандуючага Заходнім фронтам, потым, у снежні, А. Мяснікоў - выконвае абавязкі Вярхоўнага галоўнакамандуючага. Нарэшце, са студзеня 1918 г. ён – старшыня Аблвыкамзаху, галоўнага органа бальшавіцкай улады ў краі.*

*А. Мяснікоў атрымаў велізарныя паўнамоцтвы. З улікам таго, што рэвалюцыйная мэтазгоднасць нярэдка ў той час падмяняла законы, яго ўлада станавілася яшчэ большай. Аднак усе магчымасці яго пасады не былі*

*накіраваны на Беларусь. Усе спробы абвяшчэння незалежнасці Беларусі бачыліся А. Мяснікову перашкодай для рэвалюцыі. У снежні 1918 г., калі абмяркоўваўся лёс вызваленай ад немцаў Беларусі, ён пісаў у Маскву: “Некаторыя мясцовыя работнікі будзіруюць вакол пытання* ***аб так званай Беларусі****...” І нават падзеі, калі палітычнымі абставінамі 5 лютага 1919 г. на з’ездзе Саветаў БССР А. Мяснікоў быў абраны старшынёй новага ўрада, не змянілі яго пазіцыі. У той дзень, падначаленая яму “Звязда” пісала: “З’езд пацвердзіў, што намаганні беларускай інтэлігенцыі ў стварэнні “сваёй” беларускай мовы, “сваёй” нацыянальнай культуры марныя... Хай возьмуць да ўвагі гэта беларускія пісьменнікі.”*

*Шчаслівая будучыня таго насельніцтва, над якім ён быў пастаўлены, не звязвалася ў А. Мяснікова з нацыянальным беларускім Адраджэннем...*

*У хуткім часе, з восені 1920 г., А. Мяснікоў – сакратар Маскоўскага камітэта Расійскай камуністычнай партыі бальшавікоў, а далей, у Арменіі – на пасадзе сакратара Савета Народных Камісараў і народнага камісара па ваенных справах рэспублікі.”*

**IV. Ніжэй змешчаны дакумент – гэта ўрывак аналітычнай запіскі вядомага беларускага палітыка пачатку XX стагоддзя Алеся Бурбіса*. У ёй - характырыстыка дзейнасці Абвыкамзаху ў Беларусі 1918 г. Прачытаце тэкст дакумента, адкажыце на пытанні і выканайце заданні.**

**1. Што такое Аблвыкамзах? Дайце разгорнутую назву гэтай установы.**
**2. У якіх абставінах быў створаны Аблвыкамзах?**
**3. Пры якіх абставінах Аблвыкамзах пераехаў з Мінску ў Смаленск?**
**4. Якую пазіцыю займалі кіраўнікі гэтага органа ўлады “ко всему белорусскому” ў Мінску ўвосень 1917 – да лютага 1918 г.? Чым тлумачыцца такая іх пазіцыя?**
**5. Якую ролю адыграў Аблвыкамзах у лёсе І Усебеларускага з’езду? Чаму?**
**6. Ратлумачце паняцці: “контррэвалюцыя” і “шавінізм”. Чаму менавіта так ацэнівалася на з’ездзе Аблвыкамзаху прапанаваная замена назвы з “Западного края” в “Белоруссию” (А. Бурбіс)?**

*“Обращаясь к работе в неоккупированной части Белорусси, следует сказать, что после перенесения центра Западной области из Минска в Смоленск, там Областным Исполнительным комитетом Западной области...во главе с тов. Мясниковым, Кнориным и др. продолжалась таже политика по отношению ко всему белорусскому, включая язык, что и в Минске...Заведующий просвещением тов. Савантеев заявил представителю Белорусского Комиссариата, что ему безразлично, будут ли белоруссы грамотны или нет. Когда же на западном областном съезде в Смоленске 11 сентября 1918 г. был поднят вопрос о переименовании так называемого... “Западного края” в “Белоруссию”, в этом был усмотрен шовинизм и контрреволюция...В результате всего изложенного фактически не могла быть открыта ни одна белорусская школа, хотя даже в Смоленской губернии целые деревни потребовали открытия таковых школ..., не издан ни*

* Алесь Бурбіс (1885-1922) – дзеяч беларускага вызваленчага руху, акцёр і рэжысёр, адзін са стваральнікаў беларускага прафесійнага тэатра. А. Бурбіс - сярод заснавальнікаў БСГ. У 1918 г. – консул БНР у Маскве. У пачатку 1919 г. вітаў утварэнне БССР. У 1921 г. – уступіў у камуністычную партыю. З ліпеня 1921 г. А. Бурбіс намеснік наркома замежных спраў БССР. Удзельнічаў у рабоце Першай беларускай трупы Ігнація Буйніцкага. Напісаў навуковую працу “Кароткі нарыс па эканамічнай геаграфіі Беларусі” (1922).

*один белорусский школьный учебник, фактически не издано ничего коммунистического на белорусском языке…”*

**(Бурбіс А. Дакумент №1. Е. После Октябрьского переворота (Репрессии против белорусского коммунистического и советского движений) // Беларускі гістарычны часопіс. – 1994. -№1. –с.76.)**

## Раздзел III. Кайзараўская акупацыя Беларусі ў 1917-1918 гг.

**1.Акупаваныя землі Беларусі ў 1917 г.** Пасля Лютаўскай рэвалюцыі каля 25% тэрыторыі Беларусі заставалася пад нямецкай акупацыяй. У 1913 г. там пражывала 2,6 мільёна чалавек. Аднак за 1914-1915 гг. гэта колькасць паменшылася з-за бежанцаў, эвакуіраваных і мабілізаваных у расійскае войска. Толькі з тэрыторыі Гродзенскай губерні бежанцамі стала па меншай меры 750 тысяч чалавек. Насельніцтва Гродна паменшылася з 57 тысяч чалавек у 1913 г. да 24 тысяч у 1916 г.

Замкнёнасць акупаванай тэрыторыі ў 1915-1917 гг. зрабіла яе насельніцтва даволі нязменным. Аднак вялікая колькасць уцекачоў і эвакуіраваных імкнулася дадому з усходніх губерняў Расіі ўсялякімі спосабамі.

Лінія фронту падзяліла і палітыкаў. Шэраг з іх застаўся на акупаванай тэрыторыі. Сярод іх былі адметныя ў беларускім руху браты **Іван і Антон Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі**. Змяненне дэмаграфічнага складу насельніцтва, яго адарванасць ад усходніх зямель Беларусі, расцярушанасць па абшарах Расіі не маглі не ўплываць на развіццё рэвалюцыйных працэсаў у Беларусі. Ізаляванасць лідараў нацыянальнага руху на акупаванай і неакупаванай частках Беларусі адмоўна адбівалася на перспектывах барацьбы за самавызначэнне беларускага народа.

З пачатку ўсталявання акупацыйнай улады немцаў ў 1915 г. Беларусь разглядалася Германіяй як крыніца сыравіны і таннай рабочай сілы. Каля 8% сучаснай тэрыторыі Беларусі ўваходзіла ў адміністратыўны абшар Обер-Ост. Гэты абшар вясной 1917 г. быў падзелен на тры адзінкі: Літву, Курляндыю і Беластоцка-Гродзенскую акругу. На усёй акупаванай тэрыторыі немцы праводзілі палітыку максімальнай эксплуатацыі. У выніку яе, да восені 1917 г., сем лесапільных, адзін шпалапрапітачны заводы і шэраг дробных дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў дзейнічалі ў Белавежскай пушчы. Былі пракладзены па пушчы чыгуначныя шляхі, штодзённы грузаабарот якіх складаў 1500-2000 тысяч марак. Рабаванне лясных абшараў Беларусі прыносіла Германіі вялізныя прыбыткі.

У нацыянальнай палітыцы камандаванню кайзераўскай 10-й арміі пад кіраўніцтвам Эрыха фон Фалькенгайна было зручна прыняць за прынцып аднолькавае стаўленне да ўсіх нацыянальнасцей акупаваных зямель. Прызнанне немцамі нацыянальнай адметнасці беларусаў і раўнапраўнае існаванне беларускай мовы побач з іншымі мовамі Обер-Оста мела істотнае значэнне для абуджэння культурна-асветніцкай працы. Не аб якой палітычнай самастойнасці акупаваных народаў гаворка, вядома, не ішла.

Вынікамі такой працы стаў выхад газет і часопісаў. Сярод іх вызначалася газета **"Гоман"**. Рэдактарам яе быў **Вацлаў Ластоўскі**. Яна прапагандавала ідэю незалежнасці літоўска-беларускіх зямель ў выглядзе новага Вялікага княства Літоўскага, змяшчала распараджэнні акупацыйных улад, гістарычныя матэрыялы. У Вільні адкрыліся Беларускі клуб і аматарскі тэатр пры ім, беларуская бібліятэка, кнігарня, дзіцячы прытулак "Золак". Ішла работа па стварэнню сеткі беларускіх школ. Сярод прыкладаў дабрачыннай дзейнасці адметнай выглядае дзейнасць **Магдалены Радзівіл**.

**Магдалена Матыльда Радзівіл** (з магнацкага роду Завішаў) (1861-1945 гг.) Падзвіжнік беларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Княгіня, мецэнатка беларускай культуры. З яе дапамогаю створана суполка "Загляне сонца ў наша ваконца"(1906г.), фінансаваліся часопіс "Belarus", газета "Наша Ніва", выдадзены зборнік вершаў М. Багдановіча "Вянок". У гады вайны М. Радзівіл садзейнічала рабоце Беларускага камітэта дапамогі пацярпелым ад вайны.

***ВАРТА ПРАЧЫТАЦЬ: ХУРСІК В. БЕЛЫ ЛЕБЕДЗЬ У ПРОМНЯХ СЛАВЫ (Аб М. Радзівіл)***

Ужо ў 1918 г. "Вольная Беларусь" пісала: "Коштам княгіні Радзівіл ў Ігуменскім павеце адчынены тры беларускія пачатковыя школы…У мястэчку Уздзе Ігуменскага павету памянёная памешчыца адчыніла рамеснае вучылішча для сялянскіх дзяцей." На канец 1918 г., згодна са звесткамі Антона Луцкевіча, гэтых школ было за 150. Тое, што гэтыя школы ствараліся, адрознівала становішча беларускай адукацыі ў параўнанні з часам расійскай улады. Але колькасць школ, створаных у часы акупацыі, была зашмат ніжэй за неабходную колькасць для беларускага насельніцтва на акупаваных тэрыторыях.

Германская палітыка адносна беларусаў абмяжоўвалася культурна-асветніцкімі справамі. Гэта не давала падстаў спадзявацца стварыць незалежную Беларусь з немецкай дапамогай.

**2.Брэсцкі мір. Вызваленне Беларусі ад нямецкіх захопнікаў.** Пасля прыходу да ўлады бальшавікі прапанавалі ўсім ваюючым бакам заключыць мір без анексій і кантрыбуцый. Але згоды нідзе не знайшлі. Каб выйсці з вайны, савецкія дыпламаты падпісалі з немцамі **ў снежні 1917 г.** "Дагавор аб перамір'і на Заходнім фронце". Тэрмін дамовы скончыўся ў лютым наступнага года, і немцы 18 лютага аднавілі ваенныя дзеянні. Старая расійская армія развальвалася, а новая, рабоча-сялянская, толькі фарміравалася. Гэта дазволіла немцам хутка пасунуцца на ўсход, пашырыўшы акупацыю амаль на ўсю Беларусь.

Каб прыпыніць наступленне Германіі, Савецкі ўрад прапанаваў той заключыць мірны дагавор. У выніку доўгіх і складаных перамоў, што цягнуліся з лістапада 1917 г. у Брэст-Літоўску, на тэрыторыі крэпасці, быў падпісаны мірны дагавор.

**Імгненне гісторыі:**

У час працягу наступлення немцаў 24 лютага 1918 г. у 3 гадзіны раніцы адбылося пасяджэнне ЦВК РСФСР. З прапановаю прыняць немецкія ўмовы выступіў старшыня СНК РСФСР Уладзімір Ленін. Вынікі галасавання сведчылі аб адабрэнні большасцю ўдзельнікаў камітэту гэрманскіх умоў міру. **3 сакавіка 1918 г. Брэсцкі мір** быў падпісаны. 15 сакавіка дагавор быў адобраны Савецкім урадам і 22 сакавіка – рэйхстагам Германскай Імперыі.

Хоць размова ў Брэсце ішла пра беларускую тэрыторыю, яе лёс вырашылі прадстаўнікі Савецкай дэлегацыі і аўстра-германскага блоку. Прадстаўнікі БНР – Іван Серада, Аляксандр Цвікевіч, Сымон Рак-Міхайлоўскі – прысутнічалі на перамовах у складзе дарадцаў украінскай дэлегацыі.

**Аляксандр Цвікевіч (1883 -1937).** Нарадзіўся ў сям'і фельдшара чыгуначнай бальніцы Брэст-Літоўска. Скончыў юрыдычны факультэт Пецярбургскага універсітэту. У гады першай сусветнай вайны апынуўся сярод бежанцаў. Там і пачаў актыўную палітычную дзейнасць. Выхаванец на каштоўнасцях рускай культуры А. Цвікевіч з пачатку прытрымліваўся поглядаў аўтаноміі Беларусі ў складзе Расіі. Пазней перайшоў на незалежніцкія пазіцыі. Удзельнік І Усебеларускага з'езду. У часы БНР А. Цвікевіч займаецца дыпламатычнай дзейнасцю ў Кіеве, Маскве, Берліне. Аўтар шэрагу кніг і шматлікіх артыкулаў па праблемам палітычнага развіцця Беларусі. У 1921-1923 гг. займае пост міністра замежных спраў БНР ва ўрадзе В. Ластоўскага. Пасля расколу ў беларускім эміграцкім руху ў 1925 г. А. Цвікевіч прыняў рашэнне вярнуцца ў БССР. Працаваў у Наркамфіне, Інбелкульце, Інстытуце гісторыі. У 1929 г. свет убачыла фундаментальная навуковая праца А. Цвікевіча "Заходнерусізм". Растраляны ў 1937 г. па абвінавачванню ў сувязі з так званым "Саюзам вызвалення Беларусі".

Змест гэтага дагавора быў катастрафічным для Беларусі. Урад Уладзіміра Леніна пагадзіўся пакінуць за Германіяй заходнюю тэрыторыю за лініяй Дзвінск (Даўгаўпілс) – Свянцяны – Ліда – Пружаны – Брэст-Літоўск. У адказ Германія прыпыняла наступленне. Германія і Расія ўзаемна адмовіліся ад пагашэння страт, што прынесла вайна насельніцтву. Таму Беларусь не атрымала нічога на аднаўленне разбуранай гаспадаркі.

Германія мела намер ліквідаваць савецкую ўладу і далучыць да сабе тэрыторыі Прыбалтыкі, Беларусі і Украіны. У выніку зімовага наступлення паднялася новая хваля бежанства. Новыя сотні тысяч жыхароў Усходняй Беларусі пакідалі свае мясціны, гаспадаркі і рушылі на ўсход.

На новых акупаваных землях немцы зачынялі прадпрыемствы, а абсталяванне і сыравіну вывозілі, адмянялі дэкрэты савецкай улады. Была аднаўлена памешчыцкая ўласнаць. Змянялася мясцовае кіраўніцтва. Так, у чэрвені 1918 г. Мінскую гарадскую думу разагналі, замяніўшы магістратам, у які ўвайшлі *лаяльныя* да нямецкай улады прадстаўнікі буржуазіі і памешчыкаў. Акупанты актыўна ўжывалі рэквізіцыі для забеспячэння арміі. Рэпрэсіям падвяргаліся бальшавікі і тыя хто ім спачуваў. Заможныя колы бачылі ў немцах выратавальнікаў ад бальшавікоў, але большасць насельніцтва – захопнікаў.

Характар акупацыйнай палітыкі выклікаў супраціўленне. Яно ішло ад народа і мела выгляд партызанскай альбо падпольнай барацьбы. Шырылася хваля забастовак, якія нярэдка перарасталі ва ўзброеныя сутычкі з акупантамі. Гэтыя падзеі закранулі Магілёў, Жлобін, Рагачоў, Навагрудскі, Слуцкі, Бабруйскі і іншыя паветы. Агульнае кіраўніцтва народным супраціўленнем спрабавалі ўзяць на сябе бальшавікі і беларускія эсэры. Колькасць партызанскіх атрадаў узрастала. На Палессі ўжо да жніўня 1918 г. гэтыя атрады кантралявалі Пінскі, Лунінецкі, Кобрынскі, Столінскі і іншыя паветы. Восенню 1918 г. узброеная барацьба ў тыле немцаў набыла масавы характар.

# Пытанні і заданні:

**I. Прачытайце ўрывак германскага камандуючага Э. Людэндорфа.**

**1. Як характарызуе дадзены ўрывак стаўленне немцаў да насельніцтва акупаваных зямель?**

**2. Як успаміны Людэндорфа стасуюцца з фактамі развіцця беларускай культуры ў часы германскай акупацыі (1915-1918гг.)?**

## З успамінаў Э. фон Людэндорфа.

*"У гарадах, менавіта, ў Вільне, Коўне і Гародне ў момант нашага ўступлення пачаліся сур'ёзныя харчовыя складанасці, якія раслі і распаўсюджваліся на іншыя гарады...Насельніцтва, за выключэннем немцаў, нас чужалася. Немцы жа, асабліва ў Прыбалтыцы, добра прынялі германскія войскі. Латышы, як апартуністы, трымаліся так, быццам бы*

*нешта чакалі. Літоўцы верылі, што для іх зараз прабіла гадзіна вызвалення, калі ж чакаемыя лепшыя часы з-за ...вайны адразу не насталі, яны зноў адвярнуліся ад нас і сталі адносіцца з недаверам. Палякі трымаліся ў баку і адносіліся варожа, бо не без падставы баяліся, што мы з'арыентуемся ў сваёй палітыцы на літоўцаў. З беларусамі лічыцца не прыходзілася, бо палякі пазбавілі іх свайго нацыянальнага твару і нічога не далі ім за гэта. Увосенню 1915 года я хацеў для сабе ўявіць, дзе знаходзяцца беларусы. З пачатку іх ўвогуле нельга было знайсці. Толькі пазней адкрылася, што гэта вельмі распаўсюджанае, але значна апалячанае племя, якое было на такой нізкай ступені культуры, што дапамагчы ім магчыма было толькі пры працяглым уздзеянні. Яўрэі яшчэ не ведалі, чаго ім трымацца, але яны нам не перашкаджалі, і, да таго ж, друг друга мы разумелі, у той час як з палякамі, літоўцамі і латышамі размаўляць ані як не атрымлівалася. Гэтыя перашкоды адбіваліся вельмі цяжка. З-за адсутнасцю адпаведнай нямецкай літаратуры мы мала ведалі побыт і людзей гэтай мясцовасці і бачылі перад сабою як бы новы свет."*

**Урывак з кнігі Э. Людэндорфа "Мае ўспаміны пра вайну 1914-1918г." (Людендорф Э. Мои воспоминания о войне 1914-1918г.-М.:Госиздат, 1922-1923. - Т.1. – С.151.)**

**II. На падставе звестак аб акупацыйнай палітыцы і стане беларускага нацыянальнага руху летам 1917 г. паразважайце, наколькі беларускія рэвалюцыянеры маглі спадзявацца на падтрымку з боку акупацыйнай улады?**

**III. Прачытайце ўрывак артыкулу Язэпа Лёсіка "Мір і Беларусь" і адкажыце на пытанні:**

**1. Чаму на перамовы у Брэсце, дзе ішла гаворка пра лёс беларускіх зямель, не былі запрошаны прадстаўнікі БНР?**

**2. Назавіце дакладныя ўмовы Брэсцкага міру для тагачаснай Беларусі.**

**3. Што ў словах Я. Лёсіка, гаворыць аб трагічным стане Беларусі па выніках падпісанага міру?**

**4. Якія прычыны і змест заключанага Брэсцкага міру?**

**5. З дапамогаю матэрыялу аб абвяшчэнні БНР вызначце значэнне Брэсцкага міру для Беларусі?**

*"У нядзелю, 3(18) сакавіка, у Берасці падпісаны міравы трактат паміж цэнтральнымі дзяржавамі і Вялікаросіяй. Такім чынам, бальшавіцкі велікарускі ўрад прымушаны быў згадзіцца на тыя варункі міру, якія былі запрапанаваны германцамі. Формула – ні міру, ні вайны – не збавіла ад ганебнага міру...*

*Цяжкае становішча і нашай староньці, Беларусі. На міравыя перагаворы беларусаў не пусцілі. Імя Беларусі ні разу не ўспаміналася ў Берасці...Умовы паміж Вялікаросіей і цэнтральнымі панствамі ясна гавораць, што заходняя частка Беларусі...адарваны назаўсёды, і лёс іх маюць устанавіць германцы ў паразуменні з насяленем... Тым часам, неведама калі скончыцца вайна на Захадзе. Мір Вялікаросіі з цэнтральнымі дзяржавамі не зрабіў ніякіх перамен у палажэнні Беларусі. Беларусь як была расцята, так і застаецца..."*

**( Лёсік Я. Творы: Апавяданні, Казкі.Артыкулы. – Мн.. 1994. –285-286.)**

# Заданне IV. Абвяшчэнне і дзейнасць Беларускай Народнай Рэспублікі.

*"Барацьба за адраджэнне Беларусі*
*ёсць барацьба за яе незалежнасць."*
***Аляксандр Цвікевіч***
*"Чатыры гады 1918-25.III.1922"*

**1.Першы Усебеларускі з'езд.** З **7 па 17 снежня 1917 г.** ў Мінску адбыўся **Першы Усебеларускі з'езд (кангрэс)**. Праводзіўся ён са згоды і пры падтрымцы Нацыянальнага камісарыяту па справах нацыянальнасцей. На з'езд прыбылі дэлегаты з Беларусі, Расіі і Украіны. Гэта былі прадстаўнікі беларускіх вайсковых фарміраванняў, губернскіх земстваў, паветаў, прафсаюзаў, бежанскіх камітэтаў. Усяго на з'ездзе прысутнічалі 1872 дэлегаты. У іх ліку пераважалі ваенныя, настаўнікі і чыноўнікі. Пераважная доля дэлегатаў паходзіла з сялянскага саслоўя. Старшынёй з'езду быў абраны прадстаўнік Цэнтральнай вайсковай беларускай рады **Іван Серада**.

Будучы лёс Беларусі быў галоўным пытаннем, якое абмяркоўвалі дэлегаты. Прадстаўнікі Віленскай, Мінскай, Гродзенскай, Віцебскай губерняў выказваліся за палітычную аўтаномію Беларусі. Дэлегаты Магілёўскай і Смаленскай губерняў выказваліся за адзінства расійскай дзяржавы. Было прынята рашэнне аб утварэнні органа краёвай улады ў асобе Усебеларускай Рады сялянскіх, салдацкіх і рабочых дэпутатаў. Гэтак з'езд паспрабаваў устанавіць беларускую савецкую ўладу без удзелу Аблвыкамзаху. Органы бальшавіцкай улады пільна сачылі за ходам з'езду. 17 снежня па загаду А. Мяснікова прызідыум з'езду быў арыштаваны, а дэлегаты разагнаны.

Яшчэ да свайго разгону з'езд выбраў Раду. Яе пасяджэнне 18 снежня адбылася ў непрыстасаваных умовах дэпо Лібава-Роменскай чыгункі. Было створана пастаяннае нацыянальнае прадстаўніцтва – **Выканаўчы камітэт Рады Усебеларускага з'езду**.

**Установа:**

Выканаўчы камітэт Рады Усебеларускага з'езду – орган улады, складзены з 10 чалавек, у тым ліку: **Язэп Варонка** – старшыня і замежныя справы, Сымон Рак-Міхайлоўскі – ваенная справа, Іван Серада – унутраныя справы, Тамаш Грыб – сельская гаспадарка, Макар Касцевіч (Макар Краўцоў) – асвета, Аляксандр Прушынскі (Алесь Гарун) –праца, Паліна Бадунова – сацыяльная апека. Першапачаткова ён з'яўляўся правобразам ураду Беларусі. Калі Выканкам застаўся адзінаю ўладаю ў Мінску, у лютым 1918 г. у яго склад па прапанове Я. Варонкі былі ўключаны прадстаўнікі літоўскай, рускай, польскай і яўрэйскай меншасцяў.

Такім чынам у Мінску стварылася быццам бы два ўрада: легальны Аблвыкамзах і нелегальны – Выканкам Рады Усебеларускага з'езду.

**2.Умовы абвяшчэння БНР.** Разгон з'езду яшчэ раз прадэманстраваў стаўленне савецкай улады да пытання беларускай дзяржаўнасці. Гэта не магло не выклікаць рашучых учынкаў з боку беларускіх палітыкаў. Калі ўвесь час сваёй дзейнасці БСГ выступала за аўтаномію Беларусі ў складзе Расіі, то зараз Радаю была пастаўлена задача падрыхтоўкі барацьбы за незалежнасць Беларусі. Падзеі Першай сусветнай вайны склалі своеасаблівыя абставіны для гэтай барацьбы. У выніку новага наступлення **21 лютага 1918 г.** немцы занялі Мінск. Савецкія войскі адышлі з вялікай часткі тэрыторыі усходняй Беларусі, а Аблвыкамзах пераехаў у Смаленск. На акупаваных тэрыторыях Беларусі застаўся толькі беларускі ўрад. Ён і абвясціў сябе **21 лютага** часовай уладай, да моманту склікання Усебеларускага ўстаноўчага сходу. Гэтай навіне была прысвечана **Першая Устаўная грамата** да беларускага народа. Тэкст яе на беларускай і рускай мовах быў расклееены па ўсім Мінску. Выканкам стварыў **Народны Сакратарыят Беларусі**, на чале якога быў пастаўлен Язэп Варонка.

Немцы не прызналі беларускі ўрад. Пазней яны згадзіліся лічыць Сакратарыят прадстаўніцтвам беларускага насельніцтва з паўнамоцтвамі ў галіне мясцовага самакіравання, асветы і выдавецтва.

Пасля заключэння Брэсцкага мірнага дагавору **3 сакавіка 1918 г.**, калі пазіцыі нямецкай улады на Беларусі ўзмацніліся і стан беларускіх зямель істотна змяніўся. **9 сакавіка** Выканкам Рады з'езду выдаў Другую Устаўную грамату. У ёй урачыста сцвярджалася, што "пасля трох с паловаю вякоў няволі ізноў на ўвесь свет кажа беларускі народ, што ён жыў і жыць будзе". Так была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка. Паколькі Выканкам быў на той час ужо легальным прадстаўніцтвам БНР, яго аддзелы пачалі ствараца па ўсёй Беларусі. У іх насельніцтва хацела бачыць сілу супраць рабункаў немцаў. Пашыраная за лік прадстаўнікоў усіх беларускіх зямель, БНР **25 сакавіка** 1918 г. ў Трэцяй Устаўной грамаце абвесціла аб сваёй незалежнасці.

**3.Палітыка лідараў БНР.** Абвешчанная БНР мела знешнія атрыбуты дзяржавы: бела-чырвона белы сцяг і герб "Пагоню". У 1920 г. кіраўніцтвам БНР будзе зацверджаны гімн, якім стане верш-марш паэта Макара Краўцова на музыку Уладзіміра Тэраўскага "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Межамі БНР абвяшчаліся этнічныя беларускія абшары. **(Карта)**

Згодна з Другой Устаўной граматай у межах Беларусі абвяшчаўся шэраг свабод. Гэта былі свабода слова, друку, сходу, сумлення, недатыкальнасць асобы і жылля, раўнапраўе моў усіх нацыянальнасцей Беларусі. Права прыватнай ўласнасці на зямлю адмянялася. Лясы, воды і нетры зямлі аб'яўляліся ўласнасцю БНР. Выканкам Рады з'езду быў ператвораны ў **Раду БНР**. На чале Прызідыума Рады стаў І. Серада.

**Іван Серада.** Нарадзіўся ў 1879 г. у вёсцы Задвел Мінскай губерні. Пасля заканчэння Варшаўскага ветэрэнарнага інстытута ў 1903 г. працаваў па спецыяльнасці. Пасля

Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. увайшоў ў БСГ. Адзін з ініцыятараў абвяшчэння незалежнасці Беларусі 25 сакавіка 1918 г. Уваходзіў у кіраўніцтва Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. Пасля 1921 г. адыходзіць ад палітычнай дзейнасці і ў хуткім часе пераяжджае ў савецкую Беларусь. Працаваў у Інстытуце беларускай культуры, Беларускай сельгасакадэміі ў Горках. Быў абвінавачаны ў "нацыянал-дэмакратызме" і 4 ліпеня 1930 г. арыштаваны па сфабрыкаванай справе "Саюзу вызвалення Беларусі". Вызвалены ў 1943 г. Далейшы лёс невядомы.

Складана было весці хоць нейкую самастойную палітыку ва ўмовах акупацыі краіны. А якраз у такіх абставінах дзейнічала Рада БНР. Паколькі дазвол з боку немцаў быў толькі на асветніцкую палітыку, то і найбольшых поспехаў лідары БНР дабіліся менавіта ў гэтай сферы жыцця. Працавалі Мінскі педагагічны інстытут, беларускія школы, тэатры. Дзейнічалі выдавецкія таварыствы "Krynica" і "Бацькаўшчына". Працягвалі выходзіць газеты "Гоман", "Вольная Беларусь", "Беларускі шлях" і іншыя. Па ініцыятыве **Івана Луцкевіча** ў Вільні была створана першая беларуская навуковая ўстанова – Беларускае навуковае таварыства. У 1918 г. выйшлі "Беларуская граматыка для школ" Браніслава Тарашкевіча і "Беларускі правапіс" Антона Луцкевіча і Яна Станкевіча.

Нягледзячы на гэтыя поспехі, праблем у палітыцы БНР было шмат. Далёка не ўсе лідары БНР аднолькава ставіліся да разрыву з Расіяй. І ў гэтым была адна з прычын крызісу палітыкі БНР. Але галоўнай праблемай аб'яўленай беларускай дзяржавы было стаўленне да яе насельніцтва краю. Істотнай падтрымкі з боку народа не было. Сярод прычын, якія называюць гісторыкі, асноўнымі з'яўляюцца лаяльнасць лідараў БНР да нямецкай акупацыйнай улады, адсутнасць нацыяналізацыі зямлі, адасобленасць шырокіх мас народа ад працэсу абвяшчэння БНР, разрыў з Расіяй.

**4.Міжнародны статус БНР.** Незалежнасць БНР не адпавядала інтарэсам суседніх дзяржаў. У Расіі Беларусь лічылі сваёй неад'емнай часткай.

**Успомніце з гісторыі Беларусі канца XVIII-пачатку XX ст. факты, якія сведчаць пра такое стаўленне Расіі.**

Прэтэнзіі на пэўныя беларускія тэрыторыі мелі Літва і Украіна. Атрымаўшая незалежнасць Польшча глядзела на Беларусь як на сваю ўласнасць. Шматлікія польскія і рускія арганізацыі з ліку розных таварыстваў варожа ўспрынялі ідэю самастойнасці беларусаў. Касцёл і праваслаўная царква традыцыйна не дапускалі беларускай мовы ў сваіх сценах. Абыякава адносіліся да беларускай дзяржавы і пэўныя яўрэйскія колы, бо мелі інтарэсы стварэння ўласнай нацыянальнай дзяржавы.

Германія разглядала Беларусь як акупаваную расійскую тэрыторыю. Таму ўчынак лідараў БНР Пятра Крычэўскага, Івана Серады, Паўла Аляксюка, Рамана Скірмунта і Язэпа Лёсіка, якія за сваімі подпісамі паслалі віншавальную тэлеграму германскаму кайзеру Вільгельму ІІ, не знайшоў адказу з боку немецкіх улад, але моцна пагоршыў крызыснае становішча БНР.

**Імгненне гісторыі:**

Тэлеграма, дасланая імператару Вільгельму: "Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, як выбранае прадстаўніцтва Беларускага народа, звяртаецца да Вашай Імператарскай Вялікасці са словамі глыбачайшай падзякі за вызваленне Беларусі Немецкімі войскамі з цяжкага ўціску чужога пануючага здзеку і анархіі. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі дэкларавала незалежнасць цэласнай і недзялімай Беларусі і просіць Вашу Імператарскую Вялікасць аб абароне ў яе кіраваннях дзеля ўмацавання дзяржаўнай незалежнасці і неад'емнасці краю ў сувязі з Германскай Імперыяй. Толькі пад абаронай Германскай Імперыі бычыць край сваю добрую долю ў будучыні."

Адбыўся раскол ў БСГ на тры новыя партыі. З БСГ выйшла *беларуская партыя сацыял-рэвалюцыянераў* (БПСР). У яе складзе апынуліся такія актывісты, як Тамаш Грыб, Сцяпан Некрашэвіч, Вацлаў Ластоўскі. Другой партыяй была *беларуская партыя сацыял-дэмакратаў (БПСД)* з Іванам і Антонам Луцкевічамі, Язэпам Лёсікам, Браніславам Тарашкевічам, Аркадзем Смолічам у сваім складзе. Трэцяй была партыя *беларускіх сацыялістаў-федэралістаў (БПС-Ф)*, сярод якіх апынуўся Язэп Варонка, Іван Серада, Пётр Крычэўскі. "Рэвалюцыянеры" выказваліся за супрацоўніцтва з Расіяй і савецкай уладай, "федэралісты" хацелі саюзу з Расіяй, але не з бальшавікамі, а "сацыял-дэмакраты" выказваліся за ўратаванне Рады з дапамогаю сваіх нацыянальных войскаў.

Тым часам з паражэннем Германіі ў сусветнай вайне ў **лістападзе 1918 г.** ёй на змену прыйшлі на Беларусь войскі бальшавікоў. Час БНР на Беларусі скончыўся, хоць ідэя БНР і яе лідары будуць мець істотнае значэнне для нашай краіны і надалей.

# Пытанні і заданні:

**І. Вызначце тэзісна, што ў найноўшай гісторыі Беларусі ўяўляе сабою Першы Усебеларускі з'езд?**

**II. Прачытайце скарочаны тэкст з Другой Устаўной граматы і адкажыце на пытанні:**

1. **У якіх ваенных і палітычных умовах была абвешчана БНР? Успомніце, што на працягу ўсяго часу БСГ і "Наша Ніва", прадстаўнікі розных іншых беларускіх арганізацый выступалі за аўтаномію Беларусі ў складзе Расійскай рэспублікі. Чаму прынцыпова змянілася гэта пазіцыя ўзімку 1918 г.?**
2. **Па якіх звестках Другой Устаўной граматы можна меркаваць аб унутранай і знешняй палітыцы будучай беларускай дзяржавы?**
3. **Дайце характарыстыку магчымай палітыцы. Інтарэсы каго будзе задавальняць такая ўлада?**
4. **Параўнайце дэклараваную палітыку БНР з лозунгамі і палітыкай савецкай ўлады.**

*"2-й Устаўной Граматы: ...Выпаўняючы волю З'езда і баронючы дзяржаўныя правы народу Спаўняючы Камітэт Рады З'езду гэтак пастанаўляе аб дзяржаўным устрою Беларусі і аб правох і вольнасцях яе грамадзян і народаў:*

*1.Беларусь у рубяжох разсялення і лічбеннай перавагі беларускага народу абвяшчаецца Народнай Республікай.*

*2.Асноўныя законы БНР зацвердзіць Устаноўчы Сойм Беларусі, скліка.ны на асновах агульнага, роўнага, простага, патаемнага і прапарцыянальнага выбарчага права, ня зважаючы на пол, народнасць і рэлігію.*

*5.У рубяжох БНР абвяшчаецца вольнасць слова, друку, сходаў, забастовак, аб'яднанняў, безумоўная вольнасць сумлення, незачэпнасць асобы і памяшкання.*

*6.У рубяжох БНР усе народы маюць правы на нацыянальна-персанальную аўтаномію, абвяшчаецца роўнае права ўсіх моваў народаў Беларусі.*

*7.У рубяжох БНР права прыватнай уласнасці на зямлю касуецца. Зямля перадаецца без выкупу тым, хто самі на ёй працуюць. Лясы , вазёры і нутро зямлі абвяшчаюцца ўласнасцю БНР.*

*1. У рубяжох БНР устанаўліваецца найбольшы 8-гадзіновы рабочы дзень.."*

**III. Прачытайце наступныя ўрыўкі з успамінаў "25 марца 1918 году" аднаго са стваральнікаў БНР Антона Луцкевіча і "Чатыры гады" Аляксандра Цвікевіча.**

**1. Падумайце над ацэнкай гэтых падзей беларускіх палітыкаў. Дзень 25 сакавіка мог стаць пачаткам стварэння незалежнасці, але не стаў. Якія прычыны таму?**

**2. Ці можна лічыць абвяшчэнне БНР лагічным крокам развіцця беларускага нацыянальнага руху? Абгрунтуйце свой адказ?**

**3. Раскажыце аб палітыцы кіраўніцтва БНР ва ўмовах нямецкай акупацыі? Растлумачце, чаму яна была менавіта такой?**

**А. Луцкевіч**: *"Каля шостае гадзіны раніцы старшыня ставіць на галасаванне формулу: "Рада Рэспублікі абвяшчае Беларусь незалежнай і суверэннай дзяржавай і выдае аб гэтым устаноўчую грамату".*

*Хоць ясна для ўсіх, што перамога забяспечана, усё-ж глыбокая цішыня пануе ў залі. Пакуль лічаць галасы. Кожны чуе, што вось-вось зараз нешта мае зрабіцца – нешта важнае выключнае, такое, што двойчы не паўтарыцца. Кожны разумее, што кліч, каторы зараз прыме ці адкіне Рада,*

*– гэта кліч да новага, вольнага жыцця, гэта запаведзь яснае долі для ўсяго многапакутнага беларускага народу…*

*І яно сталася: новая ідэя нарадзілася. Вялізарнай перавагай галасоў формула прынята!...*

*Сонца 25 марца свяціла ўжо на Незалежную Беларусь. Бо хоць і стаялі на ёй чужацкія войскі, хоць і далей паношыўся і паношыўся на ёй чужынец, але народ беларускі скінуў путы няволі з душы сваёй і гэтых путаў ніхто яму ўжо назад не ўздзене!*

*Акт аб незалежнасці прыняты. Тут-жа яго тлумачаць на чужаземныя мовы, і на ўвесь свет ідзе звестка, што нарадзілася ў гэту ноч Незалежная Беларусь…*

*Цёпла і радасна на душы, бо мы, старыя дзеячы, першыя сяўцы беларускай ідэі, неўспадзеўкі ўбачылі, які багаты плён дала наша сяўба, пераросшы самыя смелыя нашы спадзяванні!”*

**А. Цвікевіч**: *“Праўда, дзякуючы акту 25 сакавіка Беларусь не стала незалежнай дзяржавай. Але гэта не змяншае незвычайнай гістарычнай вартасці гэтага акту, як галоўнешага закону беларускага вызваленчага руху, усяго беларускага адраджэння…”*

**IV. Заданне “Постаць у гісторыі”. Прачытайце біяграфічны экскурс “ Іван Луцкевіч (1881-1919гг.).**

1. **Параўнайце накірункі дзейнасці І. Луцкевіча з галоўнымі момантамі жыцця В. Ластоўскага і А. Мяснікова. Што аб’ядноўвае, а што робіць адметнымі жыцці гэтых дзеясных людзей?**
2. **Падрыхтуйце з дапамогаю дадатковага матэрыялу паведамленне аб адным з накірунках дзейнасці І. Луцкевіча.**

*“Толькі два гады яго жыцця прыйшлося на час, калі было ўпершыню заяўлена аб незалежнай Беларусі. Але гэтага аказалася дастаткова каб у гісторыі ён застаўся ў першых шэрагах беларускага Адраджэння ХХ стагоддзя. Колькі паспеў за свае 38 год гэты чалавек! З напісанага і выдадзенага аб ім сучаснікамі і паслядоўнікамі можна вылучыць пяць галоўных накірункаў ягонай працы: Беларуская газета, Беларуская палітыка, Беларускі музей, Беларуская школа, Беларуская навука.*

*У дваццаць пяць І.Луцкевіч – сярод заснавальнікаў “Нашай Долі”. Потым была “Наша Ніва”. Яго “жалезная воля і дух”, па словах рэдактара “Нашай Нівы” Аляксандра Уласава, натхнялі і надавалі энэргіі ў складаных умовах барацьбы.*

*“Што да палітыкі, - выказаўся неяк сам Іван – то я ёй служу ад малых гадоў, каб узгадаваць беларускі народ да самастойнага жыцця.” З гэтымі думкамі ён – сярод заснавальнікаў, лідараў і ідэолагаў БСГ, Беларускага Нацыянальнага камітэту ў Вільні, Беларускай Народнай Рэспубліке ў Мінску 1918-га. Адначасова паспявае прымаць удзел у міжнародных канферэнцыях. Так, разам з В. Ластоўскім у 1916 г. ён заяўляе на ўвесь свет аб сваёй Беларусі.*

*Пры такой палітычнай актыўнасці І. Луцкевіч заставаўся руплівым збіральнікам і быў знаўцам беларускай старажытнасці. З яго калекцыі ў 1919 г. – у апошні год яго жыцця – пачаў дзейнічаць у Вільні першы Беларускі музей. Роля гэтага музея – больш, чым толькі справа музеязнаўства. “Адкапалі пане археолагу, сваёй шчырай працай, адкапалі праўду Беларусі, адратавалі ад*

*руйнуючага часу, ад шкоды няверы, здеку, " – так ацэніваў значэнне музейных збораў Івана Луцкевіча яго вучань, драматург і публіцыст Леапольд Радзевіч.*

*З часоў першай сусветнай вайны ў жыцці І.Луцкевіча з'явілася школьная справа. Вільня, Гродна, Беласток сталі абшарам, дзе адным з арганізатараў беларускіх школ быў ён. Аб пачатку Віленскай гімназіі ў 1919 г. успамінае яго сабар Ю. Дубейкоўская: "Агульнымі сіламі гімназія была адчынена 1 лютага...Іван, які прыехаў на дрожках, меў сваю першую лекцыю-прамову, ёю захапіў усіх – і настаўнікаў і вучняў. Я сядзела , слухала і думала: "Божа мой, ён гэтакі хворы, захаваў столькі жару душы сваёй, так умее пераліць свой запал і любоў да Беларусі ў сэрцы сваіх слухачоў..."*

*Нарэшце – навука. Не проста збіраў, але даследаваў, спрабаваў спасцігаць глыбіню знойдзенага. Менавіта так помнік старажытнака пісьменства XVI-XVIII стагоддзяў арабскай літаратуры Аль-Кітаб быў упершыню апісаны І. Луцкевічам. Арыгінальныя яго даследаванні аб беларускім мастацтве, беларускай літаратуры, каранях "беларускага адраджэння". А яшчэ было заснаванне Беларускага навуковага таварыства ў Вільні ў студзені 1918 г. Шырыня яго спраў не можа не захапляць. Адначасова маштаб яго дзейнасці сведчыць аб вельмі важнай рысе яго і ягоных паплечнікаў. Гэта рыса ў тым, што тыя мэты і мары, якія яны спрабавалі рэалізаваць скрозь усе перашкоды , з'явіліся натуральна, з глыбокіх ведаў свайго краю, свайго народа, яго сілы і магчымасцей. Цвёрдая і непахісная ўпэненасць ў гэтым надавала ім сілы"* **(Паводле артыкула А. Каўкі "Іван Луцкевіч – адраджэнец").**

# Раздзел V. Утварэнне ССРБ і ЛітБел ССР.

**Цытата тэмы:**

***Якуб Колас "Беларускаму люду":***

*"Хіба забудзем мы тыя межы,*
*што правадзілі бяз нас?*
*Раны глыбокі, ох яшчэ свежы,*
*Помсты агонь не пагас.*
*Нас падзялілі! – Хто? Чужаніцы!*
*Цёмных дарог махляры,*
*К чорту іх межы, к д'яблу граніцы!*
*Нашы тут гоні, бары!…"*

**1.Перадумовы абвяшчэнне ССРБ.** З 13 лістапада 1918 г., пасля анулявання ўмоў Брэсцкага мірнага дагавора, перайшла ў наступленне Чырвоная Армія. Напрыканцы лістапада немцы эвакуіравалі свае войскі з Беларусі. Пакінутую імі тэрыторыю заняла Чырвоная Армія. Рада БНР і ўрад на чале з Антонам Луцкевічам пераехалі ў Вільню, а 10 снежня бальшавікі ўвайшлі ў Мінск. Да сярэдзіны лютага 1919 г. амаль уся Беларусь апынулася пад савецкай уладай бальшавікоў.

Пасля ўсталявання ўлады бальшавікі пачалі хуткую *нацыяналізацыю* зямельных маёнткаў. На тэрыторыі былых прыватных землеўладанняў ствараліся сельскагаспадарчыя камуны. Прадстаўнікі памешчыцкіх саслоўяў, якія раней віталі БНР, з прыходам савецкай улады пераязджалі ў Польшчу. Чарговая, ужо савецкая мабілізацыя ў армію, выклікала бежанства маладых людзей у лясы. Па некаторых паветах пракацілася хваля мецяжоў. Паўстанцы нападалі на ваенныя камісарыяты, спрабавалі ўводзіць свае парадкі.

**<u>Імгненнне гісторыі:</u>**

11 лістапада 1918 г. у Веліжы выбухнуў антыбальшавіцкі мяцеж. Ён доўжыўся да 17 лістапада. Яго ўдзельнікамі былі сяляне, інтэлігенцыя, мяшчане. Прычына мецяжу была ў незадаволенасці эканамічнай палітыкай новай Савецкай улады, падставай стала чарговая мабілізацыя ў Чырвоную Армію. Веліжскі мяцеж ахапіў тысячы чалавек і быў патоплены ў крыві. Сярод яго ўдзельнікаў быў будучы беларускі пісьменнік і краязнаўца Юрка Віцьбіч. Ён і пакінуў свае падрабязныя ўспаміны аб падзеях мецяжу.

***<u>ВАРТА ПРАЧЫТАЦЬ: ВІЦЬБІЧ Ю. ВЕЛІЖСКАЕ ПАЎСТАННЕ 1918 г.//СПАДЧЫНА. – 1997 -№2. –С. 73-99.</u>***

У такой неспрыяльнай палітычнай сітуацыі Беларусь чарговы раз паспрабавала рэалізаваць сваё права на самавызначэнне і зрабіцца дзяржаваю.

Пашырыўшы сваю прысутнасць на ўсю Беларусь, савецкая ўлада стала перад пытаннем аб тым, як адносіцца да гэтых земель. На прыняцці рашэння па гэтаму пытанню адбіўся шэраг фактараў унутранай і знешняй палітыкі. З вясны 1918 г. Расія знаходзілася ў стане грамадзянскай вайны і, адначасова, ваявала з замежнымі інтэрвентамі. Міжнароднае становішча сведчыла аб адстутнасці рэальнай магчымасці для пачатку сацыялістычнай рэвалюцыі ў Польшчы. Таму спадзяванні на працяг сусветнай рэвалюцыі не выглядалі рэальнымі. З другога боку, для палітычнага аўтарытэту бальшавікоў у Еўропе трэба было прадэманстраваць рэалізацыю дэклараванага права народаў на самавызначэнне. Тым больш, што вынікі дзейнасці лідараў БНР у галіне беларускай культуры прымушалі лічыцца з імі новую ўладу. Таму савецкі ўрад і ЦК РКП (б) павярнуліся да арганізацыі сацыялістычнай рэспублікі ў Беларусі.

У мэтах кіраўнікоў Расіі галоўным было абараніць уладу любымі сродкамі. Стварэнне савецкай Беларускай рэспублікі разглядалася тактычным манеўрам ва ўмацаванні гэтай улады.

У падрыхтоўцы абвяшчэння Беларускай савецкай рэспублікі актыўна ўдзельнічаў аддзел Народнага камісарыяту па справах нацыянальнасцей РСФСР – **Беларускі нацыянальны камісарыят (Белнацкам)**.

**<u>Заўважым</u>**

Белнацкам дзейнічаў з лютага 1918 г. па сакавік 1919 г. Знаходзіўся ў Маскве. Меў аддзелы ў Петраградзе, Смаленску, Віцебску, Саратаве. Галоўны друкаваны орган – газета "Дзянніца" – першая савецкая газета на беларускай мове. Супрацоўнікі Белнацкаму вялі работу па арганізацыі і асвеце беларусаў у Савецкай Расіі. Яны праводзілі ўлік бежанцаў, адкрывалі беларускія школы, клубы, заснавалі ў Маскве Беларускі народны універсітэт.

У яго склад уваходзілі такія бальшавікі-беларусы, як **Аляксандр Чарвякоў, Зміцер Жылуновіч, Фабіян Шантыр, Язэп Дыла**. Яны лічылі магчымым спалучыць камуністычную ідэю з ідэяй беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці. З гэтых пазіцый Белнацкам вёў жорсткую палеміку з кіраўнікамі Аблвыкамзаху Аляксандрам Мясніковым і Вільгельмам Кнорыным. Як вядома, Аблвыкамзах не бачыў патрэбы для стварэння незалежнай Беларусі. У верасні 1918 г. Белнацкам выступіў з прапановай пераназваць Заходнюю вобласць у Беларуска-Літоўскую.

**2. Беларуская дзяржава на савецкай аснове. 30 снежня 1918 г.** у Смаленску VI Паўночна-Заходняя канферэнцыя РКП (б) пераўтварылася ў I з'езд Кампартыі(бальшавікоў) Беларусі. У той жа дзень на гэтым з'ездзе была прынята *рэзалюцыя* аб стварэнні **Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь (ССРБ або БССР)**. **1 студзеня 1919 г.** Часовы рабоча-сялянскі ўрад на чале са Зміцерам Жылуновічам

абнародаваў Маніфест аб абвяшчэнні БССР. Маніфест заклікаў народ Беларусі на барацьбу з "прадажнай буржуазіяй" і прызнаваў несапраўднымі ўсе законы і пастановы ўлад БНР. У сувязі з абвяшчэннем БССР Аблвыкамзах закончыў сваю дзейнасць.

8 студзеня г. Мінск стаў сталіцай савецкай Беларусі. У Часовы савецкі ўрад Беларусі ўвайшлі 8 чалавек ад Белнацкаму і Беларускай секцыі РКП (б). Гэта было амаль паловаю ўрада. **2-3 лютага 1919 г.** *Усебеларускі з'езд Саветаў* адобрыў утварэнне БССР, зацвердзіў Канстытуцыю, а таксама прыняў пастанову аб аб'яднанні Беларусі з Літвой.

Склалася так, што ў хуткім часе пасля свайго абвяшчэння БССР пазбавілася значнай часткі сваёй тэрыторыі. 16 лютага 1919 г. ЦК РКП (б) прыняў рашэнне аб аддзяленні ад БССР Віцебскай, Смаленскай і Магілёўскай губерняў. Гэтыя тэрыторыі былі далучаны да РСФСР. Аргументам для такога ўчынку стала рашэнне Уладзіміра Леніна. Ён адзначыў, што рэспубліка патрэбна пастолькі, паколькі мяжуе з іншымі краінамі. А так як пазначаныя губерніі не маюць такой мяжы, іх можна выключыць са складу БССР. Такім чынам падзеі стварэння БССР прадэманстравалі, што расійскія бальшавікі менш за ўсё ўлічвалі нацыянальныя інтарэсы беларускага народа. Вызначальным у нацыянальнай палітыцы ўрада Савецкай Расіі быў прынцып пралетарскага інтэрнацыяналізму, які вельмі спрошчана ўжываўся шэраговымі мясцовымі кіраўнікамі камуністычнай партыі і савецкай улады.

Хоць БССР фармальна з'яўлялася суб'ектам міжнароднага права, сапраўды суверэннаю яе лічыць немагчыма.

**3.Утварэнне ЛітБелССР.** Агрэсія Польшчы з лютага па ліпень 1919 г. праходзіла ў дачыненні да **Літоўска-Беларускай Савецкай Сацыялістычнай рэспублікі**. Падрыхтоўчая работа па стварэнню такой дзяржавы пачалася ўжо пад час абвяшчэння БССР у студзені 1919 г. Ініцыятыва належала кіраўніцтву Расіі і ЦК РКП(б). Пастанова аб аб'яднанні Беларусі з Літвой была прынята на **І-м Усебеларускім з'ездзе Саветаў**.

**Успомніце прычыны і абставіны абвяшчэння БССР. Параўнайце іх з тым, як і чаму абвяшчалася ЛітБел.**

І тады ж, у лютым, быў утвораны ўрад ЛітБел. На чале яго стаў **В. Міцкявічус-Капсукас**. Пазней быў створаны аб'яднаны ЦК КП(б) Літвы і Беларусі. Сталіцай была абвешчана Вільня.

З самога пачатку ідэя стварэння ЛітБел была накіравана на ўмацаванне савецкай улады ва ўмовах замежнай інтэрвенцыі. У кіраўніцтве ЛітБел не было ніводнага беларуса. ЛітБел была штучнай дзяржавай, створанай з часовых ваенна-палітычных меркаванняў. Фактычна яна выконвала ролю буфера, які загароджваў ворагам шлях на Савецкую Расію з Еўропы.

Да **сярэдзіны ліпеня 1919 г.** ¾ тэрыторыі ЛітБел былі ўжо акупаваны і кіраўніцтва ЛітБел спыніла сваю дзейнасць. ЦК КП(б) ЛітБел працаваў яшчэ да лета 1920 г.

***ВАРТА ПРАЧЫТАЦЬ: БРЫГАДЗІН П., ЛАДЫСЕЎ У, "ІМЕНЕМ БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ". Матэрыялы і дакументы 1918-1919 гг.// БЕЛАРУСКАЯ МІНУЎШЧЫНА. – 1997. - №". –С.26-31.***

# Пытанні і заданні:

**І. Прачытайце ўспаміны Юркі Віцьбіча, сведкі і ўдзельніка Веліжскага паўстання. На падставе матэрыялу параграфа 3 і тэксту дадзенага гістарычнага дакумента адкажыце на пытанні.**

**1. Якія буйныя ваенныя падзеі адбываліся ў лістападзе 1918 г. у Беларусі?**

**2. Дэманстранты ў Веліжы выступалі супраць "харчраскладкі", "здзеквання над верай". Растлумачце з дапамогаю фактаў палітыкі новай савецкай улады прычыны незадавальнення насельніцтва.**

**3. Насельніцтва Беларусі за апошнія пяць гадоў перажыла некалькі дзесяткаў мабілізацый у расійскую армію (1914-1917 гг.), Чырвоную армію (зіма 1918 г.), беларускія вайсковыя фарміраванні (1917-1918 гг.). Якія прычыны супраціўлення веліжскіх сялян і мяшчан чарговай мабілізацыі ў Чырвоную Армію?**

**4. Падумайце, прадстаўнікі якіх груп насельніцтва беларускага мястэчка маглі апынуцца сярод паўстанцаў? Абгрунтуйце свой адказ.**

**5. Як падзеі ў Веліжскім павеце характарызуюць становішча ў беларускім грамадстве ў гады грамадзянскай вайны?**

*"На пачатку лістапада 1918 г. у Вяліжы паназьбіралася некалькі сотняў мабілізаваных у Чырвоную Армію маладых сялянаў... Калі 10 лістапада...*

*павятовы ваенны камісар абвясьціў мабілізаваным, што заўтра яны накіроўваюцца на фронт ... , дык тыя разам з часткаю вяліжанаў пайшлі на Рынкавую плошчу. Тут, перад будынкам павятовага выканкаму, яны пачалі крычаць:*

*Нашых айцоў харчпадаткам душыце?! Нашыя маткі з голаду пухнуць! З нашае веры зьдекваецеся?! А мы мусім вас абараняць?! Няхай камісары паміраюць за Леніна з Троцкім, а мы хадзем дамоў!*

*У гэты самы час вяліжскія камуністы і камсамольцы...зьявіліся на вуліцах толькі тады, калі амаль усе мабілізаваныя пакінулі горад, і пачалі саджаць у турму тых, хто засталіся, а таксама градчанінаў, якія прыймалі ўдзел у дэманстрацыі ды падпалілі дом-камуну...У горадзе і ...у павеце бальшавікі абвясцілі ваенны стан.*

*15 лістапада 1918 г. Віцебская ГубЧК атрымала ад вяліжскае ЧК тэлеграму: "У Вяліжскім павеце ўзбунтавалася разагітаванае папамі кулаччо....Усе мы змагаемся зь мяцежнікамі, але сьпяшайцеся на дапамогу".*

*Па вялікіх і малых дарогах Вяліжскага павету, па ягоных шляхох і сьцежках рушыліся тысячы сялянаў. Выбухнуўшы адначасна ў некалькіх мясцоў, паўстанне ахапіла ўвесь павет.*

*...Нянавісьць паўстанцаў да бальшавікоў была нагэтулькі вялікая, што ў баі пад Вяліжам, у Сямічоўскім Бары, яны с косамі й віламі кідаліся на кулямёты...З аднаго боку , былі не атрады , а натоўп паўстанцаў, з другога – больш-менш дысцыплінаваныя роты ЧК. Ад усходу да заходу сонца цягнуўся бой ў Сямічоўскім Бары. Пад пакровам ночы паўстанцы падабралі сваіх раненых і пачалі адыходзіць. Пры адступленні частка іх трапіла ў бальшавіцкі палон..."*

**(з нарыса Віцьбіча Ю. Вяліжскае паўстанне.//Спадчына. – 1997. -№2. –73-98.)**

**II. Прачытайце заўвагу Алеся Бурбіса аб абставінах абвяшчэння ССРБ у 1919 г. і з дапамогаю матэрыяла па сусветнай і айчыннай гісторыі адкажыце на пытанні.**

1. **Чаму лёс пытанне стварэння ССРБ вырашаўся ў Маскве?**
2. **Якім чынам міжнародная сітуацыя паўплывала на прыняцце рашэня аб утварэнні ССРБ?**
3. **Якія прычыны абвяшчэння БССР? А што можна лічыць падставаю, штуршком для гэтага абвяшчэння?**
4. **Параўнайце палітычную і ваенную сітуацыю напярэдадні абвяшчэння БНР і БССР? Што істотна змянілася, а што не? Як гэта паўплывала, на ваш погляд на падзеі абвяшчэння беларускай дзяржаўнасці?**
5. **Якую ролю ў абвяшчэнні БССР адыграў Белнацкам?**

*"В середине ноября 1918 г. разрешается в положительном смысле вопрос об организации при комитетах РКП белорусских секций и в декабре собирается в Москве конференция этих белорусских секций. На этой конференции был выдвинут вопрос создания Белорусской Советской Социалистической Республики. Центром было решено образовать такую республику, так как этого требовала международная ситуация..."*

**(Бурбіс А. Дакумент №1. Е. После Октябрьского переворота (Репрессии против белорусского коммунистического и советского движений) / "Перадусім – адданасць Беларусі"// Беларускі гістарычны часопіс. – 1994. -№1. –76-77.)**

**III. Адзін з прэзідэнтаў БНР у эміграцыі Петра Крычэўскі адзначыў у 20-я гг., што на ўтварэнне БССР паўплываў факт абвяшчэння БНР. Паспрабуйце паразважаць над такой ацэнкай.**

**IV. Складзіце паведамленне на тэму: «Утварэнне БССР – чарговая спроба стварэння беларускай дзяржаўнасці».**

**V. Прачытай урывак з маніфесту Часовага рабоча-сялянскага Савецкага ўрада Беларусі. Параўнай яго змест са зместам Другой Устаноўчай граматы БНР. Якія высновы вы зробіце? Як характарызуе Савецкую ўладу змест Маніфеста?**

**“Гарацешная пакутная Беларусь, Беларусь рабочых і бедных селян, спярша доўгія вякі свайго жыцця служыўшая сродкам для абагачэння польскага вяльможнага панства-памешчыкаў, зломысных грашаўнікоў-купцоў і ўсялякіх багацеяў-крывасмокаў, а потым захопленая пад уціск расейскага крывавага самадзяржаўя з яго генераламі і самаўладнымі чыноўнікамі, адурваная ды абманваная з касцёльных амбонаў ксяндзамі і з царкоўных аўтароў папамі, скутая з ног да галавы ланцугамі няволі, цярпеўшая здзек і глум і переажыўшая цяшкае ярмо нямецкага прыгону, цяпер вызваляецца ад доўгай векавой пакуты адважным наступам чырвонае арміі і прычашчаецца да новага вольнага жыцця, якое будуецца на закладзінах камунізму…**

**1. З гэтага моманту ўся ўласнасць на Беларусі прыналежыць только саветам работнічых, сялянскіх, батрацкіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў.**

**2. Прадаўчая буржуазная Беларуская Рада з яе так празванымі “народнымі міністрамі” абвяшчаецца безабароннай законамі.**

**3. Усе законы , пастановы, распарадкі і загады Рады і яе слуг , а таксама нямецкіх, польскіх, украінскіх акупацыйных улад лічацца несапраўднымі…**

**4. Ад сяго моманту ўсталёўваецца на Беларусі рэвалюцыйны парадак; усе супроціў рэвалюцыйныя выступы і патугі рабіць пагромы, грабежства і гвалтаванні будуць няшчадна руйнавацца.**

**5. Рабочыя, сяляне і працоўныя ўсіх нацыянальнасцей, якія жывуць на абшары Беларусі , карыстаюцца роўнымі правамі і знаходзяцца пад абаронаю рэвалюцыйных законаў.**

**6. Уся зямля памешчыкаў і наогул, буйных землеўласнікаў, манастыроў, цэркваў і касцёлаў, з усім жывым і мёртвым багаццем (інвентаром), а таксама лясы, воды і нетры зямлі становяцца дастаткам працоўнага народу Беларусі.**

**7. Усе чыгункі і ўсе пуці злуку (сообщенія), пошты, тэлеграфы ды тэлефон,. фабрыкі, заводы і банкі абвяшчаюцца дастаткам рабочых і беднага селянства Беларусі.**

**8. Уводзіцца васьмігадзінны дзень працы, без звышурочных гадзін… і уваходзяць у моц усе дэкрэты РСФСР па забяспечэнню рабочага стану.**

**Чырвонай арміі, рабочым і сялянскай беднаце Беларусі даручае Часовы Урад Савецкай Беларускай Незалежнай Рэспублікі ахову ўсіх гэтых вялікіх заваёў сацыяльнай рэвалюцыі…**

**Няхай жыве Вольная працоўная Беларусь!**

**Няхай жыве Савецкая Расея!**

**Няхай жыве сусветная працаўнічая Рэвалюцыя!...”** *(*Мова маніфесту набліжана да сучаснай беларускай мовы з мэтай больш глыбокага разумення яго зместу)

VI. **Заданне “постаць у гісторыі”. Прачытайце біяграфічны экскурс “Зміцер Жылуновіч (Цішка Гартны) (1887-1937 гг.).**

**Паразважайце, на конт прычын і вытокаў спалучэння ў гэтага выбітнага беларускага палітыка ідэй беларускага адраджэння і будаўніцтва сацыялістычнага грамадства.**

*“Дзмітры Фёдаравіч Жылуновіч. Ён жа капыльскі гарбар, піцерскі рабочы, сацыял-дэмакрат, карэспандэнт бальшавіцкай газеты “Праўда” і рэдактар “Дзянніцы”. Адзін з лідараў Беларускай Сацыялістычнай грамады ў 1917 г. І камуніст з 1918-га. Акадэмік Акадэміі навук Беларусі. Яго рукой напісаны Маніфест аб утварэнні БССР.Ён жа Цішка Гартны – паэт, празаік, публіцыст, аўтар першага беларускага рамана.*

*Незвычайны лёс быў у гэтага незвычайнага чалавека. Будучы пісьменнік у дзяцінстве шмат чытаў. Неўзабаве сам пачаў пісаць вершы. “Здавалася мне, што знаў яе (расійскую мову) я добра, бо разумеў усё чытанне, гутарыў, хоць з акцэнтам, усё ж нядрэнна, а пішучы – даводзілася шукаць слоў... Адкладваючы расійскую кніжку ці газету, я пераходзіў на беларускую мову. Мая гутарка ў хаце, у сям’і, гутарка з хлопцамі і дзяўчатамі, з мужыкамі на прызбах і на рынку была выключна беларускай”, - напіша ва ўспамінах З. Жылуновіч.*

*З першага заробку выпісаў “Нашу Ніву”. Для З. Жылуновіча і яго сяброў па рабоце надзвыча прыемна было бачыць беларускае слова надрукаваным. Рана ўключыўся ў рэвалюцыйную справу. Хутка стаў адным з першых з сцяганосцаў беларускага нацыянальнага руху. На ўсіх пасадах, якія ён займаў і пасля старшынства на чале беларускага савецкага ўрада (кіраўніцтва газетай “Савецкая Беларусь”, часопісам “Полымя”, Дзяржаўным выдавецтвам БССР, Цэнтральным архівам БССР) З. Жылуновіч – апантаны змагар за беларушчыну. Гэта і паставілі яму ў віну сталінскія каты. У 1936 г, у год арышту, ён на магіле маці ў родным Копылі скажа: “Добра , што ты пры жыцці не пачула нічога кепскага пра свайго сына, як мае дзеці чуюць пра бацьку...” З. Жылуновіч скончыў жыццё самагубствам, безпадстаўна абвінавачаны ў сувязі з “чужымі і варожымі пралетарыяту нацдэмамі і фашысцкімі элементамі”.* **(Паводле нарыса В. Шырко “Наш Дзмітры Фёдаравіч”).**

**<u>ВАРТА ПРАЧЫТАЦЬ: ЯЛУГИН Э. БЕЗ ЭПИТАФИИ. Дакументальная повесть.- Мн., 1989.</u>** ***<u>(Аб Зм. Жылуновічы)</u>***

**VII. Прачытайце ўрывак з успамінаў Алеся Бурбіса пра ЛітБел ССР і адкажыце на пытанні.**

**1. Калі і ў якіх умовах была абвяшчана ЛітБелССР?**

**2. Якія былі межы гэтага дзяржаўнага ўтварэння?**

**3. А. Бурбіс у сваёй характарыстыцы ЛітБел ССР акцэнтуе ўвагу на крайняй абмежаванасці ўсяго беларускага ў ёй. З дапамогаю ведаў аб прычынах і ініцыятарах стварэння ЛітБел ССР растлумачце такі стан “беларускага пытання”.**

*“Во вновь образованное Литовско-Белорусское Правительство не было введено ни одного белоруса. Для характеристики взаимоотношений*

*работников Облискомзапа и белоруссов -коммунистов следует отметить стремление не допускать к работе белорусских коммунистов, мобилизованных для работы в Белоруссии. Всё белорусское, даже язык, считается контррволюционным. В Минске не издаётся ни одна белорусская книга, газета, брошюра. ..В период Литовско-Белорусской Республики все учреждения партийные и другие сливаются. В ЦК КП Литвы нет ни одного белоруса. Литература издаётся на литовском, польском, русском, но только не на белорусском языке. Только после эвакуации учреждений Литвы и Белоруссии в Смоленск под влиянием из оккупированной поляками части Белоруссии известий, начинает выходить белорусская газета «Савецкая Беларусь», редактором которой назначается тов. Кнорин. Вносятся ограничения в это издание – не более двух раз в месяц, как можно меньше количество экземпляров…* **(Бурбіс А. Дакумент №1. Е. После Октябрьского переворота (Репрессии против белорусского коммунистического и советского движений) / "Перадусім – адданасць Беларусі"// Беларускі гістарычны часопіс. – 1994. -№1. –77.)**

# Раздзел VI. Беларусь ва ўмовах польска-савецкай вайны.

**1.Польская акупацыя.** Наступленне польскіх войскаў пачалося ў канцы **лютага 1919 г**. Вельмі хутка імі былі акупаваны Брэст, Ваўкавыск, Шчучын, Пінск і адпаведныя паветы. 21 красавіка пасля трох дзён абароны была здадзена Вільня. 8 жніўня праціўнік увайшоў у Мінск, і ў верасні фронт прыпыніўся на лініі Любань – Барысаў – Полацк – Дзвінск (Даўгаўпілс). Большасць Беларусі апынулася пад новай, польскай, акупацыяй.

Незадавальненне часткі насельніцтва палітыкай савецкай улады было на карысць польскім захопнікам. Гэтыя настроі сфарміраваліся ў выніку правядзення харчразвёрсткі і іншых мерапрыемстваў палітыкі **"ваеннага камунізму"**.

**Заўважым**

"Ваенны камунізм" – назва эканамічнай палітыкі савецкай улады ў 1918-1921 гг. Палітыка ўключала сістэму надзвычайных, выкліканых грамадзянскай вайной і ваеннай інтэрвенцыяй мер, якая павінна была ўсталяваць дыктатуру пралетарыяту ў краіне, дзе пераважала сялянскае насельніцтва. Сярод галоўных складаючых гэтай палітыкі былі забарона свабоднага гандлю, харчразвёрстка, размеркаванне прадметаў масавага спажывання па картачнай сістэме замест іх продажу, працоўная павіннасць, выключна камандны стыль кіраўніцтва эканомікай.

У выніку гэтага ў лютым-сакавіку прайшоў шэраг антысавецкіх выступленняў на Гомельшчыне (глядзі §3, пункт "Антысавецкія выступленні").

Ужо ў час наступлення **Юзаф Пілсудскі**, Галоўнакамандуючы польскімі войскамі, звярнуўся з адозваю да насельніцтва Беларусі.

**Юзаф Пілсудскі.** Нарадзіўся ў маёнтку Зулава Свянцянскага павету Віленскай губерні. Скончыў Віленскую гімназію. Па справе "Народнай волі" быў сасланы на 5 гадоў у Сібір. Актывіст ППС. У 1918-1922г. на чале Польскай дзяржавы. У час свайго кіравання Ю. Пілсудскі падтрымліваў кантакты з Б. Савінкавым, С. Булак-Балаховічам, дапамагаў ім у арганізацыі войска. У 1920 г. кіраваў абаронаю Варшавы ў падчас наступлення Чырвонай Арміі. Прыймаў актыўны ўдзел у заключэнні Рыжскай дамовы. Дзейнічаў аўтарытарнымі метадамі, нішчыў палітычную апазіцыю, не перашкаджаў правядзенню палітыкі паланізацыю беларускага насельніцтва.

Адозва мела невыпадковую назву – "Да насельніцтва былога Вялікага княства Літоўскага".

**Падумайце, на каго была разлічана адозва з такою назваю? У чым невыпадковасць гэтай назвы?**

У ёй ён запэўніваў ў магчымасці вырашаць усе нацыянальныя і рэлігійныя пытанні без гвалту з боку Польшчы. Беларусам абяцалась вольнасць і свабода. Хоць афіцыйнай мовай абвяшчалася польская, але ўсе распараджэнні ўлад планавалася перакладаць на беларускую. Такія ўчынкі польскага кіраўніцтва нарадзілі спадзяванне, што незалежнасць можа быць падорана Беларусі Польшчай. Гэта настроіла частку беларускіх палітыкаў на супрацоўніцтва з польскім урадам. Найбольшую актыўнасць праяўляў тагачасны кіраўнік ураду БНР **Антон Луцкевіч**. У Парыжы, у ліпені 1919 г., ён узгадняў з польскімі палітыкамі праект федэратыўнага пагаднення БНР і Польшчы.

Аднак польскія ўлады пачалі праводзіць жорсткую, захопніцкую палітыку. Яна ніяк не адпавядала абяцанням Пілсудскага. На ўсе пасады ва ўсіх установах былі прызначаны мясцовыя польскія памешчыкі. Павятовымі старастамі і войтамі ў гмінах былі толькі палякі і католікі. Часта гэта былі людзі, якіх ненавідзела мясцовае беларускае насельніцтва. Жыхары вёсак падвяргаліся гвалту і рэквізіцыям з боку жандармерыі і паліцыі. Праводзіліся рабункі маёмасці, тэрор і расстрэлы падазроных ў камуністычнай дзейнасці. Пачалася палітыка паланізацыі. Гвалтоўна ішло ператварэнне праваслаўных храмаў у касцёлы. Беларускія газеты забараняліся. У Мінску былі забаронены пастаноўкі беларускіх п'ес, зачыняліся беларускія школы.

Сутнасць палітыкі Польшчы ў адносінах да Беларусі – у абароне польскіх інтарэсаў і далучэнні да Польшчы беларускіх зямель, куды побач з беларускімі ўваходзілі ўкраінскія і літоўскія тэрыторыі. Агрэсіўны характар гэтай палітыкі быў відавочны.

**2.Антыпольская барацьба.** Палітыка польскіх акупантаў выклікала супраціўленне з боку мясцовага насельніцтва. Каардынатарамі гэтага супраціўлення выступалі бальшавікі, беларускія эсэры і члены **Беларускай камуністычнай арганізацыі (БКА)**, што з'явілася ў 1920 г.

**Арганізацыя:**

Беларуская Камуністычная Арганізацыя – беларуская арганізацыя камуністычнага накірунку. Дзейнічала са студзеня да жніўня 1920 г. Аб'ядноўвала навучэнцаў і сельскую інтэлігенцыю. Яе лідары с пачатку знаходзіліся на пазіцыях БСГ. БКА спрабавала забяспечыць новай савецкай уладзе падтрымку беларускага насельніцтва.

Стасункі паміж гэтымі палітычнымі арганізацыямі былі складаныя. Гэта было звязана з канчатковымі мэтамі іх дзейнасці. Аб стаўленні бальшавікоў да Беларусі ўжо адзначалася. Беларускія эсэры стаялі на пазіцыях незалежнасці Беласрусі і лічылі рэвалюцыю на беларускіх землях не пралетарскай, а аграрна-сялянскай. Таму мелі разыходжанні з бальшавікамі па нацыянальнаму і аграрнаму пытаннях. БКА падтрымлівала мэты бальшавікоў на рэвалюцыйную барацьбу з сусветным імперыялізмам, але, разам з тым, яе лідары гісторык **Усевалад Ігнатоўскі**, падагогі **Язэп Каранеўскі, Сцяпан Булат** і іншыя кіраваліся ў сваёй дзейнасці і нацыянальнымі ідэямі.

Небяспека канчатковай страты незалежнасці Беларусі падштурхнула БПС-Р да кантакту з ЦК КП(б) ЛітБел. На нарадзе іх кіраўніцтваў у снежні 1919 г., было выпрацавана пагадненне аб сумеснай барацьбе. Сувязным звяном у гэтым супрацоўніцтве стала БКА.

У выніку сумесных дзеянняў пад кіраўніцтвам розных палітычных арганізацый супраць польскіх акупантаў супраціўленне набыло рысы шырокага антыпольскага руху. Партызанскія атрады налічвалі ад 200 да 1000 чалавек. Толькі пад кіраўніцтвам БКА дзейнічала больш 200 атрадаў. Да лета 1920 г. па ўсёй акупаванай Беларусі праводзіліся падрывы складоў, эшалонаў, напады на гарнізоны. Барацьба высунула ў шэраг лідараў партызанскага руху таленавітых і мужных барацьбітоў. Сярод іх стваральнік трохсоценнага атрада 75–гадовы селянін **Васіль Талаш**, кіраўнік партызан вёскі Дукора Пухавіцкага павету 24-гадовы матрос **Андрэй Блажко**.

**Сведка падзей:**

"А ў гэты час, - ўспамінаў Васіль Іосіфавіч Талаш, - азвярэлыя палякі гойсалі па суседніх вёсках, рабавалії сялян, збівалі ўсіх, хто выклікаў да сябе падазронасць." У Навасёлках, роднай вёсцы В. Талаша, таксама былі ворагі. Баі за вёску сталі першым баявым дзеяннем яго партызанскага атрада. В. Талаш успамінаў: "Палякі былі выгнаны з нашай вёскі. Арганізацыя партызанскага атрада цяпер разгарнулася шырока. Я… ездзіў па вёсках, агітаваў за ўступленне ў партызанскі атрад. Мне дапамагаў камандзір (мясцовай часці чырвонаармейцаў). Напачатку ў нашым атрадзе …толькі 12 чалавек. У кароткі час у ім было ўжо 80 чалавек, і, нарэшце ён разросся да 300 чалавек. У партызанскі атрад ішлі беднякі, траплялі ў яго чырвонаармейцы, якія гублялі свае часці. Трэба было выбраць начальства партызанскага атрада…Калі запыталіся ў партызан, то ўсе як адзін закрычалі: "Дзед Талаш павінен быць камандзірам…" Вясной 1920 г. атрад В. Талаша ўступіў у Чырвоную Армію"(З "Расказа палескага селяніна" з кнігі М.Жыгоцкага "Легендарны Дзед")

Барацьба падымала людзей розных узростаў і розных заняткаў.

Вырашальным дзеяннем у вызваленні Беларусі ад польскіх акупантаў стала контрнаступленне Чырвонай Арміі. Пачалося яно **14 мая 1920 г.** сіламі Заходняга фронту. Назва фронту – Заходні – нагадвала аб накірунку барацьбы Савецкай Расіі са сваімі ворагамі. Буржуазная Польша была адным з такіх ворагаў. У выніку наступлення 11 ліпеня бальшавікі ўступілі ў Мінск. Да **жніўня 1920 г.** Беларусь была вызвалена ад польскіх войскаў.

Аднак канчатковы вынік польска-савецкай вайны для Беларусі быў звязаны з наступнымі падзеямі. Камуністы Савецкай Расіі спадзяваліся на тое, што ў Польшчы таксама пачнецца рэвалюцыя. Але ж праведзенае з гэтай надзяй наступленне Чырвонай Арміі пацярпела катастрофу. Патрыятычныя пачуцці ў палякаў аказаліся мацней за класавыя, і працоўныя Польшчы падтрымалі сваю армію і свой урад. У выніку контрнаступлення 16 жніўня 1920 г. польскай арміі Чырвоная Армія была адкінута назад, на ўсход.

**Імгненне гісторыі:**

З вызваленчай вайны савецкі ўрад ператвараў барацьбу з польскімі захопнікамі ў спробу разгортвання сусветнай сацыялістычнай рэвалюцыі. У час паходу на Польшчу войскі Чырвонай Арміі на чале з Міхаілам Тухачэўскім сустрэлі ўпартае супраціўленне праціўніка. Варшаўская аперацыя войскаў Заходняга фронту разгортвалася з 23 ліпеня па 25 жніўня 1920 г. За кошт рэзерву і новых фарміраванняў колькасць польскага войска ўзрасла да 110 тысяч чалавек. Часці Заходняга фронту "чырвоных" налічвалі каля 45 тысяч чалавек. На галоўным накірунку польскія сілы мелі шасціразовую перавагу. Да 25 жніўня войскі Заходняга фронту адышлі на лінію Свіслачі і на ўсход ад Брэста. У гісторыі польска-савецкай вайны гэта падзея атрымала хадзячую назву "цуда над Віслай".

Па прапанове кіраўніцтва Савецкай Расіі **12 кастрычніка** быў заключаны дагавор аб перамір'і, згодна з якім ваенныя дзеянні 18 кастрычніка былі прыпынены.

# Пытанні і заданні:

**І. Складзіце план і адпаведна яму паведамленне на тэму "Прадумовы і вынікі польска-савецкай вайны ў Беларусі".**

**II. На падставе матэрыялу гісторыі Беларусі XIX – пачатку XX стагоддзяў паспрабуйце знайсці тлумачэнне спадяванням пэўнай часткі беларускага грамадства на Польшчу. Ці мелі такія спадзяванні рэальныя падставы спраўдзіцца?**
**Чаму польскую акупацыю можна ацэньваць, як антыбальшавіцкую, так і антыбеларускую?**

**III. На стужцы часу вызначце палітычныя, эканамічныя і ваенныя падзеі перыяду гісторыі Беларусі з 1918 па 1921 гг.**

**IV. Заданне "Постаць у гісторыі". Прачытайце біяграфічны экскурс "Антон Луцкевіч (1884 – 1946)" На працягу найноўшай гісторыі, звярніце ўвагу на тое, дзе і як пакінуў свой след А. Луцкевіч. Паспрабуйце разам з настаўнікам паразважаць над этапамі жыцця гэтага чалавека.**

*"Антон Луцкевіч паходзіў з шляхецкай сям'і герба "Навіна". Меў за плячыма вучобу ў Мінскай гімназіі., на фізіка-матэматычным факультэце Пецярбургскага універсітэта, юрыдычным факультэце Дзерпскага (зараз Тартускага) універсітэта. "Усе юнацкія гады, яшчэ на школьнай лаўцы, я, пад уплывам майго старэйшага брата Івана, быў захоплены беларускай нацыянальнай ідэяй, - напіша А. Луцкевіч у 1939 г.,. у час судовага працэсу над ім у засценках НКУС. "Знаёмячыся з гісторыяй Беларусі і беларускага народа, які ў далёкім мінулым страціў сваю інтэлігенцыю і зараз уяўляў амаль выключна цёмную нацыянальна несвядомую, сялянскую масу, мы марылі аб інтэлігенцыі, якая павінна была замяніць інтэлігенцыю польскую, рускую ў краі."*

*Усё яго жыццё было прысвечана справе беларускай дзяржаўнасці. "Апосталам беларускага Адраджэння называлі А. Луцкевіча. Побач з братам Івана ён у шэрагу заснавальнікаў БСГ і яе газет. А. Луцкевіч выступае ідэолагам нацыянальна-вызваленчага руху. У час германскай акупацыі Беларусі ў 1918 г. узначальвае Беларускае таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. Тады ж ён разам са сваімі паплечнікамі выступае з ініцыятывай стварэння Канфедэрацыі Вялікага Княства Літоўскага, якая бачылася разам з Літвой крокам да незалежнасці беларускага краю.*

*А. Луцкевіч - ініцыятар абвяшчэння незалежнасці БНР. Пасля расколу БСГ – адзін са стваральнікаў беларускай партыі сацыял-дэмакратаў. Займаў пасады старшыні Народнага сакратарыяту Рады БНР, страшыні Рады Міністраў БНР. У пошуках шляхоў да незалежнасці Беларусі ускладаў у 1919 г. спадзяванні на кіраўніцтва Польскай рэспублікі, спрабаваў шукаць падтрымку ў савецкім ўрадзе У. Леніна.*

*У час знаходжання Заходняй Беларусі ў складзе Польшчы А. Луцкевіч – адзін з актыўных змагароў за правы беларусаў. Стаяў ля вытокаў Таварыства беларускай школы, выкладаў ў Віленскай беларускай гімназіі, распрацоўваў тактыку і структуру дзейнасці беларускіх дэпутатаў у польскім Сейме.*

*Праз увесь час А. Луцкевіч піша публіцыстычныя, навуковыя артыкулы, займаецца перакладамі.*

*Па афіцыйнай версіі А. Луцкевіч загінуў у сталінскіх лагерах у 1946 г."*

V. **Прачытайце ўрывак з кнігі Ю Туронка аб Вацлаве Іваноўскім, які датычыцца характарыстыкі палітыкі польскіх акупантаў у 1919-1920 гг. у Беларусі. Адкажыце на пытанні.**

**1. З дапамогаю ведаў аб памешчыцкай гаспадарцы ў пачатку XX ст. у Беларусі растлумачце, чаму "большасць памешчыкаў у Беларусі" патрабавалі інкарпарацыі Беларусі ў склад польскай дзяржавы?**

2. **Што ў дзейнасці польскага войска і адміністрацыі ў Беларусі дае падставу лічыць польскую акупацыю як антыбальшавіцкай, так і антыбеларускай?**

**3. Уласнай акупацыйнай палітыкай Польшча раскалола беларускіх палітыкаў на прыхільнікаў і праціўнікаў Польшчы. Гэтым польская акупацыя мае падабенства з апошняй ( 1915-1918 гг.) акупацыяй кайзараўскай Германіі. Успомніце падзею з тэлеграмай Вільгельму II. Што яшчэ збліжае, а што адрознівае гэтыя дзве агрэсіі ў дачыненні да Беларусі. Зрабіце адпаведныя параўнанні па ўласных крытэрыях.**

*" У ідэі польска-беларускага супрацоўніцтва былі ...па абодвух баках многія праціўнікі. Была яна новай з'явай і па гэтай прычыне мелазразумелай. Рашучая большасць памешчыкаў у Беларусі патрабавала не канфедэрацыі, але яе інкарпарацыі (поўнага безумоўнага ўключэння) у склад Польшчы, згаджалася з магчымасцю пайсці ў будучым на пэўныя культурныя ўступкі беларусам, аднак абуралася з прычыны трактавання іх як палітычнага канкурэнта. Гэтай ідэі супрацьстаўлялася таксама прапаганда беларускіх эсэраў (н-д: В. Ластоўскі, А. Цвікевіч), якія не раз выкарыстоўвалі... безадказныя паводзіны войска і польскай адміністрацыі і спасылаючыся на на лозунг незалежнасці краіны , абвінавачвалі абарону гэтага супрацоўніцтва ў здрадніцтве перад Польшчай..."*

**( з кнігі Ю. Туронка "Waclaw Iwanowskie I odrodzenie Bialorusi. – Warszawa,1992. –s.84.)**

# Раздзел VII. Другое абвяшчэнне БССР. Беларусь ў пачатку 20-х гг.

**1.Другое абвяшчэнне БССР.** Пасля таго, як Беларусь летам 1920 г., у чарговы раз, была занята Чырвонай Арміяй, да аднаўлення ЛітБел ужо не вярталіся. Віленшчына і частка Гродзеншчыны былі перададзены Літве згодна з мірным дагаворам Літвы і РСФСР ад **12 ліпеня 1920 г.** Улада ў Мінску знаходзілася ў руках губернскага ВРК на чале з Аляксандрам Чарвяковым, тым самым, што настойваў на стварэнні БССР ў 1918 г. Туды жа ўваходзілі Вільгельм Кнорын і Язэп Адамовіч. **31 ліпеня** ЦК(б) ЛітБел разам з іншымі савецкімі арганізацыямі абвясціў аб незалежнасці БССР. Сацыялістычная Беларусь была абвешчана ў другі раз. Фактычна Савецкая Беларусь пачала пасляваеннае жыццё ў межах шасці паветаў Мінскай губерніі.

**2.Антысавецкія выступленні.** Узброеныя выступленні сталі рэакцыяй насельніцтва на палітыку "ваеннага камунізма" савецкай улады ў час ЛітБелССР і БССР у 1919 –1920 гг. Але не толькі ў гэтым была іх прычына. Да таго значная частка беларускіх палітыкаў не згаджалася супрацоўнічаць з органамі савецкай улады на Беларусі. Беларускую тэрыторыю выбралі для нападаў на бальшавшкоў і небеларускія антысавецкія дзеячы. Такім быў, напрыклад, вядомы расійскі эсэр-тэрарыст **Барыс Савінкаў**.

У **сакавіку 1919 г.** пачалося паўстанне на Гомельшчыне. Прычыны яго ў незадаволеннасці афіцэраў некалькіх палкоў разгонам бальшавікамі Устаноўчага сходу, ліквідаваннем правоў уласнасці, дрэннымі ўмовамі забеспячэння войска. На чале паўстанцаў быў афіцэр **Міхаіл Стракапытаў.** Лозунг паўстання заклікаў да звяржэння ўрада Леніна-Троцкага і стварэння Рускай Народнай Рэспублікі з часовай перадачай улады "Палескаму паўстанцкаму камітэту". Не атрымаўшы падтрымкі насельніцтва, *Стракапытаўскі мяцеж* быў разбіты часцямі Чырвонай Арміі.

Ад імя ўрада БНР на польскім баку змагаўся атрад па камандаваннем генерала **Станіслава Булак-Балаховіча**.

***<u>ВАРТА ПРАЧЫТАЦЬ: БЫКАЎ В. НА ЧОРНЫХ ЛЯДАХ,</u>***
***<u>ЛІТВІН А. СТАНІСЛАЎ БУЛАК-БАЛАХОВІЧ. / у кнізе "СЫНЫ І ПАСЫНКІ БЕЛАРУСІ"/ Уклад. С.Барыс. – МН.:Полымя, 1996. –С.285-310.</u>***

Праводзілася вербоўка ў беларускае войска. Восенню 1920 г. армія Булак-Балаховіча налічвала амаль 15 тысяч чалавек. У **лістападзе 1920 г.** пад кіраўніцтвам Булак-Балаховіча быў праведзены паход па беларускаму Палессю. Гэты паход меў падтрымку Юзафа Пілсудскага і кіраўніцтва антысавецкага Рускага палітычнага камітэту ў Польшчы на чале з Савінкавым. Мэта кіраўнікоў паходу была стварыць незалежную Беларускую дзяржаву і саюзную з ёй Расійскую дэмакратычную рэспубліку. Атрады Булак-Балаховіча захапілі Мазыр. Там насуперак Савінкаву ён абвясціў сябе Галоўнакамандуючым і свой урад БНР. Эміграцыйнае кіраўніцтва БНР было аб'яўлена звергнутым. Ад імя свайго ўрада Булак-Балаховічам быў выдадзены Маніфест да беларускага народа. У ім апавяшчалася барацьба за незалежнасць Беларусі ў саюзе з Польшчай. Аднак на фоне нядаўняй акупацыйнай палітыкі Польшчы такія заклікі не мелі вялікай падтрымкі ў насельніцтва.

**Чаму абвешчаны Булак-Балаховічам саюз з Польшчай не выглядаў прываблівай перспектывай для большасці беларускага насельніцтва? Аргументуйце адказ фактамі палітыкі польскіх улад на Беларусі ў 1919-1920 гг.**

Пад ударамі часцей Заходняга фронту, з іх вялікай колькаснай перавагай, атрады Булак-Балаховіча былі амаль разбіты ў канцы лістапада. Рэшткі іх былі раззброены польскімі войскамі.

Другім прыкладам антысавецкай барацьбы стала паўстанне ў Слуцкім павеце ў лістападзе таго ж 1920 г. Галоўным ўдзельнікам яго сталі прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі і сяляне. **14-15 лістапада** адбыўся з'езд Случчыны. На ім прадстаўнікі БПС-Р, прыхільнікі Булак-Балаховіча, сялянскіх саветаў, грамадска-культурных арганізацый прызналі Случчыну часткай БНР і вырашылі змагацца за яе незалежнасць. Была абрана Беларуская Рада Случчыны на чале з **Уладзімірам Пракулевічам**. Справай фарміравання войска заняўся камісар Случчына **Павел Жаўрыд**. Слуцкая брыгада налічвала каля 4 тысяч салдат, але сілы супраць Чырвонай Арміі былі няроўныя. Да пачатку снежня слуцкія паўстанцы з баямі адышлі на тэрыторыю Польшчы. **Слуцкае паўстанне** не мела шанцаў, але па свойму дэманстравала настроі насельніцтва.

У лясах прыфрантавой паласы ў **пачатку 1920 г.** дзейнічалі атрады пад агульнай назваю **"Зялёны Дуб"**. На чале іх стаяў **атаман Дзяргач**. У кіраўніцтве "зялёнадубаўцаў" быў пісьменнік Антон Лявіцкі (Ядзвігін Ш.). "Зялёнадубаўцы" ўчынялі напады на асобныя ўчасткі савецкай тэрыторыі і заяўлялі аб сваёй барацьбе за незалежную Беларусь. У сваёй дзейнасці яны мелі падтрымку з польскага боку, а ў выпадку небяспекі маглі адыходзіць у Польшчу.

Чатыры дні ў **лістападзе 1920 г.** ў мястэчку Койданава і на нейтральнай паласе існавала так званая *"койданаўская самастойная рэспубліка"*. Яна з'явілася ў выніку антыбальшавіцкага паўстання на чале з **Паўлюком Калечыцам**. Паўстанцы таксама прынялі адозву да насельніцтва, у якой заклікалі змагацца за вольную Беларусь.

Антысавецкія хваляванні мелі розныя памеры і розны склад удзельнікаў. Заклікі і патрабаванні іх удзельнікаў дэманстравалі настроі разгубленага насельніцтва, яго стаўленне да першых крокаў улады бальшавікоў. А іх характар дзеянняў сведчыў аб адсутнасці адзінства ў дзеяннях і намерах прыхільнікаў нацыянальнай беларускай ідэі. Гэтым карысталіся польскія ўлады і выкарыстоўвалі патрыятычны пад'ём у

сваіх мэтах. Тыя ж удзельнікі паўстанняў, хто ўцалеў, у вялікай колькасці стануць ахвярамі сталінскіх рэпрэсій 30-х гг.

**3.Рыжскі мірны дагавор.** Падзеі польска-савецкай вайны закончыліся заключэннем Рыжскага мірнага дагавора **18 сакавіка 1921 г.** Яго падпісанне ажыццяўлялася ў выніку перамоў, што цягнуліся з перапынкамі з лістапада 1920 г. паміж Расіяй, Польшчай і Украінай. Беларуская дэлегацыя ні ад БССР, ні ад БНР не ўдзельнічала ў падрыхтоўцы і падпісанні дагавора. Усе пратэсты з боку кіраўніцтва БССР і Рады БНР не былі пачуты ні польскім, ні расійскім бакамі. Краіны былой Антанты былі на баку Польшчы. Удзел беларускай дэлегацыі быў супраць інтарэсаў як Польшчы, так і Савецкай Расіі. Як сцвярджаў наркам замежных спраў РСФСР Георгій Чычэрын, гэта магло разбурыць планы як Расіі, у складзе якой былі землі Віцебшчыны, Магілёўшчыны і Гомельшчыны, так і Польшчы, якая таксама не збіралася вяртаць беларускія тэрыторыі.

Ад імя БССР дагавор падпісала Савецкая Расія. Змест дагавора ўзаконьваў захоп Польшчай значнай часткі беларускіх зямель. Правы беларускай нацыі на самавызначэнне ў этнічных межах было парушана. Урад Расіі не змог абараніць абвешчаныя ім прынцыпы нацыянальнай палітыкі. Да Польшчы адыходзіла частка Беларусі, тэрыторыя якой складала 113 тысяч км$^2$ з насельніцтвам звыш 4,6 мільёнаў чалавек.

Гэта быў несправядлівы мір. Супраць яго выступілі прадстаўнікі нацыянальнай інтэлігенцыі БССР Янка Купала, Якуб Колас, Алесь Дудар, Уладзімір Дубоўка. Урад БНР прыняў зварот "Усяму культурнаму свету". У ім Рыжскі мірны дагавор быў ахарактарызаваны як ганебны ўчынак. У адозве беларускіх эсэраў "Да лепшых сыноў польскай нацыі" дэмакратычныя палітыкі Польшчы заклікаліся да выступлення супраць заключанага міру.

Нягледзячы на ўсю рэакцыю на яго, з Рыжскага мірнага дагавора пачаўся новы перыяд у гісторыі Беларусі, бо змест дагавора падзяліў яе на дзве часткі - БССР і Заходнюю Беларусь у складзе Польскай рэспублікі. Працягнецца гэты перыяд да 1939 г.

**4.Беларускія землі ў складзе Сярэдняй Літвы (1920-1922 гг.)** Землі Віленшчыны і Гродзеншчыны з ліпеня 1919 г. знаходзіліся ў складзе Літвы. У **кастрычніку 1920 г.** гэта тэрыторыя згодна з **Сувальскім дагаворам** паміж Польшчай і Літвой была падзелена паміж дзвюма дзяржавамі. Аднак неўзабаве польскія войскі на чале з генералам **Люцыянам Жалігоўскім** занялі Віленшчыну. Акупаваныя насуперак Сувальскаму дагавору землі атрымалі назву *Сярэдняй Літвы.* Яе тэрыторыю насяляла 530 тысяч чалавек, з іх 40% складалі беларусы. Мяжой Сярэдняй Літвы былі ахоплены Ашмянскі, Свянцянскі, Трокскі, Віленскі , Браслаўскі і Лідскі паветы. Сярэдняя Літва была *марыянетачнай дзяржавай.* Яна цалкам залежала ад фінансаў польскага ўрада, а гаспадарка яе была падпарадкавана гаспадарцы Польшчы.

У кіруючай Часовай упраўляючай камісіі знаходзіліся прыкметныя постаці беларускага нацыянальнага руху Вацлаў Іваноўскі і Браніслаў Тарашкевіч. Але, нягледзячы на гэта, беларускае асветніцтва на землях новай дзяржавы паступова замянялася польскім.

Згодна з вынікамі выбараў у Сейм Сярэдняй Літвы ў 1922 г. было прынята рашэнне аб'яднаць яе з Польшчай. Беларускае і літоўскае насельніцтва байкатавала такія выбары, але Віленскі край, як гаварылася ў пастанове Сейма, "станавіўся неад'емнай часткай Польшчы". Сярэдняя Літва была перайменавана ў Віленскую зямлю, а потым, у 1925 г., у Віленскае ваяводства. Гэта ваяводства ўключала 9 паветаў з этнічна беларускімі землямі.

# Пытанні і заданні:

## Пераканайцеся ў сваёй здольнасці выконваць наступныя заданні і разважаць на прапанаваныя ніжэй тэмы:

**I.У час Кранштадскага мецяжу ў сакавіку 1921 г. мяцежнікі паднялі лозунг "За Саветы без камуністаў!" Падумайце, хто маг на Беларусі далучыцца да гэтага закліку?**

**II. Дайце ацэнку рашэнням Рыжскага мірнага дагавора з пазіцый:**

**а) Беларусі,**

**б) Польшчы,**

**в) Савецкай Расіі.**

**З дапамогаю зробленых высноў, адкажыце, які ўплыў гэты дагавор меў для існуючай Версальска-Вашынгтонскай сістэмы міжнародных зносін.**

**III. Азнаёмцеся з матэрыяламі III з'езду КП(б)Б і адкажыце на пытанні.**
**1. Якія ідэі звязвалі камуністаў РКП(б) і КП(б)Б? А што тады адрознівала гэтыя арганізацыі?**
**2. Такія лідары БССР, як А. Чарвякоў, З. Жылуновіч, Я. Дыла спрабавалі будаваць беларускую рэспубліку і, адначасова, кіраваліся дэрэктывамі ЦК РКП(б), "лічылі яго (ЦК) сваім вышэйшым партыйным органам". У чым супярэчнасць такога становішча гэтых людзей? Як гэта адбілася на развіцці БССР?**

*На III з'ездзе КП(б) (22-26 лістапада 1920 г.) адзначалася, што колькасць членаў партыі вагалася ад 1,7 тыс. да 1,9 тыс. Істотнага значэння колькасць, аднак, не мела. Галоўнай была тая акалічнасць, што яшчэ на з'ездзе КП(б) (30-31 снежня 1918 г.) была пацверджана яе "непарыўная ідэйная, тактычная і арганізацыйная сувязь з РКП(б), якая стваралася доўгімі гадамі сумеснай працы". Адначасова падкрэслівалася, што камуністы Беларусі "і надалей будуць кіравацца дырэктывамі ЦК РКП(б) , лічачы яго сваімі вышэйшым партыйным органам." У тэзісах па арганізацыйным пытанні III з'езд замацаваў палажэнне КП(б) як "абласной арганізацыі РКП(б), якая праводзіць у жыццё прынцыпы і тактыку РКП(б), прымяняючы яе да мясцовых умоў".*

**(Платонаў Р.П. Беларусь у міжваенны перыяд/ у кнізе "Беларусь на мяжы тысячыгоддзяў. – Мн, 2000. – С.127.)**

# Раздзел VIII. Наш край у 1917-1920 гг.

**1.Крыніцы гісторыі краю.** Час 1917-1920 гг. быў напоўнены для кожнага кутка нашай краіны войнамі, палітычнымі і сацыяльна-эканамічнымі пераўтварэннямі. Галоўнай магчымасцю даведацца пра ўсё гэта з'яўляюцца *гістарычныя крыніцы*.

Крыніц шмат і яны розныя. Ваенныя карты і планы мясцовасці, законы і распараджэнні ўладаў, перапіска, успаміны, газеты і часопісы, плакаты, паштоўкі - гэта далёк непоўны пералік пісьмовых крыніц. Таксама шмат крыніц матэрыяльных – побытавыя рэчы, будынкі, зброя, аддзенне, тэхніка, фотаздымкі, кінахроніка, грамплaсцінкі, маркі, значкі, грошы. Дваццатае стагоддзе пакінула пасля сябе непараўнальна больш за ранейшыя перыяды. Крыніцай можа быць стары патрон ад стрэльбы сістэмы "Мосіна" і пажаўцелы нумар газеты "Вольная Беларусь". Галоўнае – адно: чым крыніц больш, і чым яны разнастайнее, тым лепш мы будзем ведаць і разумець мінулае свайго краю, а значыць і сваёй краіны.

У архівах, музеях, аддзелах рэдкіх кніг буйных бібліятэк, у прыватных калекцыях крыніцы захоўваюць спецыяльна. Але нямала іх можна сустрэць у сямейных паперах, хатніх бібліятэках, на вуліцах і ў наваколлі нашых гарадоў і сёл. Гістарычныя крыніцы – гэта тое, што было створана ўдзельнікамі і сведкамі гістарычных падзей.

Пра падзеі вайны з кайзараўцамі ў Беларусі нагадваюць *пахаванні*. Іх ужо засталося не шмат, таму што зааранны і разбураны. Аднак і цяпер уздоўж былой паласы акупацыі там-сям сустракаюцца могілкі часоў першай сусветнай вайны. Старажылы абавязкова нагадаюць пра знаходжанн е такога "апафеоза вайны" у наваколлі.

**"Збор помнікаў":**

"Вёска Тэўлі Кобрынскага раёна, Брэсцкай вобласці. Салдацкія могілкі за 0,5 км ад вёскі , каля вясковых могілак. У першай сусветнай вайне ў жніўні 1915 г. у баях супраць кайзараўскай Германіі каля в. Тэўлі загінула 200 салдат расійскай арміі. У 1916 г. на брацкіх і індывідуальных могілках устаноўлены надмагіллі. У ліпені 1920 г. у баях супраць польскіх інтэрвентаў каля вёскі загінулі 50 чырвонаармейцаў. Яны пахаваны ў 3 брацкіх магілах. У 1920 г. усталяваны надмагілііі."

**Са згаданага "Збора помнікаў гісторыі і культуры Беларусі" знайдзіце інфармацыю аб месцах пахаванняў у 1917-1920 гг. у вашым населеным пункце, раёне ці вобласці. Суаднясіце з дапамогаю літаратуры гэтыя звесткі з падзеямі першай сусветнай і польска-савецкай вайны або рэвалюцыйнымі сутычкамі. З якімі падзеямі звязаным тыя пахаванні?**

Фарты *Гродзенскай* і басціёны *Брэсцкай крэпасцей* - таксама сведкі крывавых падзей і першай сусветнай і польска-савецкай войнаў. Пра бежанства 1918- 1923 гг. ёсць *успаміны саміх бежанцаў.*

Новыя настроі рэвалюцыі прысутнічаюць ў назвах *артыкулаў газет.* Карэспанэнты **"Вольнай Беларусі", "Гоману", "Дзянніцы", "Праўды"** інфармавалі, віншавалі, папярэджвалі сваіх чытачоў. У кожнай газеты чытач быў свой, "ідэйны". Праз змест гэтай прэсы мы можам глыбей усвядоміць матывы ўчынкаў тых людзей.

Ахапіць розумам змест такіх падзей, як стварэнне беларускай дзяржаўнасці ці акупацыі розных уладаў, дапамагаюць *літаратурныя творы таго часу.* Вось купалаўскія радкі 1920 года, напісаныя з нагоды другой гадавіны БНР. Гэта быў час польскай акупацыі, і словы песняра пра гэта:

Праз два гады на Беларусі,
Народ аб радасці не сніў
А галасіць і плакаць мусіў
На папялішчы хат і ніў.
……..
Не незалежнасць пра час гэты
Сваё разводзіла святло
А падпаволле без прасветы,
А рабства Беларусь гняло.

Усе дакументы той эпохі маюць складаны змест. Гэта невыпадкова. Яны з'яўляюцца люстэркам супярэчлівых думак палітыкаў, непрымірымых сутыкненняў уладаў і разнастайных лёсаў людзей. Таму да такіх згадак гісторыі неабходна ўдумлівае, крытычнае стаўленне.

**2. Помнікі архітэктуры, гісторыі і культуры.** Час 1917-20 гг. пакінуў розныя помнікі. Адна частка іх – гэта спецыяльна зробленыя, ў бронзе, камні, назвах, творах выяўленчага мастацтва і літаратуры, мемарыялы. Іх стваралі ў розныя перыяды XX стагоддзя. Паколькі пераважна гэты час - савецкі перыяд, то і помнікі ўслаўлялі ўсё тое, што было звязана з савецкай уладаю.

Другая частка помнікаў – гэта ўсё створанае мастацкімі сродкамі, палітычнай і эканамічнай думкаю ў перыяд рэвалюцыйных пераўтварэнняў. Яны красамоўна, яскрава і непаўторна ўвасабляюць час і людзей гэтага часу.

У Мінску ёсць станцыі метро «Леніна», «Фрунзенская», «Кастрычніцкая». Сваімі *назвамі* і дэкаратыўным аздабленнем яны павінны былі нагадваць аб перамогах і постацях савецкай мінуўшчыны. Заўважым, што гэтыя назвы зыходзяць ад назваў вуліц і плошчаў нашай сталіцы. Тут мы таксама закранаем шматлікую характарыстыку «душы» кожнага горада, сяла, мястэчка., якой з'яўляюцца *назвы вуліц, завулкаў,*

*плошчаў, праспектаў.* Яны носяць імёны «Леніна», «Кнорына», «Ландэра», «Фрунзе», «Ленінскага камсамола». Як частка архітэктурнага аблічча населенага пункта, гэтыя назвы выконваюць ролю і помніка, і крыніцы аднначасова.

**Нагадайце назвы вуліц вашага населенага пункта, якія звязаны сваім зместам з падзеямі 1917-1920 гг. Знайдзіце ў дадатковай літаратуры тлумачэнні кожнай з іх. Паспрабуйце даведацца, якія назвы гэтыя вуліцы мелі раней.**

Надзвычай важным напамінам аб эпохе з'яўляюцца *памятныя шыльды.* Гэтыя творы пластычнага выяўленчага мастацтва кожны будынак ператвараюць у частку гісторыі. Напрыклад на адным са знакамітых будынкаў у цэнтры Гродна, вядомым, як "дом купца Марозава" ёсць дошка у гонар дзейнасці падпольнага камітэта РКП(б) (кіраўнік В. Багуцкі) і Гродзенскага Савета рабочых дэпутатаў у 1918-1919 гг. Есць такі надпіс і мы ўжо ставімся да гэтай пабудовы, як да помніка гэтай падзеі. Іншы прыклад. Пакуль няма шыльды на будынку цяперашняга Нацыянальнага тэатра імя Я. Купалы. Бо калі б была, то напаміналa б, што тут, у тагачасным Мінскім гарадскім тэатры, адбыўся Першы Усебеларускі з'езд.

*Рэшткі,* ўшчэнт разбуранага падчас гераічнай абароны 1941 г., *Белага палаца*, на тэрыторыі Брэсцкай крэпасці, прымушаюць прыпомніць аб трагізме Брэсцкага міра.

Асобнае месца займаюць сярод помнікаў культуры *творы фотамастацтва.* Пранікліві погляд фатографа ўхапіў з мінулага позіркі людзей, знайшоў уласцівы часу ракурс. Тут жа тагачасныя модныя строі і прычоскі, зніклы выгляд вуліц, будынкаў, краявідаў. Таленавіта зроблены фотаздымак спалучае крыніцу і мастацкі вобраз мінулага часу.

*Жывапісныя і скульптурныя творы* стваралісся ў час БССР каб усхваліць значныя для савецкай Беларусі падзеі. На рэвалюцыйныя эпізоды 1917-1920 гг. звярталі ўвагу выдатныя мастакі розных часоў: **Марк Шагал**, **Монас Манасзон, Заір Азгур, Валянцін Волкаў, Леанід Шчамялёў, Міхаіл Савіцкі.** Яны фарміравалі для памяці чарговых пакаленняў вобразы сацыялістычных рэвалюцыйных пераўтварэнняў. З абвяшчэннем незалежнай Беларусі ў 1991 г. увага мастацтва стала ў большай ступені да фактаў развіцця беларускай дзяржаўнасці ў 1917-1920 гг. Мастацкія вобразы **Аляксея Марачкіна, Віктара Сташчанюка** зацвярджаюць у памяці новых пакаленняў грамадзян Беларусі прагу да свабоднай нацыянальнай дзяржавы.

Героі коласаўскай п'есы "Дрыгва" альбо аповесці Васіля Быкава "На чорных лядах" - таксама, свайго роду, помнікі. Вобразы і харатарыстыкі *літаратурных персанажаў* красамоўна ўвасобілі бескампраміснасць змагання тысяч людзей, веліч чалавечых надзей і мараў.

6. **"Людзі зямлі беларускай".** Праўдзівая гісторыя – гэта гісторыя людзей. Кожны раён нашай краіны з'яўляецца малай Бацькаўшчынай. Сярод вашых сучаснікаў могуць быць нашчадкі тых, хто прымаў удзел у войнах, бежанстве, рэвалюцыйных пераўтварэннях. З іх успамінаў пра сваякоў складаецца вусная гісторыя як краю, так і краіны. У вёсцы Цецяроўка на Случчыне нарадзіўся *Павел Жаўрыд.* У мястэчку Капыль - *Зміцер Жылуновіч.* З горада Веліжа, тагачаснай Віцебскай губерні, паходзіць *Юрка Віцьбіч.* У былым засценку Калеснікаў Глыбокскага раёна пачалося жыццё *Вацлава Ластоўскага.* Гэтыя асобы ўжо знаёмы вам з гісторыі. Знаёмства ж з іх малой радзімай шмат дадае да разумення іх учынкаў.

**Прачытайце біяграму "Вацлаў Ластоўскі (1883-1938гг.)", складзеную паводле нарыса беларускага гісторыка Анатоля Грыцкевіча і прааналізіруйце яго з дапамогаю наступных пытанняў. Назавіце, якія асноўныя вехі ў жыцці В. Ластоўскага вызаначы ў тэксце? З якімі падзеямі 1917-1920 гг. гэтыя вехі звязаны? Інтарэсы якіх груп насельніцтва абараняў сваёй дзейнасцю В.Ластоўскі ў часы немецкай акупацыі ў 1917 г. ? Які плён магла мець і мела яго дзейнасць? Чаму мы можам лічыць В. Ластоўскага славутым гістарычны дзеячам XX ст.?**

"Вацлаў Юстынавіч Ластоўскі. У свой час ён паспеў зрабіць шмат у сферах палітыкі, гістарычнай, філалагічнай і этнаграфічнай навук, беларускай публіцыстыкі і літаратуразнаўства. Дзякуючы больш за ўсё самаадукацыі В. Ластоўскі набыў грунтоўныя, сапраўды энцыклапедычныя веды, якія выкарыстоўваў у сваёй шматграннай дзейнасці. Лёс прызначыў яму быць пачынальнікам. Таму ён – сярод заснавальнікаў "Нашай Нівы" і "Гоману". Пад час немецкай акупацыі арганізоўвае дзейнасць па разгортванню беларускага асветніцтва. З уласцівай яму энергіяй займаецца справамі "Беларускай кнігарні" ў Вільні. Крама беларускай кнігі ў той час – рэдкасць і рызыкоўнае прадпрымальніцтва. Тады ж В. Ластоўскі кіруе выдавецтвам беларускіх падручнікаў.

Ён – адзін з аўтараў "Мемарандуму прадстаўнікоў Беларусі" прапанаванага еўрапейскай грамадскасці на міжнароднай канферэнцыі ў Лазане ў 1916 г. У гэтым дакуменце В.Ластоўскі заяўляе аб правах беларускага народа на нацыянальна-дзяржаўнае развіццё.

У 1918 г. В. Ластоўскі знаходзіцца сярод удзельнікаў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Як актыўны палітык на розных пасадах В. Ластоўскі заўсёды знаходзіцца ў гушчары падзей. У час польскай акупацыі Беларусі ўдзельнічае ў арганізацыі партызанскага руху. В. Ластоўскі спрабуе арганізаваць змаганне за непадзельнасць і незалежнасць Беларусі ў 1920 г. і супраць бальшавіцкай, і супраць польскай улад, ад якіх не бачыць прыхільнасці да сваёй радзімы. З 1919 па 1923 гг. у цяжкі для Беларусі час войн і тэрытарыяльных падзелаў В. Ластоўскі ўзначальвае адзін з урадаў БНР. У гэты час ён аб'ехаў з выступленнямі аб праблемах беларускай дзяржаўнасці ўсю Еўропу.

Пачынальнікам у беларускай гістарычнай навуцы В. Ластоўскі стаў у 1910 г., калі свет убачыла яго "Кароткая гісторыя Беларусі". Гэта была першая кніга па гісторыі Беларусі, якая, як адзначыў вядомы беларускі гісторык А. Грыцкевіч, "напісаная беларусам для беларусаў".

У пачатку 20-х гг. В. Ластоўскі працаваў над нарысамі беларускай гісторыі, якія па сутнасці ўяўлялі сабою першую энцыклапедыю гісторыі Беларусі. З-пад пяра Власта – вядомая мянушка В. Ластоўскага, выйшаў "Падручны расійска-крэўскі(беларускі) слоўнік" з лексічным багаццем беларускай мовы. Адным з вынікаў яго навуковай дзейнасці стала праца "Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі". Выпадак, але факт: экспедыцыя на чале з В. Ластоўскім адшукала крыж Еўфрасінні Полацкай. Апантаны даследчык, В. Ластоўскі знаходзіў час для апрацоўкі гістарычных легендаў, напісання артыкулаў , перакладаў з рускай, польскай, дацкай моў.

Усё знаходзіла ўвасабленне ў жыцці гэтага цудоўнага чалавека, беларускага патрыёта, навукоўца, дасціпнага знаўцы і абаронцы свайго краю. Але гэта не быў лёгкі і прамы жыццёвы шлях. Наадварот, усё зробленае і здейсненае В. Ластоўскім перамяжоўваецца з жыццём пад акупацыйнымі рэжымамі, палітычнымі абвінавачваннямі, эміграцыяй, падазронасцю з боку розных улад. Лёс В. Ластоўскага – трагічны. Як і шмат іншых прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, ён стаў ахвяраю сталінскіх рэпрэсій . Месца яго пахавання невядома да гэтага часу."

**ВАРТА ПРАЧЫТАЦЬ: Грыцкевіч А., Вацлаў Ластоўскі./ у кнізе "СЫНЫ І ПАСЫНКІ БЕЛАРУСІ"./ускл. С.Барыс. – МН.:Полымя, 1996. –С.229-248.**

# Пытанні і заданні:

1. Што такое гістарычная крыніца? Якія крыніцы бываюць?
2. Дзе можна сустрэць гістарычныя крыніцы? Дзе яны захоўваюцца мэтанакіравана?
3. Якія гістарычныя крыніцы засталіся ад перыяду XX стагоддзя.?
4. Якія гістарычныя крыніцы ў вашым краі ( вёсцы, горадзе) з'яўляюца сведчаннем часу 1917-1920 гг.?
5. Чым дапамагаюць паглыбіць свае веды пра час 1917-1920 гг. перыядычныя выданні таго часу? Чаму да іх трэба ставіцца крытычна?
6. Назавіце, якія падзеі палітычнай гісторыі Беларусі 1918-1920 гг. падцвярджаюць характарыстыку настроя беларускага насельніцтва, зафіксаваную мастацкімі сродкамі Я. Купалаю? Пра які настрой нагадваюць радкі нашага вялікага паэта?
7. Якая роля памятных шыльдаў на пабудовах?

## Пераканайцеся ў сваёй здольнасці выконваць наступныя заданні і развважаць на прапанаваныя ніжэй тэмы:

**I. Разглядзіце фотаздымак (фота № ). Што ў яго змесце паказывае на тое, што гэта крыніца па гісторыіі г. Гродна? Чаму тады фота № можна разглядаць і як твор фотамастацтва, і як гістарычную крыніцу, адначасова?**

**II. Пазнаёмціся з дапамогаю «Энцыклапедыі Беларускага мастацтва» і іншай мастацкай літаратуры с мастацкімі творамі, якія зместам звязаны з часам 1917-1920 гг. Успомніце, што вы ведаеце аб падзеях, аб якіх гэтыя творы?**

**III. высветліце абставіны жыцця ўраджэнцаў вашай мясцовасці ў 1917–1920 гг. Выкарыстайце для гэтага гутаркі з абазнанымі людзьмі, дадатковую літаратуру, фатаздымкі. Занатуйце пісьмова тое, як атрыманая новая інфармацыя змяніла ваша ўяўленне аб гэтых людзях, аб гістарычных падзеях з імі звязаных".**

**IV. На падставе краязнаўчай літаратуры, вусных звестак складзіце паведамленне на тэму "Мой край – малая бацькаўшчына славутых грамадзян краіны", у якім змясціце знойдзеную інфармацыю аб вашых земляках, лёсам жыцця звязаных з часам 1917-1920 гг.**

# Раздзел IX. Палітычнае жыццё ў БССР у 20-я гг..

## Цытата тэмы:

***"…Бліскавічнымі літарамі будзем упісываць сваю гісторыю ў векавечную кнігу гісторыі народаў". Янка Купала. 1920 г.***

**1.Удзел БССР у стварэнні СССР.** Абвешчаная БССР уключылася ў складаны працэс усталявання адносін з іншымі сацыялістычнымі рэспублікамі. На пачатак 20-х гг. гэта былі РСФСР, УССР і Закаўказская федэрацыя (Азербайджан, Грузія і Арменія). Яшчэ ў часы ЛітБел 1 чэрвеня 1919 г. Савет Абароны Літвы і Беларусі па ініцыятыве ЦК РКП (б) разам з урадам Савецкай Літвы, урадам Украіны прыняў Дэкрэт "Аб аб'яднанні савецкіх рэспублік Расіі, Украіны, Латвіі, Літвы, Беларусі для барацьбы з сусветным імперыялізмам" Гэта быў ваенна-палітычны саюз ва ўмовах грамадзянскай вайны. Ён злучаў сацыялістычныя рэспублікі, каб уратаваць уладу бальшавікоў і перамагчы замежную інтэрвенцыю. У мірны час патрэбны былі іншыя знешнепалітычныя стасункі.

У поглядах кіраўніцтва Савецкай Расіі панавалі два галоўныя прынцыпы фарміравання адносін паміж савецкімі рэспублікамі: *аўтанамізм і федэралізм*. Кожны з гэтых прынцыпаў меў свае *тэндэнцыі* ў рэчаіснасці на пачатак 20-х гг. Федэратыўным адносінам таксама спрыяла наяўнасць ваенна-палітычнага саюзу. Значнае месца займаў перыяд абвешчанай БНР, якая імкнулася праводзіць культурна-асветніцкую палітыку. Федэратыўныя адносіны бачыліся і ў пашырэнні таварна-грашовых адносін з 1921 г. Да таго ж, савецкая улада ўжо прадэманстравала рэалізацыю права на самавызначэнне і абвясціла БССР. Ліквідацыя, хай толькі заяўленай, незалежнасці БССР выглядала б адмоўна для міжнароднага аблічча Савецкай Расіі.

Аўтанамічныя, унітарныя тэндэнцыі мелі падставу ў звычцы пэўнай часткі беларускага насельніцтва быць разам з Расіяй. Успомнім пажаданні дэлегатаў I Усебеларускага з'езду з Усходняй Беларусі аб сувязі з Расіяй. Таксама, фактам жыцця была паўсюдная кіруючая роля рашэнняў РКП (б) ва ўчынках кіраўніцтва БССР. У гады палітыкі "ваеннага камунізму" паглыбілася цэнтралізаванае кіраўніцтва гаспадаркай. Гэта было звязана з тым, што пры аб'яўленні перавагі дзяржаўнай уласнасці на сродкі вытворчасці, роля дзяржавы ў эканоміцы станавілася асноўнай. Важна памятаць пра тое, што нягледзячы на складаныя міжнародныя абставіны, ідэя сусветнай рэвалюцыі ў камуністаў не страціла сваёй актуальнасці.

У такіх умовах урад БССР у 1919-1920 гг. кіраваўся рашэннямі як рэспубліканскага, так і расійскага партыйнага кіраўніцтва. Такія заблытаныя адносіны трэба было ўрэгуляваць. Пасля шэрагу дагавораў 1920-1921 гг. паміж БССР і РСФСР, пры фармальным захаванні незалежнасці, беларускі ўрад сваю незалежнасць фактычна страціў. Былі аб'яднаны наркаматы ваенных спраў, знешняга гандлю, фінансаў, шляхоў зносін, пошты і тэлеграфа. У дадатак расійскія ўлады атрымлівалі права праводзіць сваю фінансавую палітыку ў БССР. Ходам жыцця Савецкая Беларусь выбірала сталінскі варыянт вельмі абмежаванай самастойнасці ў адносінах з РСФСР.

**2.Зроблены крок – у СССР.** У **кастрычніку 1922 г.** Пленум ЦК РКП(б) прыняў рашэнне аб неабходнасці заключэння дагавора паміж Украінай, Беларуссю, Закаўказскай федэрацыяй і РСФСР аб аб'яднанні іх у **Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік**. Беларускае кіраўніцтва пачало работу па падрыхтоўцы да гэтага дагавора. На IV Усебеларускім з'ездзе Саветаў 14-18 снежня 1922 г. была адобрана сама ідэя стварэння СССР. Там жа былі выбраны дэлегаты для падпісання дагавора на чале са старшынёй урада **Аляксандрам Чарвяковым**. 29 снежня ў Маскве праекты Дэкларацыі і Дагавора аб стварэнні СССР былі абмеркаваны, а **30 снежня на I Усесаюзным з'ездзе Саветаў** Дагавор аб стварэнні СССР быў падпісаны. У склад Цэнтральнага Выканаўчага камітэта новай дзяржавы ад Савецкай Беларусі ўвайшло сем чалавек. А. Чарвякоў адначасова стаў адным з чатырох старшынь гэтага органа ўлады, разам з Міхаілам Калініным (Расія), Рыгорам Пятроўскім (Украіна) і Нарыманам Нарыманавым (Закаўказская ССР).

Асноўныя палажэнні Дагавора былі зацверджаны *Канстытуцыяй СССР* у **1924 г.** БССР стала часткай самай вялікай па тэрыторыі і адзінай на той час у свеце сацыялістычнай дзяржавы.

Уваход у склад СССР фактычна пазбавіў БССР самастойнасці, хоць аб праве свабоднага выхаду з Саюзу кожнай яго рэспубліцы было запісана ў яго Канстытуцыі. Савецкая Беларусь увайшла ў Саюз, які планавалі пашырыць за кошт новых сацыялістычных дзяржаў. Яго будучыня бачылася аўтарам "Дэкларацыі" ў выглядзе Сусветнай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі. Разам з тым, артыкул 9 Канстытуцыі СССР гаварыў аб тым, што ўсе дэкрэты, пастановы і рашэнні Саюзнага ЦВК з'яўляюцца абавязковымі для выканання на ўсей тэрыторыі СССР. Шматлікія гаспадарчыя, сацыяльныя, ваенна-палітычныя сувязі і абавязкі БССР адносна іншых рэспублік рабілі артыкул 4 Канстытуцыі СССР аб выхадзе з СССР непрацоўным. Усеь пытанні дзяржаўнага кіраўніцтва ў гаспадарчай, ваеннай справе, знешнепалітычных сувязях былі перададзены Саюзнай уладзе. Рэальная, усеахопная улада насамрэч сканцэнтравалася ў руках цэнтральных саюзных органаў.

Уваход у склад СССР уключыў жыхароў Савецкай Беларусі ў агромністае па памерах былой Расійскай імперыі жыццё сацыялістычнага будаўніцтва. Зараз усе праекты, планы і задачы ва ўнутранай і знешняй палітыцы, прынятыя ў Маскве, сталіцы СССР і Расіі, будуць у поўным памеры распаўсюджавацца на БССР. За далучанасць да гэтай сацыялістычнай будучыні Беларусь, як і іншыя саюзныя рэспублікі, наўмысна паменшылі свой нацыянальны суверэнітэт. На змену, ледзь нараджаючымся нацыянальным каштоўнасцям, прыйшлі інтэрнацыяналізм, савецкі суверэнітэт і савецкае грамадзянства.

**3.Улада ў БССР - ад тэорыі да практыкі.** У **1924 і 1926 гг.**, ў два этапы, адбыўся працэс вяртання значнай часткі этнічных беларускіх зямель Савецкай Беларусі. У выніку яго ад РСФСР былі вернуты тэрыторыі паветаў Віцебскай, Гомельскай і Смаленскай губерняў. Колькасць насельніцтва БССР павялічылася да 5 мільёнаў.

Згодна з перапісам 1926 г. нацыянальны склад насельніцтва быў наступны:

| Нацыянальнасць | беларусы | яўрэі | рускія | палякі | іншыя |
|---|---|---|---|---|---|
| Колькасць (у працэнтах) | 80,6 | 8,2 | 7,7 | 2 | 1,5 |

Палітычнае жыццё ў БССР развівалася ва ўмовах савецкай камуністычнай улады. *Ліберальныя* рысы эканамічнай палітыкі сведчылі аб павелічэнні эканамічнай свабоды і змяншэнні ролі дзяржавы ў эканоміцы. У 1923 г. была аб'яўлена амністыя для дзеячаў і членаў небальшавіцкіх арганізацый, якіх было шмат у Беларусі ў 1918-1921 гг. 20-я гг. былі часам нябачанага раней развіцця беларускай культуры, палітыкі беларусізацыі ўсіх галін палітычнага жыцця. Такая палітыка ішла “зверху”, з ініцыятывы бальшавікоў-беларусаў Аляксандра Чарвякова, Зміцера Жылуновіча, Усевалада Ігнатоўскага і іншых.

Другі бок палітычнага жыцця рэспублікі - працэсы, якія сведчылі аб негатыўных, аўтарытарных рысах улады. Акалічнасцю палітычнага жыцця ў БССР стала скасаванне ўплывовых палітычных партый Бунда ў 1921 г. і БПС-Р у 1924 г. У пачатку 1921 г. беларускія эсэры ў чатыры разы пераўзыходзілі па колькасці склад КП(б)Б. У хуткім часе высветліліся прынцыповыя разыходжанні беларускіх эсэраў з палітыкай КП(б)Б. Абвешчаная бальшавікамі дыктатура пралетарыяту, далучэнне ( у свой час) часткі Віцебскай і Гомельскай губерняў да РСФСР, відавочнае ліквідаванне суверэнітэту БССР пры ўладзе бальшавікоў бачыліся беларускім эсэрам недапушчальным. Да таго ж савецкае кіраўніцтва БССР адхіліла прапанову БПС-Р аб кааліцыйным урадзе прадстаўнікоў камуністаў і левых эсэраў.

**Успомніце лёс Устаноўчага сходу ў 1918 г. З-за чаго гэты сход быў разагнаны? Ці ўмацавала гэта ўладу бальшавікоў?**

БПС-Р была бальшавікамі фактычна разагнана. 860 яе актывістаў былі арыштаваны. Над імі адбыўся шэраг судовых працэсаў. Быў зроблены канчатковы крок да ўсталявання *аднапартыйнай сістэмы* ў Савецкай Беларусі.

Правядзенне найбольш важных мерапрыемстваў ці прыняцце рашэнняў адбываліся пры ўзгадненні або па загаду першых кіраўнікоў у Маскве. Асабліва гэтая практыка ўзрасла пасля ўваходу БССР у склад СССР.

Дзейнасць савецкай беларускай улады ажыуцяўлялася ў абставінах складанага працэсу выпрацоўкі агульнага погляду яе прадстаўнікоў на будаўніцтва новага, названага сацыялістычным, грамадства. Такі працэс ішоў у цэнтральных партыйных органах ў Маскве, але закрануў і Беларусь. Уласных поглядаў на развіццё сацыялістычнай сельскай гаспадаркі, культуры і навукі прытрымліваліся наркам земляробства БССР **Дзмітрый Прышчэпаў**, вучоныя **Гаўрыла Гарэцкі, Аркадзь Смоліч, Іван Кіслякоў**. Іх погляды былі звязаны з дэмакратычным і гуманным шлях развіцця, з улікам традыцый беларускай мясцовасці. Але гэта супярэчыла імкненню ўсё больш уплывовай часткі партыйнага кіраўніцтва. Яго імкненне было ў бок стварэння *камандна-адміністрацыйнай сістэмы,* падпарадкавання адзінаму погляду на сацыялізм, адзінай *ідэалогіі*.

Сапраўдная ўлада была ў руках адзінай партыі РКП(б) – КП(б)Б. Паступова, пры канцы 20-х гг. гэта партыя ўсё больш брала пад свой кантроль розныя праявы жыцця, не пакідаючы насельніцтву Савецкай Беларусі права выбару развіцця.

**4.Грамадскія арганізацыі.** Для пачатку і сярэдзіны 20-х гг. у БССР было характэрна пэўнае багацце грамадскага жыцця. Абвешчаныя раўнапраў'е, свабода, ліквідаванне сацыяльнай няроўнасці стваралі спрыяльныя ўмовы для актыўнай дзейнасці грамадзян ў розных сферах жыцця краіны. Усё большым становіцца ўдзел у грамадскіх справах жанчын. Яны выбіраюцца ў Саветы, розныя грамадскія арганізацыі.

Актывізавалася роля прафсаюзаў. У 1921 г. адбыўся *першы Усебеларускі з'езд прафсаюзаў*, на якім месца гэтай арганізацыі ў эканоміцы і грамадскім жыцці вызначалася як значнае. Пазней, у 1924 г., быў створаны Цэнтральны савет прафесійных саюзаў БССР. Прафсаюзы станавіліся месцам праяўлення грамадскай актыўнасці людзей. Але з развіццём камандна-адміністрацыйнай сістэмы іх самастойнасць паступова прыходзіць у супярэчнасць з *аўтарытарызмам* камуністычнай партыі. Большасць членаў прафсаюзных арганізацый былі беспартыйнымі. Прафсоюзы ўдзельнічалі ў вырашэнні працоўных канфліктаў, выдачы заробнай платы, ліквідавання непісьменнасці, умацавання дысцыпліны і павялічэння прадукцыйнасці працы. Пэўны час шырокае кола пытанняў заставалася ў сферы ўплыву непадлягаючых партыйнай дысцыпліне тысяч актыўных, самастойных працоўных. Такое становішча незадавальняла бальшавіцкае савецкае кіраўніцтва. Ім прафсаюзы разглядаліся як “прывадныя рамні” адзінай дзяржаўнай машыны. Варыянты непадпарадкавання, уласных поглядаў і некантраляванай ініцыятывы выключаліся. Як вынік, у канцы 20-х гг. было зменена 72% кіраўніцтва прафсаюзных арганізацый, распушчаны шэраг мясцовых камітэтаў. Прафсаюзы ўсё больш і больш залежалі ад адзінай партыі і ўсё менш маглі эфектыўна адстойваць правы працоўных.

Шмат грамадскіх арганізацый аб'ядноўвалі моладзь. У 1920-1922 гг. у Мінску дзейнічалі студэнцкі гурток *"Беларуская моладзь" і "Клуб беларускай моладзі – Беларуская хатка"*. Сябры гуртка імкнуліся пашырыць нацыянальную свядомасць сярод моладзі, дапамагчы ўвядзенню беларускай мовы ў школах і грамадскіх установах. Яны бралі ўдзел у агульнагарадскіх культурных мерапрыемствах, усталёўлівалі сувязі з моладзевымі беларускімі арганізацыямі ў Віцебску, Магілёве, Слуцку. У клубных секцыях (літаратурнай, тэатральнай, мастацкай, музычнай, танцэвальнай) працавалі Якуб Колас, Уладзімір Тэраўскі, з імі супрацоўнічалі Янка Купала, Цішка Гартны і Язэп Лёсік. Планавалася выданне часопіса і скліканне з'езда беспартыйнай моладзі. Нацыянальная накіраванасць дзейнасці гэтых арганізацый крытыкавалася партыйнымі органамі, што прывяло да скасавання гуртка. Сярод яго сябраў былі паэт Алесь Дудар, гісторык Яўхім Кіпель, артыст Барыс Платонаў і шмат іншых творцаў.

Тое, што ў Беларусі значнае месца займала яўрэйскае насельніцтва, было падставаю для дзейнасці яўрэйскіх аб'яднанняў. У Мінску працавалі моладзевыя сіяніскія арганізацыі *"Кадзімы"* і *"Хашомер-Хацоір" ("Малады страж")*. У іх праграмах аб'ядноўваліся ідэі сацыялізму і сіянізму. Працягвала сваю дзейнасць арганізацыя *"Эхалуц"*. Члены гэтых арганізацый вывучалі гісторыю яўрэйскага народа, сіяніскі рух, рыхтаваліся да ўдзелу ў жыцці будучай яўрэйскай дзяржавы Ізраіль і вялі барацьбу з камсамолам за ўплыў на моладзь.

Галоўнай камуністычнай моладзевай арганізацыяй быў *камуністычны саюз моладзі (камсамол)*. Створаны ў **1918 г.**, ён аб'ядноўваў прыхільнікаў камуністычнай ідэі, маладых паплечнікаў бальшавікоў. Да канца 1921 г. камсамол Беларусі па загаду партыі ліквідаваў моладзевыя арганізацыі "Беларуская моладзь", "Югенд-Бунд" і іншыя. Спачатку камсамольцы прытрымліваліся розных поглядаў на перспектывы сваёй дзейнасці. Былі праціўнікі ўдзелу ў ім вучняў, сераднякоў, служачых і інтэлігенцыі. Прапаноўвалася аддзяліць гарадскія арганізацыі ад сельскіх. Але ўладзе патрэбна была масавая моладзевая арганізацыя, якая б мела ўплыў на ўсе часткі моладзі. Таму ўжо з 1924 г. камсамол выступае як моладзевая арганізацыя па падтрымцы ўсіх рашэнняў партыі і савецкай улады. Невыпадкова камсамол стаў называцца Ленінскім – *Ленінскі камуністычны саюз моладзі Беларусі*. Гэта падкрэслівала адзінства поглядаў яго членаў.

Бурнае і супярэчлівае жыццё і дзейнасць грамадскіх арганізацый у Савецкай Беларусі былі люстэркам тых яскравых і складаных палітычных і эканамічных працэсаў, што праходзілі ў ёй.

# Пытанні і заданні:

**I. Складзіце паведамленне на тэму "БССР – адна са стваральнікаў Савецкага Саюза".**

**II. 20-я гг. – адначасова час лібералізацыі жыцця і ўзмацнення палітычнай улады бальшавікоў. Прывядзіце прыклады гэтых праяў сацыяльна-палітычнага жыццяў у БССР.**

**III. Паспрабуйце знайсці звесткі аб дзейнасці моладзевых арганізацый у вашай мясцовасці ў міжваенны перыяд. Звярніце ўвагу на матывы, якімі кіраваліся іх удзельнікі. Абмяркуйце свае ўражанні разам з настаўнікам.**

**IV. Прачытайце факты гісторыі падрыхтоўкі саюзных адносін паміж БССР і іншымі сацыялістычнымі рэспублікамі і адкажыце на пытанні.**

**1. Якім з пералічаных паняццяў - "суверэнітэт", "федэрацыя", "унітарная дзяржава", "канфедэрацыя" - можна вызначыць характар узаемаадносін паміж БССР і РСФСР? Абгрунтуйце свой адказ.**

**2.** Успомніце пазіцыю большавікоў па нацыянальнаму пытанню. Наколькі яна была рэалізавана ў ходзе стварэння СССР?

**3. Якія ўнутры і знешнепалітычныя прычыны былі для заключэння настолькі шчыльнага ваенна-палітычнага саюза?**

**4. Аб якой, "пэўнай свабодзе ў галіне вырашэння пытанняў мясцовага жыцця" можа весціся гаворка пры ўмовах дзейнасці сямі аб'яднаных камісарыятах?**

**5. Бяручы за ўвагу палітычныя, ваенныя і эканамічныя абставіны 1921 года для Беларусі, растлумачце аргументы “за” і “супраць” апісанага аб’яднання кіраўніцтва БССР і РСФСР.**

**6. Наколькі ўмовы ўваходжання у склад СССР адпавядалі лозунгу – “разам і на роўных”?**

*“Тэзісы па пытанні аб арганізацыі ў Беларусі савецкай улады, прынятыя III з’ездам КП(б), пачыналіся наступнай канстатацыяй: Беларусь, якая з’яўляецца Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікай, адначасова з’яўляецца састаўной часткай РСФСР, і ўсе яе органы ў галіне агульных мерапрыемстваў павінны быць падпарадкаваны адпаведным камісарыятам РСФСР, але мець пэўную свабоду ў галіне вырашэння пытанняў мясцовага жыцця…»*

*Паводле дагавора паміж ССРБ і РСФСР ад 16 студзеня 1921 г. аб уваходжанні рэспублікі ў ваенны і гаспадарчы саюз абвяшчаліся аб’яднанымі 7 камісарыятаў: ваенных і марскіх спраў, ВСНГ, знешняга гандлю, фінансаў, працы, шляхоў зносін, пошты і тэлеграфа. Яны ўключаліся ў склад Саўнаркома РСФСР, маючы ў складзе Саўнаркома ССРБ сваіх упаўнаважаных. Адначасова было створана Паўнамоцнае прадстаўніцтва ССРБ пры ўрадзе РСФСР. У сакавіку 1921 г. было заключана пагадненне паміж РСФСР, УССР, БССР і Азербайджанскай рэспублікай аб аб’яднанні статыстычных устаноў гэтых рэспублік. У лютым 1922 г. у Маскве паміж РСФСР і прадстаўнікамі…Беларускай рэспублікай падпісаны акт аб перадачы іх прадстаўніцтва на Генуэзскай канферэнцыі РСФСР.”* **(Платонаў Р.П. Беларусь у міжваенны перыяд/ у кнізе “Беларусь на мяжы тысячыгоддзяў. – Мн, 2000. – С.127.)**

**V. Пазнаёмціся зпрыкладамі узаемаадносін паміж савецкай уладай і царквой у Віцебску ў 20-я гг. і адкажыце на пытанні.**

**1. Што азначаюць паняцці “атэізм”, “ваяўнічы атэізм”?**

**2. Чым тлумачыцца варожае стаўленне бальшавікоў да царквы? Чаму царква лічылася аплотам контррэвалюцыі?**

**3. Чаму такую царкоўную палітыку можна лічыць праяваю таталітарнага і аўтарытарнага характару савецкай улады?**

*“Пастановаю прэзідыума Віцебскага губвыканкома ад 3.2.1922 г. была створана Віцебская губернская камісія па канфіскацыі царкоўных каштоўнасцяў. Губкамісіяй было дадзена рашучае прадпісанне, што асоб, якія вінаваты ва ўтойванні каштоўнасцяў і інвентарных кніг, выступалі і агітавалі супраць канфіскацыі, тэрмінова аддаць пад суд і безлітасна пакараць.*

*Вопіс каштоўнасцяў адбываўся ў прысутнасці прыхаджан. “Перш чым прыступіць да вопісу, давялося доўгі час супакоіваць прысутных, фанатызм якіх дасягаў вялікіх памераў. Праклёны так і сыпаліся на галаву бальшавікоў і нават на сваіх дзяцей, якія находзіліся на савецкай службе” – паведамлялася ў дакладзе (губкамісіі).*

*Выконваючы прадпісанні губкамісіі , органы НКУС пачалі арышты духоўных асоб. Першым быў арыштаваны архіепіскап Полацкі і Віцебскі Інакенцій.*

*За весь перыяд кампаніі па Віцебскай губерні было забрана: серабра – 101 пуд 9 фунтаў 52 залатнікі 70 долей, золата – 1 фунт 93 залатнікі (Залатнік - руская мера вагі раўнялася 1/96 фунта ці 4,26 г.) 10 долей, каштоўных камянёў 51 залатнік 81 доля…Усяназваная маёмасць адпраўлена ў Маскву.*

*Губком пастанавіў "весці энергічную работу па разбурэнню царквы як аплоту контррэвалюцы. Адначасова партыя павінна развіць кампанію ўзмоцненай антырэлігійнай прапаганды." Акрамя гэтага дзяржава не цуралася і іншых метадаў: уводзіла непасільныя падаткі, прыцясняла і падвяргала рэпрэсіям духавенства. Напрыклад, з-за немагчымасці заплаціць падатак Успенскі сабор і Свята-Духаўская царква ў 1923 г. былі закрыты. У 2-палавіне 1920 –х гадоў у горадзе пачалося закрыццё культавых устаноў і выкарыстанне іх у культурна-асветных мэтах. У касцёле св. Антонія, напрыклад адкрыўся антырэлігійны аддзел Віцебскага музея. У гэты ж час ва ўсіх установах стваралісія таварыствы "Бязбожнік".*

**(З артыкулуГ.Н. Кандзяковай і А.Р. Трусава "Канфесійная палітыка савецкай улады ў Віцебску"/Памяць: Гіст.-дакум.хроніка Віцебска: У 2-х кн. Кн.1-я. –Мн., 2002. –С.269-271.)**

# Раздзел X. Сацыяльна-эканамічнае развіццё БССР у 20-я гг.

**1.Стан гаспадаркі.** У агульнай колькасці ў Беларусі войны змянялі адна адну на працягу сямі гадоў з 1914 па 1921. Страты, бежанства, эміграцыя, рост смяротнасці ў гэтыя гады істотна змянілі яе насельніцтва. На пачатак 1920 г. на тэрыторыі шасціпавятовай БССР пражывала 1680 тысяч чалавек. Гэта было на 317 тысяч або 15% менш за насельніцтва ў гэтых паветах у 1914 г. Калі ўявіць гэтыя 15% адносна 7,5 мільёна даваеннага насельніцтва Беларусі, то страты складуць больш мільёна.

Лініі франтоў і акупацыйныя рэжымы, буйныя і малыя ваенныя аперацыі, размяшчэнне соцен тысяч вайскоўцаў, бежанцаў, "ваенны камунізм" ушчэнт разбурылі эканоміку Беларусі. Многія прамысловыя прадпрыемствы былі эвакуіраваны ў глыб Расіі, зруйнаваны або разрабаваны. Прыйшоў у заняпад транспарт. Дорага каштаваў беларускай чыгунцы цяжар ваенных і бежанскіх перавозак. Да 81,3% пашкоджаных вагонаў, разбураны масты, станцыйныя будынкі.

Цяжкімі былі жылёвыя ўмовы насельніцтва. Уздоўж ліній фронту ўся тэрыторыя стала зонай суцэльнага разбурэння. Знішчаны цэлыя населеныя пункты, шмат жылля - пашкоджана. Голад, холад, інфекцыйныя захворванні былі спадарожнікамі жыцця людзей. Асабліва складана было ў гарадах.

У сельскай мясцовасці за ваенны час пасевы збожжа скараціліся на 40 %, бульбы - больш чым на палову. Шмат зямлі закінута з-за недахопу мужчын. Рэквізіцыі розных улад, прымусовыя будаўнічыя работы зменшылі колькасць коней на 20%, а свіней - у два разы. З-за заняпаду гаспадаркі і вынікаў *харчразвёрсткі* гандаль паміж вёскай і горадам амаль спыніўся. Катастрафічна ўпала вартасць грошаў. Гэта выклікала рост кошту тавараў, абясцэньванне заработнай платы, *спекуляцыю*. У БССР ўжываліся ў гандлёвых здзелках грошы розных рэжымаў і краін, якія ў нядаўні ваенны час мелі ўладу на яе тэрыторыі. Гэта таксама падрывала фінансавую сістэму гаспадаркі.

Цяжкае жыццё ўплывала на настрой людзей, іх стаўленне да Савецкай улады. Незадавальненне ўладаю праяўлялася ў выхадзе людзей з камуністычнай партыі. Небяспека страты ўлады над насельніцтвам прымушала бальшавікоў змяняць эканамічную палітыку для аднаўлення гаспадаркі і паляпшэння жыцця насельніцтва.

**2.Ад "ваеннага камунізму" да нэпа.** Аднаўленне гаспадаркі ішло ў БССР ва ўмовах **новай эканамічнай палітыкі** (скарочана - **нэп**). Да нэпа перайшоў расійскі ўрад Уладзіміра Леніна, калі адмовіўся ад прынцыпаў палітыкі "ваеннага камунізму" ў **сакавіку 1921 г.** Паколькі камуністычнае кіраўніцтва БССР знаходзілася ў непасрэдным падпарадкаванні да расійскага, то ідэі нэпа на беларускіх землях сталі пануючымі.

Новая палітыка была накіравана на павелічэнне эканамічнай свабоды, рост зацікаўленасці рабочых і сялян у выніках працы. Яна разглядалася камуністычным кіраўніцтвам як часовы, вымушаны крок. "З Расіі нэпаўскай будзе Расія сацыялістычная" – быў упэўнены Ленін. Для эканамічнай свабоды ў прамысловасці, сельскай гаспадарцы і гандлі патрэбны былі адпаведныя прынцыпы гаспадарання. Такія, якія б давалі рабочаму, селяніну або гандляру магчымасць і жаданне працаваць больш і лепш і не хваляваццa, што прыбытак будзе адняты. Такімі прынцыпамі сталі дазвол свабоднага ўнутранага гандлю, *арэнды* сродкаў вытворчасці, выкарыстанне наёмнай працы. Асновай дзейнасці прадпрыемстваў стаў прыбытак. Адмянялася сістэма працоўнай павіннасці і ўраўняльнай заработнай платы. У вёсцы галоўнай рысай нэпа стала замена харчразвёрсткі *харчпадаткам*

**Успомніце, што такое харазвёрстка і якія сацыяльна-палітычныя вынікі яе прымянення?**

Зараз селянін меў магчымасць планаваць сваю дзейнасць на зямлі, ведаючы аб фіксаваным восеньскім падатку.

У час правядзення нэпа карэнным чынам была зменена фінансавая палітыка. Пашырыліся таварна-грашовыя адносіны паміж горадам і вёскай. Свабода ўнутраннага гандлю спрыяла павялічэнню колькасці сельскагаспадарчай прадукцыі ў гарадах. З свайго боку, умовы гаспадарчага разліку былі добрым стымулам для ўдзелу ў гандлі прамысловых прадпраемств.У **1923-1924 гг.** у БССР з'явілася новая агульнасаюзная валюта *чырвонец*, які меў высокую пакупную здольнасць.

У 1920-1922 гг. ва ўсіх шасці паветах рэспублікі было праведзена размеркаванне памешчыцкай зямлі. Ва ўмовах нэпа абвяшчалася свабода форм землекарыстання і сяляне перасяляліся на хутары. Прыкметнаю з'яваю нэпа стаў кааператыўны рух. **Кааперацыя** была патрэбнай і карыснай справай. Яна давала магчымасць выкарыстоўваць аб'яднаныя сродкі і сілы паасобных гаспадарак. Але захоўвала ў асноўным іх гаспадарчую самастойнасць. На карысць кааперацыі былі традыцыі ўзаемадапамогі, якія ішлі ад сялянскай талакі і абшчыны. У кааперацыі бачылася магчымасць паступовага пераходу ад індывідуальнай дробнаўласніцкай гаспадаркі да буйной калектыўнай. У Савецкай Беларусі формы кааперацыі былі ў выглядзе *камун, арцеляў, таварыстваў па апрацоўцы зямлі*, існавала спажывецкая кааперацыя.

Вынікі нэпа прадэманстравалі яго паспяховасць. Да 1928 г. хутарской была кожная чатвёртая гаспадарка. Хутаране валодалі пятай часткай зямлі. Наёмная праца, якая выкарыстоўвалася заможнымі хутаранамі стала асноўнай крыніцай існавання для больш чым трэці сялян-беднякоў. Як вынік, ужо ў 1925 г. была дасягнута даваенная апрацоўка пасяўной плошчы. Большую частку прыбытку мелі серадняцкія і кулацкія гаспадаркі, якія давалі 17% сельскагаспадарчай прадукцыі.

**Успомніце працэс маёмаснага расслаення сялянства ў другой палове XIX – пачатку XX стагоддзяў. Якія адметныя рысы ў вядзенне гаспадаркі мелі заможныя слаі сялянства – "сярэднякі" і "кулакі"?**

І менавіта гэтыя гаспадаркі неслі галоўны цяжар дзяржаўных падаткаў. У 1928 г. на 0,4%, такіх гаспадарак прыходзілася 47% агульнай сумы падаткаў. У гэтым быў палітычны разлік. Заможныя слаі сялянства бачыліся бальшавікам, як тэрміновая з'ява, вымушаны крок назад, у маёмасную няроўнасць.

За гады нэпа былі адноўлены і пабудаваны дзесяткі фабрык і заводаў. Асаблівасцю правядзення гэтай эканамічнай палітыкі для Беларусі было яе ажыцяўленне на павялічаных, за лік Віцебшчыны, Магілёўшчыны і Гомельшчыны, тэрыторыях.

Поспехі нэпа ў першую чаргу былі звязаны са *шматукладнасцю* эканомікі, свабодай дзейнасці прыватнага капіталу. Гэтыя прыкметы эканомікі не былі сацыялістычнымі. Новая эканамічная палітыка пацягнула ўздагон ажыцяўленню эканомікі рост маёмаснай няроўнасці, масавае беспрацоў'е. На фабрыках і заводах з'явіліся новыя гаспадары. Даход бядняцкіх гаспадарак быў у 4,6 разы ніжэй за заможныя (кулацкія). Такія сацыяльна-эканамічныя з'явы разглядаліся прыхільнікамі сацыялізму, як недахопы нэпу. Таму кожны "пралік" гэтай палітыкі яе праціўнікі, з ліку камуністаў-бюракратаў, бяднейшага сялянства, некваліфікаваных рабочых выкарыстоўвалі супраць гэтай палітыкі. Тым больш, што жыццё давала дастаткова падстаў для абгрунтавання жорсткага, цэнтралізаванага кіравання гаспадаркай СССР.

**З гісторыі СССР і Заходняй Еўропы знайдзіце факты, якія можна разглядаць, як прыклады ўмацавання кантролю дзяржавы над эканомікай.**

**3.Новыя сацыяльныя адносіны.** Камуністычным кіраўніцтвам СССР нэп разглядаўся, як этап на шляху да сацыялізма. Таму яго правядзенне ўключала ў гаспадарчыя адносіны тых, на каго імкнуліся абаперціся бальшавікі – рабочых і сялян. Адначасова, тое, што элементы нэпа былі ўзяты з капіталізму, стварала ўмовы для існавання ў эканамічным жыцці адпаведных катэгорый людзей – прыватных уласнікаў, *"нэпманаў"*. Аднак яны не разглядаліся ўладай у якасці вядучай часткі грамадства. Падтрымка прыватніка, прыцягненне яго ў прамысловасць было эфектыўным крокам у пад'ёме эканомікі. Паколькі дробная вытворчасць была асаблівасцю Беларусі, то падтрымка яе актывізавала вялікую частку насельніцтва. У лепшы перыяд нэпа, у сярэдзіне 20-х гг., у Савецкай Беларусі налічвалася больш 60 тысяч дробных прадпрыемстваў Толькі крыху больш за дзве тысячы з іх не былі прыватнымі.

Ва ўмовах розных формаў кааперыравання складалася новая калектыўная гаспадарка. Пад уплывам нэпа, мэтанакіраванай палітыкі Савецкай улады змяняўся склад сельскага насельніцтва. Ішоў працэс асераднячвання вёскі.

**Заўважым:**
У 1927 г. кожны другі сялянін лічыўся серадняком. Ім належала амаль две трэці ворыўных зямель і сродкаў вытворчасці. Што такое серадняцкая гаспадарка? Гэта хутар з 7-20 дзесяцінамі зямлі і адным, радзей, двума конямі. Больш багацейшыя лічыліся за кулакоў. У канцы 20-х кулацкіх гаспадарак было каля 2%. Астатнія сяляне адносіліся да бяднейшых.

Але сацыяльная палітыка бальшавікоў была на баку бяднейшых слаёў грамадства. Гэта праяўлялася ў спагнанні падаткаў, цяжар якіх клаўся на заможнае сялянства, фінансавай падтрымцы беднякоў. Бальшавіцкая агітацыя адкрыта называла кулацкія гаспадаркі перашкодай у будаўніцтве новага жыцця. Таму, да сярэдніх сялян, "нэпманаў" палітыка была жорсткай, да кулакоў - бязлітаснай. Пры нэпе камуністычнае кіраўніцтва СССР і БССР спрабавала спалучыць прынцып сацыяльнай роўнасці з рынкавымі прынцыпамі вядзення гаспадаркі. Аднак, ўжо з 1928-1929 гг. нэп быў заменены практыкай жорсткай цэнтралізаванай палітыкі ўсеагульнага кіравання і падпарадкавання.

# Пытанні і заданні:

**I. Разам з развіццём беларускай культуры і праявамі лібералізацыі грамадска-палітычных адносін нэп стаў падставаю для таго, каб частка беларускіх палітычных эмігрантаў убачыла ў БССР рысы дэмакратычнай беларускай дзяржавы. Што магло прывабіць гэтых палітыкаў у нэпе?**

**II. У. Ленін сцвярджаў: *"Нам патрэбна цвёрдая валюта, добры рубель, а не смецце ў выглядзе саўзнака. Без цвёрдай валюты нэп ляціць да чорта."* На прыкладзе становішча ў БССР адкажыце, у чым вартасць грашовай рэформы Р. Сакольнікава, якая "уводзіла" *чырвонец*?**

**III. Пазнаёмціся з урыўкам артыкула К. Зайко, які засяроджвае ўвагу на факце стаўлення насельніцтва да нэпу. Адкажыце на пытанні.**

**1. Якая палітыка савецкай улады ў галіне эканомікі папярэднічала нэпу?**
**2. Якія мэты і задачы меў нэп?**
**3. Што ў нэпе магло выклікаць незадавальненне радавых бальшавікоў? Чым такую пазіцыю можна растлумачыць?**
**4. Хто яшчэ з груп і слаёў насельніцтва Беларусі адмоўна або станоўча ставіўся да нэпу? Абгрунтуйце свае размеркаванне.**
**5. Якія палітычныя падзеі істотна ўплывалі на правядзене нэпу ў БССР? У чым выражаўся гэты ўплыў?**

*"Пераход да нэпу, негледзячы на тлумачальную работу, многімі быў успрыняты неадназначна, у тым ліку і радавымі бальшавікамі...Напрыклад, на праведзенай у Віцебску 21.4.21 г. беспартыйнай рабочай канферэнцыі па дакладу старшыні губвыканкома І Варэйкіса "Аб бягучым моманце" была адхілена прапанаваная бальшавікамі рэзалюцыя і прынята меншавіцкая, у якой асуджалася сацыяльна-эканамічная палітыка бальшавіцкай партыі. Гэтую рэзалюцыю падтрымалі рабочыя сходы акулярнай і іголкавай фабрык."* **(З артыкулу К.І. Зайко "На шляху сацыялістычных пераўтварэнняў"/Памяць: Гіст.-дакум.хроніка Віцебска: У 2-х кн. Кн.1-я. –Мн..2002. –255.)**

**IV. Ніжэй пералічаны розныя сацыяльныя групы насельніцтва савецкай Беларусі:**

- **Рабочыя:**
  - **кваліфікаваныя,**
  - **некваліфікаваныя;**
- **сяляне:**
  - **кулакі,**
  - **сераднякі,**
  - **беднякі;**
- **інтэлігенцыя;**
- **нэпманы;**
- **камуністы;**
- **чыноўнікі.**

**Размяркуйце іх, у якасці прыхільнікаў або праціўнікаў нэпу. Растлумачце свой выбар**.

# Раздзел XI. Індустрыялізацыя і калектывізацыя ў БССР у канцы 20-х – 30-я гг..

**1.Індустрыялізацыя.** Развіццю прамысловасці савецкая ўлада надавала першаступеннае значэнне. У яе планах на першым месцы па значэнню былі галіны цяжкай індустрыі. Ад іх залежала абароназдольнасць Савецкай краіны, яе сіла і магутнасць, а значыць і роля ў міжнароднай палітыцы. Савецкая Беларусь разглядалася часткай агульнай народнай гаспадаркі СССР, прычым на вельмі важным заходнім яго рубяжы. На канец 20-х гг. СССР у 5-10 разоў адставаў ад вядучых капіталістычных краін. У БССР гэтыя паказчыкі былі яшчэ ніжэйшыя. Таму з мэтаю пераўтварэння ў эканамічна незалежную дзяржаву, якая б сама выпрацоўвала сродкі вытворчасці, у **1925 г.** было вырашана хутчэй пачаць *індустрыялізацыю ў* краіне.

БССР, як частка СССР, павінна была ажыццяўляць яе правядзенне на базе мясцовай сыравіны. Гэта адпавядала тым галінам прамысловасці, якія гістарычна развіваліся ў Беларусі. Адпаведнымі былі эканамічныя, фінансавыя магутнасці, сыравіна і людскія рэсурсы. Таму галоўны змест індустрыялізацыі ў БССР быў у паскораным развіцці прадпрыемстваў як цяжкай, так і лёгкай прамысловасці. Апаслівае стаўленне да памежных раёнаў БССР з боку саюзнага кіраўніцтва стала прычынай рашэння ўрада СССР аб забароне будаўніцтва там буйных прадпрыемстваў.

Беларусь вялікую долю прыбыткаў аддавала ў саюзны бюджэт. У сваю чаргу, фінансавая дапамога была часта толькі вяртаннем гэтых сродкаў.

Вынікам індустрыялізацыі ў БССР стала стварэнне матэрыяльна-тэхнічнай базы, тысяч збудаваных прадпрыемстваў. Новым у структуры прамысловасці Беларусі было станкабудаванне. Створаны буйны характар вытворчасці замяніў традыцыйны дробны, кустарны. Скасоўвалася дзейнасць дробных прадпрымальнікаў, гандляроў, рамеснікаў. Прыватная сфера ў прамысловасці была ліквідавана і на змену яе прыйшла толькі дзяржаўная ўласнасць.

Усе *крыніцы фінансавання* прамысловасці былі ўнутранымі. Гэта прыбыткі прадпрыемстваў, заёмы грошаў у насельніцтва і галоўная крыніца – сельская гаспадарка. Сотні тысяч сялян станавіліся рабочымі фабрык і заводаў.

У гады пяцігодак, па якіх ішло спланаванае развіццё гаспадаркі, сярод працоўныхназіраўся масавы энтузіязм. Ён знаходзіў увасабленне ў розных формах *працоўнага спаборніцтва*. Гэта была натуральная, жыццёвая патрэба людзей як мага лепш зрабіць сваю справу для сабе і сваёй краіны. Імёны першых пераможцаў такіх спаборніцтваў прапагандаваліся і былі шырока вядомы. Іх часта называлі "стаханаўцамі" па прозвішчу Аляксея Стаханава, данецкага шахцёра, які разам са сваімі таварышамі шматразова перавыканаў дзённы план.

Сутнасць ***стаханаўскага руху*** заключалася ў наватарстве ў вытворчасці. Такім наватарствам былі рацыянальная арганізацыя тэхнічных працэсаў, вызваленне кваліфікаваных рабочых ад другараднай працы, эфектыўнае выкарыстанне вынаходніцтва ў вытворчасці. На заводах Мінска, Віцебска, Гомеля, Бабруйска і іншых гарадоў стаханаўскі рух разгарнуўся ў 1935 г. У ходзе развіцця руху наватараў з'явіліся новыя формы спаборніцтва: шматстаночнае абслугоўванне, сумяшчэнне прафесій. У спаборніцтве ўдзельнічалі не толькі асобныя працоўныя, але і цэлыя брыгады. Гэта дазваляла забяспечыць рацыяналізацыю вытворчасці на ўсіх яе стадыях да выпуску прадукцыі. Асобным бокам наватарскіх рухаў стала арганізацыя вытворча-тэхнічнага навучання. Формы спаборніцтва былі адным з фактараў росту прадукцыйнасці працы ў цяжкай прамысловасці Беларусі ў 1936 г. на 18,3% і ў лёгкай прамысловасці – на 21,4%.

Аднак пануючы прынцып "ураўнілаўкі" ў ацэнцы працы, перавага маральных ацэнак дасягненняў над матэрыяльнымі, фармалізм і падман ў інфармаванні аб прыкладах працоўных дасягненняў прывялі да абыякавасці людзей, рэзкаму змяншэнню зацікаўленасці іх у лепшых працоўных паказчыках. Працоўны энтузіязм хутка змяніўся абыякавасцю. Для выканання пяцігадовых планаў спатрэбілася цвёрдая дысцыпліна, нават з небяспекай жорсткага пакарання.

Запланаваныя вынікі ніводнага з трох *пяцігадовых планаў* за перыяд з **1928 па 1940 гг.** не былі выкананы. Прычына гэтага ў занадта вялікіх патрабаваннях партыйнага кіраўніцтва, якія не адпавядалі ні магчымасцям людзей, ні магчымасцям гаспадаркі. Між тым, тэмпы індустрыялізацыі былі вельмі высокія. Створаныя ў тыя часы прадпрыемствы, такія як "Гомсельмаш", швейныя фабрыкі ў Віцебску, Гомелі, Магілёве, запалкавая фабрыка ў Барысаве, і зараз з'яўляюцца буйнымі вытворцамі сваёй прадукцыі.

Індустрыялізацыя для Савецкай Беларусі была тэхналагічным развіццём наперад, але надзвычай велізарныя намаганні людзей падчас яе мелі часта значны адмоўны адбітак ва ўсіх сферах жыцця народа.

**2.Калектывізацыя.** Стварэнне і дзейнасць калектыўных гаспадарак на сяле бачылася кіраўнікамі савецкай улады формай сацыялістычнай эканомікі. У гады нэпа калектывізацыя пачалася эканамічнымі сродкамі. Ствараліся дзяржаўныя савецкія гаспадаркі – *саўгасы* на прынцыпах калектыўнай працы. Саўгас ствараўся побач з рознымі вядомымі формамі кааперацыі. Мэтаю арганізацыі саўгасаў было заахвоціць сялян стварыць уласныя калектыўныя гаспадаркі. Аднак без адміністратыўнага прымусу масавае стварэнне такіх гаспадарак аказалася немагчымым. Сяляне былі ўласнікамі і не жадалі страчваць сваіх, хай і невялікіх, надзелаў зямлі і маёмасці.

Рэзкі паварот да масавай калектывізацыі пачаўся з **1927 г.** Ініцыятарам такога паскарэння стаў тагачасны кіраўнік ВКП(б) Іосіф Сталін. Прычын таму была некалькі. Па-першае, пачалася індустрыялізацыя, і для яе патрэбны былі сродкі. Па-другое, сялянства было самай вялікай групай

прыватнікаў. Прыватны характар сялянскіх гаспадарак супярэчыў камуністычным ідэям аб усеагульнай роўнасці. Па-трэццяе, амаль сфарміраваная адміністратыўна-камандная сістэма кiравання на чале са Сталіным патрабавала ўмоў для ўсеахопнага падпарадкавання. А ўласнікам кіраваць было складана. Па-чацвёртае, узровень вытворчасці тагачаснай сельскай гаспадаркі не дазваляў дастаткова забяспечыць гарады прадукцыяй сяла. Гэта рабіла СССР прыступнай для капіталістычных дзяржаў.

У БССР да *суцэльнай калектывізацыі* кіраўніцтва сельскай гаспадаркай ставілася непрыхільна. Ужо адзначалася, што **Дзмітры Прышчэпаў** меў сваё бачанне развіцця сацыялізму ў вёсцы. Ён выказваўся на карысць розных формаў землекарыстання, у прыватнасці, на карысць хутароў.

**Успомніце, што такое хутар? Як вам вядома, у аграрнай рэформе П. Сталыпіна перавод на хутары значыўся адным з яе галоўных элементаў. Чаму будзе спрыяць хутарызацыя вёскі? Хто і чаму будзе супраць хутароў?**

Але не за ім была ўлада. Нарошчванне тэмпаў калектывізацыі пачалося ў **снежні 1929 г.** Калі ў пачатку 1929 г. колькасць калектыўных гаспадарак складала 1,4% усіх сялян, у канцы года іх было 10%. На пачатак 1930 г. кожная пятая сялянская гаспадарка ўваходзіла ў склад калгаса або саўгаса. Прысланыя з Масквы першыя сакратары ЦК КП(б)Б **Ян Гамарнік** і **Канстанцін Гей** імкнуліся праводзіць калектывізацыю так хутка, што такіх тэмпаў нават не чакала сталінскае кіраўніцтва. Вызначальнай стала пастанова ЦК ВКП(б) (так стала называцца ранейшая РКП(б)) "Аб тэмпе калектывізацыі і мерах дапамогі калгаснаму будаўніцтву". Змест яе быў вынікам складанай і супярэчлівай ідэалагічнай барацьбы ўнутры камуністычнай партыі наконт розных поглядаў на будаўніцтва сацыялізма. Пастанова была фактычна загадам аб калектывізацыі "вялікай колькасці" ворыўных зямель. Згодна з яе зместам працэс калектывізацыі павінен быў быць скончаны да вясны 1932 года. У калгасы ні ў якім выпадку не дазвалялася прыймаць кулакоў.

Шляхам насілля, тэрору ўжо да сакавіка 1930 г. у калгасах было больш паловы гаспадарак сялян. Нягледзячы на часовы спад тэмпаў калектывізацыі ў другой палове 1930 г., яна завершылася за дзесяцігоддзе. На пачатак 1939 г. у калгасах і саўгасах БССР было звыш 90% гападарак.

## Факт у гісторыі

Ажно да 1939 г. вялікая колькасць сялян жыла на хутарах. У 1936 г. налічвалася больш 156 тысяч хутароў. Хутары маглі належаць калгасам, але жыццё ў іх было больш самастойным. Масавае ссяленне хутаран у калгасы і саўгасы адбылося ў 1939-1940 гг. Прадстаўлялася гэта справа, як выкананне волі саміх хутаран.

Рэакцыяй насельніцтва на падобныя формы калектывізацыі стала супраціўленне. Пачалося масавае забойства і продаж хатняй жывёлы. Сяляне не хацелі аддаваць калгасам сваю маёмасць занішто. Знішчэнне хатняй жывёлы сялянамі прыняла масавы характар і моцна падарвала жывёлагадоўлю ў беларускай вёсцы.

Побач з калектывізацыяй ішла актыўная барацьба з так званымі "кулакамі". Яна атрымала назву *"раскулачвання"*. Гападаркі, што лічыліся кулацкімі, канфіскоўваліся, іх гаспадары і сем'і арыштоўваліся або высяляліся за межы вёскі, а той і Беларусі. У выніку гвалтоўных дзеянняў савецкай улады ў БССР да мая 1930 г. было раскулачана 15629 гаспадарак. 6 тысяч кулакоў было выслана за межы Беларусі.

*ВАРТА ПРАЧЫТАЦЬ: ВРУБЛЕВСКИЙ А., ПРОТЬКО Т. ИЗ ИСТОРИИ РЕПРЕСИЙ ПРОТИВ БЕЛОРУССКОГО КРЕСТЬЯНСТВА 1929-1934 гг. –Мн., 1992.*

Для тэхнічнага забеспячэння калгасаў дзяржава стварала МТС – *машынна-трактарныя станцыі.*

## Арганізацыя

МТС існавалі ў СССР і ў тым ліку ў БССР – Койданаўская - у 1929-1958 гг. Яны выконвалі палявыя работы ва ўсіх галінах калгаснай гаспадаркі. За гэта калгасы здавалі дзяржаве ўстаноўленную колькасць сельгаспрадукцыі. Роля МТС была значнай у замацаванні на вёсцы калгаснай сістэмы. Гэта рабілася ў процівагу сялянам-аднаасобнікам – сярэднякам і кулакамў, якім ніякай тэхнічнай дапамогі дзяржава не зладжвала. Трактары былі навінок у вёсцы, іх было мала, і праца ў калгасах заставалася пераважна ручной.

Жаданне працаваць на калгаснай зямлі ў калгаснікаў было не шмат. Калгаснікі не мелі ніякай эканамічнай самастойнасці, яны не распараджаліся ні калгаснай зямлёй без рашэння ўсяго калгаснага калектыва, ні вынікамі сваёй працы. Адчужанасць сялян ад вынікаў сваёй працы, сваёй зямлі стала адным з вынікаў калектывізацыі. У такіх умовах, пераважна натуральны разлік за працу, ставіў жыццё калгасніка на ўзровень галечы. Таму крадзёж калгаснай маёмасці стаў нормаю. Улада ж бачыла выйсце з такога становішча ў рэпрэсіях. Выключна дэспатычнаю стала ў 1932 г. дзяржаўная пастанова "Аб ахове маёмасці дзяржаўных прадпраемстваў, калгасаў і кааператываў і ўмацаванні дзяржаўнай уласнасці." Па гэтаму закону калгаснік мог трапіць у турму на 10 год ці быць растраляным з-за літаральна "пяць каласкоў", узятых з калгаснага поля. У адпаведнасці з гэтым законам у БССР ў 1933-1934 гг. было асуджана амаль 11 тысяч чалавек. Для нагляду за ўсімі ўстановамі ў раёнах былі створаны *палітаддзелы* КП(б)Б.

Калгасы забяспечылі патрэбы краіны ў сельгаспрадукцыі. Але якім коштам? Калектывізацыя стала змаганнем савецкай улады з народам. Яе поспехі былі непараўнальна ніжэй за тыя страты, якіх каштавала сялянам гэта эканамічная палітыка. Узровень вытворчасці калгасаў быў нізкім і вялікай перспектывы павышэння ніколі не меў.

# Пытанні і заданні:

**І. Сфармулюйце змест і значэнне індустрыялізацыі і калектывізацыі ў БССР.**

**ІІ. Што азначае ў разуменні тагачаснай савецкай рэчаіснасці працоўны ўздым першых пяцігодак?**

**ІІІ. Прачытайце факты будаўніцтва першай БелДРЭС і адкажыце на пытанні.**
**1. Што такое план "ГОЭЛРО" ? Якое дачыненне ён меў да Беларусі?**
**2.Якія формы і метады арганізацыі працы вы можаце вызначыць у апісанні будаўніцтва Бел ДРЭС?**
**3.З дапамогаю іншых фактаў развіцця прамысловасці ў канцы 20-х - 30-х гг. адкажыце, наколькі такая арганізацыя характэрна для ўсёй палітыкі індустрыялізацыі.**
**4. Якія праблемы высвятліла будаўніцтва Бел ДРЭС? Як вырашэнне гэтых праблем звязывала палітыку індустрыялізацыі з іншымі накірункамі ўнутранай і знешняй палітыкай. Пакажыцце схематычна гэтую сувязь.**

*" ...6 мая 1927 г. Савет працы і абароны прыняў пастанову, дзе адзначалася: ...Прызнаць неабходным прыступіць ў 1927 г. да будаўніцтва Беларускай раёнай электрычнай станцыі паблізу г. Орша на Асінаўскам тарфяным балоце для электразабеспячэння раёнаў: Віцебскага, Аршанскага, Магілёўскага...11 ліпеня 1927 г. стаў днём закладкі Асінбуда і пачатку будаўніцтва першынца беларускай энергетыкі.*

*Спачатку пабудавалі баракі для жылля, потым сталовую і магазін. Хутка на балоце вырасла 11 пасёлкаў тофапрыдпрыемства "Асінторф"...Пачалася здабыча торфу – паліва для будучай электрастанцыі, якая, у сваю чаргу, будавалася поўным ходам.*

*Як будавалі, чым, якой цаной – гаварыць не даводзіцца. Рыдлёўка, тачка, на ўсю будоўлю – адзін аўтамабіль, ды й то больш прастоівал – добрых дарог для яго не было. Машыны і абсталяванне ўстанаўлівалі шведы, немцы, спецыялісты ленінградскіх заводаў. Ведаў у сваіх рабочых было малавата, затое энтузіазму было пазайздросціць.*

*...А тут пачаўся мантаж абсталявання. Рабілі яго замежныя спецыялісты. Да нашых працаўнікоў яны адносіліся з пагардай....Але нашы энергетыкі дарма часу не трацілі, вучыліся...*

*10 лістапада 1930 г. газета "Савецкая Беларусь" паведаміла: "8 лістапада адбыўся ўрачысты пуск першай чаргі Беларускай электрастанцыі. БелДрэс была ў той час адной з буйнейшых электрастанцый не толькі ў Беларусі, але і ва ўсім Савецкім Саюзе....У 1939 г. уступіла ў строй 2-я чарга Бел ДРЭС."*
**(Шалуха Б.Ф."Зорка над балотам"/ у кнізе Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Оршы і Аршанскага раёна У 2 кн. Кн.1. – Мн., 1999. - С. 209-211.)**

**IV. Прачытаце ўрыўкі з гутаркі з калгаснікамі, што падалі заявы аб выхадзе з калгасаў (з запіскі ўпаўнаважанага ЦК КП(б)Б па пытанню высвятлення прычын выхаду з калгасаў) і адкажыце на пытанні.**
**1. На падставе тэксту гутаркі ахарактэрызуйце працу ў калгасе. Крытэрыі характарыстыкі вызначце ўласна.**
**2. Сфармулюйце, у чым крыўда селяніна?**

**3. Паразважайце, чаму, негледзячы на такі вынік працы ў калгасе, селянін гатовы ісці ў іншы калгас?**

***Лебедзь, сярэдняк**: “Я працаваў у жывёлагадоўчым калгасе. Падаў 4 заявы аб сваёй замене. Кіраўніцтва калгасу аднеслася да іх неўважліва. Я працаваў цэлы год. Выпрацаваў 299, 9 працадня, а атрымаў за гэта бульбы 12 пудоў, ячменя – 32 кг, аўса – 15 кг. Я працаваў шчыра, без выхадных дзён, а зараз павінен паміраць з сям’ёю з голаду. Наш калгас атрымаў 600 пудоў хлеба за лён. Гэты хлеб елі калгаснікі ў сталовай, якія працавалі і непрацавалі, а мы жыхары пасёлка, яго не атрымлівалі. Я хачу адпачыць і пайсці ў другі калгас… Свіны ў нашым калгасе ядуць шмат, а я з дзецьмі павінен не бачыць у вочы больбы. У мяне трое дзяцей і на тое, што я атрымаў мы пражыць не можам. Льна нам не далі зусім, дык прыдзецца быць голымі з дзецьмі, бо набыць у кааперацыі няма грошаў…”*

**(Врублевский А.П.. Протько Т.С. Из истории репрессий против белорусского крестьянства, 1929-1934 гг.- Мн., 1992. – С.121.)**

**V. Якія прычыны неэфектыўнасці калгаснай сістэмы? Сфармуліруйце і запішыце іх у сшытак.**

**VI. *“Не камандаваць серадняком!”* заклікаў у адной з апошніх работ У. Ленін арганізатараў калектывізацыі.**

1. **Чаму менавіта гэтай катэгорыі сялянства надавалася такая ўвага?**
2. **Дайце характарыстыку (па сваіх крытэрыях) эканамічнага і сацыяльна-палітычнага стану бяднейшай, сярэдняй і заможнай (кулацкай) катэгорый сялянства. Якія ўзаемаадносіны былі ў іх з савецкай уладай? Чаму?**

**VII. Заданне “Постаць у гісторыі”.**

**Прачытайце біяграфічны экскурс “Дзмітры Прышчэпаў (1896 –1940 гг.)” і адкажыце на пытанні.**

1. **Чаму ў Беларусі з’явілася праблема хутароў?**
2. **Успомніце з гісторыі нашай краіны, якія традыцыі мела хутарская гаспадарка. Як магла бы паспрыяць такая традыцыя гаспадырыння?**
3. **Наколькі была абгрунтавана пазіцыя Дз. Прышчэпава адносна хутарскіх гаспадарак? Чаму да яго не прыслухаліся ініцыятары калектывізацыі?**

*“Удзел у першай сусветнай і грамадзянскай войнах, кіраўніцтва паслямяцежным Веліжскім паветам і яшчэ шэраг пасад мясцовай адміністрацыі Віцебска і Оршы. Такі досвед меў Дзмітры Філімонавіч Прышчэпаў, калі яго назначылі на месца намесніка народнага камісара земляробства БССР. Было гэта ў 1924 г., і ішоў тады яму дваццаць восьмы год. Праз некаторы час ён стаў наркамам земляробства, на пасадзе якога знаходзіўся да 1929 г. У 1929 г. З. Прышчэпаў разам з яшчэ шэрагам аднадумцаў быў абвінавачаны ў так званым “правым ухіле”. Яго пазіцыя ў развіцці сялянскай гаспадаркі атрымала хадзячую назву “прышчэпаўшчына” і лічылася сама па сабе абвінавачваннем.*

*А ўся віна Д. Прышчэпава заключалася ў тым, што ён сваімі паўнамоцтвамі наркама не перашкаджаў перасяленню сялян на хутарскія гаспадаркі. “Не змяняючы ўвогуле нашай палітыкі…Народны Камісарыят Земляробства прапануе ніякіх перашкод не рабіць і пры выбары хутароў і адрубоў,” – пісаў Д. Прышчэпаў у адным са сваіх лістоў да загадчыкаў земляробчых аддзелаў у 1927 г. У Д. Прышчэпава, сына сяляніна, і тады яшчэ маладога чалавека, былі жывыя сялянскія погляды. Ён добра ведаў, што ўсякае*

*землеўладкаванне не можа даць станоўчых вынікаў, калі сялянскія сем'і да яго будуць ставіцца абыякава.*

*Жыццё на хутары для сялян мела свае як плюсы, так і мінусы. Але ва ўмовах узросту адміністратыўнага кантролю з боку ўлад за сялянамі і іх вытворчасцю і нават побытавым жыццём, хутары выглядалі як магчымасць нейкага ўратавання. У 1925-1928 гг. 29.1% зямель належала хутарам і адрубам.*

*...Д. Прышчэпаў быў зняты з пасады, арыштаваны па справе "Саюз вызвалення Беларусі". Ягонае старшынства ў сельскагаспадарчай секцыі Інбелкульта стала падставаю для абвінавачвання ў дапамозе кіраўніцтву "СВБ" у "правядзенні контррэвалюцыйных мерапрыемстваў". Такімі мерапрыемствамі лічыліся прыхільнасць да хутароў, абарона інтарэсаў кулацкіх гаспадарак, падпарадкаваннне кааперацыі і падаткаў патрэбам заможнай часткі беларускай вёскі. Асуджаны ў 1931 г. на дзесяць гадоў лагераў, Д. Прышчэпаў быў паўторна прыгавораны ў 1939 г. да вышэйшай меры пакарання. Памёр у турме ў 1940 г."*

**VIII. Пазнаёмцеся са статыстыкай калектывізацыі і адкажыце на пытанні.**
**1. Чым была выклікана невысокая доля калектыўных гаспадарак у БССР сярод сялянства напярэдадні абвяшчэння суцэльнай калектывзізацыі?**
**2. Як можна растлумачыць нагаданы сацыяльны склад калгасаў? Як гэты склад характарызуе самі калгасы?**

"У 1925 г. у рэспубліцы налічвалася 433 калгаса, 50 камун, 254 арцелі, 129 ТАЗаў, якія аб'ядналі 7656 гаспадарак. Іх паша складала 47 тыс. дзесяці або 0,74% усёй пашы рэспублікі."

"Па сацыяльнаму складу члены 434 калгасаў складзеных да вясны 1927 г., размяркоўваліся наступным чынам:

| №п/п | Слаі насельніцтва | Колькасць |
|---|---|---|
| 1. | Рабочыя | 9,5% |
| 2. | Батракі | 30,5% |
| 3. | Бednякі | 52,5% |
| 4. | Служачыя і кустары | 4,5% |
| 5. | Іншыя | 3% |

**(Врублевский А.П.. Протько Т.С. Из истории репрессий против белорусского крестьянства, 1929-1934 гг.- Мн., 1992. – С.15.)**

**IX. Прачытайце факты правядзення палітыкі калектывізацыі ў БССР і адкажыце на пытанне.**
**Адміністратыўна-камандная сістэма адрэагавала на масавае забойства хатняй жывёла прыняццем пастановы "Аб мерах супраць драпежніцкага забоя скаціны", якое прадугледжывала вялізарныя штрафы, канфіскацыю маёмасці, высяленне і турэмнае зняволенне вінаватых сялян. Якімі мерапрыемствамі бальшавіцкай ўлады выклікана такое скарачэнне хатняй жывёлагадоўлі ў БССР ў 30-я гг.?**

*" ...У Беларусі да маю 1930 г. колькасць коней зменьшылася на 173, 5 тыс., буйной рагатай жывёлы – на 532, 6 тыс., або на 25, 6%. Да 1933 г. тут засталося 72% каней ад колькасці 1928 г., 71% буйной рагатай жывёлы, 68% свіней, 54% авец."*

**(Врублевский А.П.. Протько Т.С. Из истории репрессий против белорусского крестьянства, 1929-1934 гг.- Мн., 1992. – С34.)**

**X. Прачытайце ўрывак з ліста Сталіну селяніна М.Новікава і адкажыце на пытанні.**
**1. Вызначце галоўныя крытычныя заўвагі аўтара ліста, сфармулюце іх так, каб занатаваць у сшытку.**
**2. Падбярыце з гісторыі калектывізацыі ў БССР аргументы да гэтых заўваг.**
**Аргументавана выкажыце ўласнае стаўленне да пазіцыі аўтара ліста.**
**3. У чым неэфектыўнасць створаных у БССР калгасаў? Сфармулюйце і запішыце галоўныя прычыны.**

*“…Селяніна эканамічна знішчылі: забілі яго цікавасць да працы і смагу набыцця, а зараз патрабуюць , каб ён быў добрым вытворцам…*

*…Перастаць лічыць беднасць за дабрачыннасць і штучна яе падтрымліваць і ідэалізаваць. Зняць ганебныя мянушкі “кулакоў”, “падкулачнікаў”, “буржуяў”… з самога лепшага працоўнага насельніцтва, якое і раней і цяпер працягвае свёй працай карміць і падтрымліваць дзяржаву, негледзячы на весь ціск, які на сябе адчувае…*

*Калектывізацыя, якая мае на мэце батрацкі камунізм, ёсць руханне не наперад, а назад і можа часова задаволіць толькі занядбаных батракоў і галоту, або проста – гэта рай для батракоў-дурачкоў. Волныя ж людзі не могуць ісці ў гэтае рабства, як бы іх туды не гналі… Гэта форма перыяду родавай абшчыны каменнага веку…і нават наш ледзь не галечны народ не можа з ёю дабраахвотна мірыцца, бо выбірае замест рабстыва волю хай і разам з беднасцю.”*

**(Врублевский А.П.. Протько Т.С. Из истории репрессий против белорусского крестьянства, 1929-1934 гг.- Мн., 1992. – С43.)**

# Раздзел XII. БССР ва ўмовах усталявання таталітарнага рэжыму ў СССР

**1.Аўтарытарызм савецкай улады.** Аднапартыйная сістэма ў СССР не пакінула ніякай канкурэнцыі камуністычнай партыі ў палітычным жыцці. Аднаўладдзе камуністаў стала лагічным вынікам іх палітычнай дзейнасці з моманту прыходу да ўлады ў 1917 г. На працягу 20-х гг. былі амаль ліквідаваны рознагалоссі ўнутры партыі. У БССР дадатковай падставаю для падазронасці актывістаў палітычнага жыцця была іх нацыянальная прыналежнасць. Таму барацьба з *нацыянал-дэмакратызмам* стала праяваю дыктатуры, якую ажыццяўляла савецкая ўлада ў Беларусі ў пачатку 30-х гг. Успомніце, як Аблвыкамзах ставіўся да стварэння незалежнай Беларусі. Такое стаўленне не магло знікнуць само па сабе. Недавер да нацыянальных беларускіх кадраў узрос пры паспяховасці развіцця беларускай культуры напрацягу 20-х гг. Партыйныя рэзалюцыі "Па нацыянальнаму пытанню", "Аб нацпалітыцы", "Аб працы сярод інтэлігенцыі" засяроджвалі ўвагу на пытаннях небяспекі для савецкай палітыкі ўсяго нацыянальнага. Нацыянальныя рысы разглядаліся як праява буржуазнасці, а значыць варожасці.

У сярэдзіне **1930 г.** маскоўская камісія на чале з Рыгорам Рапапортам "раскрыла" "нацдэмаўскую, контрэвалюцыйную, антысавецкую арганізацыю" – *Саюз вызвалення Беларусі (СВБ).* Былі праведзены арышты Вацлава Ластоўскага, Язэпа Лёсіка, Сцяпана Некрашэвіча, Зміцера Прышчэпава, Максіма Гарэцкага і іншых. Усяго было арыштавана па справе СВБ 108 чалавек. Абвінавачанне ў кіраўніцтве СВБ было прад'яўлена Янку Купалу і Якубу Коласу. Купалу такі паклёп прывёў да замаху на самагубства. Адным вынікам працэсу над СВБ сталі безлітасныя прыгаворы арыштаваным, самазагубствы Усевалада Ігнатоўскага і Аляксандра Чарвякова.

Заснавальнік і кіраўнік Беларускай Камуністычнай Арганізацыі ў 1920 г., актыўны ўдзельнік 2-га абвяшчэння БССР, **Усевалад Ігнатоўскі** быў выкладчыкам гісторыі ў Віленскім настаўніцкім (у 1914 г.) і Мінскім Педагагічным інстытутах. У БССР быў членам ураду – наркамам земляробства ў 1920-1921 гг. і асветы ў 1921-1926 гг., прафесарам гісторыі Беларусі ў БДУ, аўтарам шматлікіх навуковых прац і папулярных "Нарысаў па гісторыі Беларусі", старшынёй Інбелкульту,ператворанага ў Акадэмію Навук Беларусі з 1925 па 1931 гг. Не зважаючы на гэта, у 1930 г., калі было арыштавана шмат яго сяброў. Супраць яго ў афіцыйнай прэсе ўздымаецца кампанія ачарнення і цкавання. Урэшце яго самога змушаюць выступіць у друку з пакаянным лістом… Не дапамагло і гэта. У студзені 1931 г. яго выключаюць з партыі і здымаюць з пасады прэзідэнта Беларускай Акадэміі Навук. Пачынаюць выклікаць на допыты ў ГПУ і патрабуюць, каб ён згадзіўся на ролю правакатара ў дачыненні да арыштаваных сяброў. Перад ім такая прапанова была зроблена ўладамі Янку Купалу... (З кнігі Я. Калубовіча "Айцы БССР і іх лёс").

Другім вынікам працэса па "СВБ" стала тое, што пачалося гвалтоўнае згортванне палітыкі беларусізацыі. Быў нанесены ўдар па беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі. Галоўная - нацыянальная сіла, якая мела ўласнае бачанне развіцця Беларусі, была амаль знішчана. Як вынік гэтага, павялічыўся аўтарытарызм камуністычнай улады.

У **1937 г.** была прынята чарговая *Канстытуцыя БССР.* Яе з'яўленню спрычынілася аб'яўленне кіраўніцтва СССР аб стварэнні ўмоў для будаўніцтва сацыялізму ў краіне. Гэтыя ўмовы – дасягненні ў эканоміцы, палітыцы і грамадскім жыцці – былі зафіксаваны ў законах. Канстытуцыя 1937 г. была названа "сталінскай", бо ўсе поспехі ў рэспубліках СССР звязваліся з асобаю Іосіфа Сталіна. Аднак дэмакратычны змест законаў Канстытуцыі ішоў насуперак рэчаіснасці БССР і СССР тых часоў. Прыкметамі такога палітычнага жыцця былі палітыка ВКП(б) – КП(б)Б, безуладдзе Саветаў, несамастойнасць прафсаюзаў, панаванне камсамолу ў моладзевай палітыцы. Усё гэта сведчыла аб сфарміраванай *аўтарытарнай сістэме* кіравання з *культам асобы* Сталіна, якая мела *таталітарны* характар

**2.Масавыя рэпрэсіі.** Адміністратыўна-камандная сістэма кіраўніцтва, якая функцыянавала ў БССР ў канцы 20-х – 30-х гг. мела таталітарны характар і ўжывала *рэпрэсіі* супраць сваіх праціўнікаў. Такая ваяўнічасць была абгрунтавана ідэяй узмацнення класавай барацьбы па меры прасоўвання ў бок сацыялізму. Класавымі праціўнікамі маглі лічыцца ўсе, хто быў не згодзен з палітыкай камуністычнай партыі. Панаваў прынцып грамадзянскай вайны, што, калі вораг не здаецца, яго знішчаюць.

Да пачатку 30-х гг. Іосіф Сталін на чале ВКП(б) меў ужо велізарную ўладу. Да гэтага часу была сфарміравана цэлая сістэма рэпрэсіўнага пакарання ў выглядзе НКУС СССР, асобай нарады для вынясення прыгавору, папраўча-працоўных лагераў. У 1935-1937 гг. скарачаўся тэрмін правядзення следства па справах тэрарыстычных актаў, шкодніцтва і дыверсій. На следствы не прадугледжваўся пракурор і адвакат. Парушаўся галоўны прынцып правасуддзя – нявіннасці асуджанага да вынясення яму прыгавору суда. Арыштаваныя лічыліся вінаватымі адразу і вымушаны былі шукаць доказы сваёй нявіннасці. Але апраўданні былі непатрэбны палітычнаму рэжыму. Прыгаворы выконваліся неадкладна, без магчымасці просьбаў аб памілаванні. Дапускалася практыка правядзення пакаранняў па спісах асуджаных. Нярэдка асобная камісія дзейнічала не ў поўным складзе, і тады лёс людзей вырашалі пяць, тры і нават два чалавека. Такая судовая сістэма была магчымасцю для масавых беспадстаўных рэпрэсій.

**<u>Сведка падзей:</u>**

З успамінаў "У кіпцюрох ГПУ" беларускага драматурга **Францішка Аляхновіча** аб яго знаходжанні пад следствам у мінскім Галоўным Палітычным Упраўленні (ГПУ): "Расстрэлы адбываліся штораз часцей. Рэдка мінаў панядзелак, каб аўтамабіль не павёз кагосьці на Камароўку.

Ніхто з нас (вязняў) не ведаў, што яго чакае. Адзін меў больш шанцаў быць расстраляным, другі менш. Вось і ўся розніца. Наш вастрожны гумар стварыў адмысловы назоў: ..."атрымаць тры залатнікі". Тры залатнікі – гэтулькі важыць куля з нагану....

Гук аўтамабільнага матору, аднак, электрываваў усіх. Смех змаўкаў. Гутарка спынялася, сваркі заціхалі....Ужо чуваць у калідоры хаду...Ідуць. Ужо...Не..Абмінулі нашую камеру. Недзе заскрыгатаў у дзвярах ключ...

Усе замерлі ў страху. Чакаюць. Нехта шапоча:

- Бяруць з суседняй камеры...
- Ціха! – сыкаюць злосна іншыя.
- Мабыць...

Чуваць праз сценку: "Собирайся с вещами". Ніколі наперад не кажуць, што вядуць на расстрэл. Толькі ў калідоры.... На калідоры нейкая кароткая барацьба, нейкі заглушаны, што не здолеў вырвацца з грудзей, крык...Рот запхнуты тампонам. Рукі звязаны...

Зноў хада колькі пар ног. Гудзенне матораў аддаляецца. Зноў цішыня...Маем перад сабой яшчэ цэлую ноч. Уначы аўтамабіль можа прыехаць яшчэ раз..."

Абвінавачвалі ў шпіянажы, судзілі і вельмі часта расстрэльвалі тых, хто, ашуканы хлуслівай прапагандай перайшоў мяжу Заходняй Беларусі, каб жыць ў "счастлівай" савецкай краіне. Для асуджаных з'явіліся кляйноты "ворага народа" і "члена сям'і здрадніка Радзімы". Як уся тэрыторыя СССР, Савецкая Беларусь стала месцам, дзе запанавалі ўсеагульная падазронасць, варожасць, даносы, паклёпы і агаворы. Большасць абвінавачаных прызнавалася ў злачынствах, якія ніколі не рабіла. Гэта быў вынік здзекаў, гвалту над імі, нясцерпных пакут.

Рэпрэсіі закранулі ўсе групы насельніцтва. Як вядома, калектывізацыя садзейнічала знішчэнню заможнага сялянства. Працэсы над "нацдэмамі" павялічылі ахвяры ў асяроддзі нацыянальнай інтэлігенцыі. Пад удар трапілі сотні краязнаўцаў, навукоўцаў, пісьменнікаў, дзеячаў музыкі, тэатру і выяўленчага мастацтва. Сярод іх – заснавальнік беларускага мастацтвазнаўства **Мікола Шчыкачыхін**, аўтар "Беларуска-рускага слоўніка" **Сцяпан Некрашэвіч**, стваральнік першай беларускай граматыкі **Браніслаў Тарашкевіч**, класік беларускай літаратуры **Максім Гарэцкі**. Страцілі жыццё 90% работнікаў беларускай Акадэміі навук, большасць выкладчыкаў БДУ, работнікаў тэатру оперы і балету, Дзяржаўнай філармоніі. У 1937-1938 гг. рэпрэсіравалі амаль усіх, хто меў дачыненне да беларускага руху і беларускай культуры. Загінулі ўсе абвінавачаныя ў прыналежнасці да так званай СВБ. Не абышлі бокам рэпрэсіі саміх камуністаў. Тысячы іх былі абвінавачаны ў самых розных, неверагодных злачынствах, пакараны або скончылі жыццё самагубствам. Ахвярамі сталі старшыня СНК БССР у 1924-1927 гг. **Язэп Адамовіч,** першы сакратар ЦК КП(б)Б у 1932-37 гг. **Мікалай Гікала**, старшыня СНК БССР у 1927-1937 гг. **Мікалай Галадзед**. "Чырвонае калесо" тэрора не шкадавала нікога, нават арганізатараў яго.

У лесе каля вёскі *Курапаты* пад Мінскам ў 1937-1941 гг. паводле розных дадзеных атрадамі Народнага камісарыята ўнутранных спраў (НКУС) было забіта ад 100 да 250 тысяч чалавек. Гэта ўрочышча, як і іншыя, – прысуд дыктатарскаму сталінскаму рэжыму. Дзесяцігоддзі рэпрэсій у Савецкай Беларусі ў канцы 20-х – 30-х гг. дэманстравалі поўную залежнасць і неабароненасць нашага народа ад гвалту і дэспатызму з боку сталінскага савецкага кіраўніцтва.

*ВАРТА ПРАЧЫТАЦЬ: АДАМУШКА У. ПАЛІТЫЧНЫЯ РЭПРЭСІІ 20-Х- 50-Х гг. НА БЕЛАРУСІ. –Мн.: Беларусь. 1994.*
*БЫКАЎ В. ЖОЎТЫ ПЯСОЧАК,*
*КАСЦЮК М, СТАЛІНШЧЫНА І БЕЛАРУСЬ. //БЕЛАРУСКАЯ МІНУЎШЧЫНА. –1995. -№7. – С.98-106.,*
*АЛЯХНОВІЧ Ф. У КІПЦЮРОХ ГПУ. – Мн.: Маст літаратура, 1994.*

# Пытанні і заданні:

**І. Балгарскі філосаф і , у свой час, прэзідэнт Балгарыі Жэлю Жэлеў у кнізе** *"Фашызм. Таталітарная дзяржава" адзначыў, што прычынай усякага культу асобы з'яўляецца ўлада: чым больш улада сканцэнтравана ў руках аднаго чалавека, тым актыўней працуе машина яго ўзвялічвання. Менавіта ўлада дазваляе яму называцца смым лепшым і самым разумным.*

**1. Прывядзіце праклады канцэнтрацыі ўлады ў руках партыі бальшавікоў за час яе знаходжання ва ўладзе. Чаму ў гэтым працэсе беларуская інтэлігенцыя бачылася ўладзе перашкодай?**

**2.Прывядзіце прыклады з эканамічнага, грамадска-палітычнага жыцця Беларусі, якія сведчаць аб таталітарызме рэжыму?**

**II. Прачытайце два ўрыўка з лістоў Янкі Купалы датаваных 1930 і 1931 гг. і адкажыце на пытанні.**

**1. Якія прычыны прывялі да спробы самазагубства вялікага паэта?**

**2. Што такое Саюз Вызвалення Беларусі (СВБ)?**

**3. Знайдзіце ў "Беларускай гістарычнай энцыклапедыі" звесткі пра нагаданыя газеты. Чаму яны ў лістах Купалы называюцца "нацыянал-фашысцкімі"?**

**4. Параўнайце змест вышэйзгаданых тэкстаў Я. Купалы, звяртаючы ўвагу на *час* напісання абодвух лістоў, *характар зваротаў* да адрасатаў, *ацэнкі*, якія дае Я. Купала. Што пры параўнанні дае падставу лічыць Я. Купалу адным з ахвяр савецкіх рэпрэсій? Абгрунтуйце свой адказ.**

**5. Што ў змесце гэтых дакументаў сведчыць аб таталітарным характары савецкай ўлады?**

З ліста ў рэдакцыю газеты "Звязда":

*"...У беларускіх контррэвалюцыйных нацыянал-фашыстскіх газетах – "Беларускі звон" ад 26.II.1931 г. і "Беларуская крыніца" ад 20.II.1931 г. было надрукавана, што я нібы быў арыштаваны і пакончыў жыццё самагубствам. "Беларускі звон" ўхітрыўся нават змясціць мой партрэт у чорнай , жалобнай рамцы ды яшчэ і некралог напісаць... Я катэгарычна пратэстую проці такой агіднай хлусні. Ніколі ніхто мяне пры Савецкай ўладзе не арыштовываў, і ніколі я не паміраў. ...З боку Камуністычнай партыі і Савецкай улады як карыстаўся, так і карыстаюся самымі прыхільнымі і ўважлівымі адносінамі..."*

**( Янка Купала Збор твораў у 7 т. - Мн., 1979. – Т.7. – С. 126.)**

З ліста да Старшыні ЦВК СССР і БССР т. Чарвякову:

*" Таварыш старшыня!*

*Яшчэ раз, перад смерцю, заяўляю, што я ў ніякай конттрэвалюцыйнай арганізацыі не быў і не збіраўся быць.*

*Ніколі не быў контррэвалюцыянерм і да контррэвалюцыі не імкнуўся. Быў толькі паўтам, які думаў аб шчасці Беларусі. Я ўміраю за Савецкую Беларусь, а не за якую іншую...*

*Я ўміраю з цвёрдай верай у вечнае існаванне Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Папрасіце ГПУ, каб не цягалі маёй жонкі. Яна таксама, як і я, ні ў чым не павінна.*

*Бібліятэку сваю перадаю Бел.Дзярж.Бібліятэцы.*

*Шчыра дзякую за ўсё тое добрае, што для мяне зрабілі партыя і ўлада.*

*Уміраю, прымаючы тое, што лепей смерць фізічная, чымся незаслужаная смерць палітычная. Відаць такая доля паэтаў... Янка Купала. Менск, 22.IX.30."*

**(З кнігі: Купала Я. Жыве Беларусь: Вершы, артыкулы.- Мн., 1993. – С. 432-433.)**

**III. Прачытайце ўрывак успамінаў паэта Сяргея Грахоўскага аб часе знаходжання яго ў турме НКУС і адкажыце на пытанні.**

**1. Што вы ведаеце аб лёсе згаданых ва ўрыўку У. Ігнатоўскага і Зм. Жылуновіча (Цішкі Гартнага)?**

**2. Як з урываку С. Грахоўскага, беларускага паэта і аднаго з вязняў сталіскіх лагераў бачна парушэнне сталінскай сістэмаю правасудззя прынцыпу “прэзумпцыі нявіннасці” ?**

**3. Вызначце і запішыце тыя спосабы, якімі карысталіся ў НКУС для ажыццяўлення масавых рэпрэсій.**

З успамінаў С. Грахоўскага: *“...І пачалося мардаванне Ігнатоўскага апрычнікамі партыйнага кіраўніцтва і чэкісцкімі катамі. Яны падштурхнулі, а можа і дапамаглі скончыць жыццё самагубствам. Потым афіцыйна абвясцілі, што ён заблытаўся ў нацыяналістычных злачынствах і спалохаўся адказнасці перад судом народа. Фальсіфікатараў і прыстасаванцаў палохала праўдзівая “Гісторыя Беларусі”... Старэйшы сын (У. Ігнатоўскага) ведаў, што яго чакае, і з’ехаў у Сібір. Абодва малодшыя, каб неяк існаваць, пайшлі рабочымі на завод... У 1935 годзе пачалося чарговае...выкарчоўванне “контрреволюционных националистов”. І мяне, неаперанага юнака, на тры месяцы закінулі ў адзночку страшэннай “амерыканкі”. Чуў я, праз дзве камеры грукаў ў жалезныя дзверы і нема выў Цішка Гартны, як галасілі да крыві спаласаваныя жанчыны, а іх валаклі ў падзямелле на пядзь залітых вадою карцэраў.*

*...Па “справе” Юркі і Валянціна Ігнатоўскіх (сыноў У. Ігнатоўскага) далучылі таксама маладога рабочага...і абвінавацілі ў падрыхтоўцы тэрарыстычных актаў супраць Гікалы, Чарвякова і Галадзеда. Іх ламалі, пакуль яны не прызналіся і не падпісалі сабе фактычна смяротны прысуд. ...Сыны Ігнатоўскага ведалі, што іх мардуюць за бацьку, а за што іх сяброў? Неабходныя былі “статысты”, каб даць 11 пункт – “арганізацыя”.”*

**(Грахоўскі С. “Мае дзяды і Радаўніцы”// Полымя. – 1996. - №2. –176-206.)**

**VI. Паспрабуйце самастойна або з дапамогаю настаўніка падабраць факты жыцця, якія ў сукупнасці, з’яўляліся прычынай ўсталявання і існавання дыктатарскай улады Сталіна і яго паплечнікаў.**

# Раздзел XIII. Беларусь пад польскай уладаю ў 20-30-я гады.

**1. Дэмаграфічная і адміністратыўна-тэрытарыяльная характарыстыка ў 20-я гг.** Беларускія землі, якія адышлі да Польшчы, атрымалі неафіцыйную назву *"Заходняя Беларусь"*. На тэрыторыі Заходняй Беларусі пражывала звыш 4 мільёнаў чалавек. Не менш паловы гэтага насельніцтва складалі беларусы. Пераважная большасць іх былі сялянамі. Беларуская інтэлігенцыя не была шматлікай з-за поўнай адсутнасці спрыяльных умоў для яе развіцця. Беларускае школьніцтва амаль не існавала. У параўнанні з 84,4% польскіх гападароў маёнткаў, беларускіх памешчыкаў было толькі 4,1%.

Уся мясцовасць Заходняй Беларусі ўваходзіла ў склад Беластоцкага, Навагрудскага, Палескага (з цэнтрам у Пінску) і Віленскага *ваяводстваў*. Яны ўключалі ў сабе цалкам або часткова 28 паветаў, якія, у сваю чаргу, дзяліліся на гміны.

На працу ў адміністратыўныя ўстановы прадстаўнікоў беларусаў прымалі вельмі рэдка. Апорай мясцовай улады былі *асаднікі*. Гэта былі перасяленцы з цэнтральнай Польшчы, большай часткай былыя вайскоўцы, якім дзяржава давала зямлю.

Беларускія землі былі месцам каланізатарскай палітыкі дзеля аб'яднання іх з Польшчай і ўвядзення ў гаспадарчы абарот яе зямель. Гэтаксама ж дадзеныя тэрыторыі разглядаліся Польшчай у якасці буфера пры магчымым канфлікце з СССР.

**2.Правядзенне эканамічнай палітыкі ў 20-я гг.** З самага пачатку знаходжання ў складзе Польшчы беларускія землі апынуліся на паўкаланіяльным становішчы. Гэта выцякала з эканамічнай палітыкі польскага ўрада. Ён разглядаў "усходнія крэсы" ў якасці аграрна-сыравіннага прыдатку больш развітых прамысловых раёнаў Польшчы. Таму ў Заходняй Беларусі не вялося буйнога прамысловага будаўніцтва. Пераважнае месца займала дробная індустрыя. Спецыялізацыя гэтых прадпрыемстваў была скіравана на перапрацоўку прадукцыі сельскай гаспадаркі. Такімі былі харчовая і дрэваапрацоўчая галіны, якія аб'ядналі 2/3 усіх прадпрыемстваў і рабочых.

Аб паўкаланіяльным становішчы сведчылі і ўмовы працы людзей. За 10-12-ці гадзінны рабочы дзень рабочыя атрымлівалі ў 1,5-2 разы менш, чым рабочыя з іншых раёнаў Польшчы. Цяжкімі былі ўмовы жыцця, на якое не жадалі траціць грошы гаспадары прадпрыемстваў.

Некаторае паляпшэнне становішча стварыў прамысловы ўздым у 1926-1928 гг. у Польшчы і іншых краінах Еўропы, ён быў звязаны з павышаным попытам на прамысловыя тавары і патрэбамі экспарту.

У сельскай гаспадарцы Заходняй Беларусі спачатку назіралася павелічэнне буйнога памешчыцкага землеўладання і масавае збядненне сялянства. Вялікую частку заходнебеларускіх тэрыторый (каля 40%) складалі неспрыяльныя для сельскай гаспадаркі землі – неўрадлівыя, балоты і лясы.

Як у XIX стагоддзі, існавала сервітутнае права. Яно рабіла больш натуральнымі адносіны паміж памешчыкамі і сялянамі, аднак давала магчымасць сялянам мець у гаспадарцы некалькі галоў свіней і быдла. Натуральная гаспадарка амаль панавала на вёсцы. Пад дахам сялянскай гаспадаркі саматужна выраблялiся льняное палатно, бялізна, вопратка, абутак, прылады працы, посуд. Звычайнаю з'яваю былі лапці. Прадукты на стале сялян - гэта капуста, бульба, хлеб уласнага гатунку. Голад на гэтай тэрыторыі Польшчы, асабліва ў пераджнівеньскі час, пастаянна спадарожнічаў насельніцтву. **(З кнігі Я. Міранові ча "Навейшая гісторыя Беларусі")**

У 1920 г. польскі ўрад распачаў зямельную рэформу. Улады правялі продаж дробных участкаў дзяржаўнай і панскай зямлі асаднікам. Асадніцкія гаспадаркі стваралі хутары з надзеламі ад 10 да 45 га. У той жа час больш паловы сялянскіх гаспадарак мела менш 5 га зямлі кожная. Рэформа зменшыла буйное землеўладанне і дала магчымасць набыць зямлю сераднякам і, нават, некаторым беднякам. Адначасова шмат сельскагаспадарчых рабочых, дробных арандатараў, якія пражывалі на гэтых землях, сталі беспрацоўнымі.

Беларусы складалі самую вялікую групу рабочых у памешчыцкіх маёнтках. Насельніцтва мястэчак і гарадоў было ў вялікай колькасці яўрэйскім. Менавіта ім належала большасць рамесных майстэрняў. У іх жа руках знаходзіўся гандаль. Заставалася звычайным прыстасаванне вяскоўцаў да местачковага і гарадскога ладу жыцця, якое вызначалася іудзейскім календаром.

Эканамічнае жыццё Заходняй Беларусі ў 20-я гг. сведчыла не толькі аб стрымліванні тэмпаў развіцця, а нават аб вяртанні гаспадаркі назад, у феадальныя адносіны і лад жыцця. Стаўленне польскага ўрада да беларускага рэгіёна Польшчы як да другаснага не стварала перспектывы яго развіцця.

**3. "Беларуская тэма" у палітыцы польскага ўраду ў 20-я гг.** Паводле Рыжскага мірнага дагавору Польшча абавязана была дазволіць народам тэрыторый, якія адышлі да яе, карыстацца ўсімі правамі, якія б забяспечвалі свабоднае развіццё культуры мовы і веравызнання. Аднак з самага пачатку палітыка цэнтральных і мясцовых улад адносна Заходняй Беларусі прыняла зусім іншыя рысы. Ва ўмовах парламентскага кіравання Польшчы з 1921 па 1926 гг. не была рэалізавана ніводная праграма нацыянальнай палітыкі. Шматразовыя змены ў кіраўніцтве міністэрстваў, якія адказвалі за правядзенне такой палітыкі, вялі да фактычнага яе правядзення мясцовымі ўладамі. Мясцовыя ж ўлады бачылі ў беларусах прадмет для апалячвання.

Сілай, якая спрыяла паланізацыі, былі асаднікі. Часта яны выконвалі абавязкі *солтысаў*, войтаў, лаўнікаў. У выпадку патрэбы яны абавязаны былі дапамагаць войску, лясной ахове, прымаць удзел у аблавах

на партызан. Прысутнасць дзесяткаў тысяч асаднікаў толькі павялічвала напружанасць паміж уладамі і мясцовым насельніцтвам.

Каталіцкая царква стала інструментам у руках польскай улады ў правядзенні палітыкі паланізацыі. На беларускіх тэрыторыях Польшчы дзейнічалі тры *дыяцэзіі (тое, што і епархія)* – Віленская, Пінская і Ломжынская. Праваслаўныя храмы ператвараліся і, нярэдка, перабудоўваліся ў каталіцкія. У 1930 г. з 500 праваслаўных храмаў 300 было аддадзена па суду каталіцкай царкве. Згодна з распараджэннем міністэрства грамадскай адукацыі ў 1926 г. каталіцызм у кожнай школе стаў абавязковым. Бадай, у кожным горадзе Беларусі выдаваліся каталіцкія газеты, часопісы або рэлігійныя лісткі.

Вялікую ўвагу мясцовыя ўлады надавалі падбору кадраў каталіцкіх святароў. Гэта невыпадкова, бо менавіта ад дзейнасці ксяндзоў залежаў уплыў на свядомасць вернікаў, зацвярджэнне польскай культуры і ідэі польскай дзяржаўнасці. Трэба ведаць, што ў Заходняй Беларусі дзейнічаў шэраг беларускіх каталіцкіх святароў. Яны былі цесна звязаны з народам, ведалі яго патрэбы, валодалі пераканаўчай сілай роднага слова. Сярод іх быў уладар прыходу касцёла ў Жодзішках Свянцянскага павету **Вінцэнт Гадлеўскі**. У Дзісненскім, Браслаўскім паветах, Дзярэчыне вёў набажэнства на беларускай мове ксёндз **Адам Станкевіч**. Гаварыў казанні па-беларуску святар **Язэп Германовіч**, за што, як і яму падобныя, падвяргаўся ганенням з боку польскіх улад.

У Заходняй Беларусі пастаянна парушаліся абвешчаныя польскай канстытуцыяй 1921 г. свабода слова, друку, арганізацый. Панавала самаволле паліцыі і чыноўнікаў. На пачатак 30-х гг. у турмах Польшчы знаходзілася больш 10 тысяч палітзняволеных.

**4.Эканамічная і нацыянальная палітыка ў 30-я г.** У 30-я гг. эканоміка Заходняй Беларусі працягвала існаваць у рэчышчы палітыкі польскіх улад. Яе становішча пагоршылася з-за ўсталявання дыктатуры Юзэфа Пілсудскага і вынікаў сусветнага эканамічнага крызісу 1929-1933 гг. Яшчэ больш зменшылася заробная плата і павялічылася беспрацоўе.

У выніку так званай *камасацыі,* або хутарызацыі павялічалася расслаенне сялян. У пачатку 30-х гг. беднякі складалі каля 70%, серадннякі – 23%, а заможныя сяляне і асаднікі – больш 6%. Хутары аб'ядноўвалі 40% гаспадарак і спрыялі заможным сялянам. Да 1938 г. былі скасаваны сервітуты.

У 1934 г. быў створаны канцэнтрацыйны лагер для палітвязняў у Бярозе Картузскай. Для падаўлення сялянскіх выступленняў улады нярэдка пасылалі спецыяльныя карныя экспедыцыі, праводзілася так званая *"паціфікацыя"*(уціхамірванне). Адбываліся бязлітасныя расправы над сялянамі бунтуючых вёсак, масавае збіванне насельніцтва. Звычайнымі сталі паліцэйскія праследаванні дзейнасці беларускіх гурткоў, клубаў ТБШ і "Змаганне". У 1936 г. дзейнасць ТБШ была забаронена, а праз два гады ў Заходняй Беларусі фактычна не было ніводнай беларускай арганізацыі.

У выніку антыбеларускай нацыянальнай палітыкі каля 13% дзяцей школьнага ўзросту не мелі магчымасці наведваць школы. Праводзілася асімілятарская палітыка ў адносінах да беларусаў. Гэта нараджала страх у дачыненні да польскага настаўніка, чыноўніка, суддзі.

Польскія ўлады мелі магчымасць планамерна праводзіць такую жорсткую палітыку, карыстаючыся пралікамі, слабасцю і адсутнасцю адзінства ў беларускім нацыянальна-вызваленчым руху.

# Пытанні і заданні:

**I. Прачытайце ўрыўкі з перапіскі гмінных і павятовых чыноўнікаў рад і ашмянскага староства аб эканамічным становішчы на Смаргоншчыне ў 1919 1923 гг. і адкажыце на наступныя пытанні:**

1. **Вызначце з дакументаў праявы эканамічнай разбурэння і заняпаду.**
2. **Якія прычыны з'яўлення такой вялікай колькасці бяздомнага насельніцтва?**
3. **Сфармуліруйце праблемы, якія паўставалі перад бальшавіцкай і польскай уладамі ў краі, зыходзячы з азначанага ў дакументах стану рэчаў? Суаднясіце гэтыя праблемы з палітыкай улад на беларускіх землях. Якія высновы можна зрабіць?**

*"У адказ на пісьмо... паведамляю, што ў Крэўскай гміне маецца 300 чалавек бяздомных...Дакладаю пану начальніку, што ў Смаргоньскай гміне туляцца 2000 чалавек бяздомных ці 400-500 сем'яў. Канкрэтны спіс па кожнай вёсцы скласці немагчыма, бо многія з іх займаюцца папрашайніцтвам, каб хоць як-небудзь пракарміцца ці жывуць ў вёсках гмін. Дамоў ці баракаў ў гміне, у якіх можна было б размясціць бяздомных на зіму, няма. Ёсць толькі адзін дом у засценку Маршалкава, у якім можна размясціць 3-4 сям'і ці 20-25 чалавек і*

*адзін дом у в. Мацюляны, дзе раней была школа... Сваім пісьмом я звяртаюся з просьбай аб дапамозе жыхарам Смаргоньскай і Крэўскай гмін. Ніжайша прашу перадаць усе баракі ваеннага паходжання ў гэтыя гміны з іншых гмін староства для будаўніцтва тут часовых шпіталяў і кухань. Бо жыхары гэтых гмін найбольш хварэюць на тыф і іншыя хваробы ў выніку бруду і пераахалоджавання. Бяздомнае насельніцтва вымушана мясціцца ў халупах ў стане самай жахлівай беднасці – большасць не мае нават бялізны. Такіх найбяднейшых у Смаргоньскай гміне 600 сямей, у Крэўскай – да 400 ...*
*У Крэўскай гміне прыступілі да рамонту дарогі Смаргонь – Крэва. На адлегласці 2 км ад Крэва знаходзяцца 2 цэментовыя бліндажы, якія можна “адсунуць” толькі пры дапамозе дынаміну. Староства гэтую работу не мае сродкаў зрабіць. Просім дапамагчы... У сувязі з выкананнем распараджэння ад 1923 г., рапартую, што павятовая дарога Крэва-Смаргоньз’яўляецца самой лініяй руска-нямецкага фронту, у сувязі з чым знаходзіцца ў надзвычай разбураным стане: перакапана ўздоўж і ўпоперак акопамі і ямамі ад снарадаў, на ёй сёння знаходзяцца жалезабетонныя бліндажы, разборку якіх можна было б выканаць пры дапамозе ўзрыву. …Яе кірунак у многіх месцах адыходзіць ад першапачатковага кірунку і праходзіць праз палі,... прычым з абодвух бакоў растуць густыя кусты, сярод якіх пастаянна знаходзяць розныя выбуховыя рэчывы – снарады, гранаты, шрапнель і г.д.. Масты па дарозе спалены і паўзрываныя ў час вайны... Давядзенне дарогі да даваеннага стану запатрабавала б сёння міліярдных сум, бо перад вайной яна была ўся забрукавана, адна з лепшых у павеце...”*
**( Занальны дзяржаўны архіў у г. Маладзечна,ф . Р-4.//у кнізе Памяць:Гіст-дакум. Хроніка Смаргоньскага раёна. – Мн., 2004. – С. 149, 175-176.)**

**ІІ. Складзіце паведаленне “Паўкаланіяльны стан Заходняй Беларусі ў складзе Польшчы ў 20-я гг.**

**ІІІ. Прачытайце наступныя фрагменты з успамінаў беларускіх сялян Беластоцкага ваяводства і Смаргоньскага раёна і адкажыце на пытанні.**

1. **Якія рысы эканамічнай палітыкі ў Заходняй Беларусі яны адлюстроўваюць?**
2. **Што ў іх змесце дапаўняе карціну тагачаснага сялянскага жыцця?**

*“***Селянін Арсень Лушч***: “У 1921 г. пайшоў я ў школу. Усе дзеці звычайна хадзілі басаног. Да школы бацька зрабіў мне шнураваныя лапці. Калі настаўнік Врублеўскі пабачыў іх, жахнуўся і падараваў мне сапраўдныя боты. У школу хадзіў я чатыры гады, але ў пяты клас мяне не перавялі, бо я прапусціў многа ўрокаў. Тады бацьку моцна пабілі коні і мне трэба было яго заступіць на гаспадарцы.*

*У першым класе не было ў нас ні кніжак, ні сшыткаў. Спачатку пісалі мы на драўляных дошках пры дапамозе “грыфеляў”. Потым з’явіліся сшыткі, якія насіў я ў пашытым маці мяшку са шлейкай…”*

“**Селянін Назар Таранта**: *“На радзіму (з бежанства) вярнуліся мы зімою 1921 г…У школу хадзіў я толькі некалькі месяцаў – ад зімы да вясны – і выключна таму, што ў школе давалі суп. Бацька прадаў тры дзесяціны зямлі на калёніі і купіў за гэта каня і карову. Людзі хадзілі ў самаробным драўляным абутку, а пасля толькі з’явіліся гумавыя боты.”*

“**Надзея Руско з Белавежы**: *“У Белавежы чакалі нас жудасныя навіны. ...засталіся без жылля і сродкаў на ўтрыманне. Пасяліліся мы ў пакінутым немцамі бараку. Дапамагалі суседзі. Адзін яўрэй пазычыў грошы на каня, другі даў карову на тры гады. Працавалі таксама ўсе дзеці. Старэйшыя дзяўчаты вывозілі з бацькам дрэвы з лесу. Я, 12-гаодавае дзяўчо, мела абавязак пілаваць дровы з малодшым братам і варыць абед. Мары пра дальнейшую вучобу ў гэтых умовах здзейсніць было нельга. Мне прыйшлося апекавацца малодшымі дзецьмі, хадзіць на пасадку лесу, памагаць пры сенакосаў, жніве, капанні бульбы. У 1921 г. бацька паставіў дом, але пасяліліся мы толькі ў палове дома. Другую палову здавалі квартарантам. У Белавежу прыбывалі тады палякі на працу ў Дырэкцыю лясоў і найманне кватэр вельмі аплачвалася збяднелым белавежцам…”*

“**Мікалай Чарнецкі:** *“...Старэйшы брат каля бруку рабіў: жыдам на падворках клаў. І частку дзялкі ксёдзавай, што раней дзякава была, адраблялі. Каней наймалі. Потым трэба было за ўсё плаціць, то плацілі адробкамі. Свае зямлі мы не мелі, атрымалі толькі як рэформа рольна (сельскагаспадарчая) была: паўгектара зямлі і паўгектара лонкі (пашы).”*
**( з кнігі “ Бежанства 1915 года”)**

“**Васіль Міжыгурскі, (Смаргоньскі раён)**: *“У бацькі было 6 дзяцей і зямлі 6 га. Сям’я лічылася не самай беднай. Не галадавалі, хлеба было ў дастатку. Але працавалі ад ранку да позняга вечара. Трэба было рабіць і на пана, каб зарабіць нейкія грошы і купіць абутак, верхнюю вопратку, сельгасінвентар і г.д. Пан плаціў за дзень на жніве 2 злотыя, за касьбу – 2 злотыя. Працавалі і на іншых сезонных работах у паноў... А яшчэ ж трэба было і падатак у казну польскую заплаціць. У бацькавай гаспадарцы было 3 каровы, конь. Але каровы давалі малака мала, бо дрэнна карміліся і зімой і ўлетку. Зямля была падзелена на шнуры. Калі пачалася хутарызацыя, дык як каму папала. Калі зямля была добрая, дык селянін быў рад, бо ўвесь кавалак зямлі быў пры хаце. Але, калі зямля была дрэнная, то зусім бяднеў селянін. Наогул людзі не хацелі хутарызацыі, бо яны пазбаўляліся магчымасці карыстацца* ***сервітутамі**.* **( успомніце, што гэта такое?)**. *Самай галоўнай каштоўнасцю для селяніна была зямля. Яна прадавалася, але каштовала вельмі дорага. Ездзілі зарабляць грошы ў Амерыку. Так. У вёсцы Лашаны многія людзі купілі зямлі... Многія наслухаўшыся агітацыі бальшавікоў, паехалі ў Расію. Адтуль ніхто з іх не вярнуўся. Праз многа гадоў павярталіся толькі жонкі з дзяцьмі. Сярод гэтых людзей былі былыя члены КПЗБ… і простыя людзі. Усе яны загінулі ў СССР. Палякі хацелі каб беларусы пераходзілі ў каталіцкую веру. За гэта ў Сівіцы , напрыклад, давалі па 10 кг пярлоўкі. А бедняку было ўсё роўна, абы бруха набіць. Школы толькі польскія...Пачатковая адукацыя была бясплатная...”*
**( з кнігі “Памяць: Гіст-дакум. Хроніка Смаргоньскага раёна. – Мн., 2004. - С. 192.)**

**III. Прачытайце ўрывак з успамінаў аднаго з дэпутатаў беларускай фракцыі Сейму Васіля Рагулі і адкажыце на пытанні.**

1. **Як паказаная праца Сейму характарызуе настроі, што панавалі ў польскіх палітычных колах у дачыненні да беларускіх земляў?**
2. **“Аб якіх “Крэсах” ідзе гаворка?**

“Пачалася праца Сойму. У паасобных галінах заканадаўства былі створаны камісіі. У кожную камісі з іх увайшоў адзін беларус. Я запісаўся ў зямельную камісію. Бяручы ўдзел у ейных працах, я хутка пераканаўся, што нам няма чаго чакаць ад польскага Сойму. Камісія моцна стаяла на пункце падтрымкі польскага элементу на “Крэсах” – вайсковых асадніках, ды ўзмацнення гэтага элементу цывільнымі асаднікамі шляхам субсідыравання іх Дзяржаўным банкам. Усе, нават, дробныя, папраўкі з беларускага і ўкраінскага боку камісія ўпарта адхіляла. На мае доказы, што ў нас пануе зямельны голад, што ў нас няма свабоднай зямлі, што ў нас цана за зямлю дайшла да неймавернай лічбы – 225 даляраў за гектар, я чуў адказ: “Калега, дазвольце вам не верыць. Такой цаны нідзе няма ў Польшчы. На “Крэсах” хопіць зямлі і для вас і для нас.” Не лепш было і ў другіх камісіях. Голас беларуса і ўкраінца быў голасам гукаючага ў пустыні.”

# Раздзел XIV. Беларускі вызваленчы рух у Польшчы.

**1. Нацыянальна-дэмакратычны і рэвалюцыйна-вызваленчы рух ў 20-я г.** Палітыка польскіх улад была накіравана на ўсе слаі беларускага грамадства. І рэакцыяй на такую палітыку стала супраціўленне ёй. Толькі розныя групы і арганізацыі грамадства карысталіся рознымі формамі і метадамі барацьбы. Пры агульным прыніжэнні, прыгнечаным становішчы адзінства сярод прадстаўнікоў нацыянальна-вызваленчага руху, на жаль, не было.

Такія беларускія палітыкі, як **Браніслаў Тарашкевіч, Антон Луцкевіч, Сымон Рак-Міхайлоўскі, ксёндз Адам Станкевіч, Аркадзь Смоліч**, лічылі рэальнай і дзейснай легальную барацьбу за правы беларусаў у польскім парламенце. Імі ў **1921 г.** быў створаны *Беларускі палітычны камітэт (БПК).* На пажаданні БПК аб развіцці беларускай асветы прэзідэнт Юзаф Пілсудскі і тагачасны прэм'ер-міністр Антон Панікоўскі не прапанавалі нічога. Тады лідары БПК паставілі задачай удзельнічаць у выбарах у Сейм. У *1923 г.* беларускія групоўкі атрымалі 11 мандатаў дэпутатаў у Сейм і тры мандаты ў Сенат. З дэпутатаў-беларусаў быў створаны *Беларускі пасольскі клуб* на чале з Браніславам Тарашкевічам. Вось толькі палымяныя прамовы беларускіх выступоўцаў на пасяджэннях Сейму і Сената поўнасцю ігнараваліся польскімі парламентарыямі і чарговымі ўрадамі. Найбольш вострымі выглядалі выступленні Браніслава Тарашкевіча, Антона Станкевіча, Васіля Рагулі, Фабіяна Ярэміча. Няўдача ў парламенцкай барацьбе прымусіла павярнуцца яе ўдзельнікаў да больш актыўных формаў палітычнай дзейнасці.

У той жа час пачатку 20-х гг. уплыў на беларускі народ імкнуліся аказваць такія партыі, як **Камуністычная партыя Заходняй Беларусі (КПЗБ)** і **Беларуская Рэвалюцыйная Арганізацыя (БРА);** апошняя неўзабаве ўвайшла ў склад КПЗБ. КПЗБ была створана ў **1923 г.**, а БРА ўтварылася на год раней з ліку былых беларускіх эсэраў, якія стаялі на блізкіх да камуністаў пазіцыях. Для існавання камуністычнага руху ў Заходняй Беларусі ажыццяўлялася моцная арганізацыйная, палітычная і фінансавая падтрымка з боку кіраўніцтва Савецкай Беларусі і ЦК КП(б)Б. Палітычным лідарам БРА, а пазней КПЗБ стаў **Іосіф Лагіновіч**. Важнай апорай у барацьбе камуністаў Заходняй Беларусі была моладзь. Частка яе аб'ядноўвалася ў **камсамол Заходняй Беларусі (КСМЗБ)**. Сярод маладога пакалення было нямала тых, хто бачыў у барацьбе галоўны сэнс жыцця пад польскай акупацыяй. Такімі былі **Вера Харужая, Сяргей Прытыцкі** і сотні іншых.

**Вера Харужая.** Нарадзілася ў г. Бабруйску. У 1919 г. настаўнічала на Палессі. У 1920 г. у складзе камуністычнага батальёна ўдзельнічала ў барацьбе з атрадамі Булак-Балаховіча, працавала ў Мазырскім і Бабруйскім камітэтах камсамола. Скончыла Цэнтральную саўпартыйную школу ў Мінску. З лютага 1924 г. на падпольнай працы ў Заходняй Беларусі. Член ЦК КПЗБ. У 1925 г. арыштавана за рэвалюцыйную дзейнасць польскімі ўладамі. У 1927 г. прыгаворана да 6 гадоў зняволення, у 1928 г. – да 8 гадоў турмы. На судовых працэсах выступала з палітычнымі прамовамі ў абарону КПЗБ. У выніку абмену паміж СССР і Польшчай палітзняволенымі з 1932 г. у Мінску. З пачаткам нападу фашысцкай Германіі на СССР В. Харужая – партызанка атрада Васіля Каржа. У жніўні 1941 г. як сувязная перайшла цераз лінію фронту ў савецкі тыл. У верасні 1942 г., пакінуўшы малых дзяцей, накіравалася на чале спецгрупы ў варожы тыл. Стварыла і ўзначаліла групу Віцебскага камуністычнага падполля. У лістападзе 1942 г. арыштавана і закатавана фашыстамі. Пасмяротна ёй прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

З дзейнасцю узбуйненай КПЗБ вызваленчы рух стаў арганізаваным і заняў больш непрымірымыя да ўлад пазіцыі. Менавіта пад яе кіраўніцтвам дзейнічала большасць партызанскіх атрадаў.
*ВАРТА ПРАЧЫТАЦЬ: ЯКУТОВ В. СЕРГЕЙ ПРИТЫЦКИЙ. – Страницы биографии. – Мн.: Беларусь. 1991.*

Побач з камуністычнай партыяй дзейнічаў шэраг нацыянальных партый. Агульным для ўсіх нацыянальных партый было патрабаванне нацыянальных правоў, утварэнне незалежнай Беларускай дэмакратычнай рэспублікі. Гэта супрацьпастаўлялася ідэі КПЗБ аб аб'яднанні Заходняй Беларусі з БССР. Аднак частка нацыянальных лідараў, такіх як **Аляксандр Цвікевіч, Паўліна Бадунова, Вацлаў Ластоўскі,** праяву будучай незалежнай Беларусі бачыла ў беларусізацыі БССР.

Уласныя погляды мелі **беларускія хрысцянскія дэмакраты (БХД)** з лідарамі Адамам Станкевічам і Вінцэнтам Гадлеўскім. З апораю на дробную буржуазію, каталіцкае сялянства гэта партыя выступала за капіталістычны шлях Беларусі. На блізкай, але менш рэлігійнай пазіцыі стаяла **Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя** з Антонам Луцкевічам, Браніславам Тарашкевічам і іншымі. Сваіх прыхільнікаў яны знаходзілі сярод нешматлікай нацыянальнай беларускай інтэлігенцыі. Значны ўплыў сярод насельніцтва Заходняй Беларусі, асабліва каталіцкай яе часткі, мелі **Польская партыя сацыялістычная (ППС) і сялянская партыя "Вызваленне"**. У сваіх праграмах яны прапаноўвалі папулярную ідэю перадачы памешчыцкіх зямель у арэнду сялянам, змяншэнне падаткаў для незаможнай часткі сялянства.

На працягу нацыянальна-вызваленчай барацьбы яе лідары змянялі свае погляды пад уплывам розных палітычных падзей. У **1926 г.** па ініцыятыве вядомага Браніслава Тарашкевіча і пры падтрымцы яго паплечнікаў з Беларускага пасольскага клуба была створана **Беларуская Сялянская-Рабочая Грамада (БСРГ)**. Сярод патрабаванняў яе праграмы адметнымі былі канфіскацыя панскіх зямель, скасаванне

асадніцтва, арганізацыя школьніцтва на роднай мове. У тым жа 1926 г. у Польшчы адбыўся дзяржаўны пераварот, у выніку якога была ўсталявана дыктатура Юзафа Пілсудскага. КПЗБ і Грамада выступілі разам супраць дыктатуры. Грамада хутка павялічвала сваю папулярнасць і стала самай шматлікай партыяй. Колькасць яе сяброў складала 120 тысяч чалавек.

У ліку актыўных прыхільнікаў дзейнасці Грамады было створанае ў 1921 г. **Таварыства беларускай школы (ТБШ)**. Яно самое па сабе мела ў 1928 г. больш 14 тысяч сваіх прадстаўнікоў.

**Арганізацыя:**

ТБШ – асяродак культурнай і асветніцкай актыўнай беларускай грамадскасці Заходняй Беларусі. Дзейнічала з 1921 па 1936 гг. У склад ТБШ у розныя часы ўваходзіла нямала яскравых дзеячаў беларускага Адраджэння. Сярод іх - Антон Луцкевіч, Радаслаў Астроўскі, Ігнат Дварчанін, Аляксандр Уласаў, Флягонт Валынец, Антон Неканда-Трэпка. Дзейнасць ТБШ моцна ўплывала на вызваленчы рух. Праз розныя формы – дэпутацкую дзейнасць у сойме, выдавецкую дзейнасць ("Бюлетэнь ТБШ", "Летапіс ТБШ"), супрацоўніцтва з партыямі – Таварыства стала самай масавай дэмакратычнай грамадскай арганізацыяй, Заходняй Беларусі. Вынікамі працы ТБШ былі кнігавыдавецтва, у тым ліку падручнікаў, арганізацыя, пераважна ў сельскай мясцовасці, каля 500 гурткоў, правядзенне кампаніі па збору заяў аб адкрыцці беларускіх школ. Было пададзена да 1928 г. больш за 30 тысяч заяў.

У адказ на вызваленчы рух польскімі ўладамі ў 1927-1928 гг. быў нанесены моцны ўдар па дзейнасці партый. Пачаліся масавыя арышты камуністаў і грамадаўцаў. Услед пацягнуліся судовыя працэсы над імі. БСРГ была забаронена ў 1927 г. Судовыя працэсы над лідарамі КПЗБ і Грамады ў 1928 г. сур'ёзна аслабілі нацыянальна-вызваленчы рух. Дзесяткі барацьбітоў былі кінуты за краты. Дваццатыя гады ў Заходняй Беларусі сталі перыядам розных праяў вызваленчага руху. Па сваіх мэтах і сродках барацьбы гэты рух можа быць умоўна падзелены на *рэвалюцыйна-вызваленчы і нацыянальна-дэмакратычны* напрамкі. Рэчаіснасць паказала, што складаныя ўзаемадзеянні паміж рознымі палітычнымі партыямі Заходняй Беларусі і Польшчы не спрыялі адзінству беларускага нацыянальнага руху. Гэтыя слабыя бакі з поспехам выкарыстоўвала польская ўлада.

**2.Поспехі і паражэнні вызваленчага руху.** На працягу 20-х гг. беларускія палітычныя партыі і групоўкі назапасілі значны вопыт барацьбы. Ён быў вельмі дарэчы, бо ў дзесяцігоддзе трыццатых іх дзейнасць праходзіла ва ўмовах яшчэ большага праследу і палітычнай рэакцыі.

У 30-я гг. змяніліся міжнародныя абставіны, якія ўплывалі на вызваленчы рух у Заходняй Беларусі. Ва ўладу шэрага краін прыйшлі фашысты. Рэфармісцкія партыі, накшталт ППС, Бунда і іншыя, недальнабачна былі аб'яўлены Камінтэрнам сацыял-фашысцкімі, апораю фашызму.

**Успомніце з гісторыі Камінтэрна гэтага часу, якая падстава была для такіх абвінавачванняў?**

Несправядліва былі абвінавачаны камуністамі ў буржуазным нацыяналізме прадстаўнікі ТБШ і Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі. Гэтыя палітычныя памылкі моцна аслаблялі вызваленчую барацьбу за дэмакратычныя каштоўнасці ў Польшчы.

КПЗБ была самай уплывовай арганізацыяй сярод беларускага сялянства. Яе галоўным прываблівым бокам было адмаўленне польскай дзяржаўнасці. Сяляне бачылі ў КПЗБ прыхільніка Расіі і СССР, якія ў культурным, рэлігійным, псіхалагічным плане былі праваслаўнаму грамадству бліжэй, чым Польшча. Камуністы мелі сродкі і разгалінаваную сетку мясцовых арганізацый. Масава вырас актыў партыі. У яго склад уваходзілі навукоўца **Ігнат Дварчанін**, пісьменнік **Піліп Пястрак**, кіраўнік КСМЗБ **Сяргей Прытыцкі**, заснавальнік радашковіцкай гімназіі, сябра ТБШ **Язэп Гаўрылік**, **Уладзімір Царук** і шмат іншых.

КПЗБ кіравала шматлікімі выступленнямі сялян, якія былі супраць камасацыі, падаткаў, ліквідавання сервітутаў. Уздым сялянскага руху прыйшоўся на 1931-1933 гг. У 1936-1937 гг. найбольшай масавасці дасягнуў рабочы рух. Гэта таксама было вынікам намаганняў камуністаў і павярнуўшых да іх ППС і Бунда.

30-я гг. сталі часам сапраўднага выпрабавання для нацыянальных беларускіх партый. У 1932 г. адбыўся абмен палітвязнямі паміж Польшчай і БССР. У Савецкай Беларусі атрымалі палітычнае сховішча лідары БРА, Грамады, клуба "Змаганне" Сымон Рак-Міхайлоўскі, Браніслаў Тарашкевіч, Ігнат Дварчанін, Язэп Гаўрылік. Але, неўзабаве, у час уздыму рэпрэсій у СССР, яны былі асуджаны па наўмысных, ілжывых абвінавачваннях.

Аднак на дзейнасць заходнебеларускіх камуністаў трагічна паўплывалі палітычныя падзеі культа асобы ў СССР. У **1938 г.** Выканкам Камінтэрна пад уплывам сталінскага кіраўніцтва неабгрунтавана распусціў камуністычную партыю Польшчы і яе секцыю КПЗБ. Іх лідары былі ілжыва абвінавачаны Камінтэрнам ў супрацоўніцтве з польскай разведкай. У выніку страшэнны ўдар прыйшоўся па ўсяму вызваленчаму руху Заходняй Беларусі. Рэпрэсіям падвергліся больш за 200 актывістаў КПЗБ, якія ў свой час перайшлі польска-савецкую мяжу, шукаючы сховішча ў СССР. За краты сталінскіх лагераў трапілі Іосіф Лагіновіч, Вера Харужая, Адам Савіцкі. Ад такога ўдару беларускі нацыянальна-вызваленчы рух не змог акрыяць.

У 1929-1930 гг. актывізіравалася дзейнасць палітычнай групы Антона Луцкевіча і тагачаснага дырэктара Віленскай гімназіі Радаслава Астроўскага. У свой час яны былі звязаны з Грамадой, а зараз прапаноўвалі ідэю супрацоўніцтва з польскай *санацыяй.*

У 1926-1939 гг. у Польшчы дзяржаўны рэжым атрымаў назву санацыі. Паходзіць гэта назва ад лацінскага слова sanatio - аздараўляць. Сувязь гэтага медыцынскага тэрміна з палітыкай у Польшчы ў тым, што улада

Ю. Пілсудскага абараняла інтарэсы польскіх магнатаў. Стаўленне да СССР у яе было варожым. Нацыянальна-вызваленчы рух бачыўся для яе праяваю бальшавіцкага ўплыву, спробаю распаўсюдзіць ідэі камунізму. Для "ачышчэння" ад усяго гэтага польскія ўлады актывізавалі сваю барацьбу. Гэта знайшло праяву ў нацыянальным і сацыяльным прыгнёце, вядомых палітычных працэсах, пашырэнні палітыкі паланізацыі і асіміляцыі. Беларускаму этнасу санацыйныя ўлады ўвогуле адмаўлялі ў існаванні.

Імкненнем польскіх улад было стварыць беларускі лаяльны да ўрадавай палітыкі беларускі цэнтр, прыцягнуўшы для гэтага Беларускі студэнцкі саюз, Беларускае навуковае таварыства, Беларускі настаўніцкі саюз і іншыя арганізацыі. Накірунак дзейнасці Луцкевічу і Астроўскаму бачыўся ў культурна-асветніцкай рабоце. Але гэтая арганізацыя, як і ўсе іншыя беларускія партыі пасля 1927 г., не мела вялікай грамадскай падтрымкі.

У выніку шматгадовай, руплівай, мужнай, самаадданай дзейнасці барацьбітоў былі дасягнуты пэўныя поспехі ў арганізацыі антыпольскага сялянскага і рабочага руху, беларускай асветніцкай дзейнасці. Але партыі не змаглі знайсці спосабаў аб'яднання сваіх намаганняў. Ва ўмовах спланаванай асіміляцыі беларусаў, рэпрэсій з боку Польшчы і сталінскага рэжыму ў СССР вызваленчы рух панёс вялікія страты. Калі ў 20-я гг. у разгортванні партызанскай барацьбы ў Заходняй Беларусі важнае месца мела кадравая і матэрыяльная падтрымка з боку СССР і БССР, то ў 30-я гг. становішча змянілася. Камуністычны рух быў знішчаны.

Увесь ход вызваленчай барацьбы сведчыў пра непрыйманне народам Заходняй Беларусі свайго знаходжання ў складзе Польшчы і нязменнае жаданне злучэння ў адзіную Беларусь.

# Пытанні і заданні:

**I. Сфармулюйце мэты і вынікі ўдзельнікаў нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі ў 20-я гг. Што ў гэтым руху можна лічыць паспяховым? Чаму?**

**II. Прачытайце ўрыўкі з агентурнай перапіскі паліцыі аб звестках пра праявы вызваленчага руху на Смаргоньшчыне і адкажыце на пытанні:**

1. **Вызначце з тэкста сродкі супраціўлення ўладам.**
2. **Паразважаце, якія сродкі барацьба перавалі: пасіўныя або актыўныя? Чаму?**

*"**З прагавору віленскага акруговага суда па справе аб выступленні сялян в. Валэйкавічы Сольскай гміны 22 кастрычніка 1925 г....:** Жыхароў в. Валейкавічы... за ўдзел у публічным зборышчы, якія разам, пад час зямельных работ у маёнтку Шафнагеля зрабілі гвалт у дачыненні асобы намесніка А. Палешчука і ўладара маёнтка Шафнагеля, а таксама паліцэйскіх Ю. Ціхоні і У. Гемблі, што прысутнічалі для забеспячэння спакою, прычым у Ціхоні была адабрана стрэльба, а Шафнагеля прымусілі прыпыніць абмер сенажаці..."*

*"**...З паведамлення Камендантa паліцыі Валожынскага павета 29 красавіка 1926 г....**: 24 красавіка ўвечары ў в. Сівіца адбыўся сход на якім прысутнічала 13 чалавек – па 1 ад кожнай ячэйкі... Кранаючы першага пытання, старшыня Маладзечэнскага райкома сказаў, што КПЗБ у сучасны час – даволі моцная і гатовая для выступлення партыя. Ён таксама прызваў праводзіць шырокую агітацыю па вёсках, знаёміць людзей з праграмай КПЗБ, заклікаць не плаціць падаткі. У сувязі са святкаваннем 1 мая прадстаўнік з Маладзечна сказаў, што...другога т ітрэцяга мая устраіваць наколькі магчыма паходы і дэманстрацыі. Аднак узброенных выступленняў пазбягаць да асобага распараджэння...Правакатараў і здраднікаў адкрыта не забіваць, а правакаваць п'яную бойку, у якой і забіваць правакатара..."*

*"**З данясенняў агентаў смаргоньскай паліцыі**: 28.5.1931...у доме Шыдлоўскіх адбылася тэатральнае прадстаўленне, на якім было многа членаў КПЗБ. Ставілі спектакль "Змагары за ідэю"...28.12.1932 г. З аказіі*

***працэса над Браніславам Тарашкевічам*** **(успомніце аб якім працэсе ідзе гаворка?),** *Аляксей Тамашэўскі пры дапамозе брата... вывесілі камуністычны сцяг у ваколіцы в. Сінькі Беніцкай гміны.”*

***“Са справаздачы камендантa Смаргоньскай паліцыі...:*** *У ноч з 30 на 31 жніўня ў в. Лысевічы, Макарычы і па дарозе ад в. Спягла да маёнтка Чурлены Вішнеўскай гміны ў сувязі з Міжнародным Чырвоным днём былі раскіданы ў вялікай колькасці камуністычныя лістоўкі, а таксама вывешаны транспарант з камуністычным заклікам...”*

**( з кнігі “Памяць:Гіст.-дакум. Хроніка Смаргоньскага раёна. – Мн., 2004. –С. 178-179.)**

**ІІ. На падставе матэрыялу аб грамадска-палітычным руху ў Заходняй Беларусі запоўніце наступную табліцу:**

| Вынікі палітычнай нацыянальна-вызваленчай барацьбы | Тэрмін | |
|---|---|---|
| | 20-я гг. | 30-я гг. |
| Поспехі | | |
| Прычыны поспехаў | | |
| Няўдачы і паражэнні | | |
| Прычыны няўдач і паражэнняў | | |

**ІІІ. Заданне “Постаць у гісторыі”.**

**Прачытайце біяграфічны экскурс “БраніслаўТарашкевіч (1892 –1938 гг.)”. Паразважайце наконт разнагаліновасці, энцыклапедычнасці дзейнасці Б. Тарашкевіча. У чым, на ваш погляд, такое жыццё было характэрным для таго часу?**

*“Ён быў адным з тых волатаў беларускай справы, якія спрабавалі паспець усюды. Бо адчувалі свае сілы і патрэбу ў тым , што рабілі. У беларускай гісторыі XX стагоддзя Б. Тарашкевіч застаўся на розных яе старонках.*

*На старонку беларускай навукі ён трапіў сваёй “Беларускай граматыкай для школ”. Дваццацігадовы беларускі філолаг зрабіў тое, што было пад сілу спрактыкаванаму, самавітаму вучонаму. Пазней, за кратамі польскай турмы, у другой палове 20-х гг., Б. Тарашкевіч істотна яе перапрацуе з улікам патрэбаў навучання ў хатніх умовах. 20-я гг – час , калі ішла велізарная работа па апрацоўцы беларускіх тэрмінаў, увядзенню іх у беларускія падручнікі для школ і вышэйшых навучальных устаноў. “Без удзелу Б. Тарашкевіча – пісаў аглядальнік культурнай працы ў 1921 г., – апрацоўва тэрміналогіі была б проста немагчымай”.*

*Гісторыя палітычнага жыцця Беларусі звязана з яго лідарствам у БСГ у 1917 г. і Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі ў 1918 г. Але росквіт палітычнага прызвання Б. Тарашкевіча прыйшоўся на час знаходжання Заходняй Беларусі ў складзе Польшчы. У гэты час ён - адзін з ініцыятараў і кіраўнікоў Беларускага пасольскага клубу, актывіст беларускай фракцыі. 23 студзеня 1923 г. Б. Тарашкевіч, як старшыня БПК выступіў з прамоваю ў Сойме: “ Насуперак зводку разлікаў нашых ворагаў...мы пераступілі парог Сойма...Пераступілі гэты парог у колькасці, напраўды, неадпаведнай да масы беларускага народа, які мы маем правы прадстаўляць, але дастаткова*

*для таго, каб… перад усім светам даць доказ таго, што жыве беларускі народ…”*

*Неўзабаве, у 1926 г., Б. Тарашкевіч стварыў і стаў на чале самай масавай партыі ў Заходняй Беларусі – БСРГ. Для яго і яго аднадумцаў – гэта была добрая магчымасць абуджэння беларусаў, умацавання іх веры ў сябе.*

*Яшчэ адным бокам жыцця Б. Тарашкевіча была вельмі патрэбная справа беларускай асветы. І тут Б. Тарашкевіч заняў адметнае месца. У складзе кіраўніцтва Сярэдняй Літвы, дзе , як вам вядома , ён быў, Б. Тарашкевіч паспеў арганізаваць адкрыццё 200 беларускіх школ у краі. У 1921-1922 гг. ён – дырэктар Віленскай беларускай гімназіі, адзін з кіраўнікоў ТБШ. …*

*Пасля абмену палітычнымі зняволенымі паміж СССР і Польшчай Б. Тарашкевіч з 1933 г. жыў у Маскве, дзе і быў арыштаваны і беспадстаўна абвінавачаны ў 1937 г. У наступным годзе ён быў расстраляны па рашэнню “двойкі”.* **(з кнігі “Б. Тараншкевіч Выбранае. Крытыка, публіцыстыка, пераклады.”: А. Ліс. “Слова , сказанае ў абарону”. – М.н, 1991. – С.5-47)**

***ВАРТА ПРАЧЫТАЦЬ: ТАРАШКЕВІЧ Б. ВЫБРАНАЕ: КРЫТЫКА, ПУБЛІЦЫСТЫКА, ПЕРКЛАДЫ. –Мн.:Маст. Літаратура, 1991.***

**IV. Ахарактырізуйце галоўныя этапы вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі.**

**V. Складзіце паведамленне пра вызваленчы рух у Заходняй Беларусі - чарговы этап барацьбы за незалежнасць Беларусі.**

**VI. Растлумачце, як на развіцці вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі адбіліся:**

**а) палітычныя працэсы ў СССР і БССР,**

**б) падзеі ў камуністычным і рабочым руху Еўропы?**

# Раздзел XV. Праблемы развіцця культуры ў савецкай Беларусі.

**Цытата тэмы:**
***"Мы асуджаны, каб быць нацыяй, бо маем такую культуру."***
***Сакрат Яновіч***

**1.Культурная спадчына.** У гады войнаў і разбурэнняў культура Усходняй Беларусі панесла шмат стратаў. Людскія страты і матэрыяльная разруха падарвалі развіццё асветы і навукі. На стан культуры пачатку 20-х гг. выключна адмоўна ўплывала вялікая непісьменнасць насельніцтва. Яна складала каля 53%. У раёнах, далучаных да РСФСР, праводзілася палітыка *русіфікацыі.* Перавага рускай культуры і мовы назіралася і на тэрыторыі БССР. Вялікі недахоп адчуваўся ў беларускіх настаўніках, школам не хапала памяшканняў, падручнікаў і прылад.

Разам з тым, савецкая Беларусь пачатку 20-х гг. была месцам росквіту выяўленчага мастацтва. У Віцебску ў 1920-1922 гг. тварылі **Марк Шагал, Хаім Суцін, Юдэль Пэн, Казімір Малевіч**. Напярэдадні прыходу бальшавікоў у ліпені-жніўні 1920 г. усе БНРаўскія беларускія газеты і часопісы былі закрытыя або мусілі спыніць свой выхад. Замест іх савецкія ўлады выдавалі ўласныя перыядычныя выданні на рускай мове. На беларускай мове выходзілі газеты *"Савецкая Беларусь"* і *"Рабоча-сялянская Беларусь"* пад рэдакцыяй **Цішкі Гартнага**, літаратурныя часопісы *"Вольны сцяг"* **Янкі Купалы**, *"Полымя"*, дзіцячы - *"Зоркі"* **Змітрака Бядулі**.

Працягваліся навуковыя даследаванні па літаратуразнаўству і мовазнаўству, гісторыі Беларусі і беларускаму пісьменству. У гэтым накірунку новы крок зрабілі **Максім Гарэцкі** і **Яўхім Карскі**. Выйшаў у свет чарговы том капітальнай працы Карскага "Беларусы".

Згодна з перапісам 1920 г. 90 % яўрэяў Беларусі размаўлялі на ідыш. Гэта было падставаю для існавання сеткі яўрэйскіх школ. На педагагічным факультэце БДУ з 1921 г. было яўрэйскае аддзяленне. З'яўленне ў друку ў пачатку 20-х гг. твораў **Ізі Харыка, Зеліка Аксельрода** і **Элі Савікоўскага** было ацэнена як росквіт яўрэйскай савецкай паэзіі.

***ВАРТА ПРАЧЫТАЦЬ: СКИР А.. ЕВРЕЙСКАЯ ДУХОВНАЯ КУЛЬТУРА В БЕЛАРУСИ. - Мн.: Маст літаратура. 1995.***
***ЦІТОЎ А. ТАК ПАЧЫНАЛАСЯ АДРОДЖЭННЕ НАЦЫЯНАЛЬНАГА КУЛЬТУРНАГА БУДАЎНІЦТВА Ў БССР 1921-1928 гг./ У кнізе "З гісторыяй на "ВЫ". – Мн.. 1991. УЛАШЧЫК М. КРАЯЗНАЎЧЫЯ НАРЫСЫ. МЕМУАРЫ./ у кнізе ВЫБРАНАЕ / М. Улашчык. – Мн.:Беларускі кнігазбор, 2001. –С.215-276.***

Пачатак 20-х гг. быў часам росквіту творчасці геніяў беларускай культуры **Янкі Купалы** і **Якуба Коласа**. Аднnetwork часова ў літаратуру ўваходзіла новае пакаленне пісьменнікаў і паэтаў, натхнёных рэвалюцыйным пад'ёмам і нацыянальным адраджэннем. Сярод стваральнікаў у 1923 г. літаратурнага аб'яднання "Маладняк" былі **Язэп Пушча, Алесь Дудар, Міхась Чарот**.

Культурнае багацце сведчыла аб вялікім патэнцыяле людзей савецкай Беларусі. Нягледзячы на ўсе нястачы і акупацыі, была перспектыва насычанага культурнага жыцця і дабрабыту. Для савецкай улады было відавочна, што культура з'яўляецца адной з галоўных сфераў, у якой трэба ўмацоўваць сваё становішча.

**2.Дзве плыні культурнай палітыкі.** Палітыка савецкай улады ў БССР ў галіне культуры была прадыктавана ўмацаваннем уплыву сярод беларускага сялянства. Беларусы сярод насельніцтва ўзбуйненай рэспублікі складалі 70%, а сярод сялян - 80%. Немагчыма было ўсталяваць саюз з сялянствам без асаблівай увагі да працы па развіццю беларускай культуры. Таму ў **1925 г.** чарговы пленум ЦК КП(б) падкрэсліў, што лозунг, які партыя прыняла ў культурнай рабоце, гэта лозунг *"беларусізацыі". Беларусізацыя – гэта палітыка савецкай улады ў галіне культуры ў БССР з мэтаю развіцця беларускай культуры пры роўных умовах развіцця культур нацыянальных меншасцяў.*

Сфера культуры яшчэ па адной прычыне нездарма разглядалася камуністамі як месца неабходнага ўплыву. Правядзенне рэвалюцыі ў культуры бачылася часткай праграмы пабудовы сацыялізму. Праз культуру планавалася фарміраванне новай савецкай інтэлігенцыі, новага савецкага грамадства. Для гэтага патрэбна было вырашэнне пачатковых задач ліквідавання непісьменнасці і стварэння неабходных матэрыяльных і арганізацыйных умоў. Наступным крокам культурных пераўтварэнняў бачыўся перагляд культурнай спадчыны з пункту гледжання савецкага, светапогляду. Такі экзамен павінна была здаць культура перад савецкай уладай.

**Успомніце з гісторыі Расіі і СССР, якія каштоўнасці ў жыцці былі аб'яўлены камуністамі вядучымі і пераважнымі.**

З гэтага вынікала, што зместам культурнай палітыкі 20-х гадоў стала рэалізацыя дзвюх мэтаў беларусізацыі і падрыхтоўкі "культурнай рэвалюцыі". Як паказала жыццё, абедзве мэты часта патрабавалі адных і тых жа спраў.

**3. Беларусізацыя.** Развівалася школьная справа. Шлях стварэння школ, друкаванне падручнікаў, падрыхтоўка настаўнікаў, рэфармаванне сістэмы адукацыі прывялі да таго, што ў **1928-1929 гг.** 79% дзяцей ва ўзросце 8-12 гадоў наведвалі школу. **Чатыры пятых** з усіх школ былі беларускамоўныя. У ліквідаванні непісьменнасці вялікую ролю адыгралі створаныя ў 1924 г. таварыствы "Прэч, непісьменнасць!" Таварыствамі ажыцяўлялася цяжкая справа ўпэўнівання і цярплівай, руплівай працы. У выніку колькасць пісьменных за шэсць гадоў узрасла на 5,7%. У кожным сельскім Савеце ў 1925 г. дзейнічалі свае ізбы-чытальні. Шырылася сетка бібліятэк.

З дваццаці газет і пятнаццаці часопісаў 11 і 10 адпаведна выдаваліся ў 1925 г. ужо на беларускай мове.

Новы этап развіцця пачаўся і ў вышэйшай адукацыі Беларусі. Адкрыліся такія цэнтры навукі і адукацыі, як *Беларускі дзяржаўны універсітэт* у **1921 г.**, *Інстытут беларускай культуры (Інбелкульт) і Беларускі інстытут сельскай і лясной гаспадаркі* ў **1922 г.** Паколькі дзяржаўнымі мовамі ў БССР у той час былі, побач з беларускай, яўрэйская, руская і польская ішоў працэс стварэння нацыянальных навучальных устаноў. У 1932 г. працавалі 3,2% польскіх, 3% яўрэйскіх, 1,4% рускіх. Таксама было 17 латышскіх, 12 літоўскіх, 1 эстонская, 64 змешаныя школы. Патрэбы развіцця прамысловасці вялі да развіцця сістэмы атрымання рабочых спецыяльнасцей. Яна давала спецыяльную прафесійную адукацыю.

Інбелкульт, які быў потым ператвораны ў *Акадэмію навук Беларусі,* стаў цэнтрам развіцця беларускай навукі. Пад яго дахам разгарнулася дзейнасць такіх дзеячаў культуры, як гісторыкі **Уладзімір Пічэта** і **Міхаіл Доўнар-Запольскі**, археолаг **Аляксандр Ляўданскі**, этнограф і фалькларыст **Аляксандр Сержпухоўскі**, геолаг і географ **Гаўрыла Гарэцкі,** ландшафтазнаўца **Аркадзь Смоліч** і шмат іншых

***ВАРТА ПРАЧЫТАЦЬ: Ліс. А. Цяжкая дарога свабоды (аб А. Смолічы). / у кнізе А. Ліса Цяжкая дарога свабоды. – Мн., 1993.***

Навуковыя працы вучонных Інбелкульта ствараліся ў новых для беларускай навукі сферах ведаў у галіне батанікі і заалогіі, фізікі і хіміі, сельскай гаспадаркі і лесаводства. Для даследавання праблем нацыянальных меншасцей Беларусі пры Інбелкульце дзейнічалі яўрэйскі і польскі аддзяленні, кафедра гісторыі Літвы.

Росквіт перажывала беларускае краязнаўства. Мясцовыя краязнаўчыя арганізацыі аб'ядноўвалі тысячы сваіх актывістаў.

Небачна пашырылася сфера ўжытку беларускай мовы. Гэта стала моцным штуршком для развіцця беларускай літаратуры. Творы **Янкі Купалы, Якуба Коласа**, **Петруся Глебкі, Уладзіміра Дубоўкі, Кузьмы Чорнага** стваралі вобраз новай Беларусі. Беларуская публіцыстыка адразу рэагавала на ўсе важныя падзеі ў палітычным і грамадскім жыцці рэспублікі, СССР і замежжа. Дзейнасць такіх аб'яднанняў пісьменнікаў, як *"Узвышша"* ў 1926 г. і *"Полымя"* у 1927 г. рабілі творчай атмасферу сярод розных плыняў беларускіх літаратараў. А ў 1928 г. Усебеларусі з'езд *"Маладняка"* абвесціў сябе першым з'ездам *Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў (БелАПП).* Асацыяцыя мела рускую, польскую, яўрэйскую і літоўскую секцыі.

**Імгненне гісторыі:**

У лістападзе 1926 г. у Мінску адбылася незвычаная канферэнцыя. Яна была прысвечана пытанням беларускага правапісу і азбукі. Падрыхтавана гэта канферэнцыя Інбелкультам, і сярод запрошаных да ўдзелу навукоўцаў былі **мовазнаўцы** абодвух частак Беларусі, беларускай дыяспары, прадстаўнікі літоўскай, латвійскай і чэшскай навукі. Гэта Сцяпан Некрашэвіч, Язэп Лёсік, Вацлаў Ластоўскі, Кастусь Езавітаў, Уладзімір Жылка, Яніс Райніс, Макс Фасмэр. Польскі ўрад не дазволіў выехаць на канферэнцыю Антону Лукцевічу і Браніславу Тарашкевічу. Канферэнцыя была адкрыта спевам беларускага рэвалюцыйнага гімна "Адвеку мы спалі…" і прамоваю прэзідэнта АН Беларусі Усевалада Ігнатоўскага. Яе ўдзельнікі выявілі даволі значную распрацаванасць беларускай літаратурнай мовы.

***ВАРТА ПРАЧЫТАЦЬ: БРЫГАДЗІН П.. МАЦЯС І. УСЕВАЛАД ІГНАТОЎСКІ. Палітычны дзеяч, вучонны. –Мн.: Полымя, 1998.***

Беларуская гісторыя, народныя традыцыі і ўражанні ад савецкай рэчаіснасці станавіліся матывамі творчасці калектываў беларускіх драматычных тэатраў у Маскве, Віцебску, Мінску, кампазітараў **Уладзіміра Тэраўскага, Аляксандра Багатырова**, архітэктара **Іосіфа Лангабарда**, скульптараў **Заіра Азгура** і **Андрэя Бембеля**, жывапісца **Міхаіла Філіповіча**, мастака тэатру **Аскара Мерыжа**.

У 1920 г. на экраны выйшаў першы беларускі мастацкі фільм пра партызан 20-х гадоў "Лясная быль". Пачалася гісторыя беларускага кінематографа.

**3. "Культурная рэвалюцыя".** Час рэпрэсій 30-х гадоў жорстка адбіўся на стане культуры. Пад уплывам татальнага ідэалагічнага кантролю змяняўся змест твораў літаратуры і выяўленчага мастацтва. Нацыянальная тэматыка падмянялася класавай, шматграннасць і багацце беларускай і сусветнай спадчыны адвяргалася на карысць спрошчаным і падманным сюжэтам і тэмам. Рознымі сродкамі літаратуры і мастацтва ствараўся вобраз "вялікага" Сталіна. Першаступенная ўвага надавалася выхаванню насельніцтва ў духе камуністычнай ідэалогіі, адданасці партыі і сталінскаму кіраўніцтву. "Класава варожая" літаратура беларускіх пісьменнікаў і навукоўцаў забаранялася для ўжытку. Шмат яе было закрыта ў "спецыяльных" сховішчах. У 1933 г. была праведзена рэформа беларускай мовы, паводле якой моўнае багацце змяншалася бо лексіка і граматыка набліжаліся да рускай мовы. Такая рэфармаваная мова атрымала назву *"наркомаўкі"* ў процівагу былой *"тарашкевічцы"*.

Вынікі развіцця культуры 20-30 –х гг. былі супярэчлівыя. Згортванне беларусізацыі ў пачатку 30-х гг. было сапраўднай трагедыяй для беларускага народа. Тут дасягненні *"культурнай рэвалюцыі"* не маглі замяніць панесеных беларускай культурай страт.

Рэвалюцыя ў культуры сапраўды адбылася, і вынікам яе стала пісьменнае, але яшчэ больш зрусіфікаванае новае пакаленне беларусаў. Сотні тысяч жыхароў Беларусі ўпершыню атрымалі магчымасць даваць сваім дзецям адукацыю, працягваць яе ў вышэйшых і сярэдніх навучальных установах рэспублікі і Савецкага Саюза ў цэлым. Навукоўцы Савецкай Беларусі ўключаліся ў буйныя і перспектыўныя навуковыя праекты ў самых перадавых абласцях ведаў у акадэмічных цэнтрах Мінска, Масквы, Ленінграда,

Новасібірска. Сама Беларусь, яе прырода, насельніцтва сталі прадметам ўсебаковага вывучэння з боку розных галін сучаснай навукі. Інтэлектуальны патэнцыял БССР стаў набыткам культурнага жыцця ўсяго СССР.

# Пытанні і заданні:

**I. «Беларуская культура ў пачатку XX ст. і падчас беларусізацыі.» - Што аб'ядноўвае і адрознівае гэтыя перыяды:**
**а) ва ўмовах развіцця культуры,**
**б) у выніках развіцця.**

**II.Сфармулюйце прычыны і вынікі культурнай рэвалюцыі (на прыкладзе БССР). У чым беларусізацыя збліжаецца з палітыкай культурнай рэвалюцыі, а ў чым прынцыпова разыходзіцца? Абгрунтуйце свае высновы.**

**III. Растлумачце, чаму беларусізацыя стала адной з прычын вяртання часткі беларускай палітычнай эміграцыі ў 20-я гг.?**

**IV. Прачытаце верш Я. Купалы "Перад будучыняй", 1922 г. і "Арлянятым", 1923 г. Напісаныя ў пачатку беларусізацыі і нэпу, гэтыя творы носяць розныя думкі паўта аб будучыне краіны. З дапамогаю гістарычных фактаў паспрабуйце вызначыць магчымыя матывы такога зместу гэтых вершаў. Чым можна растлумачыць такую розніцу зместа гэтых твораў песняра?**

**V. Прачытайце ўрывак з артукулу Міхася Зарэцкага "Чым нам пагражае Белдзяржкіно" (Да крытыкі тэматычнага плану) аб пачатках беларускай кінематаграфіі і адкажыце на пытанні.**
**1. Якія тэмы асвятлялі пісьменнікі, драматургі, мастакі Беларусі ў 20-30-я г. у сваёй творчасці? Чым тлумачыўся іх выбар?**
**2. Стварэнне кінематографа было новай справай ў культуры. Якімі прынцыпамі рэкамендуе кіравацца М. Зарэцкі ў стварэнні ўласнага беларускага кіно? У чым карысць такіх прынцыпаў?**
**3. Як вы растлумачыце заклік пісьменніка "браць – для сюжэтаў кіно - моманты з гісторыі Беларусі і ў другую чаргу – тыя моманты з гісторыі іншых народаў, якія або з'яўляюцца асабліва выдатнымі сусветнымі з'явамі, або маюць асаблівае блізкае дачыненне да Беларусі…"?**

*"…Што мы павінны браць з суседніх і блізкіх да нас па агульнай накіраванасці культур: расейскай, украінскай і інш? Адказ можа быць адзін: самае лепшае, самае каштоўнае, чаго яны дасягнулі. Мы павінны браць шэдэўры, якія могуць служыць прыкладам у будаўніцтве нашай уласнай культуры…*

*Я загадзя ведаю, што скажа Белдзяржкіно каб растлумачыць гэта сваё захапленне расійскай (не першага гатунку) літаратурай. Яно скажа, што ў беднай беларускай літаратуры няма такіх твораў, якія б адпавядалі пастаўленай тэме. І трэба сказаць, што гэта магчыма. Але які вывад павінны мы з гэтага зрабіць?…Мы павінны перш-наперш падумаць пра самую тэму. Можа таму і не знаходзім матэрыялу ў нашай літартуры, што мы ўзялі тэму ў такім разрэзе, у такім плане, які не характэрны для нашых беларускіх умоў, які мы механічна перанеслі з чужога поля, дзе ён, меў*

*апраўданасць і актульнасць... Трэба больш увагі да нашае ўласнае літаратуры. Трэба не толькі выкарыстоўваць яе як матэрыял, а трэба вывучаць па ёй наша жыццё, браць з яе сапраўды жывыя рэальныя праблемы і тэмы. Трэба ведаць тое, што ні адна сапраўды балючая з'ява жыцця не пройдзе без таго ці іншага адбітку ў літаратуры... У пытанні аб гістарычных фільмах, мне здаецца трэба праводзіць такі прынцып: першнаперш браць моманты з гісторыі Беларусі і ў другую чаргу – тыя моманты з гісторыі іншых народаў, якія або з'яўляюцца асабліва выдатнымі сусветнымі з'явамі, або маюць асаблівае блізкае дачыненне да Беларусі…"*
**(Зарэцкі М. Збор твораў. У 4 т. Т.4. Проза, п'есы, крытыка, публіцыстыка, кароткі летапіс жыцця і творчасці. – Мн, 1992. – С. 334-342.)**

**VI. Заданне "Постаць у гісторыі".**

**Прачытайце біяграфічны экскурс "Мікола Шчакачыхін (1896 –1940 гг.)"і адкажыце на пытанні**.

1. **Падбярыце, калі ласка, вызначэнні ўмовам, "атмасферы", творчым узаемаадносінам, якія характарызуюць час беларусізацыі. Чым на ваш погляд былі выкліканы такія абставіны культурнай працы?**
2. **Чаму такі ўздым творчай дзейнасці мог палохаць сталінскую ўладу?**

*"Тут жа ўсё толькі пачынаецца, калі хачаце, пачынаецца нанава, спачатку. Цэлы народ, яго прадукцыйныя сілы, яго гісторыя, мова, паэзія, музыка мала, бадай – зусім, не даследаваны. Цэлы край не адкрыты. Колькі трэба шчырых, працавітых рук. Моц працы. Безліч адкрыццяў чакае... - такімі словамі ў 1922 г. звярнуўся да яго, дваццацішасцігадовага Міколы Шчыкачыхіна, рэктар БДУ Уладзімір Пічэта. З такімі словамі, запрошаны заўтра ж зайсці на кафедру гісторыі мастацтва, і выйшаў М. Шчакачыхін, яшчэ не ведаючы, што ўжо пачалася зусім новая, асаблівая старонка яго жыцця.*

*Міколу Мікалаевічу Шчакачыхіну час адпусціў не шмат для таго, каб паспець зрабіць усё тое, што патрабавала яго душа, да чаго прагнуў яго розум. Восем год штодзённай, напружанай, самаадданай навуковай працы.*

*За нейкіх дзевяць месяцаў М. Шчакачыхін распрацаваў самастойны курс беларускага мастацтва. А праз год абараніў дысертацыю на гэтую тэму. Тут трэба адзначыць, што дзяцінства і юнацкія гады М. Шчакачыхіна прайшлі на Арлоўшчыне і ў Маскве, дзе ён вучыўся ва універсітэце. З Беларуссю малады навукоўца знаёміўся адначасова яе даследуючы.*

*У 1925 г. М. Шчакачыхін займае пасаду сакратара секцыі беларускага мастацтвазнаўства Інбелкульта. З гэтага часу яго талент гісторыка, тэарэтыка і крытыка беларускага мастацтва раскрыўся ўвачавідкі. Да таго ж, у тым жа годзе ён быў прызнаны адным са стылістаў навуковых выданняў Інбелкульта, якія, як вядома, выходзілі на беларускай мове. Яго моўныя пазнавальныя задаткі ўражвалі тых, хто ведаў, што толькі год назад М. Шчакачыхін пачуў жывое беларускае слова.*

*Пад уплывам святкавання 400-годдзя беларускай пісьменнасці ў 1925 г. М. Шчакачыхін уключаецца ў даследаванні незакранутых праблем скарыназнаўства. Вынікам сталі грунтоўныя навуковыя артыкулы аб "Малай падарожнай кнізе", гравюрах Скарыны. Глыбіня эрудыцыі і*

*даследчыцкі талент праявіліся ў яго каментарах 30 ілюстрацый зборніка. “400-годдзе беларускага друку”.*

*Ствараючы гісторыю беларускага мастацтва, ён увесь час звяртаецца да сучаснасці, да спраў надзённых, практычных спраў культурнага будаўніцтва, мастацкага жыцця рэспублікі. Вынікам знаёмства М. Шчакачыхіна з Полацкам, Віцебскам, удзелу яго ў падрыхтоўцы Першай Усебеларускай мастацкай выставе стаў змястоўны артыкул “Сучаснае мастацтва Беларусі”. Яшчэ ў 1926 г. па яго ініцыятыве была створана Камісія па гісторыі мастацтва. На працягу 1926/1927 акадэмічнага года Камісія збіралася адзінаццаць разоў. І на пасяджэннях з даследаваннямі і навуковымі паведамленнямі выступаў М. Шчакачыхін. З гэтых дакладаў складаліся эскізы яго галоўнай кнігі – першага капітальнага тома па гісторыі беларускага мастацтва. У 1928 г. гэта даследаванне выйшла і мела назву “Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва”.*

*Гэткая апантаная, самаахвярная дзейнасць навукоўцы абарвалася арыштам у 1931 г., ссылкай і чарговым прыгаворам , ужо ў 1937 г.* **(паводле нарыса А. Ліса “Мікола Шчакачыхін” з кнігі А. Ліса “Цяжкая дарога свабоды”)”.**

**VII. Азнаёмціся з фактамі развіцця асветы ў Віцебску. Адкажыце на пытанні.**

**1. Якія паказчыкі развіцця школьнай справы сведчаць абдасягненнях палітыкі беларусізацыі?**

**2. Якія, маглі быць, прычыны больш вышэйшага, ў параўнанні з агульнай колькасцю вучняў-беларусаў, працэнта, тых хто атрымліваў адукацыю па-беларуску. Растлумачце свой адказ.**

**3. Факты і лічбы развіцця асветы ў Віцебску дэманструюць рэалізацыю прынцыпа моўнай палітыкі кіраўніцтва БССР ў час беларусізацыі. Які гэта прынцып?**

*“У 1924/1925 навучальным годзе ў школьнай сетцы Віцебска мелася 127 класаў беларускіх, 88 рускіх, 39 яўрэйскіх, 12 польскіх, 4 латышскія. У Віцебску меліся 2 нацыянальныя ўчасткі народных судоў (латышскі і яўрэйскі), быў арганізаваны прыём заяў і скаргаў на мовах нацменшасцяў....*

*Да канца 1925 г. беларускія класы ў школьнай сетцы Віцебска складалі 47%. Паказальным з’яўляецца той факт, што сярод вучняў школ горада беларусы складалі 33,6% (3970 чалавек), а працэнт тых, хто атрымліваў адукацыю на беларускай мове , быў вышэйшы – 35,4% (4186).*

*У школах горада напачатку 1924/25 навучальнага года было 8 тысяч вучняў. Паводле нацыянальнага складу было: рускіх – 13%, беларусаў – 21%, яўрэяў – 52%, палякаў – 7%”*

**(З артыкулаў К.І. Зайко “На шляху сацыялістычных пераўтварэнняў”/Памяць: Гіст.-дакум.хроніка Віцебска: У 2-х кн. Кн.1-я. –Мн., 2002. –С. 260; А.В. Чэна “Развіццё народнай адукацыі ў Віцебску ў 1917-41 гг”./Памяць: Гіст.-дакум.хроніка Віцебска: У 2-х кн. Кн.1-я. –Мн..2002. . – С.265.)**

**VII. Падрыхтуйце паведамленне аб адным з прадстаўнікоў культурнага Адраджэння. Звярніце пры падрыхтоўцы на вынікі дзейнасці персанажа свайго паведамлення. Задачы якой з культурных палітык – беларусізацыі альбо “культурнай рэвалюцыі” – на вашу думку, гэтыя вынікі выконвалі?**

# Раздзел XVI. Культура заходнебеларускіх зямель у Польшчы.

**1.Культурнае багацце Заходняй Беларусі.** Культура беларускіх зямель, якія адышлі да Польшчы ў 1921 г., мела вялікую спадчыну і значныя набыткі. Падмуркі яе былі ў народнай культуры беларускага сялянства. Асобным светам было духоўнае жыццё местачковага яўрэйскага насельніцтва. Глыбокія карані пусціла польская традыцыя сярод былога шляхецтва, увогуле каталікоў.

Напачатку правядзення польскай нацыянальная палітыкі, у 1920 г., дзейнічалі сотні беларускіх школ. Далей, у час польскага ўсеўладдзя, беларускія школы гвалтоўна зачыняліся. Аднак шэраг навучальных устаноў захаваўся. Гэта было адным з нешматлікіх станоўчых вынікаў парламенцкай працы беларускіх дэпутатаў, байкатавання польскіх школ. Неадабрэнне захадаў польскага ўрада было выказана з боку палітыкаў некаторых еўрапейскіх краін. Сваю няспынную працу вялі сябры Таварыства беларускай школы. ТБШ арганізавала масавую падачу насельніцтвам заяў аб адкрыцці беларускіх школ. У выніку часовых уступак польскіх улад з 1929 г. выпускнікі віленскай гімназіі атрымалі права паступаць у вышэйшыя навучальныя ўстановы Польшчы. З 1930 г. у Вільні пачала працаваць беларуская настаўніцкая семінарыя імя Ф. Багушэвіча. Беларускія палітыкі настойліва патрабавалі ад Сейма фінансавання патрэб беларускай асветы. Нягледзячы на паступовае ліквідаванне і закрыццё школ, насельніцтва імкнулася да набыцця ведаў на роднай мове. Таму расла доля самаадукацыі.

Беларуская літаратура Заходняй Беларусі развівалася, нягледзячы на неспрыяльныя для гэтага ўмовы. Сярод літаратараў вызначаліся паэт **Міхась Васілёк**, актывіст КПЗБ Піліп Пястрак, выпускнік віленскай гімназіі **Алесь Салагуб**, стваральнік часопіса КПЗБ "Літаратурная старонка" **Валянцін Таўлай**, будучыя класікі беларускай літаратуры **Максім Танк** і **Янка Брыль**. Палітычная барацьба і шматлікія патрэбы жыцця рабіліся добрай глебай для публіцыстыкі. Тут праявіліся здольнасці **Тамаша Грыба, Браніслава Тарашкевіча, Антона Луцкевіча**.

У час знаходжання за кратамі ў польскай турме Браніслаў Тарашкевіч зрабіў пераклады геніяльных твораў - "Пана Тадэуша" Адама Міцкевіча і паэмы "Іліада" Гамера.

**<u>Пераклад-подзвіг</u>** У гісторыі культуры ёсць з'явы, якія з цягам часу набываюць сімвалічнае значэнне. Да іх, безумоўна, адносіцца пераклад на беларускую мову эпапеі А. Міцкевіча "Пан Тадэвуш", зроблены Б. Тарашкевічам… Па загаду буржуазных улад яго, рэвалюцыянера і вучонага, кінулі ў гродзенскую турму – бадай самую строгую ў даваеннай Польшчы. Пасадзілі яго, хворага на сэрца, у камеру-адзіночку. І, тым не менш, Б. Тарашкевіч дзень за днём перакладаў на беларускую мову шэдэўр польскага генія. Перакладаў у надзвычайна цяжкіх умовах. Начальства пільна ўлічвала кожны шматок паперы, нумеравала кожную старонку ў агульным сшытку. Таму нельга было дазволіць сабе рабіць чарнавікі... Не было пад рукой самага элементарнага – слоўнікаў, даведнікаў. І зноў даводзілася спадзявацца толькі на памяць, на грунтоўныя веды, назапашаныя ў Віленскай гімназіі і Пецярбургскім універсітэце.

Чаму Б. Тарашкевіч , знаходзячыся ў зняволенні, выбраў для перакладу менавіта "Пана Тадэвуша"? Ды відаць таму, што добра ўсведамляў, што санацыйныя ўлады не маюць нічога агульнага з гераічным і шматпакутным польскім народам. Відаць таму, што "Пан Тадэвуш вершыня ва ўсёй польскай паэзіі. І не толькі польскай. (А. Мальдзіс, прадмова да паэмы "Пан Тадэвуш")

Цэлую бібліятэку рускай і ўкраінскай класікі – гэта і гогалеўскі "Тарас Бульба", лермантаўскія "Дэман", "Мцыры", творы Т. Шаўчэнкі - пераклаў **Макар Краўцоў**.

Невялікімі накладамі, але выдавалася мастацкая і асветніцкая літаратура. У 1927 г. выйшла ў свет "Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры" **Ігната Дварчаніна**. У 1933 г. быў выдадзены "Гадавік Беларускага навуковага таварыства ў Вільні".

***<u>ВАРТА ПРАЧЫТАЦЬ: ЦЫХУН А. МАКАР КРАЎЦОЎ. // у кнізе "СЫНЫ І ПАСЫНКІ БЕЛАРУСІ./ ускл. С.Барыс. – Мн.:Полымя, 1996. –С. 347-356.</u>***
***<u>АДАМУШКА У. ІГНАТ ДВАРЧАНІН. // у кнізе "СЫНЫ І ПАСЫНКІ БЕЛАРУСІ./ ускл. С.Барыс. – Мн.:Полымя, 1996. –С. 257-265.</u>***

*Беларускае навуковае таварыства (БНТ)*, створанае яшчэ Іванам Луцкевічам, вяло шырокую навуковую і асветніцкую работу. Сярод яго сяброў можна ўбачыць палітыкаў і дзеячаў культуры Ігната Дварчаніна, Антона Луцкевіча, Іосіфа Лагіновіча, Браніслава Тарашкевіча, Максіма Гарэцкага, літаратурнага крытыка і бібліятэкара таварыства **Уладзіміра Самойлу**, вядомага педагога **Сяргея Паўловіча**. Кола іх інтарэсаў закранала краязнаўства, музейную, педагагічную, выдавецкую справы, арганізацыю выстаў, лекцый і навуковых з'ездаў. Пры таварыстве, у Вільні, дзейнічаў Беларускі музей імя заснавальніка Івана Луцкевіча. З удзелам актывістаў БНТ у 1925 г. адзначалася 400-годдзе беларускага кнігадрукавання. У часопісах "Калоссе", "Нёман", "Шлях моладзі" змяшчаліся артыкулы сяброў таварыства.

Сярод розных накірункаў дзейнасці Таварыства беларускай школы была арганізацыя мясцовай самадзейнасці. Пры гуртках Таварыства ставіліся п'есы беларускіх, рускіх, польскіх і украінскіх аўтараў. Праводзіліся вечары самадзейнасці з дэкламацыяй вершаў, харавымі спевамі беларускіх народных песень. Усё гэта знаходзіла жывы водгук у сэрцах простых людзей, будзіла іх нацыянальную свядомасць. У развіцці музычнай культуры, харавых спеваў плён мела дзейнасць **Рыгора Шырмы**. Шырма – адзін з арганізатараў мясцовай самадзейнасці і адзін з кіраўнікоў ТБШ, стваральнік народных хораў, збіральнік музычнай народнай спадчыны.

Пад уплывам культурна-адраджэнцкага і нацыянальна-вызваленчага руху развівалася творчасць жывапісца **Пётры Сергіевіча**. У 30-е гг. з-пад яго пэнзля і алоўка выйшлі палотны “Шляхам жыцця”, “Араты”, серыя партрэтаў “Беларускія народныя тыпы”.

Накірунак думак мастакоў і пісьменнікаў быў агульны – Беларусь, паэтызацыя роднага краю, побыту працы заходняга беларускага селяніна і, разам, пратэст супраць нацыянальнага і сацыяльнага ўціску. Таму невыпадкова іх творчасць знаходзіла спалучэнне, як гэта было ў выданні кнігі паэзіі **Міхася Машэры,** з ілюстрацыямі Пётры Сергіевіча.

**Пётра Сергіевіч.** Беларускі і літоўскі мастак. Амаль усё сваё жыццё ён пражыў у Вільні. Скончыў мастацкі факультэт Віленскага універсітэту. Спадарожнічаў па Італіі. Лічыў сабе, вучнем славутага Фердынанда Рушчыца. Пасля вайны П. Сергіевіч стаў заслужаным дзеячам мастацтва Літвы, і некаторы час узначальваў літоўскі Саюз мастакоў. Пры тым праз усё жыццё захаваў свой беларускі светаогляд, сваё светаадчуванне. Беларусі прысвяціў ён усю сваю творчасць.

У вандроўках па Беларусі знаходзіў сабе сюжэты графік і жывапісец **Язэп Драздовіч**. У графічнай серыі “Дзісеншчына” ім быў створаны паэтычны вобраз Паўночнай Беларусі. Прыгажосць старажытнай архітэктуры Беларусі і Літвы адлюстравана ў графічных творах “Глыбокае”, “Крэва”, “Гальшаны” і іншыя.

Усё гэта культурнае багацце існавала і павялічвалася насуперак нацыянальнай палітыцы польскіх улад. Яно было яскравай дэманстрацыяй глыбінных сіл беларускага народа, устойлівасці ягоных трыдыцый, якія былі натуральнай часткаю яго свядомасці і жыцця. Зместам сваёй культуры Заходняя Беларусь, відавочна, даказвала сваю непарыўную супольнасць з беларускімі землямі ў СССР.

**2.Палітыка Польшчы ў галіне культуры.** Ідэя ўключэння “крэсаў усходніх”, якімі лічылася Беларусь, у склад Польшчы абумовіла культурную палітыку польскіх улад. Польскі дух, польскую дзяржаўнасць трэба было зрабіць пануючымі на беларускіх землях. Як рэалізацыя такой ідэі, праводзіліся living разнабаковыя мерапрыемствы па ліквідаванню беларускай асветы. З 350 школ, што дзейнічалі ў 1919 г., праз шэсць гадоў польскага панавання засталося чатыры. Толькі маштабы нацыянальна-вызваленчага руху прымусілі Юзафа Пілсудскага адчыніць да 1928 г. 29 беларускіх і 49 польска-беларускіх школ. Але гэта была мізэрная колькасць. У 1929-32 гг. былі зачынены гімназіі ў Радашковічах, Клецку, польскімі сталі гімназіі ў Вільні і Навагрудку, прыпынілa дзейнасць настаўніцкая семінарыя. Напярэдадні Другой сусветнай вайны, у 1939 г., беларуская школа, як сістэма навучальных устаноў у Польшчы проста не існавала.

Польскіх школ было таксама недастаткова. Да таго ж, высокая плата за навучэнне, беднасць, патрэбы сялянскай гаспадаркі ў рабочых руках абмяжоўвалі доступ дзяцей беларусаў у сярэднія школы. Тысячы дзяцей не мелі магчымасці атрымаць ніякай адукацыі. У лепшым выпадку гэта былі двух-чатырохгадовае пачатковае польскае навучэнне.

У дзяржаўных установах не дазвалялся карыстацца беларускай мовай. Не было беларускіх тэатраў, зачыняліся бібліятэкі, клубы, хаты-чытальні. Прагрэсіўныя газеты забараняліся, а іх рэдактары арыштоўваліся. З 32 легальных беларускіх выданняў да 1932 г. засталося толькі 6. Такія захады польскіх улад не пакідалі сумнення ў мэтанакіраваным знішчэнні беларускай культуры. Усе ўрадавыя заявы аб роўнасці правоў народаў Польшчы выглядалі ілжывымі побач з практыкай правядзення польскай палітыкі ў галіне культуры на землях Заходняй Беларусі.

# Пытанні і заданні:

**I. З дапамогаю настаўнка беларускай літаратуры падрыхтуйце паведамленне на тэму “Дзве Беларусі - дзве літаратуры” – аб асобным і агульным у творчасці пісьменнікаў і паэтаў БССР і Заходняй Беларусі. Дакажыце ў ім, што культурнае багацце Заходняй Беларусі было адной з галоўных падстаў для імкнення беларусаў да аб’яднання ў адзіную Беларусь.**

**II. Пасля падаўлення бальшавікамі Слуцкага паўстання паэт М. Краўцоў падаўся ў Вільню. Там ён не забываў родных, вёў актыўную перапіску. Прачытайце фрагмент аднаго з лістоў Макара Краўцова ад 12 сакавіка 1937 г. Змест гэтага ліста характэрны. Ён сведчыць аб стане, у якім жыў паэт :**

*“Дарагі Платон! Вялікі табе дзякуй за прысланыя 9 лютага сто злотых... Нажаль я , хоць прафесіяй пісьменнік, нічога цяпер ня пішу. Няма куды. Душная атмасфера дый годзі. Прыдзецца мусі пераключацца на іншую мову ды шрайбаць артыкулы ў расейскія або ў польскія штодзённікі. На хлеб, на воду мусіць чалавек зарабляць. А тут яшчэ хваробы чапляюцца.... З канца*

*месяца сакавіка прадбачыцца работа.. А тамчасам мушу і зноў да цябе звяртацца… Было б добра каб выслаў ты мне яшчэ якіх залатовак 50. Калі там для мяне нічога не маеш. Дык можа скамбінуй як пачыч. Адышлю з падзякай, як толькі зараблю.”*

**Якія ўмовы існавання беларускай культуры адлюстроўвае гэты дакумент?**

**ІІІ. Прачытайце артыкул з газеты “Беларуская крыніца” за 1930 г. і адкажыце на пытанні:**

**1. Што вы ведаеце пра асобы В. Гадлеўскага і А. Станкевіча, аб якіх згадываецца?**

**2. У чым праяўляўся паўкаланіяльны характар культурнай палітыкі польскага ўрада на беларускіх землях?**

**3. Знайдзіце дадатковую інфармацыю пра дзейнасць Беларускага Інстытута Гаспадаркі і Культуры. Наколькі апісаныя падзеі з’яўляліся красамоўнай ілюстрацыяй да дзейнасці гэтай установы?**

**4. Дакажыце, што культурнае багацце Заходняй Беларусі было адной з галоўных падстаў для імкнення беларусаў да аб’яднання ў адзіную Беларусь.**

**“Тры забароны.**

*На дзень 17 жніўня г.г. гурткі Беларускага Інстытута Гаспадаркі і Культуры ў Жодзішках Вілейскага павета і Свірыдавічы Ашмянскага павета ладзілі навуковыя лекцыі, якія меў прачытаць старшыня Цэнтральнага Урада Інстытута кс. Вінцент Гадлеўскі. Але яшчэ перад 17 жніўня Віленскі арцыбіскуп забараніў кс. В. Гадлеўскаму і паказвацца ў Жодзішках. Пасля гэтай забароны паехаў у Жодзішкі чытаць лекцыю кс. Адам Станкевіч. А кс. Гадлеўскі – у Свірыдавічы, але чытаць лекцыі ім забараніла адміністрацыйная ўлада.*

*У Жодзішках у той жа дзень адбыліся ўрачыстыя дажынкі,ладжаныя тамашнім гуртком Інстытута. Урачысты вечар дажынкаў адбыўся на беразе ракі Віліі, дзе пры асвятленні берага ракі агнямі моладзь і старэйшыя дэкламавалі прыгожыя беларускія вершы, а песня беларуская сваім рэхам разносілася ўшыр ваколіц. Гэты традыцыйны вечар не адбыўся і без “апекі” паліцыі, якая не спускаючы вока з прысутнага там кс. Станкевіча, зорка сачыла –за кустоў і ўвесь прабег вечарыны. Але ані “апека” паліцыі”, ані “місіцыйная” дзейнасць кс. Дроніча, беларускасці ў Жодзішках спыніць не могуць…”*

**(з кнігі “Памяць: Гіст-дакум. хроніка Смаргоньскага раёна. – Мн., 2004. – С.188.)**

# Раздзел XVII. Беларуская дыяспара ў міжваенны перыяд.

***Цытата тэмы:***

*"Для ўсіх хваляў беларускіх эмігрантаў характэрна,што яны выязджалі з бацькаўшчыны як бы часова – прынамсі, ім так здавалася. І ўсе эмігранты-беларусы марылі, што "хутка змогуць вернуцца на бацькаўшчыну". Нажаль жыццё наканавала ім іншую долю."*

***Вітаўт Кіпель "Беларусы ў ЗША".***

**1.Вытокі і геаграфія эміграцыі з Беларусі ў 20-30-я гг.** Вытокамі *эміграцыі* з Беларусі ў 20-30-я гг. сталі як эканамічныя, так і сацыяльна-палітычныя прычыны. Новыя ўлады, якія змянялі адна адну ў Беларусі ў 1917-1921 гг., сваёй палітыкай штурхалі да выезду за мяжу розныя групы людзей .

На ўсход, у Расію, беглі ад нямецкай і польскай акупацый. Хоць у 1919-1923 гг. у Заходнюю Беларусь вярнулася з Расіі больш 700 тысяч бежанцаў, дзесяткі тысяч засталіся ў РСФСР.

На захад рушылі тыя, хто не бачыў магчымасці жыць пры новай савецкай уладзе. Тых, хто выехаў па палітычных прычынах, - не было шмат. За міжваенны перыяд, такім чынам, у эміграцыі апынуліся палітычныя лідары беларускага руху, некаторыя ўдзельнікі Слуцкага паўстання, беларускія ксяндзы. Ужо падчас першага ўсталявання савецкай улады восенню 1918 г. пачалі шукаць у Польшчы паратунак ад нацыяналізацыі землеўласнікі. Прадстаўнікі маёмасных слаёў насельніцтва спрабавалі пакінуць тэрыторыю БССР і з канчатковым прыходам бальшавікоў у 1920 г. Галоўны іх накірунак быў ізноў - Польшча.

Масавы характар эміграцыі надалі эканамічныя прычыны. Дрэннае эканамічнае становішча большасці насельніцтва, пошук сродкаў заробку прымушалі да эміграцыі. Ад'езд з Беларусі ў пошуках "лепшай долі" меў быць яшчэ з канца XIX стагоддзя. У ваенны час пачаўся чарговы этап эканамічнай эміграцыі. З Заходняй Беларусі эміграцыя па эканамічных прычынах ішла напрацягу ўсяго міжваеннага перыяду.

Пераважная большасць тых, хто падаўся ў эмігранты, ехалі ў Злучаныя Штаты Амерыкі, Паўднёвую Амерыку, Францыю, Канаду. Частка беларускіх эмігрантаў апынулася ў Чэхаславакіі, Літве, Латвіі, Эстоніі, Польшчы. Месцам палітычнай эміграцыі лідараў БНР стала Прага. Туды ў 1923 г. пераехаў Прэзідыум Рады і Урад БНР. У **1925 г.** часткай гэтых лідараў пад уплывам поспехаў беларусізацыі і лібералізацыі ў БССР было прынята рашэнне аб скасаванні дзейнасці БНР. Сярод іх былі Вацлаў Ластоўскі, Язэп Лёсік, Аркадзь Смоліч, якія вярнуліся ў БССР.

**Імгненне гісторыі:**

"Гэта быў зусім паслядоўны палітычны акт, вынік трох прычын: абсалютнага і безумоўнага росту БССР, якая ператварылася ў рашучы фактар беларускага вызваленчага руху, нацыянальна-культурнага і дзяржаўнага будаўніцтва; расколу адзінага нацыянальнага фронту ў Заходняй Беларусі ў сувязі з падрыхтоўкай рабоча-сялянскай грамады (маецца наўвазе БСРГ б. Тарашкевіча); незацікаўленасці суседніх з Беларуссю буржуазных дзяржаў ў існаванні БНР,"- пісаў А. Цвікевіч аб падзеях расколу сярод беларускай эміграцыі."

Але тагачасныя Старшыня Рады **Пётра Крычэўскі** і яго намеснік **Васіль Захарка** не прызналі Савецкую Беларусь. Вакол іх, у Празе, ядналіся іншыя эмігранты з Беларусі, у прыватнасці выбітная паэтка **Ларыса Геніюш**.

Агульную колькасць тых, хто з'ехаў за мяжу ў міжваенны перыяд, дакладна высвятліць складана. Па некаторых дадзеных на Захадзе апынулася прыкладна 200 тысяч чалавек. Пры будаўніцтве савецкай гаспадаркі ў гады першых пяцігодак з БССР у іншыя раёны Савецкага Саюза выехала 617 тысяч чалавек. Кампактныя асяродкі беларусаў склаліся ў Архангельскай і Мурманскай абласцях, Комі АССР і Сібіры. .

**2.Жыццё беларускай дыяспары.** Жыццё беларусаў у эміграцыі вызначалася іх сацыяльным складам, мэтамі, з якімі яны трапілі за мяжу, і абставінамі, у якіх гэта жыццё праходзіла. У міжваенны перыяд большасць эмігрантаў у краінах Еўропы і Амерыкі вызначалася адасобленасцю. Па сваіх поглядах і настроях гэта была вельмі стракатая маса людзей. Адзінства ў яе мэтах і дзеяннях не было. Большасць эмігрантаў складалі сяляне. Вялікая колькасць з іх з вялікай сімпатыяй ставілася да Расіі і ўсяго, што там адбывалася. Многія тысячы беларусаў-іміграантаў захавалі свае сувязі з праваслаўнай царквой. У дадатак, большасць мела даволі нізкі ўзровень беларускай свядомасці. Прадстаўнікі нешматлікай інтэлігенцыі ў большасці выпадкаў лічылі сябе палякамі. Разам гэта рабіла перспектывы развіцця культурна-асветніцкай дзейнасці сярод эмігрантаў-беларусаў слабымі. У значна лепшым становішчы былі палякі або ўкраінцы-іміграанты.

Паколькі сяляне ў пераважнай большасці эмігрыравалі з-за беднасці і беззямелля, яны з прыхільнасцю ставіліся да мерапрыемстваў у Савецкім Саюзе. У свядомасці тысяч людзей словы савецкі і расійскі гучалі як сінонімы. Усё савецкае ўспрымалася як расійскае, выглядала папулярным і прываблівым. Непісьменныя і палітычна неадукаваныя сяляне-іміграанты траплялі пад уплыў рускіх, польскіх, украінскіх эміграцыйных арганізацый. Шмат з іх з цягам часу растваралася ў гэтых арганізацыях.

Да стварэння зямляцтваў, гурткоў эмігрантаў штурхалі туга па Радзіме, жаданне апынуцца ў сваім асяроддзі, пачуць гукі роднай мовы. У выхадцаў з Беларусі гэты працэс ішоў марудна. Тыя, хто бачыў сябе беларусамі і мелі жаданне ў нейкім беларускім эміграцыйным руху, былі выключэннямі.

Тым не менш, за 20-30-я гг. уласна беларускі эміграцыйны рух склаўся. У значнай ступені гэта быў плён дзейнасці нешматлікіх актывістаў беларускага вызваленчага руху, беларусаў-ксяндзоў. Прыкметную работу ў эміграцыйным асяродку Францыі вёў заснаваны **Міколай Абрамчыкам** і **Лявонам Рыдлеўскім** *"Хаўрус беларускай працоўнай эміграцыі"*. У Аргенціне пачало дзейнічаць *Таварыства бібліятэкі імя Івана Луцкевіча*. На пачатак 20-х гг. у розных штатах ЗША існавала каля дванаццаці малых беларускіх арганізацый. Сярод пачынальнікаў беларускага палітычнага руху ў ЗША былі дзеячы БНР **Язэп Варонка** і **Янка Чарапук**, выдавец расіска-англійскага рэлігійнага часопіса, святар **Ян Тарасевіч**. Важнай з'явою ў эмігранцкім жыцці беларусаў у ЗША стала выданне Варонкай газеты "Беларуская трыбуна". Каб зацікавіць шырокія колы чытачоў, газета выходзіла як на беларускай, так і на расійкай мовах. У 1929 г. Язэп Варонка стаў заснавальнікам "Беларускай Гадзіны" на радыё.

Найважнейшае месца ў дзейнасці розных беларускіх арганізацый у розных краінах займала распаўсюджванне інфармацыі пра Беларусь, СССР, абмен інфармацыяй аб жыцці за мяжой. Нярэдка на старонках перыёдыкі з'яўляліся перадрукоўкі артыкулаў з часопісаў і газет Заходняй Беларусі і БССР. Як на беларускай, так і на расійскай мовах выдаваліся дзесяткі газет, часопісаў, календароў. У сваю чаргу ў беларускіх выданнях Вільны, Літвы і Латвіі змяшчаліся матэрыялы пра беларусаў-эмігрантаў. Беларускія арганізацыі ў Чыкага нават распачалі праграму фінансавай дапамогі беларускім школам ў Вільні, Радашковічах, Клецку і Друі.

Жыццё беларускіх эмігрантаў – гэта драматычная частка найноўшай гісторыі нашай краіны. І міжваенны перыяд 20-30-х гг. гэтай гісторыі стаў для беларускай эміграцыі часам няпростага і супярэчлівага фарміравання.

# Пытанні і заданні:

**І. Аб якіх баках гісторыі Беларусі сведчыў склад і паводзіны беларускай дыяспары?**

**ІІ. Прачытаце верш Л. Генію ш "Мова".**

*Сцішаным сэрцам я чую: бурліць,*
*нібы вясновыя воды,*
*мова адвечная з родных крыніц,*
*мова зямлі і народа!*

*Вякі надбіваюць, спыняюць яе*
*Чужацкія дзікія орды,*
*А мова – жывая, а мова пяе,*
*Гучыць яна ўпэўнена, горда!*

*Людзі цясней! Няхай сэрцы*
*Не спяць,*
*З зямлі мы адной і з роду,*
*Змагацца з насіллем, і мурам стаяць,*
*І быць нам народам, не збродам!"*

**Якімі падзеямі ў Беларусі 20-х-30-х гг. маглі быць выкліканы радкі гэтага паэтычнага твора?**

**ІІІ. Прачытайце тэкст з рэзалюцыі , прынятай сходам эмігрантаў у Сэнт-Луісе ( штат Місуры, ЗША) і адкажыце на пытанні:**

**1. Якія палітычная каштоўнасці згадываюць аўтары гэтай рэзалюцыі? Нагадайце, які бліжэйшы грамадска-палітычны вопыт на беларускіх землях паспрыяў такой палітычнай свядомасці выхадцаў з Беларусі?**

**2. Што такое мандатная сістэма? Як змест рэзалюцыі ілюстрыруе яе месца і ролю ў развіцці міжнародных адносін у міжваенны перыяд?**

**3. Наколькі рэакцыя эмігрантаў супадае з рэакцыяй грамадства ў БССР і Заходняй Беларусі на выніку Рыжскай дамовы?**

**4. Успомніце з сусветнай гісторыі прыклады падзей уплыву эмігрантаў на падзеі ў сваёй краіне. Падумайце, ці была магчымасць у беларускай эміграцыі уплываць на падзеі ў Беларусі?**

*“ Мы, былыя грамадзяне Беларусі, Украіны і Літвы на сходзе , які сабраўся... ў нядзелю 16 траўня 1920 г., пасля старанага і падрабязнага абмеркавання цяперашняй сітуацыі ў вышэй названных краінах, прынялі гэткія рэзалюцыі:З увагі на тое, што пасля належнага разгляду дзеянняў Мірнай Канферэнцыіі Аліянтаў у Версалі, Францыя, 1919 годзе, якая аддала лёс народаў Украіны, Беларусі і Літвы ў рукі іх спрадвечнага ворага Польшчы, мы лічым гэтыя дзеянні Мірнай Канферэнцыі несправядлівымі, асабліва беручы пад увагу тое, што Польшча доўгія гады прыгнятала народы названых краінаў, эксплуатыравала іхнія прыродныя багацці і спрычыняла ім надзвычайнае прыніжэнне пад сваім барбарынскім ярмом.*

*Цяпер, калі тысячы лепшых сыноў кожнае з трох краінаў ахвяравалі сваё здароў’е , шчасце і нават жыццё ў сусветнай вайне дзеля беспекі ў свеце...названая вышэй Мірная Канферэнцыя...паспрыяла паўтарэнню гістарычнай несправядлівасці, аддаўшы Польшчы мандат на кіраванне народамі згаданых краінаў на тэрмін дваццаць пяць гадоў.*

*...Мы просім Урад Злучаных Штатаў і Саюзных дзяржаў адклікаць дадзены Польшчы мандат на падставе таго, што ён пярэчыць прызнаным прынцыпам права кожнага народу на самавызначэнне. Мы партабуем каб Польшча спыніла ваенныя дзеянні на няпольскіх абшарах.*

*Мы патрабуем, каб Урад Злучаных Штатаў спыніў пастаўкі Польшчы ўзбраення і ваеннай тэхнікі.*

*Мы патрабуем, каб наш Урад не падтрымліваў Польшчу вайскоўцамі.*

*Мы патрабуем, каб у гэтым выпадку быў ппрыменены прынцып самавызначэння і каб гэтым народам было дадзена неад’емнае права свабодных людзей вырашаць і выбіраць, са згодаю ўрада, сваю ўласную форму ўрада. І нарэшце, мы злучаем нашыя галасы ў пратэсце супраць ганебных дзеянняў імперыялістычнай Польшчы з галасамі нашых няшчасных землякоў і братоў ва Украіне, Беларусі і Літве.”*

**( з кнігі “Кіпель В. Беларусы ў ЗША. – Мн., 1993. – С.101.”)**

# Раздзел XVIII. Наш край ў міжваенны перыяд.

**1. Крыніцы гісторыі краю.** Падзеленая на часкі Беларусь назапашыла за міжваенны перыяд надзвычай розныя крыніцы. З аднаго боку, гэта дакументальныя сведчанні савецкай рэчаіснасці. З другога боку – факты знаходжання ва ўладарынні Польшы.

І пра адну і пра другую часткі нашай краіны шмат скажа тагачасная *прэса*. Агульнарэспубліканскія выданні **"Савецкая Беларусь", "Звязда", "Полымя", "Маладосць", "Малады араты", "Полесский комунар»"** з сацыялістычных пазіцый адлюстроўваюць поспехі і праблемы пад час правядзення індустрыялізацыі і калектывізацыі, беларусізацыі і "культурнай рэвалюцыі". На старонках гэтых выданняў, а таксама шматлікай *мясцовай*, *раённай*, прэсы можна сустрэць імёны перадавікоў вытворчасці, загады і распараджэнні уладаў, ацэнкі і ўражанні ўдзельнікаў тых пераменаў. Варта звярнуць на гэтыя факты ўвагу і суаднесці з дадзенымі падручніка і іншай навуковай інфармацыяй. На падставе параўнання зручней зрабіць больш грунтоўныя высновы, сфарміраваць пэўныя ўласныя ацэнкі.

Вы ведаеце, што на беларускіх землях у Польшчы таксама выходзілі *газеты і часопісы*. Сярод іх былі беларускія **"Беларускі звон", "Беларускі шлях", "Калоссе", "Шлях моладзі", "Летапіс ТБШ"**. З артыкулаў мясцовых карэспандэнтаў гэтай прэсы можна пазнаёміцца з праблемамі, якія турбавалі беларусаў, і настроямі, што панавалі ў іх. Змест і характар артыкулаў дэманструе як апантанасць барацьбітоў вызваленчага руху, так і, вядомую разбэшчанасць у іх радах. Выходзіла шмат польскамоўных і яўрэйскіх мясцовых перыядычных выданняў. Напрыклад, газета з урадавай афіцыйнай пазіцыяй - *"Тыгоднік Ваўкавыскі"*, які выходзіў з перапынкамі з 1927 па 1935 гг. і з'яўляецца багатай крыніцай па гісторыі Ваўкавышчыны ў міжваенны час. Альбо друкаваны орган дробных купцоў Ваўкавыска і ваколіц – *"Wolkowysker Lebn" ( "Жыццё Ваўкавыска")*, якая выходзіла на ідзіш.

Красамоўным распаўсюджанымі крыніцамі ў 20-30-я гг. ужо становяцца *фотаздымкі і кінастужкі*. Дакументальныя кадры дазваляюць заўважыць шмат таго, што назаўсёды зышло з памяці аб ранейшых часах. Гэта выгляд нашых гарадоў і мястэчак, радзей – вёсак і сёл. Супастаўленне старой выявы вуліцы або квартала з сучасным вобразам гэтай часткі населенага месца дае магчымасць ўсвядоміць розныя гістарычныя падзеі. Гэта - развіццё архітэктуры, жылёвага і прамысловага будаўніцтва, транспарту. Стыль мадэрна, пашырэнне ва ўжытку аўтамабіляў, індустрыялізацыя і электрыфікацыя змянялі самога чалавека і яго асяродак. Выбітным майстрам фотамастацтва ў Заходняй Беларусі быў **Ян Булгак** (1876-1950).

**Уважліва разгледзце фота даваеннага Мінска. Разглядаючы гэты здымак, як гістарычную крыніцу, пералічыце адметныя рысы таго часу. На што вы звярнулі сваю ўвагу? Чаму? Абгрунтуйце свой выбар з дапамогай дадатковай гістарычнай літаратуры.**

**2. Помнікі архітэктуры, гісторыі, культуры.** Міжваенны час для нашай краіны быў напоўнены вартымі мастацтва падзеямі і учынкамі яе грамадзян.

Пра бескампраміснасць барацьбы за незалежнасць у Заходняй Беларусі нагадвае *помнік вязням Бяроза–Картузанскага канцэнтрацыйнага лагера* (1934-1939 гг.). Гэты абеліск быў пастаўлены ў г. Бяроза Брэсцкай вобласці ў 1962 г.

Сведчаннем аб сталінскіх злачынствах у 30-40-я гг. з'яўляюцца *месцы масавых растрэлаў* у кожнай вобласці Беларусі. Ва ўрочышчы *Курапаты* пад Мінскам, у в. Чернагубава Копыльскага раёна, у гарадах Гродна, Чэрвень, Барысаў, Брэст, Маладзечна, Вілейка, Гомель, Копыль і іх ваколіцах, ў 90-я гг. ХХ ст. пастаўлены крыжы і памятныя знакі.

Шматлікія *мемарыяльныя дошкі* ўстаноўлены ў памяць падпольшчыкаў КПЗБ і КСМЗБ. Адна з такіх дошак ёсць на адным з дамоў Брэста, на месцы якога знаходзілася ў 1927-38 гг. адна з падпольных друкарняў. А дом, у якім з 1929 г. знаходзілася канспіратыўная кватэра райкома КПЗБ у Ашмянах, захаваўся. На ім таксама памятная шыльда. Дом знаходзіцца на вуліцы М. Галяса, кіраўніка ашмянскага райкома. Назва вуліцы ў гэтым выпадку таксама напамінае аб падзеях вызваленчага змагання.

**На падставе інфармацыі памятных шыльдаў у вашай мясцовасці з дапамогаю дадатковай літаратуры, вусных апытанняў збярыце звесткі аб падзеях, пра якія нагадваюць гэтыя паятныя знакі. Выкладзіце сабраны матэрыял у выглядзе рэферата.**

Сацыялістычныя пераўтварэнні у вялікай колькасці ўвасобіліся ў розных творах *выяўленчага беларускага мастацтва*. У жывапісу – гэта творы **Міхаіла Філіповіча, Міхаіла Станюты, Івана Ахрэмчыка**. Рэчаіснасць Заходняй Беларусі 20-30-х гг. засталася ў творах **Пятра Сергеевіча** і **Язэпа Драздовіча.**

Графічныя работы ўпрыгожвалі часопісы, кнігі, якія шматлікімі накладамі пачалі выходзіць у часы беларусізацыі і культурнай рэвалюцыі. Тут адзначыліся такія майстры, як **Павел Гутоўскі, Анатоль Тычына, Генадзь Змудзінскі**. Змест іх графічных работ - гэта наяўнае сведчанне настрояў і мараў людзей 20-х гг. , якія жылі ў савецкай Беларусі. Але перамены ў грамадска-палітычным жыцці ў 30-е гг., павялічэнне сталіншчыны прыявялі да збяднення тэматыкі творцаў. **Абмяркуйце, чаму?**

У час знаходжання Заходняй Беларусі ў складзе Польшчы адным з бакоў палітыкі паланізацыі было перайменаванне *вуліц і плошчаў.* З'яўляліся плошчы «Баторыя», вуліцы «Пілсудскага», «3 мая», «1 лістапада». Гэта павінна было нагадваць жыхарам нашых гарадоў і вёсак пра важкія падзеі гісторыі польскай дзяржавы.

**Успомніце , як гэтыя падзеі польскай гісторыі звязаны з мінуўшчынай нашай дзяржавы.**

У савецкай Беларусі назвы расійскага часу змяняліся на плошчы «Леніна» і «Сталіна», вуліцы з імёнамі рэвалюцыянераў і герояў грамадзянскай вайны. Часта гэтыя палітычныя і ваенныя дзеячы не мелі ніякага дачынення да беларускіх зямель. Такіх перамен патрабавала выхоўванне ў беларускіх людзей савецкага *светапогляда*.

**Знайдзіце, якія вуліцы ці плошчы вашага населенага пункта нагадваюць сваімі назвамі пра час 20-30-х гг. Пацікаўцеся, якія назвы былі ў іх ў міжваенны час. Паспрабуйце знайсці тлумачэнне гэтым назвам.**

**3. "Людзі зямлі беларускай".** Рэчаіснасць кожнай часткі Беларусі: і савецкай, і той, што была "пад польскай уладай", адметным чынам уплывала на лёсы іх жыхароў. У БССР 20-30-я гг. былі часам, дзе спалучыліся пакаленні людзей, якія ведалі жыццё ў царскі расійскі перыяд і пакаленне, якое нарадзілася і фарміравался ўжо пры новай, савецкай уладзе. У раёнах, якія сваёй тэрыторыяй, былі часткаю Польшчы, людзі таксама спалучаюць розны жыццёвы досвед. Гэта накладала істоты адбітак на паводзіны і думкі гэтых людзей. 20-30-я гг. – гэта час актыўнага ўдзелу ў жыцці грамадства трыдцаці-пяцідзесяцігадовых, з іх багатым рэвалюцыйным і ваенным вопытам, дарэвалюцыйнай адукацыяй і самаадукацыяй. У гэты жа час ў жыццё ўваходзяць "на вякі – дзевятнадцацігадовыя", тыя, на долю якіх прыдзецца навала фашызма ў 1939-45 гг. Угледзіцца ў гэтае перакрыжаванне каштоўнасцеў, ідэалаў, мараў лепей з дапамогаю *ўспамінаў*.

Вусная гісторыя міжваеннага часу яшчэ дасягальна для нас. Яе носьбіты – людзі вельмі сталага ўзросту. Асабістыя ўражанні тагачаснай мінушчыны, якія захаваліся ў памяці гэтых сталых людзей – каштоўнейшая крыніца. Аднак звяртацца да такой інфармацыі трэба абачліва, крытычна, удумліва. Факты вусных успамінаў трэба спалучаць з вядомым, шукаць ў іх падабенства са змешчанымі ў кнігах звесткамі і знаходзіць іх адметнасць. З дапамогаю дадатковых фактаў трэба спрабаваць зразумець, наколькі пачутае ад сучасніка, і сведкі тых падзей 70-80-гадовай даўніны, дадае новага і праўдзівага да вашых ведаў пра той час.

**Прачытайце біяграфічны экскурс паводле нарыса Ўладзіслава Ладысева "Іосіф Лагіновіч (1892 –1940 гг.)". Падумайце, якія супярэчнасці палітычнай барацьбы ў Заходняй Беларусі адлюстраваліся ў лёсе гэтага вядомага дзеяча КПЗБ. Як выразумееце выраз "чалавек свайго часу"? Наколькі, на вашу думку, гэта вызначэнне падыходзіць да лідара камуністаў Заходняй Беларусі?**

*"Вядома, што нарадзіўся Іосіф Каэтанавіч Лагіновіч у сям'і беднага селяніна. У 11-гадовым узросце быў уладкаваны бацькам у Слуцкае гарадское вучылішча. З яго і пачаўся шлях І. Лагіновіча ў палітычную дзейнасць. Гэта быў час першай рускай рэвалюцыі. 14-гадовы І. Лагіновіч бярэ ўдзел у вучнёўскім рэвалюцыйным руху. Потым былі знаёмствы з прыхільнікамі БСГ, агітацыйная работа, фронт першай сусветнай вайны, удзел у эсэраўскай фракцыі ў часы двоеўладдзя і кастрычніцкіх падзей 1917 г.*

*У 20-я гг. на Случчыне І. Лагіновіч удзельнічае ў павятовым з'ездзе сялян. Уваходзіць у склад батрацкай камісіі калектыўнай гаспадаркі, з'яўляецца камісарам мястэчка Кругавічы і ...удзельнічае ў складзе І-га Слуцкага палка ў падзеях Слуцкага мецяжу восенню 1920-га. Вынікі мецяжу і прывялі І. Лагіновіча з роднай Случчыны ў Заходнюю Беларусь. Увесь яго назапашаны палітычны і рэвалюцыйны вопыт прыйшоўся вельмі дарэчы, калі І. Лагіновіч уключыўся ў вызваленчую барацьбу на заходнебеларускіх землях.*

*Менавіта ён – адзін з ініцыятараў і стваральнікаў Беларускай Рэвалюцыйнай Арганізацыі, створанай, як вядома, у 1922 г. На наступны год БРА стала часткаю КПЗБ, а І. Лагіновіч адным з лідараў гэтай камуністычнай партыі. Яму ў ЦК КПЗБ быў даручаны важны ўчастак партыйнай работы – нацыянальна-вызваленчы рух у краі. З 1925 г. адзінаццаць год – і якіх! – І. Лагіновіч палітычны сакратар ЦК КПЗБ. На гэтай пасадзе ён меў уплыў і аўтарытэт сярод розных дзеячаў Беларускага пасольскага клуба, садзейнічаў стварэнню Грамады. КПЗБ яго часу – адна з наймацнейшых партый вызваленчага руху.*

*Як палітычны дзеяч такога супярэчлівага часу І. Лагіновіч на сваёй пасадзе становіцца неад'емнай шрубкай усяго бюракратычнага механізму, падпарадкаванага сталінскаму кіраўніцтву. З гэтым быў звязаны яго адыход ад супрацоўніцтва з дзеячамі нацыянальна-вызваленчага руху, якія непрыхільна ставіліся да ідэй сацыялістычнай рэвалюцыі. Але і ў гэтых умовах да заслугі І. Лагіновіча можна аднесці рашэнне аднаго з Пленумаў ЦК КПЗБ у 1931 г., дзе не ставілася задача прымусовага самавызначэння Заходняй Беларусі ў сувязі з абавязковым далучэннем да БССР. Сярод матываў такога рашэння быў улік настрою часткі насельніцтва краю, якое адмоўна ставілася да сталінскай улады.*

*Аднак махавік рэпрэсійнай машыны працаваў безадказна, і ў 1936 г. І. Лагіновіч па сфальсіфікаванаму абвінавачванню асуджаны на зняволенне ў сталінскіх лагерах. Там і памёр у 1940 г. Іронія лёсу! Апошняе пасяджэнне Трыбуналу па справе І. Лагіновіча адбылося ў кастрычніку 1939 г., за два дні да афіцыйнага адкрыцця Народнага Сходу Беларусі , які прымаў рашэнне аб уваходжанні Заходняй Беларусі ў БССР.*

# Пытанні і заданні:

1. Якія вы ведаеце беларускія перыядычныя выданні 20-30-х гг.?
2. Чаму змест артыкулаў газет і часопісаў патрабуе крытычнага стаўлення да іх?
3. Знайдзіце ў гістарычнай літаратуры дадатковую інфармацыю аб Яне Булгаке і падрыхтуйце паведамленне аб гэтым фотамайстре і яго творах.
4. Паразважайце, якія падзеі 20-30 –хх гг. у Беларусі маглі натхняць дзеячаў выяўленчага мастацтва і літаратуры на творчасць? Якія прыклады такой творчасці вы можаце прывесці?
5. Чаму да вусных успамінаў пра падзеі 20-30-х гг. трэба ставіцца крытычна і ўдумліва?

## Пераканайцеся ў сваёй здольнасці выконваць наступныя заданні і разважаць на прапанаваныя ніжэй тэмы:

**І. Вядома, што час беларусізацыі стаў перыядам росквіту краязнаўства. Тысячы краязнаўцаў у Беларусі літаральна а «адкрывалі» для сябе і сваіх вучняў і студэнтаў мінуўшчыну свайго краю. Знайдзіце звесткі, хто займаўся краязнаўствам у вашым краі? Якія дасягненні гэтых даследчыкаў вядомы дасюль?**

**ІІ. Прачытай верш Янкі Купалы *"Ты з Заходняй, я з Усходняй"*.**

*"Ты з Заходняй, я з Усходняй*
*Нашай Беларусі,*
*Больш з табою ўжо ніколі*
*Я не разлучуся…*
*Разам будзем араць поле*
*Трактарам сталёвым,*
*Сеяць жыта і пшаніцу*
*На загонах новых,*
*Частавацца будзем разам*
*З кожным новым годам*
*Верашчакаю калгаснай*
*І калгасным мёдам…"*

**Аб якіх настроях, звязаных з фактам аб'яднання Беларусі, ідзе, на ваш погляд гаворка ў гэтам творы?**

# Раздзел XIX. Беларусь у 1939-1941 гг.

**1.Беларусь у пачатку Другой сусветнай вайны. 1 верасня 1939 г.** пачалася Другая сусветная вайна. Фашысцкая Германія напала на Польшчу. Згодна са зместам германа-савецкага дагавора аб ненападзе - *пактам Рыбентропа-Молатава* ад **23 жніўня 1939 г.** фашысты імкнуліся акупаваць тэрыторыю Усходняй Еўропы да земель Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. У польскіх войсках служыла нямала беларусаў. Разам з палякамі яны гераічна змагаліся ў час абароны Гдыні, Модліна, Варшавы. Але сілы былі няроўныя. На трэці тыдзень вайны камандаванне польскіх войскаў на чале з генералам Эдвардам Рындз-Сміглым не змагло арганізаваць эфектыўную абарону і разам з урадам пакінула краіну. 14 верасня быў акружаны Брэст-Літоўск. На наступны дзень паў Беласток, і часці вермахта перайшлі лінію Керзана.

**Успомніце з гісторыі першай сусветнай вайны калі, кім, і па якой тэрыторыі была вызначына лінія Керзана.**

**17 верасня 1939 г.** войскі Чырвонай Арміі пачалі паход у Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну. Больш чым 200-тысячнаму Беларускаму фронту супрацьстаяла 45 тысяч польскіх салдат і афіцэраў. Пераважная колькасць польскіх войскаў здалася без бою. Упартыя баі разгарнуліся толькі 20-21 верасня каля Гродна. У выніку ваеннай аперацыі сіламі Беларускага фронту да канца верасня была вызвалена Заходняя Беларусь. Страты войскаў Чырвонай Арміі склалі 996 чалавек забітымі і 2002 параненымі. Адначасова былі *інтэрніравана* і раззброена больш за 60 тысяч польскіх вайскоўцаў. З фашыстскім кіраўніцтвам была ўзгоднена мяжа. *Савецка-германскі дагавор аб дружбе і граніцы* ад **28 верасня 1939 г**. вызначаў гэтую мяжу. Згодна з ім паўночная мяжа СССР праходзіла па рэках Піса, Нарэў, Буг, Вісла, Сан. На савецкім баку апынулася амаль усё даваеннае Беластоцкае ваяводства.

**2.Уз’яднанне беларускага народа.** Злучэнне Беларусі ў адно цэлае было мараю і мэтаю адначасова вялікай колькасці людзей як у Заходняй Беларусі, так і ў БССР. Таму ўваход Чырвонай Арміі быў сустрэты з уздымам і натхненнем. У ваяводствах, паветах і гарадах на аснове загада камандуючага Беларускім фронтам Міхаіла Кавалёва былі створаны Часовыя ўпраўленні, у мястэчках і вёсках - сялянскія камітэты. Разам са зменай улады паўсюдна пачалася перабудова жыцця ў інтарэсах беларускага насельніцтва. Мясцовае насельніцтва, галоўным чынам з ліку сярэдніх і бяднейшых слаёў, з энтузіязмам уключылася ў гэту стваральную працу.

Не чакаючы заканадаўчых актаў, новыя ўлады пачалі распараджацца маёмасцю памешчыкаў, асаднікаў, царквы. Гэта маёмасць дзялілася паміж сялянамі. З першых дзён савецкай улады памешчыкі, асаднікі, духавенства, багатыя мяшчане і сяляне, прадстаўнікі польскай мясцовай улады лічыліся ворагамі. Напады на прадстаўнікоў гэтых груп насельніцтва не асуджаліся камандваннем Чырвонай Арміі. Прыкладам самасуду сялян стала забойства ў 1939 г. вядомага ў польскім і беларускім руху памешчыка Рамана Скірмунта.

Перад Часовай адміністрацыяй у Заходняй Беларусі паўстала мноства пытанняў па ўсталяванню новага жыцця. Трэба адзначыць, што большасць з гэтых пытанняў вырашалася не ў Мінску, а ў Маскве. Для правядзення палітыкі савецкай улады з усходніх і цэнтральных раёнаў БССР прыбывалі сотні камуністаў і камсамольцаў.

1 кастрычніка 1939 г. кіраўніцтва ЦК ВКП(б) прыняло пастанову аб скліканні *Беларускага Народнага сходу*. Выбраныя па абласцях Заходняй Беларусі дэпутаты павінны былі, у прыватнасці, вырашыць пытанне аб злучэнні зямель Беларусі. Выбары ў Народны сход праходзілі пры надзвычай высокай актыўнасці насельніцтва краю. Упершыню ў гісторыі Заходняй Беларусі права быць выбранымі атрымалі і жанчыны. Народны сход пачаў работу **28 кастрычніка 1939 г.** у Беластоку. Тады была прынята Дэкларацыя аб дзяржаўнай Савецкай уладзе, а на наступны дзень прынята Дэкларацыя аб уваходжанні Заходняй Беларусі ў склад БССР. Праз чатыры дні V (нечарговая) сесія Вярхоўнага Савета СССР вырашыла задаволіць просьбу Народнага сходу Беларусі і ўключыць Заходнюю Беларусь у склад СССР, злучыўшы яе з БССР. Фармальна ўключэнне Заходняй Беларусі ў склад БССР адбылося **14 лістапада**, калі на падставе прашэння дэпутатаў, якое знаходзілася ў Дэкларацыі Народнага сходу, Вярхоўны Савет БССР прыняў адпаведны закон.

Уз’яднанне беларускага народа восенню 1939 г. з’яўляецца адным з важных крокаў на шляху да незалежнай і суверэннай дзяржавы. У першую чаргу таму, што аб’яднаная большасць беларусаў стала жыць на тэрыторыі, не раздзеленай дзяржаўнымі межамі.

**3.Савецкая палітыка на аб’яднанай Беларусі (1939-1941 гг.)** Пасля аб’яднання БССР стала рэспублікай з агульнай плошчай 223 $км^2$ і з колькасцю насельніцтва 10,2 мільёна чалавек. Пераважная большасць насельніцтва складалі беларусы і толькі ў заходняй частцы Беластоцкай вобласці пераважала польскае насельніцтва. Па рашэнню савецкага ўрада без усялякай увагі на волю жыхароў, Вільня і Віленская вобласць у кастрычніку 1939 г. былі перададзены Літве.

На далучаных землях савецкая ўлада пачала праводзіць тую эканамічную, сацыяльную і культурную палітыку, якую ўжо два мінулыя дзесяцігоддзі спазнала Усходняя Беларусь. Уся тэрыторыя Заходняй Беларусі была падзелена ў адпаведнасці з агульнасаюзным адміністратыўна-тэрытарыяльным прынцыпам на вобласці, раёны і сельскія саветы. Так БССР павялічылася на пяць новых абласцей – Баранавіцкую, Беластоцкую, Брэсцкую, Вілейскую і Пінскую.

Адбыліся выбары ў мясцовыя органы ўлады – саветы. Пачалося аднаўленне ў партыі былых членаў КПЗБ. Аднак ішло яно ва ўмовах падазронасці і закранула нязначную частку камуністаў – усяго 46 чалавек. Затое, да канца 1940 г., у заходнія вобласці была накіравана 31 тысяча работнікаў савецкай адміністрацыі, настаўнікаў, работнікаў культуры. Адначасова, за прыналежнасць да пэўных заняткаў пры былой польскай уладзе, падвергліся рэпрэсіям работнікі лясной аховы, асаднікі, памешчыкі, дзеячы некамуністычных партый. У лютым 1940 г. у Сібір і Казахстан было вывезена 50 тысяч чалавек, у кастрычніку таго ж года яшчэ 24 тысячы чалавек.

З пачатку ўсталявання савецкай улады яе палітыка ў сельскай гаспадарцы не была звязана з хуткім утварэннем калгасаў. Да пачатку агрэсіі Германіі на СССР ў 1941 г. калгасамі было ахоплена 6,7% агульнай колькасці гаспадарак.

Разам з развіццём сельскай гаспадаркі ішло паскоранае будаўніцтва і пераабсталяванне фабрык і заводаў. Ствараліся рамесныя кааператывы. Работа на прадпраемствах ішла ў тры змены. Гэта быў адзін са спосабаў барацьбы з беспрацоўем. Як вынік, аб'ёмы вытворчасці прамысловасці да канца 1940 г. узраслі ўдвая ў параўнанні з 1938 г.

Шмат высілкаў патрабавала развіццё сістэмы аховы здароўя. На тэрыторыі Заходняй Беларусі налічвалася 2989 бальнічных ложкаў (у БССР – 17200 ложкаў). Таму на далучаных землях уводзілася бясплатная медыцынская дапамога, разгортвалася сетка розных медыцынскіх устаноў.

У сферы культуры і адукацыі пачалася праца па ліквідаванню з'яў паланізацыі і непісьменнасці, фарміраванню новай савецкай інтэлігенцыі. Да верасня 1940 г. ў заходніх абласцях рэспублікі тры чвэрці школ былі беларускія. Таксама дзейнічалі польскія, рускія, яўрэйскія, літоўскія школы. На кіруючыя пасады прызначаліся людзі, якія не ведалі ні беларускай, ні польскай або яўрэйскай мовы. Школьніцтва ў БССР ў канцы 30-х гг. ужо амаль цалкам развівалася на рускай мове. Намаганні ў галіне асветы прывялі да значнага росту пісьменных. Быў створаны шэраг настаўніцкіх інстытутаў у Гродне, Пінску, Беластоку і Баранавічах.

Яшчэ ў лістападзе 1939 г. у Беластоку быў створаны Беларускі ансамбль песні і танца пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы. Драматычныя тэатры запрашалі ў свае залы ў Брэсце, Беластоку, Гродне, Пінску, Баранавічах.

Культурная палітыка ўтрымлівала элементы беларусізацыі, хоць мэты і сродкі яе адпавядалі "культурнай рэвалюцыі". Трагічным прыкладам гэтага сталі рэпрэсіі ў дачыненні да дзеячаў культуры, прадстаўнікоў духавенства, асабліва праваслаўнага. Дзяржаўную падтрымку мелі ідэі *"ваяўнічага атэізму"*, на падставе якіх ішла шалёная барацьба з рэлігіяй. У 1939 г. былі арыштаваны Уладзімір Самойла, Антон Луцкевіч, Макар Краўцоў, адзін з пачынальнікаў "Нашай Нівы" Аляксандр Уласаў.

Разам з усім гэтым, пры ўсім гвалце савецкай таталітарнай сістэмы кіравання, што адразу адчулі і ў Заходняй Беларусі, абсалютная большасць насельніцтва ўсё ж перажывала вялікую радасць ад злучэння ў адзіную Беларусь. Людзей не пакідала вера, што рана ці позна іх край здабудзе для сабе счаслівае, незалежнае жыццё.

# Пытанні і заданні:

**I . Прачытайце ўрыўкі з успамінаў сведкаў падзей ўсталявання савецкай улады ў Беларусі ў 1939 годзе і адкажыце на пытанні:**

**1. Пра якія істотныя перамены, што адбыліся ў эканамічным становішчы людзей згадываецца ва ўспамінах?**

**2. Што ва ўспамінах жыхароў Смаргоншчыны гаворыць аб іх асабістым стаўленне да савецкай улады?**

**3. Розныя ўспаміны падаюць розныя бакі жыцця пры новай для жыхароў Заходняй Беларусі, савецкай уладзе. Вызначце з матэр'ялу ўспамінаў, як станоўчыя, прагрэсіўныя, такі і гвалтоўныя, адмоўныя бакі гэтага новага жыцця.**

**4. Дайце ацэнку факту ўз'яднання Беларусі з пазіцыі: а) беларускага народа, б) СССР, в) Польшчы. Абгрунтуйце свае пункты гледжання.**

**"Жыхар в. Вішнева В.Г. Пішчака:** *"Праз нашу вёску Вішнева ішлі часці Чырвонай арміі. Яны ішлі праз Вілейку, Войстам, Вішнева на Палацкі тракт і на Вільню. Салдаты былі, відаць, вельмі стомленыя. У гэты год якраз было вельмі шмат яблыкаў. Але салдатам было загадана нічога не чапаць ці плаціць грошы. І яна моўчкі праходзілі міма. Тады людзі самі пачалі*

*частаваць іх яблыкамі, збіралі кошыкі і выносілі на дарогу... Калі прайшло войска, лічылася, што ўжо прыйшла савецкая ўлада. Старшынёй сельсавета быў абраны П.Ф. Пупкевіч... Гэта быў добры, адукаваны, сціплы чалавек. Яго з павагай называлі "Паўлуша". Пры Польшчы ён быў прыхільнікам савецкай улады і сядзеў у канцлагеры Картуз-Бяроза. Запомнілася, як часта ў гміне былі сходы, на якія абавязкова трэба было ісці, бо не пойдзеш – можаш трапіць у Сібір. Калі прыйшлі Саветы, асабліва радаваліся малазямельныя, бо ім далі зямлю. Багатыя палякі і асаднікі паўцякалі..."*

**Жыхарка в. Сукневічы В.І. Страшынская:** "*...Салдаты ехалі на танках. Людзі, асабліва моладзь, кідалі ім ахапкі белых восеньскіх кветак.... Як прыйшлі Саветы адразу стала жыць лягчэй. Далі беззямельным зямлю, кароў ўжо можна было пасвіць усюды – у лесе, на лузе. Паадчынялі беларускія школы... Раней ж гэта ўсё было ўласнасцю паноў. У канторах у Смаргоні можна было прачытаць распараджэнне: "Па-польску не размаўляць!"У магазінах з'явілася больш лепшых і таннейшых тавараў. Усё прывозілася з Усходняй Беларусі."*

**Жыхар Смаргоні Ч.М. Яцкевіч:** *"Мне як глыбока веруючаму чалавеку, былому арганісту Смаргоньскага касцёла, запала ў памяць закрыццё новай уладай амаль пабудаванага Дома Людова. Веруючыя ўсёй парафіі збіралі грошы на будаўніцтва, вазілі каменні, пілавалі лес. Але ж ніхто нікога не пытаў. Прныйшлі, забралі ключы і зрабілі ў Доме Людовым Дом культуры.Гэты акт вельмі абразіў тады ўсіх веруючых католікаў.Але ўсе маўчалі , бо баяліся Сібіры."*

**Жыхарка в. Мінкі А.В. Рылёва:** *"Па Мінскай вуліцы ў горад увайшлі савецкія танкі. Сустракалі іх па-рознаму. Адны радаваліся, другія баяліся... Прыходзілася шмат ездзіць па вёсках. У якой галаце, брудзе жылі тады многія на вёсцы! Хаты без падлогі, літаральна заядалі вошы і скочкі. І вось прыйшлі Саветы. Як многа было зроблена тады, каб выцягнуць людзей з гэтай несусветнай беднаты. З усходняй Беларусі эшалонамі на захад везлі машыны, трактары, прамысловыя тавары, медыкаменты. У Смаргоні адчынілася бальніца, дзіцячая кансультацыя, амбулаторыя, кінатэатр ...Я з вялікай ўдзячнасцю ўспамінаю тыя першыя, як казалі Саветы, якія прынеслі надзею на лепшае жыццё."*

**Жыхар в. Зарудзічы І.П. Савоська:** *"...Дарэчы, багатыя палякі, як даведаліся, што вось-вось тут будуць бальшавікі, сталі збірацца і ўцякаць у Польшчу. Так, спешна збіралася пані Жаброўская, якой належаў маёнтак Агінскага. Відаць , захапіла самае каштоўнае. Бо ўсё астатняе – мэбля, было пакінута. І спачатку людзі кінуліся рабаваць маёнтак, цягнулі хто што мог, і дарослыя , і дзеці...Але як толькі ўстаялавался савецкая ўлада, было загадана ўсё вярнуць назад..."*

**З інфармацыі ўпаўнаважанай гаспадарчай камісіі Сольскай воласці аб высяленні асаднікаў Сольскай воласці(9.2.1940):** *"В гэты час прыбылі пагранічнікі разам з начальнікамі груп, прызначанымі для правядзення аперацыі (па высяленню асаднікаў)...Усім , хто прыбыў, было сказана, што ў 3 гадзіны ночы паедуць на ўчасткі для правядзення работы...Удзельнічала пры аперацыях і тут жа на месцы выклікала сялянскія камітэты для ўліку*

*маёмасці. Хлеб знаходзіўся ў вялікіх копах... Быдла знаходзілася ў даволі добрым стане, але фуражу для яго засталося вельмі мала. Бульба ў некаторых месцах знаходзілася ў ямах, адкрыта, замёрзлая. Адбываліся пільныя вобыскі зброі і нічога не знайшлі...Супраціўлення не было. Усе 35 сем'яў цалкам былі дастаўлены да эшэлона. У 13 хатах з мэблі амаль нічога не было... Разам з тым - бруд, усё нагадвала жыццё першабытных людзей. Дамы, у большасці, былі пабудаваны пад адным дахам з хлявом для свойскай жывёлы... У некаторых не было што адзець дзецям. Гэта істотна ўскладняла працу. Вымушаны былі па суседнім вёскам шукаць анучы і рванае адзенне, каб неяк прыкрыць голых малых дзяцей, а ў кожнага іх было 5-8. З 35 сем'яў збегла адна старая, яе знайшлі ў сваякоў і яна была адпраўлена..."*

**II. Прачытайце дакумент і выкарыстайце яго змест для аргументацыі сваіх адказаў аб умовах і выніках аб'яднання Беларусі.**

*"Сакрэтны дадатковы пратакол.*

*Пры падпісанні дагавора аб ненападзе паміж Германіяй і СССР ніжэйпадпісаўшыеся ўпаўнаважаныя абодвух бакоў абмеркавалі ў строга канфедэнцыйным парадку пытанне аб размежаванні сфераў інтарэсаў кожнага ва Усходняй Еўропе. Гэта абмеркаванне прывяло да наступнага выніку:*

1. *У выпадку тэрытарыяльна-палітычнага пераўсталявання абласцей, якія ўваходзяць у склад Прыбалтыйскіх дзяржаў (Фінляндыя, Эстонія, Латвія, Літва) паўночная мяжа Літвы адначасова з'яўляецца мяжой сфераў інтарэсаў Германіі і СССР. Пры гэтым інтарэсы Літвы адносна Віленскай вобласці прызнаюцца з абодвух бакоў.*
2. *У выпадку тэрытарыяльна-палітычнага пераўсталявання абласцей, якія ўваходзяць у склад Польскай Дзяржавы, мяжа сфераў інтарэсаў Германіі і СССР будзе прыблізна праходзіць паміж р. Нарэва, Віслы, Сана.*

*Пытанне, ці з' яўляецца ў інтарэсаў кожнага боку пажаданым захаванне незалежнасці Польскай Дзяржавы і якой будзе мяжа гэтай дзяржавы, можа быць канчаткова высветлена толькі ў выніку далейшага палітычнага развіцця.*

*У любым выпадку, абодва Урада будуць вырашаць гэта пытанне ў парадку сяброўскай згоды.*

3. *Гэты пратакол будзе захоўвацца абодвумя бакамі ў строгім сакрэце. Масква, 23 жніўня 1939 г. В. Молатаў, І. Рыбінтроп."*

**III. Заданне "Постаць у гісторыі".**

**Прачытайце біяграфічны экскурс "Панцеляймон Панамарэнка (1902-1984 гг.)". Паразважайце аб месцы і ролі гэтага чалавека ў адпаведным перыядзе гісторыі Беларусі.**

*"У яго быў даволі распаўсюджаны лёс савецкага чыноўніка, і, адначасова, незвычайны. Распаўсюджаны таму, што тысячы такіх, як ён, з розных частак СССР па загаду партыі або камсамола, хай і не маючы каранёў і не ведаючы ні жыцця, ні гісторыі краю, прысылаліся ў БССР, каб будаваць тут савецкае жыццё. Незвычайны – таму, што пасада Першага сакратара ЦК КП(б) з 1938 па 1947 гг., якую займаў ён, Панцеляймон Кандратавіч Панамарэнка, надавала яму велізарныя паўнамоцтвы. І час яму выпаў для*

*кіраўніцтва - найскладанейшы, трагічны для Беларусі ў савецкім перыядзе гісторыі.*

*Ён быў часткай адміністратыўнай сістэмы, як вы ведаеце, аўтарытарнай і таталітарнай, якая дзейнічала адладжана па сваіх жорсткіх законах. Усе мерапрыемствы Савецкага ўрада ішлі праз яго распараджэнні. Кожны крок савецкай палітыкі ў БССР прадстаўляўся ім непасрэдна Сталіну. Заходняя Беларусь лічылася адказным участкам партыйнай работы. Вы ўжо ведаеце яе гісторыю і разумееце, што – нездарма. З ведама П. Панамарэнкі і з яго ўдзелам перадваенную Беларусь закранула хваля сталінскіх рэпрэсій. Пад грыфам "зусім сакрэтна" ён атрымліваў інфармацыю  і даваў згоду на прымусовыя высяленні насельніцтва з заходніх зямель БССР.  З пачатку 1939 г. ён удзельнічае ў выкрацці кіраўніцтва НКУС БССР, якое было абвінавачана ў злоўжыванні ўладаю.*

*У першыя гады другой сусветнай вайны, у якасці аднаго з членаў Ваеннага Савета Заходняй ваеннай акругі, у якую ўваходзіла БССР, П. Панамарэнка кіруе ўмацаваннем абароназдольнасці беларускіх рубяжоў СССР. З нападам фашысцкай Германіі на СССР яму, па загаду І. Сталіна даручана ўзначаліць Цэнтральны штаб партызанскага руху. Этапы развіцця савецкага партызанскага руху ў ССР і ў Беларусі, у прыватнасці, звязаны з арганізацыйнай дзейнасцю П. Панамарэнкі.*

*Адразу пасля першых крокаў вызвалення БССР ён удзельнічае ў аднаўленні і новым будаўніцтве разбуранага вайной беларускага жыцця. Менавіта тады, у жніўні 1944 г., П. Панамарэнка змог знайсці аргументы для Сталіна, каб адстаяць Полаччыну ў складзе Беларусі, якую ў той час планавалі перадаць у склад РСФСР.*

*Чалавек сістэмы і свайго часу."*

**IV. Прачытаце ўрыўкі з успамінаў. Звярніце ўвагу на вызначыныя курсівам даты і словы і  зрабіце тлумачэнні ім.**

**З успамінаў дачкі сябра КПЗБ Д.Ф. Царыка:** *" У нашай хаце ў в. Кунава часта збіраліся падпольшчыкі... Аднойчы ў хату наляцела паліцыя. Перавярнулі ўсё дагары нагамі... Пачаліся арышты сярод падпольшчыкаў. Мабыць тады кіраўніцтва КПЗБ вырашыла адправіць майго бацьку Дзмітрыя Фаміча Царыка разам з жонкай у СССР. І вось, у 1934 г., нелегальна перайшоўшы мяжу, яны аказаліся ў СССР, у Томску. Бацька працаваў касцюмерам у клубе. Ён быў добры кравец. У Томску нарадзілася двое дзяцей. Прыкладна ў* ***1937 – 38гг.*** *у хату прыйшлі супрацоўнікі* ***НКДБ****, каб арыштаваць бацьку... Бацька памкнуўся ўзяць дзяцей на рукі, але міліцыянеры...завярнулі рукі назад і вывелі з хаты. Больш мы яго не бачылі. Праз месяц пасля арышту бацькі маці прыслалі паведамленне з'явіцца ў НКДБ. Яна баялася, што забяруць і яе... У НКДБ быў допыт, пасля якога маці адпусцілі дахаты і параілі вяртацца на радзіму. У 1947 г. мы прыехалі ў родную вёску, да бацькоў маці. Сабраліся суседзі.* ***Яны не пазнавалі нас, бо мы гаварылі па-руску****, былі апранутыя , як жабракі. Маці з бабуляй хадзілі ў калгас,* ***працавалі , як і ўсе, дарма.*** *Не было бацькі, і ў калгас мы нічога не*

*маглі даць – ні каня, ні каровы, і нічога іншага. А таму і нам, калі што давалі, даставалася ў апошнюю чаргу.”*

**З успамінаў жонкі сакратара Смаргоньскага РК КПЗБ У.С. Шыдлоўскага**: *“Мой муж быў сакратаром Смаргоньскага РК КПЗБ з 1929 па 1931 гг. За рэвалюцыйную дзейнасць сядзеў у польскіх турмах. Аднойчы ў хату прыйшоў паліцыянт і сказаў мужу: “Ты невыправімы камуніст, едзь у сваю Расію, бо тут згінешь у турме”. Пасля такой шчырай заявы Уладзімір прыняў рашэнне пакінуцб Заходнюю Беларусь... Мяжу перайшлі ў падрыхтаваным таварышамі па барацьбе калідоры ў раёне Радашковічаў....Але нават не паспелі агледзіцца, як былі арыштаваны оргавнамі НКДБ. Пачаліся допыты****. Нас абвінавацілі ў шпіянажы.*** *Муж быў збіты, асунуты, ледзь мог гаварыць. Ён расказаў мне як яго катавалі – білі. Я страціла прытомнасць. А калі ачуняла, мужа ўжо не было. Майго мужа, я мяркую, застрэлілі* ***ў Курапатах****. У Менскай турме я прасядзела 1 год. А потым была выслана ў Сібір. Колькі гора прыйшлося перанесці, перажыць. Але асабліва балюча , што бальшавіцкія катаванні прыйшлося перанесці і майму сыну, які на сабе паспытаў, што значыць быць сынам* ***“ворага народа****”.*

**V.. Складзіце паведамленне аб абставінах і выніках аб’яднання Беларусі ў 1939г.**

**VI. Дайце ацэнку факту ўз’яднання Беларусі з пазіцыі:**

**а) беларускага народа,**

**б) СССР,**

**в) Польшчы. Абгрунтуйце свае пункты гледжання.**

# Раздзел ХХ. Беларусь у пачатку фашысцкай агрэсіі на СССР

**Цытата раздзелу:**

***"Абараняючы сябе і краіну, трэба было забіць не аднаго, а шмат, і чым болей было забіта, тым болей надзейным было існаванне аднаго і ўсіх.***

***Жыццё праз пагібель ворага – іншага выйсця на вайне, мабыць, не існавала.***

**Васіль Быкаў**
**"Дажыць да світання".**

**1.Месца Беларусі ў стратэгічных планах савецкага і фашысцкага камандавання.** Беларусь займала важнае *стратэгічнае* становішча на карце СССР. Заходняе месцазнаходжанне рабіла яе перадавым рубяжом у магчымым канфлікце з еўрапейскімі краінамі. З 1939 г. ішла Другая сусветная вайна, і савецкае кіраўніцтва інтэнсіўна павялічвала баяздольнасць сваіх рубяжоў. Праводзілася ўмацаванне беларуска-польскай мяжы.

**Сведка падзей:**

З успамінаў П.Панамарэнкі "Падзеі майго жыцця": " У шэрагу абласцей была ўведзена платная працгужпавіннасць. Будаваць умацраён штогод выходзіла больш дзесяці тысяч рабочых. Столькі ж было прыцягнута фурманак з яздовымі. На будаўніцтве аэрадромаў (вялося яно сіламі рэспублікі) працавала 87 тысяч рабочых і 75 тысяч фурманак."

У Мінску, Магілёве, Віцебску разгортвалася ваенная вытворчасць. БССР уваходзіла ў склад *Заходняй Асобай ваеннай акругі (ЗахАВА).* На чале ЗахАВА быў пастаўлены генерал **Дзмітры Паўлаў**.

Злачыннае памылковае "прадбачанне" сталінскім кіраўніцтвам будучай вайны "на тэрыторыі агрэсара і малой крывёю" вялі да пралікаў у абароне. Войскі ЗахАВА былі расцягнуты ўздоўж усяго фронту і на 400-600 км углыб. У памежных землях Беларусі сярод вайскоўцаў існаваў страх перад правакацыямі. Савецкае палітычнае кіраўніцтва лічыла, што Германія не нападзе на СССР, пакуль не расправіцца з заходнімі краінамі. **Аб якіх падзеях другой сусветнай вайны ідзе гаворка?** Усякае напружанне на граніцы разглядалася савецкім кшраўніцтвам як магчымае правакаванне вайны. Гэта шкодзіла пільнасці і змяншала баяздольнасць.

Таму камандаванне ЗахАВА не падрыхтавала належным чынам артылерыю і авіяцыю акругі. Напад Германіі на СССР чарговы раз выявіў хібы і недахопы ў ваеннай падрыхтоўцы сталінскага камандвання. Народ Беларусі і войскі Чырвонай Арміі, якія размяшчаліся на яе тэрыторыі, з пачаткам вайны сталі першымі ахвярамі злачыннай непрадбачнасці.

Мэты і парадак нападу на СССР фашысцкае кіраўніцтва Германіі сфармулявала ў плане *"Барбаросаб».* Прыняты ў 1940 г. гэты план прадугледжваў разгром асноўных сіл СССР і захоп яго асноўных палітычных і эканамічных цэнтраў. Па плану "Барбароса" *група арміі "Цэнтр"* павінна была наступаць на Маскву. Менавіта ўдар яе войскаў прыходзіўся на Беларусь.

Акупацыйную палітыку фашысты прымеркавалі арганізаваць згодна з планам *"Ост".* Створаны пад кіраўніцтвам рэйсхфюрэра СС Гімлера ў дачыненні да Польшчы, ён быў пазней удакладнены для тэрыторыі СССР. На акупаваных тэрыторыях Беларусі нацысты планавалі знішчыць 75% беларускага насельніцтва, усіх яўрэяў і цыган. Ставілася задача *германізацыі* астатняга насельніцтва Беларусі (разам з Літвой, Латвіяй, Эстоніяй, часткай Украіны і Крымам). Прадугледжвалася рассяленне нямецкіх каланістаў і захоўванне часткі мясцовага насельніцтва ў якасці рабочай сілы. Напрыклад, у Мінску планавалася пасяліць 50 тысяч немцаў і пакінуць для работы 100 тысяч мясцовых жыхароў.

Спланаваная акупацыйная палітыка адносна Беларусі насіла ўсе рысы *генацыду.* Таму, калі фашысты ўварваліся ў Беларусь у чэрвені 1941 г., ніякіх планаў, акрамя адзінай перспектывы ўсталявання свайго поўнага панавання, для нашых зямель у гітлераўскага камандавання не было.

**2.Абаронччыя баі ў Беларусі 1941 г.** Напад фашыстаў на Беларусь як частку Савецкага Саюза пачаўся **22 чэрвеня 1941 г.** Быў нанесены масіраваны ўдар па пазіцыях ЗахАВА. Войскі групы арміі "Цэнтр" атакавалі і бамбардзіравалі Гродна, Брэст, Ваўкавыск, Беласток, Баранавічы, шэраг дробных гарадоў і мястэчак. У першы дзень вайны сілы ЗахАВА недалічыліся 38% самалётаў, большасць з якіх была знішчана на аэрадромах. На працягу некалькіх дзён імклівага наступлення фашысцкія войскі захапілі ўсе землі Заходняй Беларусі. **28 чэрвеня** быў захоплены Мінск. Ужо ў ліпені большасць тэрыторыі рэспублікі апынулася пад фашысцкім кантролем.

Такі пачатак вайны выклікаў велізарныя людскія страты Чырвонай Арміі. Тысячы савецкіх воінаў трапілі ў акружэнне, здаваліся ў палон, частка хавалася ў лясах. З-за згубленай магчымасці кіраўніцтва войскамі ЗахАВА на гродзенскім і брэсцкім накірунках, дрэннай дасведчанасцю аб рэальным становішчы на фронце цэнтральнага ваеннага кіраўніцтва ў Маскве, спробы контрнаступленняў войск 3, 4, 10 армій істотных вынікаў не мелі.

Гераізм сярод савецкіх войнаў быў масавы. Ва ўмовах поўнага акружэння з 22 чэрвеня да канца ліпеня змагаўся гарнізон крэпасці ў Брэсце. Пасля вайны вобразы абаронцаў Брэсцкай крэпасці камісара **Яфіма Фаміна**, камандзіра заставы **Андрэя Кіжаватава**, кіраўніка абароны Усходняга форта **Пятра**

**Гаўрылава** і іншых былі зроблены ў літаратуры і кіно легендарнымі. І гэта не было перабольшваннем. Воіны гарнізону дэманстравалі ўзоры мужнасці і самаахвярнасці. 3,5 - 4 тысячы савецкіх воінаў супрацьстаялі ў 10 разоў большай сіле трох пяхотных і двух танкавых дывізій, узмоцненых авіяцыяй і цяжкай артылерыяй. Адзін з надпісаў, зроблены безыменным абаронцам 20 жніўня 1941 г. на сцяне Брэсцкай крэпасці быў такі: " Я умираю , но не сдаюсь. Прощай Родина." У 1965 г. Брэсцкай крэпасці была прысвоена вышэйшая адзнака СССР – ганаровае званне "Крэпасць-герой".

***ВАРТА ПРАЧЫТАЦЬ: СМИРНОВ С. БРЕСТСКАЯ КРЕПОСТЬ. – МН.:Маст. Літаратура, 1991. ГАСТЭЛА Н. РАСКАЗ ПРА БРАТА. Дакументальнае апавяданне. – Мн.:Юнацтва. 1984.***

26 чэрвеня ля Радашковіч беларус, камандзір эскадрыліі **Мікалай Гастэла і яго экіпаж** накіравалі свой, ахоплены агнём, самалёт на калону нямецкіх танкаў.

Мужнасць і адчайнасць байцоў і камандзіраў Чырвонай арміі ўсё ж не стрымалі пасоўвання германскіх войскаў. Толькі арганізаваная абарона на рубяжы Заходняй Дзвіны і Дняпра спыніла наступленне немцаў, прымусіла іх саміх перайсці да абароны і ўмацоўваць флангі групы арміі "Цэнтр". Абарончыя аперацыі савецкіх войскаў адбываліся ў раёнах Полацка і Віцебска, Оршы і Магілёва, Бабруйска і Гомеля. У ходзе гэтых дзеянняў быў нанесены шэраг паспяховых контрудараў. Гераічнай была 23-дзённая абарона Магілёва.

**Сведка падзей:**

З успамінаў маршала Савецкага Саюза Георгія Жукава аб абароне Магілёва: «Чатыры пяхотныя дывізіі, танкавая дывізія, полк «Вялікая Германія» і іншыя нямецкія часці наступалі на горад. Злучэнні 13-й арміі, упарта абараняўшыя Магілёў, былі акружаны. Кругавую абарону горада трымаў 61-й корпус генерала Ф. Бакуніна. Асабліва вызначылася ў баях за Магілёў 172-я стралковая дывізія пад камандаваннем генерал-маёра М. Раманава. Каля 45 тысяч жыхароў Магілёва выйшлі на будаўніцтва абарончых умацаванняў... У баях за Магілёў гітлераўцы страцілі 30 тысяч салдат і афіцэраў.»

Фашысты прасоўваліся з вялікімі стратамі і былі вымушаны падцягваць усё новыя сілы для ўмацавання сваіх пазіцый. Так здарылася на гомельскім накірунку ў жніўні, куды гітлераўскае камандаванне перакінула сілы з цэнтральнага, маскоўскага накірунку.

Тым не менш да пачатку верасня 1941 г. уся тэрыторыя Беларусі была поўнасцю акупавана немецка-фашысткімі захопнікамі.

Пад час раптоўнага нападу і маланкавага наступлення фашыстаў з Беларусі ішла эвакуацыя насельніцтва і маёмасці, мабілізацыя ў Чырвоную Армію. Ваенныя архівы маюць вялікую колькасць прыкладаў, якія адлюстроўваюць патрыятычны ўздым сярод насельніцтва. Цэлымі працоўнымі калектывамі дабраахвотнікі запісваліся ў дзеючую армію. Аднак, з-за хуткага адступлення мабілізацыя была праведзена толькі ў 4 з 10 абласцей БССР – Віцебскай, Магілёўскай, Гомельскай, Полацкай. Ад пачатку чэрвеня да жніўня 1941 г. у Чырвоную Армію з Беларусі было прызвана амаль паўмільёна чалавек. Паўтара мільёна чалавек было вывезена з усходніх абласцей Беларусі ў выніку эвакуацыі.

**Сведка падзей:**

«На другі дзень вайны бюро ЦК КПБ прыйшло да высновы аб неабходнасці пачатку частковай эвакуацыі. Гэта было складанае рашэнне. Яшчэ складаней было ставіць гэта пытанне перад ЦК ВКП(б) і ўрадам. **Падумайце, чаму?** Была складзена рэспубліканская эвакуацыйная камісія... і пачалася інтэнсіўная работа па частковай эвакуацыі. Аднак падзеі нарасталі так імгненна, становішча для шмат якіх раёнаў станавілася пагрозлівым настолькі, што ўрад і ЦК КП(б)Б паставілі пытанне аб агульнай эвакуацыі.

Эвакуацыя праходзіла з велізарным напружаннем, ва ўмовах бамбёжак ворага і ваенных перавозак, якія ішлі насустрач. Найбольшы цяжар работ па эвакуацыі прыйшоўся на Магілёў і Гомель» **(з успамінаў П. Панамарэнкі).**

Эвакуацыя праводзілася паводле загадаў Стаўкі Галоўнакамандавання ад 23 чэрвеня і Дзяржаўнага Камітэта Абароны (ДКА) ад 30 чэрвеня 1941 г. 28 чэрвеня дырэктыва СНК СССР і ЦК ВКП(б) загадвала змагацца «за кожную пядзю савецкай зямлі». Стратэгія «спаленай зямлі» прадугледжвала таксама разбурэнне жыллёвых і публічных будынкаў. Разам з тым, яна паставіла ў складаныя ўмовы насельніцтва, што засталося пад акупацыяй. Гэта атрымалася невыпадкова. Вайна, якая ў чарговы раз прыйшла на Беларусь, вялася фашысцкай Германіяй бязлітасна. Сталінскае кіраўніцтва займала адпаведную пазіцыю. У стратэгічных мэтах для кіраўніцтва абодвух бакоў кошт чалавечага жыцця траціўся. Таму ўсялякія варыянты легальных кантактаў з акупантамі, нават само жыццё пад акупацыяй, разглядаліся з падазронасцю, як здрада. Але ж адной з асаблівасцей Другой сусветнай вайны ў Беларусі было жыццё і гераічная барацьба яе шматмільённага насельніцтва пад акупацыяй.

# Пытанні і заданні:

**І.Якія вытокі трагедыі і геразму першых дзён вайны? Дакажыце, што характар і змест намераў Германіі пакідаў толькі адзіную форму адносін з фашыстамі – барацьбу.**

**ІІ.Як змест і характар эвакуыцыйных мерапрыемстваў характарызуе адносіны сталінскага кіраўніцтва да Беларусі, да самой вайны?**

**ІІІ. Прачытайце ўрывак успамінаў пра эвакуацыю аднаго з буйнейшых беларускіх прадпраемстваў - “Гомсельмаша” і адкажыце на пытанні:**
**1. Апішыце абставіны лета 1941 г. падчас якіх ішла эвакуацыя.**
**2. Пералічыце складанасці, якія спаткалі гамсельмашаўцы пры разгортванні вытворчысці на новым месцы.**
**3. Што сведчыць пра тое, што працу гомсельмашаўцаў у тыле можна лічыць подзвігам?**
**4. Падумайце, чым кіраваліся людзі выконваючы так сваю працу?**

*“…Эвакуацыя “Гомсельмаша”, як і іншых прадпрыемстваў…праходзіла практычна пад варожымі авіяналётамі.*

*Базай нашага разгортвання стала невялікае прадпраемства мясцовай прамысловасці ўральскага горада Курган. Сюды мы даставілі 531 адзінку станочнага абсталявання…А тут на новым месцы, вытворчых плошчаў было ў 70 разоў менш, чым на “Гомсельмашы”. Можна ўявіць сабе, якія цяжкасці з’явіліся з размяшчэннем абсталявання. Станкі разгружалі ўручную. Не менш складанай была і дастаўка іх да месца мантажу. З-за адсутнасці памяшканняў значную частку станкоў размясцілі пад абкрытым небам, а ўжо потым узводзілі сцены з дошак і бярвён…*

*Станкі манціравалі на падмуркі, якія насыпалі з чыгунных стружак.*

*Найбольш складаным быў мантаж ліцейнага абсталявання….У мірны час для выканання такога аб’ёму работ спатрэбілася б не менш чатырох месяцаў. У Кургане ж гэта было зроблена ўсяго за…10 сутак.”*
**( З успамінаў В.Р. Нарбутовіча. Ганаровага грамадзяніна г. Гомеля /Памяць: Гіст.-дакум.хроніка Гомеля: У 2-х кн. Кн. 2-я. –Мн., 1999. – С. 45.**

**ІV. Прачытайце ўрывак з успамінаў начальніка штаба Беларускай Ваеннай Акругі ў 1932-35 гг. Кірылы Мерацкава. Звярніце ўвагу. што ва ўспамінах ідзе гаворка пра першую палову 30-х гг.**
**1.Якія галіны прамысловасці будуць развівацца для ліквідавання слабых мясцін ў абарончых магчымасцых беларускага плацдарма СССР?**
**2. Якая роля ў павялічэнні баяздольнасці БВА была з боку ўсяго СССР?**

*“У БВА ўваходіла тэрыторыя Беларускай ССР і Заходняй вобласці. Агульнае насельніцтва ў рамках акругі складала 12 мільёнаў чалавек, тэрыторыя яе раўнялася 290 тысячам квадратных кіламетраў. Шляхі зносін на гэтым абшары былі дрэнныя. Перш за ўсё мы не мелі ў дастатковай колькасці добрай шашы, якая магла б звязаць БВА з яе суседзямі на поўначы, усходзе і поўдні… Асабліва турбаваў раён Палесся, які патануў у лесах і балотах. Увесь час непакоілі водныя перашкоды. Напрыклад на р. Бярэзіна па ўсім цячэнню мы маглі карыстацца толькі чатырмя мастамі ды яшчэ чатырмя паромамі…”*

**V. Прачытайце фрагмент Дэрэктывы Саўнаркома СССР і Цк ВКП(б) партыйным і савецкім арганізацыям прыфрантавых абласцей пра мабілізацыю ўсіх сіл і сродкаў на разгром фашысцкіх захопнікаў і адкажыце на пытанні.**
**1. Суаднесіце колькасць насельніцтва перадваеннай Беларусі з лічбай эвакуяваных і мабілізаваных у Чырвоную армію.**

**2. Наколькі змест Дырэктывы улічваў лёс той часткі насельніцтва, што апынулася пад акупацыяй?**
**3. Чаму ў Дырэктыве толькі заклікаецца аб стварэнні “партызанскіх атрадаў і дыверсійных груп для барацьбы з часткамі арміі ворага”, калі напярэдадні СССР некалькі гадаў запар рыхтаваўся да магчымай вайны?**
**4. Прывядзіце з матэрыялу падручніка прыклады выканання загадаў гэтай Дырэктывы.**

*“Саўнарком Саюза ССР і ЦК ВКП(б) патрабуюць ад вас:*
*У безлітаснай барацьбе з ворагам адстаяць кожную пядзю савецкай зямлі, змагацца да апошняй кроплі крыві за нашыя гарады і сёлы…*
*Арганізаваць ўсебаковую дапамогу дзеючай Чырвонай Арміі…*
*Замацаваць тыл Чырвонай Арміі, падпарадкаваўшы інтарысам фронта ўсё сваю дзейнасць, забяспечыць узмоцненую работу ўсіх прадпраемств… Усе камуністы павінны ведаць, што вораг вераломны і хітры, мае досвед у падмане…, улічваючы ўсё гэтае…не паддавацца на правакаванні.*
*Падчас вымушанага адыходу частак Чырвонай Арміі гнаць рухомы чыгуначны састаў, не пакідаць ворагу ні воднага паравоза, ні воднага вагона, не пакідаць праціўніку ні кілаграма хлеба, ні літра паліва. Калгаснікі павінны гнаць быдла, хлеб здаваць …дзяржаўны органам для вывазу яго ў тылавыя раёны. Усю каштоўную маёмасць, у тым ліку каляровыя металы, хлеб, паліва, якую не магчыма вывезці, неабходна безумоўна знішчыць.*
*У занятых раёнах ствараць партызанскія атрады і дыверсійныя групы для барацьбы з часткамі арміі ворага, для распальвання партызанскай вайны паўсюль…У захопленых раёнах ствараць невыносныя ўмовы для ворага і ўсіх яго пасобнікаў…”*

**(Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Оршы і Аршанскага раёна У 2 кн. Кн.1. – Мн., 1999. - С. 306.)**

# Раздзел XXI. Жыццё пад акупацыяй.

**1.Прынцыпы і метады акупацыйнай палітыкі.** Тэрыторыя Беларусі знаходзілася пад акупацыяй фашыстаў з **восені 1941 па лета 1944 г.** Увесь гэты працяглы час на ёй быў усталяваны так званы "новы парадак". Прынцыпы і метады гэтага "парадку" выцякалі з ідэалогіі фашызму, планаў "Ост", "Барбароса" і іншых дакументаў фашысцкай Германіі. Гэта былі бязлітаснаць і гвалт, *антысемітызм*, *расізм* і *антыкамунізм*. Акупацыйны рэжым з самага пачатку прадугледжваў безагаворачнае падпарадкаванне, рабаўніцтва, прымусовую працу, планамернае суцэльнае знішчэнне пэўнай часткі насельніцтва – камуністаў і савецкіх работнікаў, яўрэяў і цыган, проста хворых людзей. Таксама знішчэнню падвяргаліся ўсе, хто выказваў незадавальненне або ствараў небяспеку для войскаў Германіі. У загадзе аднаго з нацысцкіх кіраўнікоў Вільгельма Кейтэля афіцэрам вермахту надавалася права расстрэльваць усіх падазроных. За гвалт над жыхарамі СССР гітлераўскае камандаванне здымала з вайскоўцаў усялякую адказнасць.

Ажыццяўленне акупацыйнай палітыкі рабілася сіламі войска, тайнай паліцыіі – гестапа, службы бяспекі – СД, атрадаў СС. Па ўсёй тэрыторыі Беларусі ставаралася сетка *лагероў смерці*, *гета*, палявых камендатур і ваенных праўленняў гарадоў і раёнаў, паліцэйскіх участкаў і гаспадарчых служб. 1/3 беларускай тэрыторыі займала *"Генеральная акруга Беларутэнія"*. На чале яе Гітлер паставіў свайго паплечніка **Вільгельма Кубэ**. У сваім кіраванні Кубэ вызначыўся прыхільнасцю да развіцця беларускага нацыяналізму ў процівагу савецкай ідэалогіі. Ён і яго аднадумцы з ліку фашысцкай адміністрацыі бачылі верагодным стварэнне гарантый бяспекі і стабільнасці фашысцкага панавання, падтрымліваючы памкненні беларускіх нацыяналістаў. У верасні 1941 г., ў землях падпарадкаваных Кубэ, была ўведзена абавязковая школьная адукацыя дзяцей ад 7 да 14 гадоў. На акупаванай тэрыторыі друкавалася не менш 75 газет і часопісаў. Сярод іх найбольш распаўсюджанымі былі "Менская газета", "Новая дарога", "Голас вёскі", "Пагоня". Фашысты дазволілі карыстацца ў публічных месцах беларускімі нацыянальнымі сімваламі – бел-чырвона-белым сцягам і гербам "Пагоня". Гэтыя сімвалы маглі быць змешчаны і на мундзірах беларускай дапаможнай паліцыі. За гады вайны пры садзейнічанні фашыстаў былі створаны *калабарацыянісцкія* арганізацыі - Беларуская Народная Самапомач (1941 г.), Саюз Беларускай Моладзі (1943 г.), беларускае "прадстаўніцтва" перад акупацыйнай уладай – Беларуская Рада Даверу (1943 г.). У тым жа 1943 г. быў створаны марыянетачны "ўрад" – Беларуская цэнтральная Рада.

Пасля забойства Кубэ беларускімі партызанамі ў 1943 г. яго пераемнік **Курт фон Готберг** не надаваў такой увагі калабарантам, і ў адносінах з насельніцтвам болей кіраваўся карнымі метадамі.

Пры фашыстах Беларусь зноў стала аграрна-сыравінным прыдаткам. З яе багацця мелася забяспечваць войска і правядзенне ваенных аперацый. Эканамічная палітыка акупантаў была падпарадкавана мэце рабаўніцтва. Калгасы і саўгасы быліператвораны ў буйныя гаспадаркі на патрэбу Трэцяга Рэйха. У рэжыме жорсткай эксплуатацыі ішлі работы на прадпрыемствах.

**2.Аблічча фашызму.** Прысутнасць фашызму ў Беларусі на працягу ўсёй акупацыі вяла да спланаванага знішчэння насельніцтва. Жыхары Беларусі разглядаліся ў якасці рабоў, і кошт іх жыцця не меў ніякага вызначэння. У барацьбе з савецкімі партызанамі акупанты правялі на тэрыторыі Беларусі больш за 140 *карных аперацый*. Калі суаднесці з часам акупацыі, то атрымаецца, што на кожны тыдзень прыходзілася такая аперацыя. У выніку іх знішчаліся людзі, паліліся вёскі, рабавалася маёмасць. У карных аперацыях прымалі ўдзел прадстаўнікі ўкраінскіх, літоўскіх, латышскіх паліцаяў і нацыяналістычных арганізацый.

Вось толькі некаторыя прыклады злачынства акупантаў. У верасні 1942 г. гітлераўцы вылавілі ў руінах каля Міскага чыгуначнага вакзала і расстралялі 100 дзяцей ва ўзросце ад 5 да 12 гадоў. 23 верасня 1942 г. былі расстраляны 54 выхаванцы Дамачэўскага дзіцячага дома. Такі ж лёс напаткаў 150 дзяцей Маладзечанскага дзіцячага дома. Дзетдомаўцаў забівалі пад гукі аркестра! Восенню 1943 г. каля вёскі Палыкавічы Магілёўскай вобласці 80 дзяўчынак і хлопчыкаў ва ўзросце ад 8 да 12 гадоў былі жывымі закапаны фашыстамі. За гады вайны толькі ў Брэсцкай, Бабруйскай, Полацкай і Палескай абласцях былі павешаны, спалены, расстраляны 63920 дзяцей і падлеткаў.

На ўвесь свет стаў вядомы лёс вёскі **Хатынь** Лагойскага раёна. Туды вясновым ранкам 1943 г. прыбыў карны ўкраінскі паліцэйскі батальён. Усе жыхары вёскі былі сагнаны фашыстамі ў гумно і спалены жывымі. Тых, хто спрабаваў вырвацца з вогнішча расстрэльвалі з кулямётаў. У агні загінула 149 чалавек і з іх 75 дзяцей. *Лёс Хатыні раздзялілі 628 вёсак Беларусі*!

**ВАРТА ПРАЧЫТАЦЬ: АДАМОВІЧ А., БРЫЛЬ Я,, КАЛЕСНІК У. "Я З ВОГНЕНАЙ ВЁСКІ". –Мн.: Маст. Літаратура, 1983.**

Лагеры смерці і гета пакрылі ўсю акупаваную Беларусь. Увогуле іх было больш за 260. Самы вялікі з іх - *Трасцянец* пад Мінскам. У ім знішчана прыкладна 206 тысяч чалавек. Ужо падчас наступлення Чырвонай Арміі, вясной 1944 г., у раёне пасёлка *Азарычы* Палескай вобласці была створана серыя лагераў для мясцовага насельніцтва. У іх фашысты знішчалі шляхам заражэння тыфам. Тысячы вязняў беларускіх гета і канцлагероў вывозіліся ў буйныя "фабрыкі смерці" Польшчы і Германіі - лагеры *Бухенвальд, Трэблінку, Асвенцым, Равенсбрук* і іншыя.

**<u>Думка гісторыка:</u>**

________________________

Адзін з беларускіх даследчыкаў *Халакосту* ў Беларусі Э. Іофэ лічыць, што на тэрыторыі Беларусі ў выніку генацыда было знішчана каля 946 тысяч яўрэяў. У тым ліку тут знайшлі сваю смерць каля 48 тысяч яўрэяў з сямі краін Еўропы – Аўстрыі, Германіі, Галандыі, Венгрыі, Польшчы, Францыі, Чэхаславакіі.

Каланіяльнае выкарыстанне гаспадаркі Беларусі праяўлялася ў шматлікіх падатках, рабаўніцтве і вывазе матэрыяльных каштоўнасцей у Германію. Так былі вывезены 90% станочнага абсталявання, знішчаны 10 тысяч прамысловых прадпраемстваў, угнаны мільёны галоў хатняй жывёлы.

Нішчыліся ўсе культурныя і навуковыя ўстановы, руйнаваліся тысячы помнікаў гісторыі і культуры. Былі разрабаваны Акадэмія Навук БССР, драматычныя тэатры ў Мінску, Віцебску. Беларуская культура страціла Супрасльскую царкву абаронага тыпу, быў моцна пашкоджаны гомельскі палац Румянцавых-Паскевічаў, Новы замак у Гродне і сотні іншых помнікаў беларускага дойлідства. Акупанты з размахам праводзілі вываз твораў мастацтва, каштоўных музейных экспанатаў у Германію. Многія творы былі бяздумна знішчаны гітлераўскімі салдатамі падчас рабавання палацаў і музеяў.

**3.Настроі насельніцтва.** Насельніцтва БССР з першых дзён вайны сутыкнулася з д'ябальскім абліччам фашызма. Людзі ўсходняй і заходняй частак Беларусі мелі розны даваенны жыццёвы вопыт. Як вядома, жыхары БССР у 20-30-я гг. спазналі ўсе бакі жыцця ў СССР. У сваю чаргу, насельніцтва Заходняй Беларусі мелі досвед жыцця ў буржуазнай Польшчы і сталінскіх рэпрэсій у 1939-1941 гг. Але новы, фашысцкі "парадак" бачыўся навалаю самым розным слаям насельніцтва. Большасць бачыла ў змаганні з фашыстамі адзіны спосаб выратавання сваёй краіны.

Шырокія масы насельніцтва разгарнулі ўпартае супраціўленне. Нягледзячы на тэрор і гвалт вораг не атрымаў з Беларусі ў выглядзе падаткаў больш паловы сельскагаспадарчай прадукцыі, на якую разлічваў. *Вайна з фашызмам была народнай*, *айчыннай, Вялікай.* У шырокім партызанскім руху, у радах дзеючай савецкай арміі, у еўрапейскім руху Супраціўлення, на ваенных прадпраемствах змагаліся сотні тысяч жыхароў Беларусі.

Сціплым, але сапраўдным подзвігам мірных жыхароў сталі прыклады выратавання імі яўрэяў ад нацысцкага генацыду. Простыя людзі хавалі яўрэяў у сваіх дварах, хатах, ваколіцах, рызыкуючы жыццём сваім і сваіх родных. Гэтак жыхары вёскі Парэчча Пухавіцкага раёна з лета 1943 г. па ліпень 1944 г. выратавалі 40 яўрэйскіх дзяцей мінскага гета. Ужо пасля вайны, у вёсцы, яе жыхарам быў пастаўлены адзіны ў Еўропе помнік *Праведнікам Народаў Свету.* На 2004 г. у Беларусі ганаровае званне Праведнік Народаў Свету асабіста атрымалі 512 чаловек .

Ад супрацоўніцтва з фашыстамі адмовіўся старшыня Рады БНР **Васіль Захарка**. У Празе ён не мог змірыцца са стаўленнем Германіі да Беларусі і не адабраў тых беларускіх палітыкаў, якія гатовы былі згадзіцца з фашызмам.

**Імгненне гісторыі:**

Дзякуючы высілкам беларускіх настаўнікаў аднавілі пад акупацыяй сваю дзейнасць шэраг школ. Сярод выдомых настаўнікаў на Навагрудчыне быў Барыс Кіт – будучы славуты амерыканскі навуковец у галіне астранаўтыкі. Васіль Быкаў у сваіх успамінах "Доўгая дарога дадому" зазначае: "Бальшавікі не прызнавалі высілкаў настаўніцтва ў справе школьніцтва на акупаваных тэрыторыях. Настаўнікаў, якія на той час вучылі дзяцей, не давалі здзічэць цэламу пакаленню, лічылі калабарантамі..."

На людзей, што жылі пад акупацыяй, уплывалі, з аднаго боку, нямецкія ўлады і, з другога, пачалі ўплываць партызаны.

Для рэалізацыі сваіх планаў акупантам спатрэбіўся вялікі штат паліцыі і старастаў. У стварэнні паліцэйскага кіравання фашысты абапіраліся на стан грамадскіх настрояў. У пэўнай частцы насельніцтва прысутнічала азлобленасць на тыранію Сталіна, перадваенную рэпрэсіўную ўнутраную палітыку савецкай улады. Гэта павярнула частку людзей да свядомай *калабарацыі*, або супрацоўніцтва з акупацыйнай уладаю. Вялікая колькасць людзей была прымусам і гвалтам ўцягнута ў арганізаваныя акупантамі align рознага кшталту работы.

Важкімі матывамі рознага супрацоўніцтва з ворагам былі падман і гвалт з боку акупантаў, слабыя маральна-валявыя якасці, карыслівыя мэты людзей.

З'ява калабарацыі, раскол у грамадстве былі выкліканы і тым, што частка беларускіх палітычных дзеячаў убачылі ў Германіі сілу, з дапамогаю якой можна адрадзіць беларускую дзяржаву.

Хтосьці, як **Міхась Вітушка**, **Усевалад Родзька** ў гэты час, спрабавалі змагацца партызанскімі сродкамі з савецкай таталітарнай уладаю. Але апынуўшыся паміж савецкім партызанскім рухам і фашысцкай акупацыйнай ўладаю былі фактычна ліквідаваны.

Хтосьці ўскладаў спадзяванні на Польшчу і буржуазныя краіны антыгітлераўскай кааліцыі. Драмай найноўшай гісторыі Беларусі можна лічыць удзел ў калабарацыйных установах яскравых дзеячаў беларускага вызваленчага руху першай паловы 20-га стагодзя. Сярод іх былі **Вінцэнт Гадлеўскі, Вацлаў Іваноўскі, Янка Станкевіч**.

З тых, хто праяўляў найбольшую актыўнасць у арганізацыі беларускіх аб'яднанняў, вызначаліся кіраўнік БНС Іван Ермачэнка, лідар СБМ Міхал Ганько, стваральнік гарадской дапаможнай паліцыі ў Мінску Дзмітрый Касмовіч, бургамістр Баранавіч, былы беларускі пасол у польскім сейме Юры Сабалеўскі, старшыня Беларускай Цэнтральнай Рады Радаслаў Астроўскі.

Але фашысцкія ўлады хоць і прыймалі іх паслугі, ніколі не давяралі ім. Ніводная з калабарацыйных устаноў не мела рэальнай самастойнасці. Ва ўмовах наступлення савецкіх войскаў

акупанты спрабавалі выкарыстаць беларускіх памагатых. Была нават пачата прымусовая мабілізацыя ў *Беларускую Краёвую Абарону*, якая сабрала каля 25 тысяч чалавек. Большасць насельніцтва варожа ставілася да мабілізацыі ў БКА. А вызваленне Беларусі Чырвонай Арміяй прымусіла збягаць услед за фашыстамі шмат каму з тых, хто спрабаваў абаперціся на акупантаў.

**Сведка падзей:**

У шэрагі БКА трапляла і шмат тых, хто не маючы даверу да сталінскай улады, спрабаваў пазбегнуць рэпрэсій з яе боку за самое знаходжанне на акупаванай тэрыторыі. **Янка Запруднік**, вядомы сучасны беларускі гісторык, які жыве ў ЗША, юнаком быў сярод такіх людзей. У аўтабіяграфічнай кнізе "Дванадцатка" ён так успамінае тыя падзеі: "І вось мы, дывізія "Беларусь" пад камандываннем палкоўніка Франца Кушаля блудзіла ў часе агоніі Трэцяга Рэйха (фашысткай Германіі) на ўзмежжы з Баварыяй. Наш камандзір вычэквяў магчымасць перайсці на бок амерыканцаў. Гэта яму, нарэшцэ, ўдалася. Кушаль здолеў вывесці сваю дывізію з-пад пагрозы захопу яе савецкай арміяй. За вывад дывізіі з небяспекі Старшыня Рады БНР Мікола Абрамчык надаў Кушалю ранг генерала."

Я. Запруднік "Дванадцатка".

# Пытанні і заданні:

**І. Прачытайце факты ажыцяўлення карнай дзейнасці фашыстаў на Віцебшчыне і адкажыце на пытанні:**

**1.Успомніце , што такое фашызм і якой была яго ідэалогія?**

**2. Што вы ведаеце аб планах "Ост" і "Барбароса"? Як іх змест адлюстроўвае сутнасць фашысцкай палітыкі на беларускіх землях?**

**3. Паразважаце, чаму, важна цяпер ведаць і памятаць пра аб гэтыя жахлівыя старонкі Другой сусветнай вайны? Сфармулюце і запішыце свае асоўныя аргументы.**

*"...У Відзаўскім раёне... растраляна 600 мірных грамадзян, спалена ў хатах і хлявах болей 450 чалавек. Вось што ўчынілі звяры ў в. Прудзінкі Дуброўскага сальсавета Відзаўскага раёна....У той момант, калі фашысты акружылі вёску, у ёй налічвалася болей 300 чалавек. Усе, хто быў у вёсцы, былі загнаны ў хату і спалены жывымі. Вось што расказаў жыхар вёскі Мікалай Ждан, адзін з усіх, хто выратаваўся з гэтага пекла:*

*"Гэта было 24 лістапада 1942 г. Нас было 300 чалавек. Сярод іх старыя, жанчыны, дзеці. Усіх нас сагналі ў 10 хат. Дзверы забілі, абапал паставілі кулямёты. У 10 гадзін раніцы па загаду афіцэра салдаты пачалі кідаць гранаты ў вокны, страляць з кулямётаў. Адначасова падпалілі хаты. Жах ахапіў людзей. Параненыя паўзлі праз забітых, прасілі паратунку. Але дапамога не прыходзіла. Хутка абвалілася столь і енк скончыўся.*

*Таксама лютавалі немцы ў в. Дубраўка, дзе жывымі спалілі ў хлеве 15 чалавек, двух двухгадовых хлопчыкаў Аўсюка Грышу, Умпіровіча Шуру пракалолі штыкамі і таксама кінулі ў палаўчы хлеў. Трохгадовы Вася Ліпскі быў забіты ў бацькі на руках пісталетным стрэлам ў галаву.*

*У в. Стаўрова растралялі і спалілі 77 чалавек, сярод іх старых за 60 гадоў – 9 , жанчын – 37, дзяцей ад 1 да 5 гадоў – 18, ад 5 да 10 гадоў – 6, больш за 10 гадоў – 7. Дзяцей растрэльвалі на руках бацькоў. Фашыстскія палачы абрабавалі 20 вёсак Відзаўскага раёна. Вывезлі ўсю жывёлу, хлеб і іншыя прадукты, вопратку."*

*Такія ж растрэлы правялі немцы таксама ў Браслаўскім раёне, дзе спалілі 5 вёсак і знішчылі 530 мірных жыхароў.*

**(НАРБ, ф.3500, воп.4, спр.63, л.293-295. – з кнігі "Памяць: гіст.дакум. хроніка Браслаўскага раёна.– Мн., 1998. – С.291.)**

**ІІ. Зробіце паведамленне на тэму "Беларусь пад нямецкай акупацыяй".**

**ІІІ. Пакажыце на прыкладах аблічча фашызму ў другой сусветнай вайне (Выкарыстайце звесткі аб палітыцы фашыстаў у іншых, захопленых імі землях, краінах.).**

**ІV. Зрабіце параўнанне па тэме "Нямецкія акупацыі Беларусі ў дзвюх сусветных войнах і беларускі нацыянальны рух". У ходзе выканання задання запоўніце наступную табліцу :**

| Вайна | Мэты акупантаў і сродкі правядзення акупацыйнай палітыкі | Мэты дзейнасці прадстаўнікоў беларускага нацыянальнага руху | Прыклады кантактаў з акупантамі | Вынікі гэтых кантактаў |
|---|---|---|---|---|
| І сусветная | | | | |
| ІІ сусветная | | | | |

**V. Прачытайце факты аб арганізацыі і ўцёках з навагрудскага гета і адкажыце на пытанні:**
**1. Як ставіліся да яўрэйскага насельніцтва фашысты? Падцвердзіце свой адказ фактамі.**
**2. Што такое гета?**
**3. Растлумачце паняцці "генацыд", "Халакост".**
**4. Якія чалавечыя якасці праявілі вязні навагрудскага гета ў арганізацыі ўцёкаў?**
**5. Што вы ведаеце аб фактах Халакосту ў вашай мясцовасці? Падрыхтуйце паведамленне аб гэтых падзеях.**
**6. Якія стэрыятыпы гісторыі генацыду разбівае згаданы жіжэй эпізод Наваградскага гета?**

*"Гісторыя яўрэйскага супраціўлення ў гета змяшчае мноства старонак… Адна с такіх старонак , безумоўна належыць арганізацыі супраціўлення ў навагрудскім гета. Гэта арганізацыя здолела з гета …вывесці 232 яўрэі праз прарыты за 5 месяцаў тунель.*

*…Пасля … 7 мая 1943 г. , у навагрудскім гета засталося не больш чым 550 вязняў, якія кожную гадзіну чакалі сваёй смерці. Тэрыторыя гета асвятлялася моцнымі пражэктарамі, была агароджана калючым дротам і вартавалася ўзмоцененымі атрадамі паліцыяў.*

*У гэты час і ўзнікла думка вырыць тунель , па якому ўсе вязні змаглі б пайсці ў лес і далучыцца да партызанскага атрада Бельскага (Тувія Бельскі - камандзір яўрэйскага партызанскага атрада). Іджэя прарыцця тунеля для ўсіх яўрэяў была адзіным выратаваннем. Работа па вырыццю тунеля , пачатая ў канцы красавіка 1943 г., ішла хуткімі тэмпамі. Асноўная цяжасць заключалася ў тым, што выкапаць праход і рухацца па яму можна было толькі лежачы – вышыня тунеля была 70, а шырыня – 60 см. Амаль усе фізічна здаровыя мужчыны ўдзельнічалі ў рабоце па дзве гадзіны ў дзень пасля вяртання з майстэрняў. Выкапаную частку зямлі засыпалі ў мяшкі,*

*якія напярэдадні былі падрыхтаваны краўцамі гета. Зямлю высыпалі па гарышчах пустых хат, у пустых памяшканнях, накідваючы на яе затым парваную бялізну, каб не выклікаць падазронасці. Былі абсталяваны і падвойныя сцены, паміж якімі высыпалі выкапаную зямлю…Перад заканчэннем работ была вырашана і праблема асвятлення: у тенель быў праведзены эктрычны ток.*
*Да верасня 1943 г. вязні гета здолелі выкапаць тунель даўжынёю 250 метраў (100 метраў да агароджы гета і 150 метраў за ёю). Акцыя была прызначана на 26 верасня 1943 г. Сігнал да ўцёкаў быў пададзены ў 9 гадзін вечара. Члены штаба на чале з Якавам Коганам узброеныя стаялі каля ўваходу ў тунель, а Берл Іоселевіч ( адзін з лідараў падпольнай арганізацыі), які трымаў спіс уцекачоў, выклікаў кожнага па прозвішчу.*
*Людзі, якія вырываліся на волю, адчулі нарэшце подых свабоды, аднак ў поцемках многія заблудзіліся…150 уцекачам удалося дасягнуць партызанскага атрада Бельскага…”*
**(Іцхак Шашані / з кнігі “Памяць. Гістор.-дакум. хроніка Навагруд. р-на” – Мн., 1996. - С. 321-323.)**

**VI. Прачытайце фрагмент з выступлення Міколы Шкялёнка, аднаго з кіраўнікоў Беларускай Цэнтральнай Рады на Другім Усебеларускім Кангрэсе ў Мінску 27 чэрвеня 1944 г. і адкажыце на пытанні:**
**1. Што такое “калабарацыянізм”?**
**2. Паразважайце разам з настаўнікам над тым, якія фактары маглі быць прычынай супрацоўніцтва жыхароў Беларусі з акупантамі. Падумайце, чаму факты калабарацыі можна лічыць драматычнай старонкай гісторыі нашага народа?**
**3. З дапамогай фактаў гісторыі 20-30-х гг.(успомніце змест і ўмовы падпісання Рыжскай дамовы 1921 г.) растлумачце атнырольскую і антыбальшавіцкую пазіцыю М. Шкялёнка.**
**4. У чэрвені 1944 г. М. Шкялёнак вядзе размову аб магчымасці пабудовы новага ладу жыцця беларускага народа з дапамогаю гітлераўскай улады? Ведаючы абставіны тагачаснага жыцця ў Беларусі, паспрабуйце ацаніць вартасць яго слоў.**
*“…1. Гэткія дагаворы (Рыжскій дагавор 1921 г.) былі зроблены без нашага ўдзелу, накіненыя гвалтам і ўжо бадай таму мы ня можам прызнаць ім у дачыненні да нас праўнае сілы. Практычна, зразумела, мы змушаны былі мець іх на ўвазе, бо выкананне іх гарантавала сіла, але па сваёй істоце яны былі разгляданыя намі заўсёды – як акты гвалту, і ніколі – як акты, у аснове якіх ляжала права.*
*З другога боку вайна зьмяла з нашых земляў стары польскабальшавіцкі дзяржаўны лад і стварыла на яго руінах магчымасьці пабудовы новага, у якім беларускі народ хоча быць і будзе ўжо не аб’ектам, а суб’ектам права.”*
**(Шкялёнак М. Беларусь і суседзі. Гістарычныя нарысы. – Беласток, 2003. – С.236.)**

**VII. Прачытайце урывак дакументальнага апісання акупаванага Брэста і адкажыце на пытанні:**
**1. Што сведчыць аб тым , што апісанае жыццё Брэста – гэта менавіта фашысцкая акупацыя?**
**2. Прывядзіце прыклады антысемітызму акупантаў, здзекавання іх над нацыянальнай годнасцю прадстаўнікоў розных нацыянальнасцяў Брэста?**
**3. Што гаворыць аб бессістэмнасці медыцынскага абслугоўвання і адукацыі насельніцтва?**
**4. Падумаце, чаму так важна акупантам было пачынаць з перайменавання вуліц?**

**5. Што ў акупацыйнай палітыцы сведчыць пра тое, што фашысты хацелі атрымаць прыхільнасць насельніцтва і таму супрацьпастаўлялі сабе былой савецкай уладзе?**

*"Ахова здароўя, адукацыя і культурнае жыццё ў Брэсце ў час нямецка – фашыцкай акупацыі."*

*" Акупацыйныя ўлады пачалі перайманоўваць назвы вуліц горада. Нямецкая і ўкраінская мовы абвяшчаліся дзяржаўнымі, польская мова была пакінута як часовая да вывучэння насельніцтвам першых дзвюх. Уся дакументацыя, перапіская з акупацыйнымі ўстановамі павінны былі весціся на нямецкай мове.*

*Афіцыйнымі грашовымі знакамі былі нямецкая марка і савецкі рубель. У горадзе быў выдзелены раён для пражывання немцаў і асоб нямецкай нацыянальнасці (фольксдойче), якія пражывалі ў СССР. Для яўрэйскага насельніцтва восенню 1941 г. было арганізавана гета. Рух яўрэяў па вуліцах горада па-за межамі гета абмяжоўваўся. Негатыўна адносіліся акупанты і да "усходнікаў". На пашпарце гэтай групы…ставілася адзнака "С", з якой ім было цяжка ўладкавацца на працу.*

*Для забеспячэння насельніцтва харчаваннем была ўведзена картачная сістэма, арганізавана сетка пунктаў продажы…*

*Насельніцтва не атрымлівала медыцынскай дапамогі… Асобныя мерапрыемствы ў галіне аховы здароўя акупацыйныя ўлады праводзілі дзеля захавання рабочай сілы, каб пазбегнуць магчымых выбухаў эпідэмій…Прыём хворых у медыцынскіх установах быў платны, аптэкі абслугоўвалі паводле нацыянальнай прыналежнасці. Яўрэям-урачам..самастойна займацца прыватнай практыкай забаранялася.*

*На 1 верасня 1940 г. у горадзе было 18 школ, педагагічны і чыгуначны тэхнікум. 18 верасня 1941 г. пачалі работу 13 пачатковых школ, у якіх працавала 120 настаўнікаў і займалася 4200 вучняў. Улады дазволілі выкладанне рэлігіі… Дзеці з 7 гадовага ўзросту абавязаны былі наведваць народныя школы з 4-гадовым тармінам навучання. Аднак у канцы лістапада 1941 г. усе школы былі закрыты і аднавілі сваю работу толькі ў сакавіку 1942 г. Заняткі вяліся не рэгулярна, з вялікімі перапынкамі. Вучэбна-наглядных дапаможнікаў, пісьмовых прылад і нават дроў ніводная школа не мела. Большасць школ горада былі рускімі і ўкраінскімі, былі таксама польскія і адна беларуская школа. У 1943 г. школы горада …наведвалі 2042 вучні. У горадзе існавалі і прыватныя спецыяльныя навучальныя ўстановы. Існавалі таксама рамесная і музычная школы. Былі ў Брэсце і спецыяльныя жаночыя навучальныя ўстановы – рамесная школа і тэхнічныя курсы. Нямецкая мова мясцовым насельніцтвам вывучалася ў асноўным прыватным чынам. У Брэсце прпацавалі тэатр, бібліятэка і архіў. З трох існуючых да вайны кінатэатраў функцыяваў толькі адзін.*

**(З артыкулу Я.С.Разянблата ў кнізе "Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Брэста. У 2 кн. Кн.2-я. – Мн., 2001. –С31-37.)**

# Раздзел XXII. Партызанскі рух і падполле ў Беларусі

**1.Арганізацыя барацьбы ў тыле ворага.** Ва ўмовах акупацыі найбольш дзейснай формай барацьбы стала партызанскае і падпольнае супраціўленне. Яно пачалося адразу, з першымі крокамі захопу тэрыторыі Беларусі фашыстамі ўлетку і ўвосень 1941 г. Уздагон першых абарончых баёў на акупаваных тэрыторыях заклік да разгортвання барацьбы ў тыле прагучаў у дырэктыве СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 29 чэрвеня і ў пастанове ЦК ВКП(б) ад 18 ліпеня. Патрабаваўся стварыць такі супраціў, каб зямля гарэла пад нагамі ворага.

У час хуткага адступлення мноства вайскоўцаў Чырвонай Арміі апынулася ў акружэнні, у лясах. З іх ліку сталі фарміравацца атрады першых партызан. Партызанскі рух пачынаўся стыхійна. Ініцыятыва зыходзіла ад саміх мясцовых жыхароў і тых, хто засталіся пад акупацыяй, партыйных і камсамольскіх работнікаў.

У перадваенны час савецкае кіраўніцтва не вяло сур'ёзнай падрыхтоўкі да партызанскай вайны. На гэта паўплывалі палітычныя рэпрэсіі адносна арганізатараў падрыхтоўкі партызан і памылковае стратэгічнае бачанне магчымай вайны. Ідэі рэпрэсаваных успрымаліся як варожыя, а будучая вайна бачылася на тэрыторыі ворага. У планах не прадугледжвалася барацьбы пад акупацыяй. Таму ўсе неабходныя падставы для вядзення барацьбы ў тыле ворага пачалі стварацца ў складаных умовах рэальнай акупацыі, фактычна навобмацак. Немалаважнай для паспяховасці партызанскай барацьбы была наяўнасць вопыту такой барацьбы ў насельніцтва з часоў польскага панавання.

Для эфектыўнага змагання з ворагам, выканання пастаўленых задач патрэбны былі розныя сродкі – зброя, боезапасы. З пачаткам партызанскага супраціўлення з "вялікай зямлі" – цэнтральных раёнаў СССР – дасылалася неабходнае. На Віцебшчыне трывалыя сувязі з партызанамі меў Віцебскі абкам і ЦК КП(б)Б, якія знаходзіліся за лініяй фронту. З лютага па верасень 1942 г. праз 40-кіламетровы прамежак у лініі фронту ў раёне Суража (*Суражскія вароты*) ішлі пастаўкі стратэгічных грузаў, перавозіліся параненыя. Пазней, калі фашысты ліквідавалі гэтую магчымасць, дапамога ішла па паветры. Былі пабудаваны лясныя аэрадромы для прыняцця самалётаў. Аднак асноўнай крыніцаю зброі для партызан заставаліся мясцовыя рэсурсы. У партызан дзейнічалі майстэрні па рамонту зброі, кавальні.

Цэнтралізацыя, арганізаванасць партызанскага руху стала адметным моцным бокам гэтай формы барацьбы з фашызмам. Гэтак атрымалася не адразу. Толькі ў **маі 1942 г.** ствараецца *Цэнтральны штаб партызанскага руху (ЦШПР)* на чале з сакратаром ЦК КП(б)Б **Панцеляймонам Панамарэнкам**. У **верасні** таго ж года быў арганізаваны *Беларускі штаб партызанскага руху (БШПР).* Яго кіраўніком стаў **Пётр Калінін**. З цягам часу партызанскі рух набыў рысы вайсковых фарміраванняў з адпаведнымі дысцыплінай, структурай і падпарадкаваннем. Зладжанасць дзеянняў спрыяла правядзенню шырокамаштабных аперацый з удзелам дзесяткаў падраздзяленняў на вялікай тэрыторыі.

**2.Этапы партызанскага руху.** За час акупацыі партызанскі рух прайшоў шлях ад дзейнасці асобных *атрадаў і груп* да *брыгад* і *злучэнняў.* На канец лета 1941 г. на Міншчыне, Палессі, Віцебшчыне ўжо дзейнічала 60 самастойных груп. З самага пачатку вызначыліся партызанскія кіраўнікі. Сярод былі сакратары партыі **Ціхан Бумажкоў** і **Васіль Корж**, дырэктар картоннай фабрыкі **Міхаіл Шмыроў (бацька Мінай)**, афіцэр Чырвонай Арміі **Фёдар Паўлоўскі**. Партыйныя і савецкія органы ва ўсходніх раёнах праводзілі паскораную падрыхтоўку, арганізоўвалі курсы і інструктаж для партызанскіх груп і атрадаў. Іх намаганнямі было створана да верасня 1941 г. звыш 430 дробных партызанскіх фарміраванняў.

Разам з савецкімі партызанскімі фарміраваннямі у пачатку вайны пачалі дзейнічаць нацыянальныя атрады: беларускія, яўрэйскія. Але інтэрнацыянальны склад барацьбітоў у любым выпадку быў неад'емнай сутнасццю ўселякай партызанкі.

Такая актыўнасць у партызанскім руху выклікала занепакоенасць фашыстаў. Рэакцыяй сталі карныя аперацыі. У ходзе адной з іх, "Прыпяцкія балоты", было знішчана 13788 чалавек, у асноўным мірных жыхароў.

Вяснова-летні перыяд 1942 г. стаў чарговым этапам у развіцці партызанскага супраціўлення. Такі супраціў значна павялічываўся колькасна. Атрады савецкіх партызан ўжо аб'ядноўваліся ў брыгады і атрымалі кіраўніцтва з боку ЦШПР і БШПР. Моц партызанскага ўздзеяння на акупацыйную ўладу прывяла да першых паспяховых вызваленняў беларускіх тэрыторый. На захопленых партызанамі абшарах акупаванай зямлі ўсталёўвалася савецкая ўлада. Перш за ўсё трапілі пад такі партызанскі кантроль глухія, лясныя землі ў Палескай вобласці. Падчас вызвалення Беларусі партызанскімі зонамі і краямі будзе ахоплена 60% яе тэрыторыі.

Партызаны праводзілі вялікую работу. Яны ажыццяўлялі дыверсіі, напады на фашысцкія гарнізоны, інфармавалі насельніцтва праз лістоўкі аб падзеях на фронце, збіралі карысную для фронту інфармацыю аб праціўніку. Разам з павелічэннем партызанскага руху раслі памеры і эфектыўнасць гэтых дзеянняў.

**Сведка падзей:**

Адзін эпізод партызанскай барацьбы: з дзённікавых запісаў Васіля Каржа – да 1944 г з яго атрада ў 60 чалавек склалася злучэнне ў 15 тысяч байцоў.

" 1-2 верасня 1942 г. быў распрацаваны план знішчэння ўмацаванай кропкі ў мястэчку Пагост, паліцыі ў в. Цэсаве, маёнтка, які ахоўваўся паліцыяй. Для аперацыі было вызначана 150 чалавек з 8-ю ручнымі

кулямётамі. Тав. Лабанаў з групай у 47 чалавек з гонарам выканаў сваю задачу – знішчыў паліцыю – 34 чалавека. Бой цягнуўся з 4-х гадзін раніцы да 20 гадзін. З наступлення вечара адышлі пры адным забітым і трох параненых. Камандзір групы Чарняўскі з групаю ў 45 чалавек спаліў маёнтак Пагост: атара і рагатае быдла 52 шт...., на шляху назад спалена гаспадарка солтыса ў в. Мацевічы…"

У пачатку 1943 г. колькасць партызан налічвала больш за 56 тысяч чалавек, а за год вырасла яшчэ ў 2,7 разы. Істотным бокам росту ўплыву партызан стала пашырэнне іх руху ў заходнебеларускіх раёнах. У зімовы перыяд 1943/44 гг. там дзейнічалі 282 атрады з колькасцю 37 тысяч чалавек.

Партызанскі рух у Беларусі ў 1943 г. набыў рысы сапраўды суцэльнага фронту ў тыле ворага. Праяваю такога маштабу дзеянняў стаў шэраг аперацый па падрыву чыгункі. У гісторыі вайны яны атрымалі назву ад кодавага абазначэння першага этапа аперацый – *"Рэйкавая вайна"*. Гэты *першы этап* стаў спланаваным знішчэннем эшалонаў ворага, стратэгічных мастоў і пераездаў з **чэрвеня па верасень 1943** г. Аперацыя стала падтрымкаю савецкім войскам на Курскай дузе і ў ходзе пачатку вызвалення тэрыторыі СССР. Працягам "Рэйкавай вайны" стала буйнамаштабнае разбурэнне чыгункі з **верасня 1943 па май 1944 гг.**, якое артымала назву "Канцэрт". Апошнім, трэцім этапам стала аперацыя, якая пачалася **ў ноч на 20 чэрвеня 1944 г.** Яна прайшла напярэдадні іншай, адной з найвялікшых аперацый другой сусветнай вайны – "Баграціён" – па вызваленню Беларусі.

На жаль, на эфектыўнасць такога партызанскага ціску на ворага адмоўна паўплывала пазіцыя Сталіна. Самастойнасць дзеянняў партызан выклікала падазронасць і недавер з яго боку. У выніку з сакавіка па май 1943 г. ЦШПР быў распушчаны. Траціўся час, разрываліся сувязі, парушалася каардынацыя дзеянняў. У студзені 1944 г., на самым уздыме партызанскай барацьбы, Цэнтральны штаб быў увогуле ліквідаваны.

Партызанскае змаганне з фашызмам у Беларусі нарадзіла шмат прыкладаў гераічнай самаахвярнасці. Такія ўчынкі былі вынікам нечалавечага драматызму абставін барацьбы і разам з тым, адчаю і мужнасці барацьбітоў.

Акружаны карнікамі, адстрэльваўся да апошняга патрона і потым падарваў сябе і гітлераўцаў гранатаю 15-гадовы станькаўскі хлапчук **Марат Казей**.

Сяляне вёскі Навіны Салігорскага раёна **Іван і Міхаіл Цубы** коштам свайго жыцця сарвалі карную аперацыю супраць Слуцкага і Пінскага партызанскіх злучэнняў. Міхаіл адмовіўся паказаць дарогу да партызан, а Іван завёў карнікаў на забалочаны бераг ракі Лань, адкуль яны не змаглі выбрацца.

У 1943 г. **Алёна Мазанік** і яе паплечнікі, па рашэнню ЦШПР, знішчылі генеральнага камісара Беларусі Вільгельма Кубэ. У адказ нацысты знішчылі тысячы мірных жыхароў.

Да апошняга змагалася з фашыстамі 18-гадовая **Зінаіда Партнова**. Пасля чарговага задання яна была схоплена ворагамі. На допыце застрэліла афіцэра і была закатавана.

У лютым 1943 г. група партызан-дыверсантаў, закінутых з-за лініі фронта, на чале з **Кірылам Арлоўскім** знішчыла з засады некалькі высокапастаўленых чыноў фашысцкай адміністрацыі. У ходзе бою Кірыла Арлоўскі са ўзрыўчаткаю ў руках кінуўся на ворага, быў цяжка паранены, страціў рукі і слых.

Заключным крокам партызанскага руху пасля вызвалення Беларусі ў 1944 г. стала ўваходжанне 147 тысяч партызан і падпольшчыкаў у дзеючую армію. Іх баявы вопыт спатрэбіўся ў час вызвалення Еўропы.

**3.Антыфашысцкае падполле.** Гарадское падполле было часткай барацьбы пад акупацыяй. Фарміравалася яно адначасова з партызанскім рухам. Яго ініцыятарамі таксама, у асноўным, сталі прадстаўнікі савецкага і партыйнага мясцовага кіраўніцтва. Таксама ініцыятарамі падпольнай барацьбы былі вязьні гета. Так падполле мінскага гета пачало ствараццa раней, чым гарадское. Тое, што падполле разгортвалася ў гарадской мясцовасці, стварала асаблівыя ўмовы для дзейнасці падпольшчыкаў. Каменданцкая гадзіна, знаходжанне гарнізонаў, ваенных і грамадзянскіх акупацыйных устаноў уплывалі на мэты і формы барацьбы падпольшчыкаў.

Акрамя шматлікіх дыверсій, вялікія намаганні падпольныя арганізацыі накіроўвалі на збор разведдадзеных, інфармаванне насельніцтва. Інфармаванне ўключала ў сябе выкрыццё ілжывай фашысцкай прапаганды і пасяляла ў насельніцтва ўпэўненасць ў перамозе. Удзельнікі падполля друкавалі і распаўсюджвалі лістоўкі, зводкі *Савінфармбюро*, газеты.

Падпольшчыкі гета ў Міры, Нясвіжы, Клецку, Глыбокім, Лахве, Мінску арганізоўвалі і паднімалі паўстанні. Амаль у кожным беларускім горадзе ішла падпольная барацьба. Найбольш разгорнутай і выніковай яна была ў Мінску, Віцебску, Гомелі, Обалі.

19-гадовая **Ефрасіньня Зянькова** ўзначальвала падпольную Обальскую камсамольскую арганізацыю *"Юныя мсціўцы"*. Маладыя падпольшчыкі здзейснілі 21 дыверсію, здабывалі і перадавалі партызанам зброю, каштоўную інфармацыю аб ворагу, медыкаменты.

У Оршы падпольшчыкі на чале з **Канстанцінам Заслонавым** наладзілі вытворчасць мін у выглядзе брыкетаў вугалю. Гэта дазволіла вывесці са строю дзесяткі адзінак чыгуначнага транспарту. Шмат разоў падпольшчыкамі разбураўся стратэгічна важны лепельска-аршанскі ўчастак чыгункі.

***ВАРТА ПРАЧЫТАЦЬ: ЗАСЛОНАВА ИЗА. ПОВЕСТЬ ОБ ОТЦЕ. –МН.:Юнацтва, 1988.***

Падпольшчыкі беларускай сталіцы зрабілі Мінск "страляючым горадам". Кіраўніцтва Мінскага падполля было ў руках мінскіх падпольных абкома і гаркама КП(б)Б. Дзейнічала мінскае падполле з **чэрвеня 1941 г. па ліпень 1944 г.** За гады барацьбы мінчанамі было праведзена паўтары тысячы дыверсій. З

дапамогаю падпольшчыкаў паратунак у партызан ад гібелі і фашысцкага рабства знайшлі каля 10 тысяч сямей.

"Пад дахам" акупацыйнай улады горада і генеральнай акругі функцыянавала разгалінаваная сістэма разведкі, агітацыі, дыверсій, партыйных і камсамольскіх арганізацый. Галоўнай газетай мінскага падполля стала *"Звязда"*. Падполле цесна звязвалася з партызанскімі арганізацыямі. Ствараліся сотні канспіратыўных кватэр, падпольшчыкі мелі мянушкі і агаворвалі паролі.

Двойчы – увесну і ўвосень 1942 г. – па мінскаму падполлю фашысты нанеслі страшэныя ўдары. У абодвух выпадках сотні барацьбітоў трапілі ў кіпцюры гестапа, СД і былі знішчаны. Сярод іх быў шэраг лідараў падполля – сакратар падпольнага гаркама **Іван Кавалёў, Ісай Казінец, Сцяпан Заяц, Міхаіл Каржанеўскі, Лявонцій Адзінцоў** і шмат іншых. Каб давершыць удар па падпольшчыках, фашысцкая прапаганда распаўсюдзіла плёткі пра здраду Івана Кавалёва. На жаль, гэтая дэзінфармацыя была прынята на веру сталінскім кіраўніцтвам, толькі нядаўна герою было вернута добрае імя.

Падпольная дзейнасць была немагчыма без падтрымкі шырокіх колаў мясцовага насельніцтва. За гады вайны ў Беларусі падпольшчыкамі сталі звыш 70 тысяч чалавек. Дзесяткі тысяч з іх былі растраляны, павешаны, закатаваны фашыстамі.

**4.Вынікі барацьбы ў тыле ворага.** Плён барацьбы ў тыле ворага можа быць параўнаны з вынікамі дзейнасці цэлага фронту. Чыгуначныя дыверсіі вялі да людскіх страт ворага, знішчэння яго бавой тэхнікі, баезапасаў, харчавання. Дзесяткі разбураных станцый, тысячы кіламетраў пашкоджаных рэек сталі адчувальным ударам па баяздольнасці фашыстаў. Яшчэ большым быў псіхалагічны фактар. Гітлераўцы заўсёды адчувалі нянавісць і ганьбу з боку насельніцтва. Беларусь ніколі не была спакойным месцам для захопнікаў.

Партызаны і падпольшчыкі выратоўвалі тысячы людзей ад угону ў Германію, вывазу ў канцэнтрацыйныя лагеры смерці. Пазбег разбурэння шэраг каштоўных і значных пабудоў рэспублікі. Фашысты так і не здолелі ўзарваць Дом ураду ў Мінску.

Вялікую ролю адыграла партызанская прапаганда. Каб вывесці насельніцтва на шлях актыўнай барацьбы, упэўніць у перамозе, схіліць да ўцёкаў у лясы, выкарыстоўваліся розныя сродкі. Ідэалогія савецкага жыцця, жорсткія метады аўтарытарнага кіраўніцтва вялі да таго, што побач з заклікамі да барацьбы былі пагрозы і запалохванні. Ёсць факты, што пагрозы смерцю, а нярэдка і пакаранні, былі накіраваны не толькі на паліцаяў, старастаў, дзеячаў БНС, але і на іх сем'і.

Партызанскі рух увабраў у сябе розныя колы насельніцтва. З-за свайго цэнтралізаванага кіраўніцтва і савецкай, партыйнай ідэалогіі ён быў увасабленнем савецкай улады і савецкай палітыкі. Паводзіны і ўчынкі партызан і падпольшчыкаў у шмат чым былі прадыктаваны мэтамі і задачамі савецкага цэнтральнага кіраўніцтва ў Маскве. Яскравым доказам гэтай характарыстыкі партызанскага руху сталі ўзаемадзеянні з польскай **Арміяй Краёвай**.

**Арганізацыя:**

У 1942-1945 гг. на акупаванай тэрыторыі Беларусі дзейнічалі атрады Арміі Краёвай (АК). Гэта польская падпольная ваенная арганізацыя падпарадкоўвалася польскаму эміграцыйнаму ўраду ў Лондане. Яе кіраўніцтва не змірылася з межамі Польшчы 1939 г. і далучэннем да СССР Заходняй Беларусі. Таму "акаўцы" варожа ставіліся да савецкай улады, а вайну бачылі на два фронту: супраць фашыстаў і супраць Саветаў. Але вычэкваючая пазіцыя эміграцыйнага ўраду Уладзіслава Сікорскага і невялікія сілы АК стрымлівалі яе актыўныя дзеянні на Беларусі. Найбольш буйнымі атрадамі АК ў Беларусі былі атрады на Навагрудчыне. У 1944 г. тут дзейнічаў шэраг злучэнняў "акаўцаў". Пад час пачатку вызвалення Польшчы савецкімі войскамі кіраўніцтва АК і эміграцыйны польскі ўрад узнялі ў жніўні 1944 г. Варшаўскае паўстанне.

З ліпеня 1941 г., пасля шэрагу пагадненняў паміж кіраўніцтвам СССР і эміграцыйным польскім урадам Уладзіслава Сікорскага, савецкія партызаны часам сумесна з "акаўцамі" змагаліся з фашыстамі. Але з лета-восені 1943 г. адносіны пачалі псавацца. Прычыны таму былі ў палітыцы. Па-першае, разыходжанне паглядаў савецкага і польскага бакоў на савецка-польскую мяжу 1939 г., на пасляваенную будучыню Польшчы. Па другое, рознае стаўленне да "катынскай трагедыі" 1940 г. Савецкае кіраўніцтва адмаўляла тады ўдзел атрадаў НКУС у знішчэнні ў смаленскіх лясах тысяч польскіх палонных афіцэраў. Усё разам гэта стала падставаю, каб партызаны атрымалі загад лічыць байцоў Арміі Краёвай бандытамі. Адпаведна камандзіры партызанскіх фарміраванняў пачалі раззбройваць "акаўцаў". Такі паварот у адносінах вёў да сутычак паміж савецкай і польскай часткамі антыфашысцкай барацьбы.

Вялікі ўклад унеслі партызаны ў вызваленне Беларусі ў ходзе аперацыі "Баграціён" летам 1944 г. Яны не толькі падтрымалі дзеянні войскаў, але самі нанеслі ўдар па камунікацыях ворага. Важны ўчастак чыгункі Мінск-Барысаў быў разбураны ў ноч на 20 чэрвеня больш чым у 200 месцах. Шмат населеных пунктаў, у тым ліку райцэнтры былі вызвалены партызанамі самастойна, яшчэ да прыходу савецкіх войскаў.

Драматызм партызанскай і падпольнай барацьбы ў Беларусі быў невыпадковы. Ён стаў люстэркам бязлітаснай барацьбы дзвюх супрацьлеглых палітычных таталітарных сістэм. Адначасова памеры і веліч народнага супраціўлення былі дэманстрацыяй вялікага памкнення людзей да перамогі, вызвалення сваёй краіны і свайго народа. Рэалізацыяй гэтых памкненняў стаў сапраўдны народны подзвіг.

# Пытанні і заданні:

**I. Складзіце паведамленне на тэму «Характар і значэнне партызанскага і падпольнага руху ў Беларусі ў гады другой сусветнай вайны».**
**II. Растлумачце прычыны поспехаў і няўдач антыфашысцкай барацьбы ў тыле ворага. Што спрыяла, а што перашкаджала арганізацыі партызанскага супраціўлення? Чым былі выкліканы такія абставіны?**
**III. Прачытайце дакументальнае эпізод барацьбы падпольшчыкаў і адкажыце на пытанні:**
**1. Што штурхала на барацьбу супраць фашыстаў падлеткаў і юнакоў?**
**2. Удзел у вайне дзяцей – адна з важных прыкмет для ацэнкі самой вайны, уладаў краіны, грамадства. Як ацэніце вы гэты бок мінулай вайны? Аргументуйце свае ацэнкі гістарычнымі фактамі.**
**3. Якія абставіны робяць вайну "айчыннай"? У якой ступені ўчынак Сашы Дарашкевіча можна лічыць у шэрагу такіх абставін?**

*"Просім залічыць ў спісы батальёна беларускіх арлят юнага піянера падпольшчыка Сашу Дарашкевіча. Дванадцацішгадовы Саша загінуў на станцыі Баранавічы, выконваючы баявое заданне..."*

*У цёплы вясновы дзень Саша Дарашкевіч выйшаў з дхаты з магнітнай мінай у кішэні. Механізм павінен быў спрацаваць праз тры гадзіны. У той дзень на станцыю прыбыў вайсковы эшалон акупантаў, і ўсе платформы занялі салдаты. Саша доўга чакаў у бацькі ў дыспечарскай, некалькі разоў вяртаўся на перон. Спрабаваў спусціцца на рэйкі , але ж яго прагналі.*
*Бацька заўважыў хваляванні сына.*
*Міна, - прашымаціў Саша. – Ставіў на выбух праз тры гадзіны, а ўжо дзве прайшлі.*
*Зыходзь, - загадаў бацька. – Зараз жа. Цяпер прыбывае яшчэ адзін цягнік. Сёння не атрымаецца.*
*Саша не пайшоў са станцыі. Не хацелася , каб міна была змарнавана без сэнсу. Ён ведаў,*
*колькі намаганняў патрэбна для яе здабычы падпольшчыкам. Да станцыі падыйшоў цягнік з цыстэрнамі. Да выбуху заставалася пятнадцаць хвілін. Яшчэ можна было пайсці, пакінуўшы міну дзе-небудзь ля станцыі. Саша вярнуўся на перон. Тут як і раней было шмат гітлераўцаў. Вагоны стаялі паблізу платформы. Ён ускочыў на лесвіцу, што была на цыстэрне.*
*Цурук! – закрычалі яму. – Цурук.*
*Сашы заставалася толькі зачапіць міну і скокнуць. Мо, хлопчык моцна стукнуў міну аб*
*жалезны корпус цыстэрны, а механізм, калі час на зыходзе, рэагуе на кожны штуршок.*
*Тыя , хто бачыў расказывалі: гэта было страшнае відовішча. Выбухам раскідала фашыстаў, што былі на пероне. Пылаючы бензін ахапіў будынак вакзала, ён загарэўся. Некалькі соцен салдат і афіцэраў страцілі акупнты на вакзале ў Беранавічах у той сонечны дзень вясны сорак трэцяга года.*
**(Чырвоныя следапыты Полтарановічскай СШ Пінскага р-на – з кнігі "Рядом с отцами. – Мн., 1980. – С.60.")**

**IV. Прачытайце ўрывак з артыкула беларускага пісьменніка і былога партызана Нічыпара Пашкевіча і адкажыце на пастаўленнае ў канцы пытанне.**

*"У жніўні 1942 г. круглянскія атрады пад кіраўніцтвам С. Жуніна дзерзкім налётам раграмілі чыгуначную станцыю Слаўнае (бліз Тылачына), дзе былі і ваенныя саставы, і розныя абарончыя збудаванні. Даведаўшыся пра гэта Гітлер запатрабаваў ад камандавання групы арміі "Цэнтр" – не ,не ўдарыць па партызанскіх атрадах. А "неадкладна правесці аперацыю адплаты..." Што і было зроблена: 100 мірных жыхароў станцыйнага пасёлка, у тым ліку немала старых і дзяцей гітлераўцы растралялі на вачах сагнанага натоўпу жыхароў суседняга гарадскога пасёлку Крупкі." Далей пісьменнік ставіць пытанне: "Відаць адзінае выйсце было тады ў беларускага народа – сядзець , як мыш пад венікам, і не варушыцца? І сам дае адказ на яго.* **А як вы адказалі б на гэта пытанне?**

V. **Барацьба за ўплыў на насельніцтва была аднім з асноўных кірункаў супрацьстаяння акупацыйных войск з аднаго боку і партызан і падпольшчыкаў. З другога. Прачытайце ўрыўкі з дакументаў, якія сведчаць аб характары, абставінах і выніках такой барацьбы. Адкажыце на пытанні.**

1. **Якія сродкі барацьбы за моладзь выкарыстоўваюць абодва ваюючых бакі?**
2. **Што сведчыць аб непрымірымасці, бескампраміснасці супрацьстаяння партызан і фашысцкіх акупантаў?**
3. **З дапамогаю ведаў аб перадваеннай гісторыі заходняй Беларусі, паразважайце, чаму "арганізацыя правільных узаемаадносін з насельніцтвам" - не толькі важная , але і вельмі складаная справа ў арганізацыя партызанскага руху?**

**" З палітданясення начальніку БШПР П.З. Калініну (26 лістапада 1943 г.):** *"Працы сярод насельніцтва ў Пастаўскім раёне надаем выключна вялікае месца... Першае, што праводзіць брыгіда ў сэнсе працы з насельніцтвам – гэта арганізацыя правільных узаемаадносін з насельнітвам. Трэба адзначыць, што насельнітцтва Вілейскай вобласці ненавідзіць акупантаў і ў большасці ўпэўнена ў іх паражэнні."*

**" З лістоўкі ЦК КП(б) Беларусі**: *"Браты беларусы! Не пападайцеся ў нямецкую лавушку! Помніце – хто едзе працаваць на нямецкія прадпрыемствы, той падымае руку супраць свайго народа. Ён едзе рабіць зброю, якой немцы збіраюцца разбураць нашы гарады і вёскі, забіваць бацькоў, сясцёр і дзяцей беларусаў, рускіх, украінцаў....Усімі сіламі пазбягайце паездкі ў фашысцкую Германію Дапамагайце слаўным сынам і дочкам Савецкай радзімы – партызанам – граміць нямецкія вярбовачныя бюро. Не верце ні аднаму слову ілжывай фашысцкай агітацыі, біці іх, агітатараў-падманшчыкаў, як і з немцамі-акупантамі, распраўляецеся з тым, хто здраджывае свайму народу."*

**З Дакладной запіскі сакратару ЦК КП(б)Б П.К. Панамарэнку аб палітмасавай рабоце сярод насельніцтва вобласці за 1944 г.:** *"У сакавіку месяцы нямецкія ўлады ўзмацнілі свае мерапрыемствы па мабілізацыі насельніцтва. 6 сакавіка ...загад аб мабілізацыі насельніцтва 1908-1924 гг. Нараджэння ў так званую "Беларускую краёвую абарону". У загадзе казалася, што за неяўку па павестках да вінаватых будзе прынята мера – растрэл. Загад і павесткі былі разасланы ў Смаргоньскім, Курынецкім, Пастаўскім, Глыбокскім і іншых раёнах...З мэтаю арыентацыі насельніцтва, як ставіцца да абвешчанай мабілізацыі, была выдадзена лістоўка "Да насельніцтва Віленскай вобласці"...Агульны наклад яе склаў*

*3000 паасобнікаў. Выдадзена таксама лістоўка "Да моладзі Вілейскай вобласці". У згаданых лістоўках змешчаны заклікі да насельніцтва і моладзі не з'яўляцца на па мабілізацыі, зыходзіць у лес пад абарону партызан, уганяць быдла, вывозіць хлеб. Знішчаць немцаў, і збраднікаў беларускага народа..."*

**З паведаленняў нямецкіх улад у паліцыю бяспекі і СД Літвы аб дзейнасці партызан(11.11.43):** *"1942 год характарызаваўся сутычкамі з партызанамі. Паведамляецца аб немагчымасці выкаранення партызанскага руху. Амаль штодзённа ўзрываюць чыгунку. Зброю партызаны атрымліваюць паветраным шляхам. ..." "(12.4.44)...партызаны напалі на літоўскую вёску... але вымушаны былі пад агнём паліцэйскіх адыйсці. 25 красавіка жыхары вёскі – усе літоўцы - атрымалі лісты, падпісаныя Ф.Р.Маркавым (начальнік Віленскага злучэння) , у якіх казалася, што, калі яны не здадуць зброю, партызаны спаляць вёску..."*

**З радыяграмы сакратару ЦК КП(б)Б П.К. Панамарэнку(не раней 23 лютага 1944 г.):** *" ...Мабілізацыя ў Краёвую абарону" па Пастаўскаму, Дуніловічскаму, Мядзельскаму, часткова Свірскаму раёну і шэрагу іншым сарвана. Па некаторым раёнам вобласці мабілізацыю атрымалася правесці працэнтаў на 25. Толькі ў цэнтральнай (Нарачанскай) зоне ў барацьбе супраць мабілізацыі зроблена наступнае: арганізавана 37 засад, знішчаны две прызыўныя камісіі, праведзена 400 збораў, ліквідавана 600 павестак, надрукавана 10000 лістовак, абстраляна 3 зборныя пункты, адбыўся рэйд некалькіх партызанскіх атрадаў, выведзена да 1000 чалавек ў партызанскія атрады... Штодзённа мабілізаваныя перабегаюць да партызан. З іх арганізавана два партызанскіх узвода."*

**З дакладных запісак сакратару вілейскага падпольнага абкома КП(б)Б А.А. Манахаву:** *"У выніку праведзенай масава-палітычнай работы сярод насельніцтва Пастаўскага раёна мабілізацыя мясцовага насельніцтва нямецкімі ўладамі сарвана. ...У Пастаўскім раёне павіннны былі мабілізаваць 1500 чалавек, мабілізавана толькі 405 чалавек ў вёсках бліжэйшых да гарнізонаў і ў горадзе..."*

*"Сяляне выключна настроены супраць нямецкіх акупантаў. Калі адбывалася мабілізацыя мясцовага насельніцтва з 31.1.43 па 4.2.44 г. Моладзь хавалася ў лесе і вёсках..."*

*"Польскае насельніцтва , што пражывае ў Пастаўскім раёне... ставіца да партызан непрыхільна, а некаторая частка нават варожа..."*

**( з кнігі "Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Пастаўскага раёна. – Мн.. 2001. – С.221, 271, 272, 297.)**

VI. **Падрыхтуйце паведамленне аб прыкладах партызанскай альбо падпольнай барацьбе ў вашым населеным пункце, або мясцовасці.**

# Раздзел XXIII. На фронце і ў тыле. Вызваленне Беларусі

**1.На савецка-германскім фронце.** Больш мільёна жыхароў Беларусі ўдзельнічала ў вайне ў складзе Чырвонай Арміі. Сярод іх 217 генералаў і адміралаў. На ўсіх франтах Вялікай Айчыннай вайны Савецкага Саюза ваявалі прадстаўнікі нашай рэспублікі. З першых дзён вайны яны, як і тысячы іншых савецкіх салдат і афіцэраў дэманстравалі мужнасць і гераізм.

У апалчэнні Ленінграда (зараз – Санкт-Пецярбург) змагаўся і загінуў **Феадосій Смалячкоў.** Ён – адзін з пачынальнікаў снайперскага руху за адкрыццё асабістага рахунку знішчаных ворагаў. Ім самім было знішчана 125 гітлераўцаў.

У час Курскай бітвы ўражэнец Слонімшчыны **Аляксандр Гаравец** уступіў у бой з 20 самалётамі і збіў 9 з іх. Стаў тройчы "асам" у адным баі, у тым жа баі герой загінуў.

Чатыры разы - унікальны выпадак ў гісторыі вайны – паспяхова тараніў варожыя самалёты лёчык-знішчальнік **Барыс Коўзан.**

У баях за Маскву ўмела арганізоўваў абарону свайго кавалерыйскага корпуса генерал-маёр **Леў Даватар.**

У Баранцавым моры ў 1943 г. паўтарыў подзвіг Мікалая Гастэлы гамяльчанін **Ілля Катунін**. Свой палаючы самалёт ён накіраваў на транспарт водазмяшчэннем 5 тысяч тон і патапіў яго.

Паляшук **Якаў Мінін** за гады вайны штурмавіком у 104 вылетах знішчыў 29 танкаў, 58 аўтамашын, 8 зенітных артылерыйскіх батарэй, 12 артэлірыйскіх гармат.

"За выдатныя заслугі", праяўленыя пры правядзенні ваеннай аперацыі (разгром Корсунь-Шаўчэнкаўскай групоўкі праціўніка) камандзір 3-й гвардзейскай танкавай брыгады палкоўнік **Мікалай Хоцімскі** стаў Героем Савецкага Саюза і атрымаў амерыканскі ордэн "Легіёна гонару афіцэрскай ступені" ад Франкліна Рузвельта .

Пры штурме Берліна свой подзвіг здзейсніў мінчук **Трыфан Лук'яновіч**. У ходзе вулічнага бою ён выратаваў нямецкую дзяўчынку, выхапіў яе з-пад агню фашыстаў. Сам жа Лук'яновіч быў смяротна паранены. Гэты мужны ўчынак стаў вобразам для стварэння помніка савецкім воінам-вызваліцелям у Трэптаў-парку, у Берліне скульптарам Е.В. Вуцецічам.

У розныя часы вайны, на розных яе ўчастках **Пракоп Аўрамкаў, Іван Зайцаў, Сяргей Каваленка, Пётр Касцючык** закрылі сабою амбразуры варожых дзотаў, чым выратавалі сваіх таварышаў. Старэйшаму з герояў было 24 гады.

Цэлыя сем'і служылі ў Чырвонай Арміі. Шэсць сыноў сялянкі гарадскога пасёлка Бялынічы Магілёўскай вобласці **Тадоры Храбрай** змагаліся з фашыстамі. Столькі ж сыноў пайшло на фронт у калгасніка з Быхава **Акіма Красоўскага**.

У гады вайны больш 300 тысяч беларусаў былі ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі, 443 - сталі Героямі Савецкага Саюза.

**2.Тыл для фронту.** Праца ў тыле з першых дзён вайны была важным складаемым будучай перамогі. Ваенная прамысловасць, сельская гаспадарка, транспарт, будаўніцтва, рамонтныя работы, шпіталі сталі яшчэ адным фронтам. Тыя паўтара мільёна эвакуіраваных з Беларусі адразу ўключаліся ў цяжкую працу ваеннага тылу. Асноўным раёнам размяшчэння беларускай прамысловасці стала Паволжжа. Туды было адпраўлена 47 прадпраемстваў. За ім ішлі Урал, сярэдняя паласа Расіі, Заходняя Сібір. Трэба было ў хуткі час, "з колаў", пад адкрытым небам адбудаваць, пераабсталяваць на ваенны лад і пачаць вытворчасць для фронту.

Для гэтага быў прадпрыняты шэраг надзвычайных мер. У тыле засталося немала высокакваліфікаваных спецыялістаў, веды і вопыт якіх былі надзвычай неабходны ў арганізацыі абароны. Уводзіліся звышурочныя работы. Жорсткасць кіраўніцтва тылавой вытворчасцю была прадыктавана як неверагодна складанымі абставінамі на фронце, так і сфарміраванаю ва ўмовах аўтарытарызму звычкаю ўладаў. Уся работа на тылавых прадпрыемствах лічылася працоўнай мабілізацыяй на ўсю вайну. Ухіленне ад гэтай мабілізацыі каралася крымінальнай адказнасцю па законах ваеннага часу. Праца для фронту была агульнай для ўсіх – мясцовага насельніцтва тылавых раёнаў і эвакуіраванага з розных частак СССР. У тым, што да канца 1942 г. стратэгічная магутнасць ваеннай прамысловасці Савецкага Саюза не толькі была адноўлена, але і перасягнула немецкую, быў важкі плён працоўнага гераізму беларускага народа.

Лік у ваеннай эканоміцы ішоў не на гады, а на дні, часам, на гадзіны. Яна патрабавала ініцыятывы, хуткасці і, адначасова, – высокай якасці вытворчасці. Заводы "Гомсельмаш" і Гомельскі станкабудаўнічы былі адноўлены за адзін месяц. Ужо **восенню 1941 г.** большая частка з перабазіраваных заводаў і фабрык Беларусі выпускала абаронную прадукцыю. Да **лета 1942 г.** на абарону працавала больш за 60 беларускіх прадпраемстваў.

У Смаленскую, Цвярскую, Курскую, Арлоўскую вобласці былі эвакуіраваны рэсурсы сельскай гаспадаркі Беларусі. У калгасах павялічваўся, у параўнанні з даваеннымі, абавязковы мінімум працадзён. На суд перадаваліся тыя калгаснікі, якія не выконвалі гэты мінімум.

Каля пяці тысяч работнікаў беларускай чыгункі працавалі ў гады вайны на 40 тылавых і прыфрантавах дарогах.

У эвакуацыі працягвалі сваю работу дзесяткі навукова-даследчых інстытутаў, навучальныя ўстановы. Змест навуковых праблем, драматычных пастановак, сцэнарыяў кіно цяпер абумоўліваўся патрэбамі фронту. Гэта таксама быў уклад ў перамогу. Ствараліся новыя творы, праводзіліся выступленні

перад вайскоўцамі Чырвонай Арміі, ішлі зборы сродкаў на патрэбы фронту. У выяўленчым мастацтве на першы план выйшлі баявыя, агітацыйныя формы мастацтва – плакат, карыкатура, баявы лісток. У літаратуры майстры пяра звярталіся да вобразаў славутай мінуўшчыны, краявідаў родных мясцін, тэмы кахання. З ліпеня 1941 г. па май 1945 г. выходзіў сатырычны часопіс ЦК КП(б)Б *"Раздавім фашысцкую гадзіну"*. На старонках гэтага выдання ў 1942 г. з'явіўся вядомы купалаўскі верш-заклік "Беларускім партызанам". З 1942 па 1943 гг. выходзіў сатырычны лісток *"Партызанская дубінка"*.

Усю вайну з фашысцкай Германіяй ураджэнцы Беларусі змагаліся за свой край, за Беларусь. Шмат хто бачыў тады рэспубліку часткай адзінай дзяржавы - СССР. Хтосьці атаясамліваў будучыню сваёй зямлі з імем Сталіна. Іншыя памяталі перш за ўсё пра свой родны кут, сваю вёску, сваё мястэчка ці горад. Але для ўсіх гэта вайна была барацьбой за сваю незалежнасць, за будучыню сваіх сем'яў, сваіх дзяцей. Менавіта гэты – першасны матыў змагання з фашызмам - стаў зместам лепшых франтавых твораў паэтаў і пісьменнікаў **Кандрата Крапівы, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага, Петруся Броўкі, мастакоў Заіра Азгура, Івана Ахрэмчыка** і іншых. У сваёй творчасці майстры слова, пэндзля, гуку звярталіся да самых глыбінных, галоўных падмуркаў патрыятызму.

Лозунг "Усё для фронту, усё для перамогі!" меў рэальнае, штодзённае ўвасабленне.

**3.У еўрапейскім Руху Супраціўлення.** *Рух Супраціўлення* пачаўся ў Еўропе ў час так званай "дзіўнай вайны". Тады хвалі партызанскай і падпольнай барацьбы ахапілі Францыю, і, у хуткім часе, іншыя акупаваныя Гітлерам краіны.

| **Успомніце, што гэта быў за рух? Хто быў яго ініцыятарам?** |
|---|

Немалая колькасць ваенных, партызан, падпольшчыкаў, мірных грамадзян Беларусі, трапіўшых ў палон, або прымусова працуючых у Германіі, далучалася да гэтага Руху. У партызанскіх атрадах Італіі, Францыі, Чэхаславакіі, Польшчы, Бельгіі змагаліся ўраджэнцы нашай краіны. Воля да жыцця, да свабоды, імкненне да шчасця рухалі тысячамі людзей, давалі ім сілы змагацца. Нездарма Васіль Быкаў у адным з першых сваіх твораў "Альпійскай баладзе" звярнуў увагу на гэтую старонку вайны. Шмат прыкладаў самаадданай барацьбы беларусаў складаюць гісторыю канцлагераў Маўтхаўзэна, Рэгензбурга, Асвенцыма. У лагеры Эбензе (Аўстрыя) падпольную арганізацыю стварыў савецкі разведчык, ураджэнец Чавусаў **Леў Маневіч**. У Рэгензбургу ўключыўся ў падпольную барацьбу, вёў агітацыю, рыхтаваў пабег генерал **Дзмітры Цумараў**. Ураджэнцы Беларусі знаходзіліся таксама ў польскай арміі *генерала Андэрса* на поўдні Еўропы. У яе складзе шмат іх брала ўдзел у геаічных баях пад *Монтэ-Касіна* ў Італіі, у маі 1944 г.

Беларускае неба стала месцам змагання з фашыстамі французскіх лётчыкаў знішчальнага авіяпалка "Нармандыя". За баявыя заслугі і мужнасць у час вызвалення Беларусі палку было прысвоена найменаванне "Нёманскі" і назва "Нармандыя –Нёман".

**4.Пачатак вызвалення Беларусі ў канцы 1943 – пачатку 1944 гг.** Першы крок вызвалення Беларусі звязаны з наступленнем савецкіх войскаў восенню 1943 г. Наступленне складалася з шэрагу аперацый Бранскага, Беларускага, Заходняга і І Прыбалтыйскага фронту. Разцягнуліся гэтыя аперацыі з **верасня 1943 па сакавік 1944 г.**

У верасні войскі Бранскага фронту з баямі ўступілі на тэрыторыю Беларусі. Былі вызвалены першыя раённыя цэнтры, у тым ліку Камарын, Хоцімск, Крычаў, Клімавічы. Крыху раней, у жніўні 1943 г., узнікла слаўная традыцыя адзначаць вызваленне гарадоў салютамі. Увосень 1943 г. у Маскве салютавалі вызваленню першых беларускіх гарадоў.

Сіламі І Прыбалтыйскага, Заходняга і Беларускага франтоў з кастрычніка 1943 г. Стаўка прадпрыняла спробу вызвалення ўсёй тэрыторыі Беларусі. Пасля кровапралітных баёў на Віцебскім напрамку і цяжкіх страт, вызваліць Віцебск сіламі Прыбалтыйскага фронту не ўдалося. Баявыя дзеянні Заходняга фронту на аршанскім і магілёўскім напрамках таксама не былі паспяховымі. Яны працягваліся да сакавіка, але прасунуцца ўдалося толькі на 10-20 км. Толькі ў выніку Гомельска-Бабруйскай аперацыі была вызвалена частка Беларусі. Ад фашыстаў ачысцілі Гомель, Рэчыцу, Прапойск(Слаўгарад). Істотную падтрымку аказалі партызаны Гомельскага, Палескага і Магілёўскага злучэнняў. Іх дзеянні паралізавалі рух на чыгунцы, пазбавілі фашыстаў магчымасці перакінуць падмацаванні да Гомеля. Партызаны вызвалілі і ўтрымлівалі да прыходу савецкіх войскаў 34 населеных пункты і пераправу цераз Бярэзіну. Вялікіх ахвяр каштавала гэта кампанія Чырвонай Арміі. Больш за 587 тысяч забітымі, параненымі і хворымі страцілі часці трох франтоў.

У зімовы перыяд 1944 г. працягваліся спробы авалодаць усё новымі пазіцыямі на беларускай зямлі. Вызваленымі аказаліся Мазыр, Калінкавічы, Рагачоў. Пад час восеньска-зімовага наступлення праводзіліся пераправы цераз Бярэзіну і Днепр. Агульным вынікам наступальных дзеянняў Чырвонай Арміі стала вызваленне *36 раёнаў Беларусі і двух абласных цэнтраў.* Армія заняла зручную для далейшага наступлення пазіцыю. Аднак вызвалення Беларусі тымі сіламі, на якія разлічвала сталінскае кіраўніцтва, не атрымалася.

Працяглы час акупацыі Беларусі дазволіў немцам зрабіць з яе моцны плацдарм глыбокай - на 250-270 км - абароны. Яна налічвала некалькі рубяжоў. Неспрыяльнай для танкавых наступленняў была лясіста-балоцістая мясцовасць. У сапраўдныя ачагі супраціўлення былі ператвораны амаль усе гарады і вёскі Беларусі. Як і ў пачатку вайны Германіі і СССР беларуская зямля стала стратэгічным участкам фронту. Гэта быў прамы накірунак на Захад, у Трэці Рэйх. Страта беларускіх рубяжоў з'яўлялася для гітлераўцаў моцным псіхалагічным фактарам. Нават назву для ліній абароны ўсходне-прускага і варшаўска-берлінскага напрамкаў фашысты далі – Фатэрлянд (Бацькаўшчына). Для прарыву такой абароны патрабавалася вялікая дадатковая падрыхтоўка савецкага камандавання і ўзброеных сіл.

**5.Аперацыя “Баграціён”.** Вызваленне Беларусі ўлетку 1944 г. стала этапам Другой сусветнай вайны. Ваенная аперацыя пад кодавай назваю “Баграціён” планавалася на падставе асобных планаў штабоў *I Прыбалтыйскага і I,II,III Беларускіх франтоў.* На чале гэтых франтоў былі пастаўлены таленавітыя камандуючыя Чырвонай Арміі. Гэта генералы арміі **Іван Баграмян, Іван Чарняхоўскі, Георгій Захараў**, маршал **Канстанцін Ракасоўскі**. 25 мая план “Баграціён” па вызваленню Беларусі, Прыбалтыкі і часткі Польшчы быў зацверджаны Стаўкаю.

Да яго выканання, акрамя сіл франтоў, прыцягваліся авіяцыя далёкага дзеяння, Дняпроўская ваенная флатылія. Вялікі разлік быў на беларускіх партызан. Агульнае камандаванне аперацыяй ускладалася на прадстаўнікоў Стаўкі маршалаў **Георгія Жукава** і **Аляксандра Васілеўскага**.

Вось як выглядала баявая моц савецкіх і фашысцкіх сіл напярэдадні аперацыі:

| **Узброеныя сілы** | Чырвоная Армія | **Германскія войскі** |
|---|---|---|
| Асабовы склад | **2499 тысяч** | **1200 тысяч** |
| Гарматы і мінамёты | **Звыш 36000** | **9500** |
| Танкі і самаходныя гарматы | **5200** | **900** |
| Авіяцыя | **5300** | **1350** |

Усімі спосабамі вялася разведка. І тут неабходнай была дапамога партызан і падпольшчыкаў. Найстражэйшая сакрэтнасць, ва ўмовах якой рыхтавалася аперацыя, і добра прадуманая сістэма дэзінфармацыі ўвялі праціўніка ў зман. За дзень да пачатку аперацыі на перадавой была праведзена разведка боем перадавымі батальёнамі. Асабовы склад многіх з іх амаль поўнасцю быў знішчаны, але быў удакладнён план удару.

Аперацыя дзялілася на два этапы і пачалася **23 чэрвеня 1944 г.** Удар асноўных сіл савецкіх войск быў нечаканы для фашыстаў. На першым этапе – з *23 чэрвеня да 4 ліпеня* – была вызвалена Беларусь на ўсход ад Мінска. Добра прадуманымі рассякаючымі ўдарамі буйныя флангавыя групоўкі праціўніка былі акружаны і разгромлены. Адной з найбуйнейшых такіх груповак стаў, так званы, *“Мінскі кацёл”*. **3 ліпеня 1944 г.** сталіца Беларусі была вызвалена. У “катле” гітлераўцы страцілі за 70 тысяч салдат і афіцэраў забітымі. Галоўныя сілы групы арміі “Цэнтр” былі знішчаны.

На другім этапе аперацыі, з *5 ліпеня па 29 жніўня,* у ходзе Вільнюскай, Беластоцкай, Брэсцка-Люблінскай аперацый былі вызвалены астатнія часткі Беларусі. 16 ліпеня Чырвоная Армія ўвайшла ў Гродна, а 28 ліпеня – у Брэст. У летняй кампаніі за Беларусь часці франтоў страцілі звыш 440 тысяч чалавек або 29,8 % свайго пачатковага складу. Найбольшыя страты неслі савецкія воіны ў пачатку аперацыі, пры пераправах цераз рэкі Заходнюю Дзвіну, Днепр, Бярэзіну, Нёман.

Вызваленне Беларусі не было безаблічнай вайной мас. Яно багата прыкладамі самаахвярных подзвігаў. Звыш 1500 чалавек атрымалі за вызваленне Беларусі званне Героя Савецкага Саюза.

Беларусь была вызвалена ад фашысцкіх захопнікаў, але вайна з фашызмам працягвалася. У складзе Чырвонай арміі, з тых хто быў пад акупацыяй, з партызан было мабілізавана звыш 600 тысяч чалавек. Да самых апошніх дзён вайны, да самой Перамогі, на ўсіх этапах і ўчастках вызвалення Еўропы працягвалі ваяваць прадстаўнікі нашай краіны.

# Пытанні і заданні:

**I. Якое значэнне мела дзейнасць творчай беларускай інтэлігенцыі ў гады вайны? Прывядзіце прыклад уплыву рознымі сродкамі мастацтва на настрой, баявы дух тых, хто знаходзіўся на перадавой.**

**II. Складзіце паведамленне на тэму “Крыніцы перамогі над фашызмам”.**

**III. Пазнаёмціся з фактамі архіўных дакументаў аб наступленні 33 арміі ў асенне-зімовую наступальную кампанію 1943/1944 гг. па вызваленню Беларусі і адкажыце на пытанні:**

**1. Што сведчыць пра безлітасны характар баёў?**

**2. Задача па вызваленню Віцебска не была выканана. Які тады сэнс апісаных у дакументах дзеянняў 33-й арміі?**

*“Стаўка Вярхоўнага Галоўнакамандавання загадала войскам двух франтоў заходняга напрамку прарвацца да Віцебска і вызваліць яго. У асенне-зімовую кампанію 1943-1944 г. франты зрабілі шэраг спроб узяць горад.*

*26 снежня 1943 г. 33 армія перайшла ў наступленне. Войскі літаральна ўгрызаліся ў абарону праціўніка, несучы пры гэтым вялікія страты. Толькі з*

*1 па 10 студзеня армія страціла забітымі 2122 , параненымі – 8816 чалавек, прапала без вестак 85, захварэла 307. Усяго – 11330 чалавек.*
*13.1.1944 г. праціўнік 6 разоў пераходзіў у контратакі. Усе яны былі адбіты. Пры гэтым ён страціў 2 танкі, 1 самаходную гармату, знішчана да 600 салдат і афіцэраў.*
*(3 лютага) Бой за ачышчэнне ўсходняга берага р. Лучоса працягваўся ўсю ноч. Перад войскамі арміі была пастаўлена задача: штурмавымі атрадамі фарсіраваць раку і да ранніцы 4 лютага авалодаць плацдармам і заходнім берагам Лучосы і навесці цераз раку пераправу…*
*У ноч на 6.2.1944 г. 274-я стр. дывізія навяла пераправу…6.2.1944. г. Забіта 46 чалавек. 7.2.1944 г. Забіта 43 чалавекі. 9.2.1944 г. 961-ы і 965-ы стр. палкі спрабавалі перайсці ў атаку, але былі сустрэты і прыціснуьы да зямлі моцным арт.-мінамётным агнём праціўніка. У 10.00 атакавалі вышыню 133.0, але сустрэтыя моцным агнём, заляглі. Паромныя лодкі разбіты. Забіта 92 чалавекі. 10.2.1944 г. 961-ы і 965-ы стр. палкі ў 12.00 атакавалі праціўніка у раёне вышыні 143.0 на ўсходнім беразе Лучосы…і заляглі пад ураганным арт-мінам. Агнём праціўніка.274-я стр. дывізія страціла 75% асабовага саставу. Усе пасыльныя, якія накіроўваюцца на заходні бераг ракі, паранены ці забіты.*
*..33-я армія , ведучы актыўныя наступальныя дзеянні зімой 1943-1944 гг., задачу ўзяць Віцебск не выканала. Вораг аказайся куды мацнейшым чым меркавалася. За 2 месяцы армія прасунулася на некалькі кіламетраў, а страціла больш за 30 тысяч салдат і афіцэраў. Але яны (воіны 33-й арміі) расхісталі варожую абарону так, што ў чрвені 1944 г. яна рухнула за лічаныя дні.”* **(З артыкулу У.І Галдзілава “Войскі рвуцца да Віцебска”, з Журналаў баявых дзеянняў і аператыўных і баявых данясенняў 274-й стр. дыв. І 33-й арміі Архіва Міністэрства абароны Расійскай Федэрацыі /Памяць: Гіст.-дакум.хроніка Віцебска: У 2-х кн. Кн.1-я. –Мн., 2002. – С.533, 535-536.)**

**IV. Прачытайце ўрывак з дакумента аб ўзаемадзеянні партызанскай брыгады імя К.К. Ракасоўскага з часцямі Чырвонай арміі пры вызваленні Пастаўскага раёна і адкажыце на пытанні:**

1. **Вызначце формы супрацоўніцтва партызан і дзеючай арміі пад час вызвалення Беларусі.**
2. **Якія характарыстыкі партызанскага руху ў Беларусі ў 1944 годзе дазвалялі савецкаму ваеннаму камандаванню ўсебакова абапірацца на партызан ў справе планавання аперацыі па вызваленню тэрыторыіі ад фашыстаў?**
3. **Знайдзіце ў дадатковай літаратуры прыклады падобнага супрацоўніцтва ў вашым краі. Складзіце паведамленне пра гэтыя падзеі вайны.**

*“У час адступлення праціўніка брыгада заняла на поўкола абарону свайго раёна, не дала праціўніку рухацца з Будслава на Мядзель, зачыніла гэтую дарогу і адбіла ўсе спробы наступлення праціўніка...*
*…Пасля вызвалення савецкімі войскамі Вілейкі праціўнік рушыў па бальшаку Глыбокае – Паставы. Атрад ім. Шчорса …не даў праціўнікуаднавіць гэту дарогу і рушыць на Паставы напрасткі. Атрады ім. Катоўскага , ім. Леніна і ім. Петракова рабілі напады на калоны праціўніка на бальшаке Дуніловічы – Лісіца…. 3 ліпеня на тэрыторыю дыслакацыі атрада ім. Леніна трапіла група праціўніка на 1 танке і аўтамашыне. Пасля часовай расбэшчанасці ленінцы адкрылі агонь. Дзе забілі і паранілі 15 чалавек. Захапіла два кулямёта , дакументы... 2 ліпеня ў 19 гадзін выведка атрада ім. Сяргея ў в. Петрачкі*

*сустрэлася з выведкай Чырвонай арміі. На наступны дзень у раён Волкалата выехаў нам. Камандзіра брыгады па выведцы... дзе адразу арганізаваў аднаўленне бальшакоў на Мядзель і Паставы. Атрадамі ім. Сяргея і ім. Дзержынскага камандаванне 1-га стралковага корпуса было праінфармавана аб становішча, гарнізонах, руху немцаў і г.д... Часці Чырвонай Арміі , што наступалі з поўначы, 4 ліпеня падыйшлі да Дуніловічаў і занялі іх. Партызаны атрадаў ім. Шчорса і ім. Катоўскага разам з часцямі Чырвонай арміі, урваліся ў Дуніловічы і працягвалі знішчаць адрэзаныя калоны праціўніка на дарозе Глыбокае – Дуніловічы... У выніку дзеянняў партызан раён, у якім дзейнічала брыгада, у асноўным захаваны ад знішчэння. Праціўніку былі закрыты амаль усе шляхі для адступлення. Уся моц брыгады пасля ўз'яднання з Чырвонай Арміяй была кінута на ліквідаванне асобных груп праціўніка і аднаўленне савецкай улады ў раёне....Сіламі брыгады былі адноўлены раённыя і сельскія партыйныя, савецкія арганізацыі. Усяго на партыйна-савецкую працу адпраўлена з брыгады больш за 500 чалавек. Брыгада правяла значную працу па аднаўленню ўсіх дарог на тэрыторыі раёна. Ужо на другі дзень, пасля ўз'яднання з часцямі Чырвонай Арміі былі адноўлены асноўныя магістралі, па якіх Чырвоная Армія пайшла на захад. Вялікую дапамогу аказала брыгада раённым арганізацыям у справе мабілізацыі ваеннаабавязаных, што дазволіла ў кароткі тэрмін мабілізаваць увесь кантынгент, што падпадаў пад прызыў. 307 партызан накіравалася на фронт дабіваць нямецка-фашысцкага звера."*

**( з кнігі "Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Пастаўскага раёна. – Мн. 2001. – С318-319.)**

# Раздзел XXIV. Пераход да мірнага жыцця (1943-1945гг.)

**1.Вынікі вайны для Беларусі.** Другая сусветная вайна паўплывала на ўсе без выключэння бакі жыцця рэспублікі. Насельніцтва, тэрыторыя, гаспадарка, населеныя пункты, стан культуры, сацыяльная палітыка цэнтральных савецкіх улад – усё змянілася пад уздзеяннем падзей вайны.

Самай вялікай ахвярай, якую панёс наш народ, гэта – людзі. 1,4 мільёна мірных жыхароў і 800 тысяч ваеннапалоных загінулі на акупаванай тэрыторыі. Каля 40 тысяч загінула ў партызанах. Паводле няпоўных дадзеных больш за 600 тысяч жыхароў Беларусі загінула на розных франтах вайны. А яшчэ звыш 399 тысяч чалавек, якія былі вывезены ў Германію, па розных прычынах не вярнулася на Радзіму. Гэтыя лічбы яшчэ ўдакладняюць навукоўцы – ваенная статыстыка дае збоі ў высвятленні дакладных лічбаў. Але і тое, што вядома, прымушае задумацца аб кошце перамогі. Амаль *кожнага трэцяга* страціла Беларусь. Толькі ў 1970 г., праз 25 гадоў, рэспубліка дасягне свайго даваеннага ўзроўню насельнасці.

Каб лічбы страт "загаварылі", звярніце ўвагу на любы том кніг серыі "Памяць". Кожны том серыі прысвечаны пэўнаму раёну ці гораду. Возьмем "Навагрудскі раён". кроем на спісе загінуўшых і прапаўшых без вестак партызан і падпольшчыкаў. Глядзім па алфавіту: першая вёска - Антонаўка страціла 10 чалавек, в. Асташын – 30 чалавек, в. Вераб'евічы – 2 чалавекі. заглянем затым у спіс загінуўшых на франтах вайны – тыя ж в. Антонаўка – 17 чалавек загінула, в. Асташын – 87 чалавек, в. Вераб'ёвічы – 19 чалавек… І так у кожнай вёсцы, у кожным раёне Беларусі! Незаменныя людскія страты моцна падарвалі вытворчыя сілы і інтэлектуальны патэнцыял нашай зямлі. Гэта пастаянна адчувалася на працягу дзесяцігоддзяў. Адчуваецца гэта і зараз.

Амаль поўнасцю разбуранай была эканоміка БССР. Агульныя матэрыяльныя страты гаспадаркі і грамадзян у 35 разоў перавышалі дзяржаўны бюджэт рэспублікі ў 1940 г. 9200 вёсак і сёлаў, больш 209 гарадоў і пасёлкаў зруйнавана і спалена. Мінск і Віцебск знішчаны на 80-90%. У галіне прамысловасці і энергетыкі Беларусь была адкінута на ўзровень 1913 г. Стан гаспадаркі патрабаваў для аднаўлення велізарных страт і шматгадовай працы ўсяго насельніцтва.

Працяглы час акупацыі стаў падставаю для палітычнай падазронасці да насельніцтва БССР з боку савецкай улады. Пасляваенныя рэпрэсіі адносна прадстаўнікоў розных колаў насельніцтва пацвярджалі гэта. Пад пільны кантроль НКУС трапілі не толькі калабаранты, але і беларуская інтэлігенцыя, "акаўцы", ваеннапалоныя, тыя, хто вярнуўся з паднявольных работ ў Германіі. Ідэя нацыянальнай беларускай незалежнасці была скампраметавана з'яваю калабарацыі. Хоць гэта ідэя мела працяглую гісторыю вызваленчага руху, шмат дасягненняў і нязменную вартасць, для савецкай улады гэтыя бакі беларускай дзяржаўнасці былі закрэслены асобнымі ўчынкамі часткі беларускіх палітыкаў ў час вайны.

За час вайны змянілася тэрыторыя БССР. Як вядома, яна павялічылася пасля злучэння з Заходняй Беларуссю. Адначасова, па палітычных матывах, землі Віленшчыны і Беласточчыны з этнічным беларускім насельніцтвам адышлі да Літвы і Польшчы.

У 1943 г. на Тэгеранскай канферэнцыі яе ўдзельнікі прызналі лінію Керзана ў якасці савецка-польскай мяжы.

| **Што такое лінія Керзана? Што азначала прызнанне яе для Беларусі?** |
|---|

Для Беларусі было прынцыпова важным тое, што Сталін выказаў гатоўнасць унесці змяненні ў межы 1939 г. на карысць Польшчы. Гэта азначала перадачу ёй большай часткі Беластоцкай вобласці. Пасля шэрагу перамоў з польскай дэлегацыяй Сталін згадзіўся перадаць Польшчы Беласточчыну. Адначасова да Польшчы адыходзіла частка Белавежскай пушчы.

Крымская канферэнцыя 1945 г. завяршылася, у прыватнасці, рашэннем аб усходніх межах Польшчы (з БССР) з адступленнем тэрыторыі ад 5 да 8 км на карысць Польшчы. У ходзе гэтага перагляду беларуска-польскай мяжы чарговы раз высветлілася абыякавасць сталінскага кіраўніцтва да Беларусі. Яно ведала, што Беласточчына мела шчыльнае беларускае насельніцтва. Аднак ахвяравала ёю з-за больш важных міжнародных палітычных інтарэсаў СССР. Па падпісанаму **16 жніўня 1945 г.** савецка-польскаму пагадненню аб мяжы ад Беларусі адышлі 17 раёнаў Беластоцкай вобласці і 3 раёна Брэсцкай вобласці (частка Белавежскай пушчы). Польшча перадавала БССР 15 вёсак з пераважным беларускім насельніцтвам.

**3.Утварэнне ААН.** Яшчэ адзін бок удзелу Беларусі ў міжнароднай палітыцы ваеннага часу быў звязаны з захадамі па стварэнню ААН. Ідэя стварэння міжнароднай сусветнай арганізацыі на змену Лігі Нацый абмяркоўвалася краінамі антыгітлераўскай кааліцыі. У 1943 г. СССР прапанаваў уключыць у Камісію Аб'яднаных Нацый па ваенных злачынствах 7 саюзных рэспублік. У іх ліку была БССР. Але ЗША і Вялікабрытанія адмовілі з таго, што рэспублікі не з'яўляліся суверэннымі дзяржавамі. З цягам часу, у 1944 г., саюзныя рэспублікі атрымалі прыкметы фармальнага знешнепалітычнага паўнамоцтва. У іх з'явіліся Народныя камісарыяты замежных спраў. Пры паўторнай прапанове СССР восенню 1944 г. уключыць 16 рэспублік у лік ініцыятараў новай міжнароднай арганізацыі зноў быў атрыманы адказ. Толькі ў ходзе Крымскай канферэнцыі ў 1945 г. савецкую прапанову падтрымаў Уінстан Чэрчыль. Гаворка ішла толькі пра тры рэспублікі – Літву, Беларусь і Украіну. Было прынята рашэнне аб удзеле БССР і УССР у падрыхтоўцы і стварэнні *Арганізацыі Аб'яднаных Нацый*.

6 мая 1945 г. урадавая дэлегацыя БССР на чале з першым намеснікам Старшыні СНК БССР Кузьмой Кісялёвым прыбыла ў Сан-Францыска. **25 чэрвеня** беларускія дыпламаты з дэлегатамі 50 іншых

краін падпісалі Статут ААН. Гэты міжнародны дакумент быў зацверджаны (ратыфікаваны) у жніўні таго ж года Вярхоўным Саветам БССР.

Беларусь, у ліку 51 дзяржавы, стала заснавальніцай, ініцыятарам і першапачатковым членам ААН. Галоўнай прычынай гэтага стала агульнае прызнанне ўкладу Беларусі ў перамогу над фашызмам, вялікіх ахвяр беларускага народа ў вайне.

На жаль, БССР ва ўтварэнні ААН не была самастойнай дзяржавай. Гэта была спроба Сталіна павялічыць колькасць прыхільнікаў СССР у прадстаўніцтве ААН. Але, міжволі, с цягам часу праз членства Беларусі ў ААН наша рэспубліка стала больш вядомай у свеце. Яшчэ больш значэнне гэтай гістарычнай падзеі ўзрасло пасля атрымання ёю незалежнасці ў 1991 годзе.

**4.Аднаўленне гаспадаркі БССР у 1943-1945 гг.** Адразу пасля першых крокаў вызвалення Беларусі пачаўся працэс аднаўлення. Па-першае, гэта было звязана з неабходнасцю стварэння ўмоў жыцця і працы вызваленага насельніцтва. Па-другое, вайна працягвалася, і неабходна было наладзіць работу прадпрыемстваў, прадукцыя якіх патрабавалася фронту. Мусіла як мага хутчэй наладжваць і мірнае жыццё.

Час 1943-1945 гг. стаў першым этапам аднаўлення беларускай гаспадаркі.

Тытанічная праца вяртала да жыцця эканоміку БССР агульнымі намаганнямі ўсяго СССР. У рэспубліку ішлі вагоны з харчаваннем, адзеннем, абуткам, абсталяваннем, медыкаментамі, транспартам, будматэрыяламі, жывёлай, падручнікамі. З самага пачатку аднаўлення існавала пазіцыя савецкага кіраўніцтва на першачарговую адбудову металургічных і машынабудаўнічых прадпраемстваў. Гэта тлумачылася патрэбамі фронту. Галіны лёгкай прамысловасці бачыліся другаснымі. Дабрабыт людзей не браўся пад увагу сталінскім кіраўніцтвам. Лічылася, што людзі магуць пацярпець, і людзі цярпелі. Гомельскі станкабудаўнічы завод, Мінскія вагонарамонтны, аўтазборачны, авіяцыйны заводы і шмат іншых сталі даваць сваю прадукцыю з канца 1944 г. Ужо ў 1945 г. аб'ём прадукцыі гэтых прадпраемстваў склаў 45% даваеннага ўзроўню.

У вёсцы пачала аднаўляцца калгасная сістэма. І тут праца беларускіх сялян абапіралася на дапамогу ўсяго СССР. Катастрафічна не хапала цяглавай сілы. Выкарыстоўвалі ў якасці яе сілу кароў. Між тым, тысячы гектараў палёў прыходзілася араць нават у ручную. Вельмі марудна калгасы дабіваліся некаторых зрухаў у вытворчасці. Прычыны таго былі не толькі ў нястачы неабходнага, але і ў характары калгаснай працы. Яе неэфектыўнасць была той прычынай, з-за якой калгасная гаспадарка пастаянна адставала ад тэмпаў прамысловай вытворчасці.

**Успомніце прынцыпы фарміравання калгаснай вытворчасці ў 20-30-я гг. Зрабіце аргументаванае тлумачэнне вынікаў дзейнасці калгасаў**

Асобнай часткай аднаўлення стала адбудова жылля. Жылёвы фонд БССР быў ўшчэнт разбураны. Людзі ў сельскай мясцовасці нярэдка жылі ў зямлянках, у гарадской – у паўпадвалах, бараках. Жылыя дамы былі перапоўнены. Трэба было ў хуткім часе разабраць завалы, расчысціць вуліцы, падрыхтаваць пляцоўкі для будаўніцтва дамоў. Праводзіліся суботнікі і нядзельнікі. Але, нягледзячы на пэўнае паляпшэнне ўмоў жылля, яны заставаліся надзвычай цяжкімі.

Уся моц працоўных Беларусі была накіравана для аднаўлення краю. Але ўжо ў гэты перыяд беларускі народ адчуваў, што стаўленне сталінскага кіраўніцтва засталося нязменным. Сфарміраваная да вайны сістэма кіраўніцтва працягвала свае ўладаранне тымі ж метадамі і тымі ж сродкамі. Уся беларуская гаспадарка працягвала развівацца, як непарыўная частка адзінага гаспадарчага комплекса СССР А беларускі народ разглядаўся савецкай уладаю, часткаю адзінага савецкага народа.

# Пытанні і заданні:

**I. Пералічыце вынікі вайны для Беларусі і размясціце тэзісна ў табліцы:**

| Сфера жыцця | Змест |
|---|---|
| Дэмаграфія | |
| Эканоміка | |
| Тэрытарыяльна-адміністратыўны падзел | |
| Палітыка | |
| Культура | |

**II. Прачытайце факты аднаўлення калгаснай вытворчасці і адкажыце на пытанні.**
**1. Што ва ўрыўку сведчыць аб адміністратыўна-камандным характары кіраўніцтва гаспадаркай?**
**2. Што ў арганізацыі калгаснай вытворчасці рабіла яе эфектыўнасць непараўнальна ніжэйшай за тыя высілкі, што прыкладалі людзі?**
**3. Чаму можна лічыць працу, ў згаданым урыўку ўмовах, працоўным подзвігам? Абгрунтуйце свой адказ.**

*"З вялікай цяжкасцю аднаўляліся калгасы. Вось як пісала пра гэта 20 сакавіка 1945 г. газет "Віцебскі рабочы": "Саўнарком СССР і ЦК ВКП(б) у сваёй пастанове аб плане развіцця сельскай гаспадаркі на 1945 г. рэкамендуюць пры недастачы цяглавай сілы выкарыстоўваць на лёгкіх палявых работах малапрадуктыўных кароў калгасаў і калгаснікаў... Дзякуючы своечасова прынятым мерам па раёну ўжо зараз абучана 270 кароў. Пытанню абучэння кароў асабліва вялікая ўвага ўдзелена ў сельгасарцелі імя Варашылава... Тут абучана да работ 23 каровы. У абучэнні кароў актыўны ўдзел прымаюць калгаснікі Паліцкая Акуліна і Буракоўскі Фёдар. Імі для абучэння кароў выраблены вупраж, ярма і шоркі... Пастаўленная перад нашым раёнам задача па прывучэнні кароў да палявых работ будзе выканана."* **(Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Оршы і Аршанскага раёна У 2 кн. Кн.2. – Мн., 2000. - С. 371-372.)**

**III. Падрыхтуйцеся да паведамлення на тэму "Урокі вайны".**

# Раздзел XXV. Наш край ў гады Другой сусветнай вайны.

**1. Крыніцы гісторыі краю.** Вайна пакінула страшны напамін пра сябе. Кожны населены пункт нашай краіны мае *пахаванні* загінуўшых у барацьбе з фашызмам. Гэта - асобныя пахаванні і братэрскія могілкі. Іх стан і колькасць сведчаць пра стаўленне ў нашым грамадстве да вайны. Аднак нягледзячы на даўніну падзей, яшчэ не ўсе загінуўшыя знойдзены і пахаваны. Справаю пошуку і захаваннем паўшых займаюцца спецыяльныя вайсковыя падраздзяленні.

Сярод шматлікіх мемарыялаў паўшым вызначаецца архітэктурны ансамбль **«Хатынь»** у Лагойскім раёне. Тут знаходзіцца адзінае ў свеце «кладбішча вёсак», спаленых, як і Хатынь разам з жыхарамі. Прывезеныя глеба і жвір з гэтых сумных мясцін сімвалічна напамінаюць аб садзеяным фашыстамі на нашай зямле.

Глыбокімі па характару і багатымі і па зместу крыніцамі пра вайну з фашысцкай Германіяй з'яўляюцца лісты с фронта і на фронт. *Асабістая перапіска* захоўвае пачуцці, эмоцыі, уражанні людзей ваеннага часу. Нягледзячы на ваенную цэнзуру змест асабістай перапіскі істотна дадае інфармацыі, якая не захоўваецца ў афіцыйных пісьмовых крыніцах: загадах, распараджэннях, дырэктывах. Кожная гістарычная крыніца чакае пытанняў да яе. Але глыбіня і важкасць гэтых пытанняў, перш за ўсё залежыць ад глыбіні ведаў самога даследчыка. Вывучэнне лістоў франтавікоў патрабуе грунтоўнага папярэдняга знаёмства з гісторыяй тых падзей, якія закранаюцца ў перапіске.

Не менш глыбока трэба ведаць гісторыю вайны пры знаёмстве з *ваеннымі мемуарамі і вуснымі ўспамінамі* пра 1939-1945 гг. Успаміны пра вайну – гэта даволі распаўсюджаная гістарычная крыніца. У іх можна сустрэць апавяданні аб вайне ў вашым краі. Гэта могуць быць дробязные эпізоды, і нават ускоснае нагадванне аб падзеях у вашай мясцовасці. Але другараднага ва ўспамінах няма. Тое, як ўспамінаецца пра вайну яе сведкамі, азначае, так была імі ўспрынята, так зразумелася, так закранула іх саміх гэтая вайна. Шмат забылася самімі ўдзельнікамі, штосьці ім дасюль страшна згадваць, нейкія эпізоды ваеннага жыцця пераасэнсаваліся імі жа за працяглы пасляваенны час. Ва ўспамінах значна кожная дэталь, кожная «пацэрка» гэтага ланцуга чалавечай памяці.

У сем'ях часта захоўваюцца *баявыя ўзнагароды, фотаздымкі, «выразкі» з газет ваннага часу, пасведчанні аб гібелі – «пахаронкі».* Медалі і ордэны адлюстроўваюць і сімвалізуюць тыя вышэйшыя арыенціры дзейнасці на вайне, якіх дасягнуў франтавік. Маральныя каштоўнасці, якія ўвасабляюць сабою баявыя ўзнагароды, маюць незменнае значэнне. Баявыя медалі – гэта яшчэ адлюстраванне абставін службы, геаграфіі ваенных падзей, у якіх прыймаў удзел ветэран.

**2. Помнікі архітэктуры, гісторыі і культуры.** За пасляванны час у Беларусі былі пастаўлены тысячы помнікаў, створаны мемарыяльныя комплексы. Знаёмства з ваеннай гісторыяй свайго краю 1939 – 1945 гадоў зручна пачынаць з такіх знакаў чалавечай памяці.

Напэўна прымусіць прыпыніцца і задумацца мемарыяльны знак за 1,5 км ад в. Мормаль Жлобінскага раёна, пастаўлены на месцы подзвігу лейценанта **Мікалая Жуйкова** і сяржанта **Піліпа Мазіліна**. (фота) Падчас атакаў вышыні ў сакавіку 1944 г. гэтыя воіны 13-га асобнага кулямётнага батальёна закрылі сабою абразуру дзота. Абставіны правядзеняя фашыстамі карнай аперацыі «Котбус» 22 мая 1943 года лепей адчыць і зразумець на месцы былой вёскі **Шунеўка**. Там, у Докшыцкім раёне, недалёк ад в. Дабрунь гітлераўцы спалілі ўсю вёску разам з жыхарамі (67 чалавек, 27 двароў). На месцы трагедыі быў створаны мемарыяльны комплекс «Праклён фашызму». У Суражы ёсць помнік **Лізе, Сяргею, Зіне і Мішы Шмыровым** – дзецям вядомага кіраўніка 1-й Беларускай партызанскай брыгады Міхаіла Шмырова, што былі знішчаных фашыстамі, як закладнікі ў 1942 годзе. (фота) Кожны такі помнік па-свойму звяртае ўвагу на пэўную старонку ваеннай гісторыі краю. Сваімі архітэктурнымі і скульптурнымі сродкамі дапамагае яшчэ больш адчуць памеры бяды, якую прынесла вайна.

Усе этапы вайны, ад восеньскай кампаніі 1939 г. да разгрому фашызма ў 1945-м, пакінулі сваіх ахвяр і герояў. Іх імёны - ў *тапаніміцы* нашых гарадоў і вёсак. Назваў вуліц, завулкаў з імёнаміі франтавікоў і падпольшчыкаў вельмі шмат. Звярніце ўвагу да тых тапонімаў, якія згадываюць удзельнікаў ваенных дзеянняў звязаных з вашым краям. Магчыма, што сярод вас жывуць іх сваякі ці нашчадкі. Нярэдка пра жыццё і лёс гэтых герояў можна знайсці інфармацыю ў мясцовым краязнаўчым або школьным музеі.

Памяць пра вайну з фашызмам стала адным з галоўных напрамкаў пасляваеннай *мастацкай творчасці* ў Беларусі. Вялікую гістарычную каштоўнасць маюць малюнкі, накіды, якія рабіліся непасрэдная яшчэ ў баявых умовах. У савецкі перяад беларускія жывапісцы і скульптары з большай ці меншай ступенню жыццёвай праўды імкнуліся занатаваць вобраз вайны. Сярод лепшых з іх майстры пэнзля У Хрусталёў, Іван Ахрэмчык, Валянцін Волкаў, Міхаіл Савіцкі, скульптары Андрэй Бембель, Савелій Селіханаў.

За дзесяцігоддзі ХХ стагоддзя створана вялікая беларуская літаратура аб вайне. Шчырыя, і моцныя вобразы гэтай навалы утрымліваюць творы **Васіля Быкава –** «Яго батальён», «Мёртвым не баліць», «Дажыць да світання», **Святланы Алескеевіч** «У вайны не жаночы твар», «Апошнія сведкі», **Алеся Адамовіча і Уладзіміра Калесніка** «Я - з вогненай вёскі» «Акопная праўда» аб вайне – гэта шчырая крыніца вобразнага асэнсавання вялікага народнага подзвіга.

**«Людзі зямлі беларускай».** Лёсы людзей у вайну сталі найбольшым увасабленнем трагедыі нашага народа. Увага да іх - абавязковы і першасны крок для таго, каб наблізіцца да разумення гісторыі Беларусі ў 1939-1945 гг. «Блізкая гісторыя» дае магчымасць пазнаёміцца з перапецыямі ваеннага жыцця, як вядомых землякоў, так і «непрыкметных» патрыётаў кожнай «малай Бацькаўшчыны».

У *в. Рэчкі Мінскага раёна* жылі **Андрэй і Наталля Станько** – першыя ў Беларусі «Праведнікі Народаў Свету». У час акупацыі яны ратавалі яўрэйскую сям'ю Элі- Шэйлаха Казінца, якая збегла з гета. Андэрэй Станько

вырыў для іх зямлянку побач з хатай і там хаваў сям'ю 10 тыдняў. Станько кармілі бежанцаў, прыносілі ім цёплую вопртаку. Калі настала яўрэйская свята Песах, Станько, паважаючы рэлігійныя традыцыі іўдзейскай сям'і спецыяльна прыносіў ім ежу без хлеба. Ён знарок набыў новую каструлю і гатаваў у ёй для ўцекачоў «бульбу ў мундырах». Нягледзячы на тое, што сям'я Станько была беднай, у іх доме заўсёды знаходзілася ежа для тых хто хаваўся аб фашыстаў.

**ВАРТА ПРАЧЫТАЦЬ: «Праведники народов мира Беларуси»/ Сост. И.П. Герасимова, А.Л. Шульман.- Мн.: ОДО «Тонпик», 2004 г.**

Часта бурнае паваеннае жыццё з яго выпрабаваннямі і дасягеннямі закрываюць ад сучаснікаў і нашчадкаў ваенны адрэзак жыцця ветэрана. Гэтак вядомы беларускі пісьменнік **Аляксей Карпюк** да таго, як застацца ў гісторыі сучаснай беларускай літаратуры сваёю творчасцю, з годнасцю вытрымаў шлях партызана і франтавіка. На яго лёс выпалі палон ў канцлагеры Штутгоф і дзерзкі уцёк з яго, камандаванне партызанскім атрадам імя К. Каліноўскага на Гродзеншчыне, раненні, фронт - да Берліна. Ужо з ліпеня – жніўня 1941 г. *у Расонах* дзейнічала падпольная група, арганізаваная настаўнікам фізікі мясцовай школы **Пятром Машэравам**. Спачатку, пад началам будучага слынага Першага сакратара ЦК КПБ (1965-1980 гг.) было 38 настаўнікаў і вучняў. З цягам часу, у красавіку 1942 г., падпольшчыкі ініцыіравалі разгортванне ў раёне партызанскага руху. На чале першага партызанскага атрада «Дубняк» з ліку расонскіх падпольшчыкаў быў той жа настаўнік фізікі. За мужнасць Пётр Машэраў быў удастоены звання Героя Савецкага Союза.

# Пытанні і заданні:

1. **Якую ролю ў вывучэнні падзей вайны адыгрывае асостая перапіска?**
2. **Чаму для глыбокага разумення ваенных успамінаў важна знаць гісторыю падзей, што закранутыя ва ўспамінах?**
3. **Якія ордэны і медалі часоў Другой сусветнай вайны вы ведаеце?**
4. **Якія творы беларускага выяўленчага мастацтва вы ведаеце?**
5. **Хто такія Праведнікі народаў Свету?**
6. **З дапамогаю дадатковай літаратуры складзіце паведамлене аб Аляксеі Карпюке і Пятры Машэраве.**

## Пераканайцеся ў сваёй здольнасці выконваць наступныя заданні і разважаць на прапанаваныя ніжэй тэмы:

**І. Якія вуліцы вашага населенага пункта – вёсцы, сяла , горада – носяць імёны ўдзельнікаў вайны? Якія назвы яны мелі раней. Хто са згаданых у назвах франтавікоў мае непасрэднае дачыненне да вашай мясцовасці. Прасачыце гэтую сувязь. Знайдзіце з дапамогаю дадатковай літаратуры інфармацыю аб гэтых героях. Складзіце на падставе яе рэфераты. Яны могуць стаць падставаю для далейшага вашага даследчага пошуку.**

**ІІ. Прачытаце ўрывак з успамінаў удзельніка абаронччых баёў за Гродна Ігара Чоппа і адкажыце на заданні пасля тэксту:**

*“З таго векапомнага дня прайшло 65 гадоў – цэлае чалавечае жыццё...Наступныя падзеі пацяснілі з памяці папярэднія, шмат забылася. Але першы дзень вайны застаўся ува мне назаўсёды.*

*Спёка чэрвеня 1941 года.Стары лес на беразе Нёмана. Лагер “Солы” 141 –га паўка 85- стрэлковай дывізіі паблізу Гродна.*

*Па шашы з бліжэйшага сяла ў горад ранкам і назад увечар ішлі сяляне. Некаторыя з іх з ахвотаю прыпыняліся, каб закурыць, перакінуцца некалькімі словамі.*

- *Пан, - казалі яны шчыра ўпоголасы, - хутка будзе вайна. Герман прыдзе...*
- *Не можа гэтага быць, - не згаджаліся мы. – Па радыё перадавалі, ды і ў газетах – не будзе вайны!*

- *Не, пан, - с сумнай упэўненасцю паўтараў суразмоўца, - будзе. Герман на мяжы такую сілу сабраў, што вайна будзе вельмі хутка.*

- *Ерунда гэта, балбатня! – адказваў на нашы пытанні аб магчымай вайне палітрук. – Вы што, прамову таварыша Молатава па радыё не чулі? Газеты чытаць трэба. Капіталісты не рызыкнуць пачаць вайну.*

*Але капіталісты "рызыкнулі". 22 чэрвеня ў 4 гадзіны ранку мы прасналіся па сігналу "баявой трывогі". Над галавою, паміж верхавінамі дрэў бачылі эскадрыллі самалётаў, якія, здавался, закрылі ўсё неба. Камандзіры ўзвадоў і ротаў разбэшчана чакалі загадаў… Кіламетраў у трох занялі абарону і пачалі акопвацца. З узвышша, дзе капалі акопы, добра было відаць Гродна. Чуліся выбухі: немцы працягвалі бамбіць горад і дарогу.*

*Капалі моўчкі, шакіраваныя тым што адбывалася. Значыць, усё ж гэта не правакацыя, а вайна? А як жа ўпэўніванні ў газетах і па радыё, прамовы важакоў, " тлумачэнні" палітрука"? Мы, чырвонаармейцы, верылі ім, бо іншай інфармацыі не было, акрамя мясцовых чутак.*

*Раптам з'явіліся "мэсершмідты". Яны павярнуліся і на брэюшчым палёце сталі палівацЬ нас агнём. Схавацца не было куды. Чырвонаармейцы разбягаліся па полі, але варожыя самалёты насцігалі іх на бягу. "Месеры" безпакарана панавалі ў паветры – нашых знішчальнікаў не было. Яшчэ двойчы прылятал фашысцкія сцервятнікі. І зноў – забітыя і параненыя, ахвяры першага дня вайны.*

*У канцы чэрвеня 1941 г. разбітыя часці 3-й арміі , спрабавалі выйсці з-пад акуружэння, с хуткасцю адыходзілі на ўсход.*

*У першы дзень вайны я трапіў у склад групы "знішчальнікаў дзесантаў". Мы знішчылі тры немецкія дзесанты, панеслі вялікія страты. Я быў паранены і кантужаны. Знайсці свой полк не атрымалася і мы разам з таварышам ішлі з байцамі нейкай часці. Амаль усе параненыя, баезапасаў няма, харчавання таксама. Мы ішлі ляснымі дарогамі. Аднак гэта атрымлівался не заўсёды. Тады нас лёгка знаходзілі фашысцкія "рамы", а за імі адразу з'яўляліся знішчальнікі і бамбардзіроўшчыкі. Пазадзі засталіся Ваўкавыск, Слонім, Баранавічы... У хуткім часе нас засталося восем – усе у акрываўленых бінтах, на ўсіх – чатыры стрэльбы і ніводнага патрона. Неяк зранку выйшлі з лесу. На баку дарогі сядзелі чалавек дзесяць чырвонаармейцаў. Мы падыйшлі.*

*- Там сяло Мір. Генерал збірае чырвонаармейцаў. Давайце туды! - І сапраўды па дарозе з вясковымі хатамі накіроўваліся іншыя байцы. Пайшлі і мы. Наперадзе, на плошчы, убачылі вялікі натоўп - тысячы нашых чырвоаармейцаў. Раптам убачылі: натоўп акружаюць немецкія аўтамаччыкі. Першай рэакцыяй было: бяжаць. Усё было скончана. Гэта быў палон. Ішоў дзесяты дзень вайны.*

*Цераз чатыры дні нас вывезлі ў бок Брэста, потым праз Заходні Буг – у Польшчу. Перад намі ляжала поле, падзялёнае дротам на мноства клетак –квадратаў. Іх акружаў агульны плот з дроту. Гэта быў франтавы канцлагер – "фронстлаг" Бяла-Падляска. Нас хутка выгрузілі і разагналі па клетках. Голы стэп, бруд, хмызняк.*

*Я хачу асобна падкрэсліць: чырвонаармейцы, якія адступалі – гэта людзі, мужна сустрэўшыя першы ўдар ворага. Віна за із лёс ляжыць зусім не на ніх, а на камандаванні ўсіх узроўняў – ад вярхоўнага ( галоўнага вінаватага!) да камандзіраў злучэнняў і часцей."* **( З кнігі: «В июне 1941-го ( воспоминания участников первых боёв на Гродненщине)». Книга вторая. – Гродно, 2000. – С. 13-16.)**

1. **Якія абставіны вайны, якія вы ведаеце, згадываюцца ва ўспамінах ветэрана?**
2. **Што ў радках ўспамінаў дапаўніла вашы веды пра першыя дні вайны? Што падцвердзіла іх, або абвергла?**
3. **Чаму можна казаць, што словы І. Чоппа - гэта асабісты погляд на падзе першых дзён вайны?**
4. **Вызначце незразумелыя фрагменты ў тэксце ўспамінаў. З дапамогаю дадатковай літаратуры паспрабуйце растлумачыць іх. Прааналізуйце, наколькі глыбока змест дадзеных успамінаў прымусіў вас звярнуцца да тагачасных падзей вайны.**
5. **Вярніцеся да пытанняў да §22. Наколькі вашы адказы змяніліся пасля знаёмства з тэкстам успамінаў?**

**ІІІ. З дапамогаю "Збора помнікаў гісторыі і культуры" вашай вобласці і кніг серыі "Памяць" вызначце помнікі загінуўшым ў Другой сусветнай вайне ў вашай мясцовасці. Знайдзеце адказы на пытанні з дачыненні да знойдзеных помнікаў:**

1. **Каму пастаўлены гэтыя помнікі?**
2. **З якімі падзеямі вайны звязаны гэтыя ахвяры?**
3. **У якой літаратуры ёсці інфармацыя аб гэтых людзях і гэтых падзеях?**
4. **Як гэтыя падзеі вайны закранулі вашу мясцовасць, ваша сяло, вёску, горад, мястэчка?**
5. **Хто з вашай мясцовасці памятае і ведае пра гэтыя падзеі вайны? Ці жывуць сваякі загінуўшых у вашай мясцовасці?**
6. **Як яшчэ ўшанавана памяць гэтых загінуўшых?**

# Храналагічная табліца

| Даты | Падзеі |
|---|---|
| **1917 год** | |
| 1917, ліпень | З'езд беларускіх партый і арганізацый у Мінску |
| 1917, 26 кастрычніка | Пераход улады ў Мінску ў рукі бальшавікоў. Стварэнне Аблвыкамзаху. |
| 1917, кастрычнік | Стварэнне Вялікай Беларускай Рады |
| 1917, 2 лістапада | "Дэкларацыя праў народаў Расіі" |
| 1917, 5 лістапада | Стварэнне Цэнтральнай беларускай вайсковай рады (ЦБВР) |
| 1917, снежань | Дагавор аб перамір'і на Заходнім фронце паміж Расіяй і Германіяй |
| 1917, 7-17 снежня | Першы Усебеларускі кангрэс |
| 1917, 5 студзеня | Адкрыццё Усерасійскага Устаноўчага з'езда |
| **1918 год** | |
| 1918, 21 лютага | Першая Устаўная грамата. Стварэнне Народнага Сакратарыяту Беларусі |
| 1918, 3 сакавіка | Брэсцкі мір |
| 1918, 9 сакавіка | Другая Устаноўчая грамата. Абвяшчэнне БНР |
| 1918, 25 сакавіка | Трэцця Устаноўчая грамата. Абвяшчэнне незалежнасці БНР |
| **1919 год** | |
| 1919, 1 студзеня | Стварэнне Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь |
| 1919, 2-3 лютага | Прыняцце Канстытуцыі ССРБ. Стварэнне Літоўска-Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі |
| 1919, 16 лютага | Аддзяленне ад ССРБ Віцебскай, Смаленскай, Магілёўскай абласцей і далучэнне іх да РСФСР. |
| 1919, люты | Пачатак польска-савецкай вайны. |
| **1920 год** | |
| 1920, 14 мая | Контрнаступлене Чырвонай Арміі на польскія войскі. |
| 1920, 12 ліпеня | Заключэнне Дагавора паміж РСФСР і Латвіяй. |
| 1920, 31 ліпеня | Другое абвяшчэнне ССРБ (БССР) |
| 1920, лістапад | Землі Гродзеншчыны і Віленшчыны ў складзе Сярэдняй літвы па Сувалкскаму дагавору |
| 1920, лістапад | Слуцкае паўстанне |
| **1921 год** | |
| 1921, сакавік | Пераход бальшавікоў да новай эканамічнай палітыкі |

| | |
|---|---|
| 1921, 18 сакавіка | Заканчэнне польска-савецкай вайны. Рыжская мірная дамова. Пераход часткі беларускіх тэрыторый у склад Польшчы. |
| 1921 | Утварэнне Белдзяржуніверсітэта |

**1922 год** ______

| | |
|---|---|
| 1922, 30 снежня | Падпісанне дэлегацыяй БССР саюзнага дагавора аб стварэнні СССР Утварэнне Інбелкульта |

**1923 год** ______

| | |
|---|---|
| 1923 | Стварэнне беларускай фракцыі ў польскім Сейме. Стварэнне КПЗБ |

**1924 год** ______

| | |
|---|---|
| 1924 | Першы этап вяртання тэрыторый БССР ад РСФСР |

**1925 год** ______

| | |
|---|---|
| 1925 | Прыняцце часткаю лідараў БНР рашэння аб скасаванні дзейнасці БНР і прызнанні савецкай Беларусі |

**1926 год** ______

| | |
|---|---|
| 1926 | Завяршэнне вяртання тэрыторый БССР ад РСФСР |

**1930 год** ______

| | |
|---|---|
| 1930 | Палітычны працэс у БССР над так званым Саюзам вызвалення Беларусі" Згортванне палітыкі беларусізацыі |

**1933 год** ______

| | |
|---|---|
| 1933 | Рэформа беларускай мовы ў БССР |

**1937 год** ______

| | |
|---|---|
| 1937 | Прыняцце Другой Канстытуцыі БССР |

**1938 год** ______

| | |
|---|---|
| 1938 | Роспуск Камінтэрнам КПЗБ |

**1939 год** ______

| | |
|---|---|
| 1939, 23 жніўня | Заключэнне пакту Рыбентропа-Молатава і падпісанне сакрэтных пратаколаў да яго |

| | |
|---|---|
| 1939, 1 верасня | Пачатак Другой сусветнай вайны |
| 1939, 17 верасня | Пачатак ваеннага паходу савецкіх войск у Хазоднюю Беларусь |
| 1939, 28 верасня | Заключэнне "Дагавора аб дружбе і граніцы" паміж СССР і Германіяй |
| 1939, 14 лістапада | Пачатак работы Беларускага народнага сходу ў Беластоку |

**1941 год** ___

| | |
|---|---|
| 1941, 22 чэрвеня | Пачатак агрэсіі фашысцкай Германіі на СССР |
| 1941, 28 чэрвеня | Захоп фашыстамі Мінска. Пачатак дзейнасці мінскага камуністычнага падполля. |

**1942 год** ___

| | |
|---|---|
| 1942, 30 мая | Стварэнне ЦШПР на чале з П.Панамарэнка |
| 1942, 9 верасня | Стварэнне БШПР на чале з П. Калініным |

**1943 год** ___

| | |
|---|---|
| 1943, сакавік | Знішчэнне Хатыні |
| 1943, чэрвень-верасень | Першы этап аперацыі "Рэйкавай вайна" – |
| 1943, верасень—1944, май | Другі этап "рэйкавай вайны" - аперацыя "Канцэрт", Пачатак вызвалення Беларусі ад фашыстаў |

**1944 год** ___

| | |
|---|---|
| 1944, 20 чэрвеня | Пачатак трэцяга этапа "рэйкавай вайны" |
| 1944, 23 чэрвеня – 28 жніўня | Аперацыя "Баграціён" |
| 1944, 3 ліпеня | Вызваленне г. Мінска ад фашыстаў |

**1945 год** ___

| | |
|---|---|
| 1945, 9 мая | Капітуляцыя Германіі |
| 1945, 25 чэрвеня | Удзел дэлегацыі БССР у падпісанні Статута ААН |
| 1945, 16 жніўня | Падпісанне савецка-польскага пагаднення аб беларуска-польскім участку савецкай мяжы |

## Гласарый

**Анексія** ( ад лац. annexio – далучэнне) – далучэнне з дапамогай сілы адной дзяржавай тэрыторыі другой дзяржавы.
**Антысемітызм** – форма нецярпімасці, якая выражаецца ў варожых адносінах да яўрэяў.
**Арэнда –** (ад с.-лац. arenda) – наём маёмасці за пэўную плату на пэўны тэрмін.
**Аўтанамізм** ад аўтаномія (ад гэч.autonomia – самакіраванне) –самакіраванне палітычна-нацыянальнага ўтварэння (рэспублікі, штата, зямлі) у рамках адзінай дзяржавы.
**Аўтарытарызм** – (ад лац. auctoritas –улада) – антыдэмакратычная сістэма палітычнага ўладарання, якая характарызуецца рэжымам асабістай улады, дыктатарскімі метадамі кіравання.
**“Барбароса”** – кодавая назва плана агрэсіі фашысцскай Германіі супраць СССР. Назва ідзе ад імя германскага караля і імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Фрыдрыха I Барбаросы (XII ст.). Распрацоўка плана пачата па распараджэнню А. Гітлера. У аснову плана “Барбароса” пакладзена тэорыя “маланкавай вайны” і старое імкненне германскіх імперыялістаў “Паходу на Усход”.
**Беларуская Краёвая Абарона** - вайсковае фарміраванне для барацьбы супраць савецкай улады на акупаванай фашыстамі тэрыторыі Беларусі. Створана БКА паводле загаду А. Гітлера. Узначаліў БКА маёр Францішак Кушаль.
**Ваенна-рэвалюцыйныя камітэты** – часовыя надзвычайныя арганізацыі, якія ствараліся бальшавікамі пры Саветах і ў арміі пры вайсковых камітэтах. Па меры таго, як Саветы станавіліся бальшавіцкімі органамі ўлады і ў вайсковых камітэтах таксама пераважалі бальшавікі, неабходнасць у ВРК адпадала. Дзейнасць Мінскага ВРК адбывалася з кастрычніка 1917 па сакавік 1918 гг.
**Ваенная акруга** – ваенна-адміністратыўнае аб’яднанне вайсковых часцей, злучэнняў і іншых ваенных установаў і арганізацый, якія размешчаны на пэўнай тэрыторыі.
**Ваяводства** – у 1921-1939 гг. адміністратыўна-тэрытарыяльная адзінка Польшчы на тэрыторыі Заходняй Беларусі.
**“Ваяўнічы атэізм” -** ідэалогія, заснаваная на адмаўленні Бога і накіраваная на барацьбу і знішчэнне царквы, як рэлігійнай арганізацыі. Носьбіты ідэй ваяўнічага атэізма выключна варожа і зняважліва ставіліся да служыцеляў усіх веравызнанняў, веруючых, саміх сімвалаў веры.
**Генацыд** – ( ад лац. genos – род) – знішчэнне пэўнай групы насельніцтва па расавых, нацыянальных, этнічных, палітычных або рэлігійных матывах.
**Гета** – у дадзеным выпадку: гарадскі канцэнтрацыйны лагер для знішчэння яўрэйскага насельніцтва. На тэрыторыі Беларусі было створана 70 гета.
**Гміна** – самая дробная адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Польшчы, мела пашырэнне ў Заходняй Беларусі ў 1921-1939 гг., а таксама адміністрацыйны цэнтр такой адзінкі.

**Група арміі "Цэнтр"** – аб'яднанне сухапутных войскаў фашысцскай Германіі, якое дзейнічала на цэнтральным участку савецка-германскага фронту. Створана для нападу на СССР ( камандуючы генерал-фельдмаршал Ф. Бок)

**Дыктатура** – (ад лац. dictare – дыктаваць) спосаб ажыццяўлення дзяржаўнай улады, палітычны рэжым. Пры дыктатуры правіцель (асоба, партыя, клас) карыстаюцца неабмежаванай уладаю.

**Дыяспара** – (ад грэч. diaspora – рассейванне) – сукупнасць прадстаўнікоў якога-небудзь народа, якія жывуць за межамі бацькаўшчыны.

**Ідэалогія** ( ад грэч. idea – паняцце) – сістэма поглядаў , уяўленняў, ідэй якога-небудзь грамадства, класа, палітычнай партыі.

**Інтэрніраваць –** ( ад лац. internus – унутраны) – прымусовае затрымліваць і разброіваць на сваёй тэрыторыі вайсковыя часці дзяржаў, якія знаходзяцца ў стане вайны.

**Калабарацыянізм** – (ад фр. collaboration – супрацоўніцтва) – здрадніцкае супрацоўніцтва з ворагам сваёй дзяржавы у час акупацыі яе фашысцкімі войскамі ў гады Другой сусветнай вайны.

**Камандна-адміністратыўная сістэма** – *у палітыцы:* сістэма кіраўніцтва з падменаю выбарчых органаў (н-д: дэпутаты Саветаў) іх выканаўчым апаратам ( чыноўнікамі), што фактычна было адлучэннем народа ад улады; у *эканоміцы:* сістэма жорсткага падпараткавання гаспадаркі палітычным рашэнням, моцна цэнтралізаванаму планаванню, звязаная з рэзкім абмяжаваннем сферы дзейнасці таварна-грашовых адносін і кіраваннем эканомікай краіны пазаэканамічнымі (загады, кампаніі, прымус) метадамі.

**Камасацыя** – ліквідаванне цераспалосіцы, звядзенне сялянскіх зямель у адзіны ўчастак з наступным выхадам на хутар.

**Кантрыбуцыя** – ( ад лац. contributio – збіраць – грошы ці матэрыяльныя каштоўнасці , якія дзяржава-пераможца бярэ з дзяржавы, якая пацярпела паражэнне.

**Карныя аперацыі** – рэпрэсіўныя акцыі фашысцкіх акупацыйных улад з мэтаю барацьбы з партызанскім рухам, знішчэння акупаванага насельніцтва.

**"Крэсы ўсходнія"** – (з польск. kres – вобласць) назва , якую ўжывала польская ўлада ў дачыненні Заходняй Беларусі, Заходняй Украіны ў 1921-1939 гг.

**Культ асобы** – (ад лац. cultus – шанаванне, пакланенне) – сістэма дзеянняў па ўзвелічэнню ролі аднаго чалавека ў грамадскім жыцці. У выніку шэрагу пэўных учынкаў з асобы кіраўніка ствараецца аблічча " вялікага важака", "мудрага настаўніка".

**Лагер смерці** – складаная сістэма аховы, утрымання, правядзення допытаў, злачынных эксперыментаў над людзьмі і іх знішчэння. Ствараліся лагеры смерці для масавага знішчэння людзей, выкарыстання іх для прымусовай працы.

**Лаяльны** – ( фр. loyal – верны) у дадзеным выпадку: карэктныя адносіны да каго-небудзь або чаго- небудзь.

**Марыянетачная дзяржава** – ( ад фр. marionnette – тэатральная лялька) – дзяржава, кіраўніцтва якой слепа дзейнічае па ўказцы іншых дзяржаў і з'яўляецца паслухмянай прыладай чужой палітычнай волі.

**Мяцеж** – стыхійнае паўстанне, узброенае выступленне супраць улады.

**Нацыянал–дэмакратызм** – тут: ідэалогія, кірунак грамадска-палітычнай думкі ў нацыянальна-вызваленчым руху ў Беларусі ў канцы XIX – пачаткуXX стагоддзяў, скіраваны на дасягненне палітычнай самастойнасці, адраджэнне нацыянальнай культуры, самасвядомасць беларускага народа. На нацыянал-дэмакратычных пазіцыях былі лідары БСГ, якія супрацьстаялі *заходнерусізму*. Мэта стварэння беларускай нацыянальнай дзяржавы аб'ядновывала ўсіх прыхільнікаў нацыянал-дэмакратызма.

**Нацыяналізацыя** – перадача прыватнай уласнасці (зямель, прадпраемстваў, банкаў, жылля, будынкаў і г.д.) ва ўласнасць дзяржавы.

**Нэпман** - катэгорыя прадпрымальнікаў, якая сфарміравалася ў гады нэпа з ліку дробных ганлдяроў, спекулянтаў.

**Обер-Ост** – вайсковы адміністрацыйны абшар, плашчай 109 тыс. $км^2$ , створаны ў 1915 г. на часцы захопленай кайзараўскай Германіяй паўночна-заходніх зямель Расіі. На чале яго стаяў кіраўнік генеральнага штабу генерал Эрых фон Людэндорф

**"Ост"** – нямецка-фашысцкі план каланізацыі і германізацыі Усходняй Еўропы

**Пакт Рыбентропа -Молатава –** Назва пакта паходзіць ад прозвішчаў дзвух міністраў замежных спраў – В. Молатава (СССР) і І.Рыбентропа (Германія), якія і падпісалі гэты дагавор ад імя сваіх краін.

**Палітычны крызыс** - ( ад лац. krisis – рашэнне, паваротны пункт, выйсце), крызіс улады, які ўзнікае з супярэчнасці паміж грамадствам і ўладаю. Супярэчнасць заключаецца ў тым, што ўлада з-за шэрагу прычын не рэагіруе на праблемы, якія хвалююць грамадства, і таму становіцца тормазам у развіцці гэтага грамадства. Такі стан улады характарызуецца частай яе зменаю.

**Палітыка паланізацыі** – сістэма мерапрыемстваў польскіх дзяржаўных органаў, культурных устаноў і каталіцкага духавенства па асіміляцыі беларускага народа.

**Праведнік Народаў Свету** – ганаровае званне, якое надаецца инстытутам Яд Вашэм (Израіль) з 1953 г. Працэсу надання гэтага звання папярэджывае дэталёвае даследванне абставін падзей выратавання яўрэяў.

**Расізм** – антынавуковая тэорыя аб нераўнацэнні чалавечых рас і аб тым, што адна раса павінна панаваць над іншымі. Успомніце, што фашысты сябе лічылі прадстаўнікамі так званай вышэйшай "арыйскай" расы.

**Рэзалюцыя** - ( ад лац. resolutio – дазвол) – рашэнне, пастанова з'езда, канферэнцыі, сходу.

**Рэпрэсіі** – (ад лац. repressio – стрымліванне) – карная мера пакарання, яго прымяненне дзяржаўнымі органамі.

**Сіянізм** – (ад стар. яўр. Sion – назва гары ў Іерусаліме) – у дадзеным выпадку: ідэалогія часткі яўрэскага насельніцтва, якая кажа аб іх

нацыянальнай выключнасці і даказывае неабходнасць згуртаванне яўрэйскага народа дзеля вяртання на гістарычную радзіму – Ізраіль.

**Солтыс** – сельскі стараста.

**Спекуляцыя** - (ад лац. speculatio - высочванне, назіранне) – гандаль, скупка і перапродаж тавараў і прадуктаў па больш высокіх цэнах.

**Стратэгічны** – (ад грэч. - strategikos) – у пераносным сэнсе : істотна важны для дасягнення агульнай, генеральнай мэты на якім-небудзь этапе.

**Таталітарызм** – ( ад лац. totalitas –цэласнасць, поўната) – дзяржаўны лад, пры якім ажыццяўляецца кантроль над усімі галінамі жыцця, у тым ліку і над унутраным светам чалавека.

**Тэндэнцыя** –(ад лац. tendentia - накірунак) – у дадзеным выпадку: напрамак развіцця чаго-небудзь (грамадства, эканомікі, культуры і інш.) .

**Ультыматум** – ( сярэд. лац. ultimatum, італ. ultimo –апошні, крайні) у дадзеным выпадку: катэгарычная патрабаванне чаго-небудзь, якое суправаджаецца пагрозамі. Ультыматыўнасць – катэгарычнасць.

**Халакост** - катастрофа еўрапейскага яўрэйства (Шоа) – мэтанакіраванае татальнае знішчэнне, генацыд, яўрэйскага насельніцтва Еўропы нацыстамі і іх паплечнікамі ў гады Другой сусветнай вайны (1939-1945).

**Харчпадатак –** форма падатку, які ўскладаўся на сялян у часы “нэпу У адрозненні ад харчразвёрсткі, у ім улічваліся памеры і магчымасці сялянскай гаспадаркі.

**Харчразвёрстка** – сістэма нарыхтоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі ў 1919-1921 гг. Паводле яе сяляне абавязаны былі здаваць дзяржаве па цвёрдых цэнах усе лішкі сельгаспрадукцыі, што заставаліся звыш нормы на асабістае ўжыванне. Такія нормы не заўсёды ўлічвалі рэальныя магчымасці сялян. Гэта акалічнасць рабіла харчразвёрстку цяжарам для сялян, вяла да разарэння іх гаспадарак.

**Цэпелін** – дырыжабль, створаны Ф. Цэпелінам. Меў металічны корпус у выглядзе сігары, напоўнены вадародам або геліем, вялікую грузападымальнасць і нязначную хуткасць.

**Федэралізм** – ад федэрацыя (ад лац.foederatio – саюз, аб’яднанне) –саюз дзяржаў з мэтаю стварэння новай дзяржавы, пры якой, дзяржавы, якія ўваходзяць у яе, захоўваюць частку сваіх правоў.

**Шматукладнасць** – адначасовая наяўнасць у эканоміцы розных форм уласнасці (дзяржаўнай, прыватнай, калектыўных), што вядзе да суіснавання розных вытворчых адносін паміж людзьмі.

**Эміграцыя** – (ад лац.emigratio) – перасяленне людзей з краіны, дзе яны жылі ў чужую краіну па палітычных, эканамічных ці іншых прычынах і пражыванне там пасля перасялення. Параўнайце з **іміграцыяй** – уездам на пастаяннае места жыхарства.

# Пасляслоўе для настаўнікаў.

Паважаныя калегі.

Дадзены дапаможнік прапануе пытанні і заданні для замацавання ведаў, атрыманых на ўроках па гісторыі Беларусі. Матэрыял, да якога адрасаваны заданні – гістарычныя дакументы, мемуары, успаміны, дакументальныя біяграфічныя нарысы гістарычных дзячаў XX стагоддзя, ацэнкі гісторыкаў. Работа з такімі складанымі крыніцамі дасць магчымасць вучням у поўным памеры выкарыстаць набытае на ўроках і пазашкольных занятках па гісторыі, пакажа шматграннасць творцаў нашай гісторыі, тыя фактары, што ўплывалі на іх жыццё.

У працэсу выканання заданняў вучні змогуць ўжываць засвоенныя гістарычныя веды, высветляць ступень свайго разумення гэтых ведаў і саміх гістарычных падзей, якіх гэтыя веды датычацца. У рабоце над заданнямі ў вучняў ёсць магчымасць прадэманстраваць ўласныя здольнасці ў такіх спосабах аналітычнай работы, як сістэматызацыя, сінхранізацыя, вызначэнне галоўнага і другаснага, структурыраване, абагульненне, параўнанне, адсочванне, супараўнанне гістарычнай інфармацыі. Мэтазгодна чарговы раз нагадаць вучням быць ўдумлівымі з рабоце з крыніцамі, не спяшацца адразу ацэньваць учынкі людзей, а паспрабаваць з пачатку разабрацца ў іх прычынах і матывах.

Працэс і вынікі такой працы яшчэ больш паспрыяюць творчаму падыходу школьнікаў да гістарычных фактаў, крытычнаму стаўленню да гістарычных крыніц. У сваю чаргу навык работы з дакументамі гісторыі стане для ніх адной з падстаў для фарміравання ўласных здольнасцяў аналізу і ацэнкі сучаснасці і прадбачання, праганазавання і планавання будучыні.

Змест тэкстаў заданняў дапаўняе і пашырае матэрыял падручнікаў. Падабраны матэрыял не адлюсторвывае ўсе бакі зместу параграфаў. Ён засяроджывае ўвагу вучняў на найбольш супярэчлівых падзеях найноўшай гісторыі, якія, часам, не маюць аднолькавага тлумачэння. Характар з’яў і падзей, учынкаў людзей, якія складаюць змест тэкстаў дэманструе адметнасць гістарычнага шляху нашай краіны ў XX стагоддзі і, адначасова, высоўвае тое падобнае, што робіць нашу Беларусь складанай часткаю сусветнага грамадства ў гістарычным працэсе. Кожнае выкананне задання будзе для вучняў не толькі праверкай, але і крокам наперад у знаёмстве з нашай Бацькаўшчынай у яе недалёкім мінулым.

Да кожнага тэксту пытанні і заданні маюць розную ступень складанасці. Пераважна гэта заданні 4 і 5 узроўняў. Таму для выканання часткі заданняў можа спатрэбіцца дадатковая літаратура. Поўнае выкананне заданняў будзе сведчыць не толькі аб засваенні вучнямі неабходнага аб’ёму вучэбнага матэрыяла на ўроке, але і аб іх магчымасці свабоднага выкарыстання гэтых гістарычных ведаў у практыцы.

Жадаем поспехаў у працягу знаёмства вучняў з нашай мінуўшчынай.